**Лідзія Савік**

# Адна між замкаў

*Літаратурны партрэт Вольгі Іпатавай*

Мінск
БелСаЭС «Чарнобыль»
2003

УДК 821.161.3.09+929 Іпатава
ББК 83.3 (4 Беи) С 13

Савік Л.

13 Адна між замкаў: Літ. партр. В. Іпатавай / Лідзія Савік. — Мн.: БелСаЭС «Чарнобыль», 2003. — 168 с.: іл. ISBN 985-6010-15-2.

Кніга прысвечаная жыццю і творчасці пісьменніцы Вольгі Іпатавай, ганаровага акадэміка Міжнароднай акадэміі навук «Еўразія», кавалера ордэна «Знак Пашаны» і медаля Ф. Скарыны, лаўрэата многіх літаратурных прэмій, актыўнай грамадскай дзяячкі.

Вольга Іпатава — першаадкрывальніца не толькі новых тэмаў і пластоў нашай гістарычнай спадчыны, але і глыбінных плыняў нацыянальнай культуры, такіх, як індаеўрапейская, зараастрыйская, фракійская, якія арганічна ўплеценыя ў вобразы герояў, што сталі значным здабыткам беларускай гістарычнай літаратуры.

Славянскія абліччы вялікіх князёў літоўскіх, адкрытыя ёю для шырокага чытача ў трылогіі «Гаспадары Вялікага Княства», унікальнай у нашай літаратуры, маюць вялікае значэнне для самаідэнтыфікацыі народа, чые жыццё склалася на скрыжаванні шляхоў многіх еўрапейскіх нацый.

УДК 821.161.3.09+929 Іпатава
ББК 83.3 (4 Беи)

ISBN 985-6010-15-2

«Мой лёс пралёг праз вашыя дарогі...»
*Вольга Іпатава*

## ВЫТОКІ

Шчаслівая наканаванасць лёсу Вольгі Іпатавай — нарадзіцца, узрастаць, духоўна сталець сярод слынных гістарычных мясцін Беларусі — Міра, Наваградка, Горадні з іх велічнымі старажытнымі замкамі, якія дыхалі нязведанай даўнінай і незвычайнай таямнічасцю. І найперш адсюль пачалі развівацца дзіцячыя, юнацкія ўяўленні, паэтычныя фантазіі будучай пісьменніцы пра тых людзей і падзеі, што тут адбываліся, хто будаваў і ўпрыгожваў гэтыя замкі, бараніў ад нападу ворагаў, тварыў гісторыю зямлі, якая стала і яе радзімай.

Аднак пачатак жыццёвага шляху быў не вельмі спрыяльным для Вольгі Іпатавай. І хоць нарадзілася яна ў пераможным 1945 годзе (якраз у ноч пад Новы год — 1 студзеня, у мястэчку Мір), але дзяцінства яе было азмрочана асабістай трагедыяй — у чатырохгадовым узросце яна страціла маці. Марыя Якаўлеўна памерла зусім маладой і пахавана на старажытных могілках у Наваградку. (Пазней яе светлы воблік будзе ўвасоблены Вольгай у паэме «Слова пра маці», 1971.) З Наваградкам, дзе бацька — Міхаіл Іванавіч Іпатаў, былы партызан — працаваў загадчыкам райфо, звязаны першыя ўспаміны Вольгі Міхайлаўны пра гэтыя цяжкія хвіліны ранняга дзяцінства: «Калі цётка расказвала, што я доўга бегала на матчыну магілу і ляжала там, часам без прытомнасці, так што мяне наогул баяліся выпускаць з хаты, я дзіўлюся: памятаю да драбніц бальніцу, пахаванне, а вось гэткае — не, нібы адсекла кавалак памяці! Мабыць, такім страшным быў той стрэс ад першага сутыкнення са смерцю, з небыццём, са словам «ніколі», якое для мяне і сёння самае нялюбае, ненавіснае, што псіхіка абараніла сябе сама, тым больш што матчына смерць, як выбух, пацягнула за сабою поўнае знішчэнне тае добрае, ласкавае атмасферы, у якой я жыла дагэтуль. Я стала падчаркай, непатрэбнай у новай бацькавай сям'і, і напоўніцу спазнала капрызы і варожасць чужой жанчыны...»

Неўзабаве бацька адвёз дзяўчынку да бабулі ў вёску Забелле, што знаходзіцца ў Бешанковіцкім раёне. Дом Вольгі Іллінічны Белязека, у гонар якой Марыя Якаўлеўна назвала сваю дачку, стаў для асірацелага дзіцяці родным і ўтульным. Бабуля, працаўніца і шчырая праваслаўная хрысціянка, далучала ўнучку да сялянскага жыцця, народных беларускіх звычаяў, дзе арганічна спалучаліся хрысціянскія і язычніцкія вераванні. На покуце ў бабулінай хаце віселі іконы,

гарэла лампадка, заўсёды святкаваліся Каляды, Вялікдзень, Радаўніца, Тройца, іншыя народныя і рэлігійныя святы. І па сённяшні дзень самыя светлыя ўспаміны дзяцінства Вольгі Міхайлаўны якраз тыя, калі яны з бабуляй рыхтаваліся да Тройцы: мылі, прыбіралі, рвалі ў сажалцы аер і засцілалі ім падлогу, ставілі маладыя бярозкі па кутах хаты, а раненька ішлі ў Паўлавіцкую царкву. Сонца яшчэ не ўстала, яшчэ пыл на дарозе халаднаваты і вельмі мяккі. Ідуць басанож, берагуць абутак, бабуля расказвае пра Бога, Біблію. А калі зайшлі ў царкву, храм здаўся дзівам нечуваным, казачна прыгожым, святочным, і гэтыя адчуванні засталіся на ўсё жыццё, ператварыліся пазней у вершы пра Радаўніцу, Дзяды, незабыўную бабулю, вёску дзяцінства. («Ад бабулі, што клікалі Вольгай, я імя панесла ў вечнасць // Мне яна ўяўляецца вольхай, што раскінула рукі над рэчкай, // уплялася ў зямлю карэннем, і такая ў ёй прага жывая...)

Паміж азёр, як ветразь карабельны,
Плыве на ўзвышшы вёсачка Забелле.
Шумяць вятры жытамі навакол.
Пяюць у чарацінкі азярныя.
Жанкі пасля даення рукі мыюць,
І пахне наваколле малаком...

У пасляваеннай галоднай вёсцы людзі забяспечвалі сябе самі: пралі, ткалі, жалі сярпамі жыта, працавалі на калгасным полі за пустыя працадні, вялі ўласную гаспадарку, і гэтыя штодзённыя клопаты, удзел у іх малой дзяўчынкі прыцішвалі яе незабыўную страту. Вольга добра вучылася, хаця ў першы клас яна пайшла яшчэ ў Навагрaдку. «Я ўжо правучылася ў гарадской, вядома ж, рускай школе амаль паўгода, — згадвае сёння сваё дзяцінства пісьменніца. — А тут раптам беларуская школа ў глыбінцы дзе дзеці перадражніваюць маё рускае вымаўленне, і во цуд! — вучацца разам у адным пакоі чатыры класы. Але хутка я не толькі прызвычаілася да новага жыцця, але і ўсёй душой увайшла ў яго Было галаднавата, бедна, але затое мая бабуля змагла даць мне тое, што даражэй за ўсякі дабрабыт — любоў, блізкасць да прыроды і адчуванне сябе яе часцінкай...У японцаў ёсць слова «саторы», што азначае момант прасвятлення, незвычайнага ўздыму душы. Бывае такі стан у чалавека рэдка — звычайна ён моцна абцяжараны клопатамі і не можа поўнасцю зліцца з навакольным. Але такі момант у маім жыцці быў. Ішла вясна, пясок каля прызбы высах, аднак снег яшчэ ляжаў. Я нешта рабіла каля хаты. Раптам падняла галаву — а нада мной такое пранізліва-сіняе неба і амаль такі ж лёд на падталым возеры, і зялёна-сінявая смуга над лесам, што аж дыханне перацяло. І тады я адчула, што мяне як

быццам няма, а ёсць нешта трапяткое і радаснае, нібыта я ўся стала адной толькі душой...»

Так ад роднай зямлі і неба, дзіцячай памяці пра цеплыню «маміных далоняў», ад беларускага слова, казак бабулі, аповедаў дзядзькі Хведара пра змаганне партызанаў, удзельнікам якога ён быў, як і ўсе сваякі, дабрыні спагадлівых вясковых людзей — ад гэтага першапачатковага пазнання свету пачыналася духоўнае сталенне, першыя жыццёвыя старты будучай пісьменніцы. І калі перачытваеш яе раннія апавяданні, разумееш, што многія вобразы, сітуацыі, асобныя падзеі, эпізоды ўзятыя з таго даўняга жыцця ў Забеллі. Вольга і па сённяшні дзень адчувае нейкі неаплатны доўг перад вёскай свайго дзяцінства. «Я памятаю, якою радасцю для мяне было кожнае наведванне царквы ў Паўлавічах. На жаль, яе ўжо ў 60-х гадах разбурылі самі людзі, нацкаваныя на святароў. А ў Забеллі і цяпер няма ні царквы, ні нават крыжа пры дарозе. Значыць, над людзьмі няма ахоўнай энергетыкі. У мяне была задума — сіламі сваякоў і сваімі пабудаваць там хаця б маленькую каплічку ля могілак. Але потым перадумала — для гэтага патрэбна жаданне саміх жыхароў, іначай будзе толькі гвалт. Я езджу па многіх мясцінах Беларусі, бачу, як з ініцыятывы людзей адбудоўваецца знішчанае, як яны імкнуцца да духоўнага. Мару, што і ў вёсцы, якая мне дарагая, будзе асяродак культуры і духоўнасці...»

Аднак сіроцкае маленства працягвалася. Не мінула і трох гадоў, як бацька зноў забраў Вольгу ў сваю сям'ю, дзе нарадзілася дзіця і патрэбна была нянька. Жылі тады яны ў вёсцы Таркачы Дзятлаўскага раёна, дзе бацька працаваў старшынёй калгаса. Але не складваліся добрыя адносіны з мачыхай, асабліва пасля бабулінай хаты, дзе Вольга адтайвала душой. Цяжка было зноў адчуць непрыхільнасць, холад, абыякавасць чужога чалавека. Дзяўчынка шукала выйсце, нават спрабавала атруціцца і, не вытрымаўшы, збегла ў Навагрудак да знаёмых, якія паспрыялі ўладкаванню ў Гродзенскі дзіцячы дом, куды яе прынялі без ніякіх размоў і ваганняў. «Але і там, у Гродне, усё наладзілася не адразу: я пасля сваіх пяці класаў на памяць дэкламавала «Рамэа і Джульету», ведала Драйзера і чамусьці Петрарку... Я чытала запоем — і ўначы, стаўшы ля вузкага праменьчыка святла, які праз шчыліну прабіваўся ў нашу спальню, і тады, калі ў вольны час мае аднагрупнікі лёталі па пакоі і дурэлі, спрабуючы выхапіць з маіх рук чарговую кніжку... Той, хто прайшоў школу дзіцячага дома, заўсёды трошкі адметны чалавек, бо гэта вельмі жорсткая школа. Школа выжывання. Уменне адстаяць сябе — ды і ўласна свае творы. Аднойчы мае калегі па інтэрнаце знайшлі ў мяне пад падушкай вершы. Гэта былі мае сатыры на некаторых з іх, напісаныя, калі на сэрцы было

балюча і горка. Мне давялося ваяваць за свае вершы ў прамым фізічным сэнсе. Але я іх адстаяла. І сваё права пісаць так, як я хачу і пра каго хачу...» Гэта вельмі сімвалічнае прызнанне пісьменніцы. Там, у Гродзенскім дзіцячым доме, выкоўваўся характар, сіла волі і ўменне не паддавацца масаваму прамыванню мазгоў. Адбываўся падсвядомы пратэст супраць нейкай уніфікацыі, ператварэння ў сярэдняга чалавека, які не думае, а толькі пакорліва выконвае каманды, абуджалася імкненне найбольш ведаць пра сваю гісторыю, адтуль нараджалася любоў да Бацькаўшчыны, да сваіх каранёў. Дзяўчынка рана адчула самастойнасць, навучылася разумець і пераадольваць цяжкасці, супярэчнасці паўсядзённага побыту і ўзаемаадносін людзей, сама вымушана была прабіваць дарогу («Беды мучаць, ды розуму вучаць», — узгадае яна ў адным з апавяданняў бабуліну прыказку), што абумовіла ў далейшым шырыню агульна-мастацкіх інтарэсаў, прыхільнасць да нацыянальнай ідэі, актыўную грамадзянскую пазіцыю. Але галоўнае, у Гродне ёй пашчасціла сустрэць сапраўдных духоўных настаўнікаў, калі на яе вершы, якія яна пачала пісаць з адзінаццаці гадоў, звярнулі ўвагу Аляксей Карпюк, Васіль Быкаў, а таксама Янка Брыль, якому, як сябру бацькі «па партызанцы», яна пасылала свае літаратурныя вопыты.

Першы верш («Кітайскім сябрам») Вольгі Іпатавай быў апублікаваны ў газеце «Зорька» (1957), і, ці трэба гаварыць, якая гэта была радасць і гонар, адчуванне сваёй значнасці, што і яна нешта можа, што і яе паэтычнае слова было заўважана. З таго часу вершы маладой паэтэсы пачалі пастаянна друкавацца ў «Гродзенскай праўдзе», пазней у часопісах «Бярозка», «Маладосць», «Беларусь», «Полымя», «Работніца і сялянка», газетах «Во славу Родины», «ЛІМ», «Чырвоная змена», «Голас Радзімы» і іншых выданнях. На свае першыя невялікія ганарары Вольга купляла цукеркі для ўсёй дзетдомаўскай групы. І вось гэтыя гады пражывання і вучобы ў Гродзенскім дзіцячым доме (1956-1961), нягледзячы ні на што, згадваюцца з вышыні пражытага са светлай тугою: там было шмат сяброў, там нараджаліся радкі юнацкіх вершаў, гэта і час удзелу паэтэсы ў літаратурным аб'яднанні пры Доме афіцэраў, на якія, — па ўспамінах пісьменніцы, — «прыходзілі літкансультант «Гродзенскай праўды» Васіль Быкаў, салдаты Хведар Чэрня і Пятро Сушко і якія вёў падпалкоўнік Еўсцігнееў. Ён умеў давесці абласному начальству, якая гэта важная справа — літаратура, так што мяне без усялякіх затрымак адпускалі на гэтыя важныя ідэалагічныя мерапрыемствы, пасля якіх можна было яшчэ на пару гадзін збегчы ў гарадскі парк ці проста свабодна паблукаць па вуліцах... Здавалася б, такі далёкі ад паэзіі Дом афіцэраў, аднак

там часта наладжваліся вечары беларускай літаратуры, запрашаліся не толькі пісьменнікі, якія жылі ў Гродне, але і з Мінска. А вось на вяселле Дануты Бічэль наша дырэктарка Клаўдзія Іванаўна дазволіла ісці з умовай — калі за чвэрць не будзе аніводнай чацвёркі. Давялося трымаць слова, нават па ненавісных фізіцы і матэматыцы я ўсё ж змагла дабіцца тых пяцёрак. Але самымі вялікімі святамі былі паездкі і літаратурныя выступленні, якія ладзіў сакратар абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Аляксей Карпюк. Многае ў маім жыцці звязана з яго нястомнай, кіпучай дзейнасцю — і першы зборнік, і пераезд з Віцебшчыны, дзе я спрабавала ўладкавацца каля сваёй цёткі Зіны, такой жа тады бяздомнай, як і я, у Гродне, дзе ён спачатку ўладкаваў мяне ў піянерскі лагер старшай важатай, а па восені дабіўся, каб мяне ўзялі на працу ў гаркам камсамола. Але гэта будзе пазней, а школьніцай я была проста шчаслівай, калі на якім-небудзь уроку шырока расчыняліся дзверы, і, займаючы ўвесь праём сваёй магутнай постаццю, ён, кіўнуўшы настаўніцы, коратка, нібы салдату, камандаваў мне: «Оля, на выхад!» і, не чакаючы, шырока крочыў па калідоры. Гэта значыла — некуды паедзем, там будуць чытаць вершы гродзенскія нашы пісьменнікі, а сярод іх — я, школьніца. Выступаць я не надта любіла (як не люблю і зараз), але гатовая была бясконца слухаць, як чытае свае цудоўныя вершы Данута Бічэль-Загнетава, як хораша, з гумарам, расказвае нейкія гісторыі сам Карпюк, і як сціпла гаворыць пра герояў сваіх аповесцей, што тады друкаваліся ў Маскве, Васіль Быкаў. Зрэдзь удавалася паслухаць і Міхася Васілька, які выязджаў у навакольныя мястэчкі ўсё радзей і радзей — былі праблемы са здароўем. Гэта найперш яны адкрывалі мне вочы на тое, чаго я не ведала — страшныя сталінскія рэпрэсіі, пісьменнікі, чые імёны прамаўляліся шэптам, разбурэнне храмаў, фальш, што пранізвала старонкі часопісаў і газет. Вядома ж, спецыяльна не казалася нічога, гэта было небяспечна, але я, пачуўшы тую ці іншую рэпліку, лавіла яе сходу, доўга думала над ёю. Гэта было няпросты. Няўжо Паўлік Марозаў, які, як нам казалі, зрабіў геройскі ўчынак — паведаміў уладам, што бацька хавае хлеб, на самой справе ўчыніў страшнае — данёс на роднага чалавека? Свет пераварочваўся. Тое, пра што казалі як пра гераічнае ў школе, было злачынствам, шпіёны і тэрарысты аказваліся ахвярамі і патрыётамі, а героі — катамі. Тыя начныя, цяжкія роздумы, якімі я не магла ні з кім у дзіцячым доме падзяліцца, бо разумела ўжо, што магу падвесці маіх сапраўдных настаўнікаў, зрабілі тое, што вызначыла маё жыццё: я стала шукаць Беларусь, Беларусь, за якую аддалі сваё жыццё людзі, чые творы даходзілі да мяне ўпотай, урыўкамі, але якія не далі мне зрабіцца

чужой на сваёй Бацькаўшчыне. І яшчэ — калі паўставаў перада мною выбар — атрымаць нейкую выгаду, дзеля якой трэба было б схібіць душой, тады навальвалася на мяне тая агіда, якую я адчувала ў дзіцячыя гады, калі чытала пра даносчыкаў і катаў, і тая бурлівая нянавісць да несправядлівасці і двурушша, якія кіпелі ўва мне ў тыя дзетдомаўскія гады, гады майго духоўнага сталення. Бо чалавек можа ўсё жыццё пражыць духоўна няспелым, пражыць, не ўсведамляючы ні адказнасці за ўласнае жыццё, ні мэты, якая прывяла яго ў свет. Што да мяне, то і сёння я лічу, што, як казаў старажытнагрэцкі філосаф Платон, людзі прыходзяць у свет, як на службу, альбо, як гавораць эзатэрычныя вучэнні, выконваць вялікую касмічную задачу, а яна ў кожнага — свая. Шчаслівы той, хто жыве паводле свайго прызначэння, але не кожны можа адгадаць яго...»

Вольга Іпатава шчасліва адгадала сваё прызначэнне. Богам дадзенае і выдатнымі творцамі падтрыманае пісьменніцкае дараванне рана праявілася і забруіла таленавітымі паэтычнымі і празаічнымі творамі, а плынь сірочага лёсу разам з духоўным сталеннем паступова ўваходзіла ў больш-менш спакойныя берагі самастойнага жыцця. Скончыўшы школу ў шаснаццаць гадоў, яна, выдатна здаўшы ўступныя экзамены, паступае на аддзяленне рускай мовы і літаратуры філалагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага універсітэта (1961). Аднак марыла яна стаць актрысай, марыла аб драме, трагедыйных ролях у тэатры, кінафільмах... Але, відаць, па сённяшні дзень удзячная свайму лёсу, а дакладней Аляксею Карпюку, які астудзіў яе рамантычныя парыванні, параіўшы ісці на філфак. Яе сябрамі-першакурснікамі сталі Рыгор Семашкевіч, Эдуард Зубрыцкі, і пазнавалі яны адзін аднаго па публікацыях вершаў, што нямала паспрыяла паступленню ва універсітэт. Цяжка было вучыцца на адну стыпендыю, і з трэцяга курса Вольга пераходзіць на завочнае аддзяленне, уладкоўваецца на працу. Універсітэт скончыла ў 1967 годзе і дыплом абараняла на беларускім аддзяленні па творчасці Міхася Васілька. Гэта быў ці не першы выпадак у гісторыі БДУ, калі выпускніца рускага аддзялення філфака нечакана для ўсіх заявіла, што дыплом яна будзе рыхтаваць па беларускай тэматыцы і на беларускай мове. Яе новым кіраўніком стаў вядомы літаратуразнавец Сцяпан Александровіч. Дыпломная работа Вольгі Іпатавай і сёння можа служыць узорам гэтага жанру. Яна тыднямі сядзела ў архівах Вільні, жыла ў гатэлі Саюза пісьменнікаў, куды ўладкоўвалася з дапамогаю Альбінаса Жукаўскаса, старшыні Літаратурнага фонду Літвы. З таго часу Вільня стала блізкім і дарагім сэрцу пісьменніцы горадам, як яна дарагая кожнаму шчыраму беларусу за яе беларускасць. Творчасць Міхася

Васілька (1905-1960), гэтага таленавітага, так мала пражыўшага беларускага паэта, была даследавана гэтак глыбока і ўсебакова, што дыпломная работа Вольгі Іпатавай была рэкамендавана да друку. Пазней яна напісала верш, прысвечаны яго памяці («Міхасю Васільку», 1973). Пра гэтыя незабыўныя дні знаёмства з Вільняй і знакамітымі віленскімі беларусамі яна згадвае ў аўтабіяграфіі: «У час працы над дыпломам я пазнаёмілася з Зоськай Верас, з якой мы працяглы час ліставаліся, з зяцем Лявонам Луцкевічам, а з сынам яе, Антонам Фабіянавічам Шантырам, першы раз пайшла на могілкі Росу, і там ён доўга расказваў мне пра страшныя канцлагеры Сібіры. Уразіў яго жэст — каб сонца не падала мне на галаву, ён зняў капялюш і, расказваючы, трымаў яго нада мной, нягледзячы на мае сарамлівыя пратэсты. Пасля, сустракаючы «шляхетных», па словах Леаніда Дранько-Майсюка, мужчын, я заўсёды ўспаміналa і тыя размовы, і самога гэтага змучанага чалавека, які рана пайшоў з жыцця. Вельмі шляхетным быў і муж Ларысы Геніюш Іван Пятровіч, «Яначка», як ласкава яна яго называла. З Геніюшамі я пазнаёмілася якраз у гады падрыхтоўкі дыплома, перад нараджэннем сына, і Ларыса Антонаўна ў лістах да Максіма Танка, якія я нядаўна прачытала ў «Полымі», узгадвае пра мяне ласкава і шчыра. Так яна да мяне і ставілася, і вобраз яе — змагарны, бунтоўны — ацепліваецца незабыўнымі жаночымі нашымі размовамі пра тое, як спавіваць дзіця і як яго лячыць, што ёсць каханне і сям'я». (Дарэчы, Вольга Іпатава была адной з тых мужных жанчын-пісьменніц, хто асмеліўся паехаць на пахаванне апальнай Ларысы Геніюш (1983), якая пасля ГУЛАГу жыла з мужам у Зэльве і знаходзілася пад пільным наглядам савецкага КДБ).

Пасля заканчэння універсітэта Вольга Іпатава пачала працаваць у Гродне. У снежні 1968 года ўпершыню загаварыла Гродзенская студыя тэлебачання. Першай яе мастацкай перадачай стаў тэленарыс «Ластаўка», прысвечаны партызанцы з Любчы Людміле Сечка. І гэты нарыс зрабіла Вольга Іпатава — адна з чатырох першых рэдактараў тэлевізійнага вяшчання на Гродзеншчыне. Нарыс атрымаў шырокі рэзананс: прыгажуня-дзяўчына з Любчы, якая падняла ў атаку на немцаў партызанскі атрад і чыю акрываўленую кашулю, плачучы, паказвала пісьменніцы маці гераіні, Таісія Міхайлаўна Сечка, была вядомая на Гродзеншчыне, але сказанае па-мастацку слова (і відэашэраг) асабліва ўсхвалявалі гледачоў. Ды і сама маладая журналістка не аднойчы потым звярталася да вобраза сваёй гераічнай зямлячкі, пісала пра яе вершы. Але галоўнай заслугай Вольгі Іпатавай-рэдактара было тое, што яна першая стала рабіць перадачы пра вядомых беларускіх дзеячаў, імёны якіх калі і не забараняліся, то замоўчваліся

ў савецкія часы. Відаць, тыя яе тэлеперадачы сталі магчымымі перш за ўсё таму, што гродзенскае кіраўніцтва зусім не ведала гэтых імёнаў, а Вольга падавала іх то як выдаўца першай кніжкі Максіма Танка (Янка Шутовіч — рэдактар часопіса «Калосьсе» і беларускі выдавец), то як вязня сталінскіх лагераў (Антон Шантыр), то як аўтара беларускіх дзіцячых кніжак (Зоська Верас). Былі таксама партрэты многіх грамадоўцаў, заснавальнікаў і энтузіястаў Таварыства Беларускай Школы (ТБШ) і віленскіх беларусаў, апантаных ідэямі нацыянальнага адраджэння: Янкі Багдановіча, Лявона Луцэвіча, Паўла Крытыка (пасол ад беларусаў у Польскім Сойме). Дзеля пошуку матэрыялаў для гэтых перадач Вольга часта ездзіла ў Вільню і яе прыезды былі, магчыма, першымі знакамі таго, што ідзе змякчэнне жорсткай палітыкі замоўчвання нацыянальна-вызваленчага руху, не звязанага з кампартыяй Заходняй Беларусі (КПЗБ). Віленскія беларусы прымалі Вольгу вельмі хораша, знаёмілі з вядомымі мясцінамі беларускай Вільні, дапамагалі рознымі матэрыяламі, успамінамі. А пасля змястоўнай, цікавай перадачы пра Паўлюка Багрыма Вольга атрымала шмат водгукаў, у ліку якіх ліст дырэктара Баранавіцкага краязнаўчага музея з просьбай прыслаць тэкст перадачы пра творчасць паэта, «а калі тэкст перадачы ішоў у эфір з купюрамі, то прашу Вас прыслаць поўны аўтарскі тэкст»... Такія водгукі, просьбы сведчылі пра неабходнасць падобных перадач, яны неслі вялікую інфармацыю, выхоўвалі нацыянальную свядомасць, падтрымлівалі годнасць і гонар беларусаў.

## ПАЭЗІЯ

На той час сама Вольга Іпатава была ўжо вядомай паэтэсай. У 1969 годзе выйшаў першы зборнік яе паэзіі з сімвалічнай назвай «Раніца», які сапраўды сімвалізаваў ранне яе пісьменніцкай творчасці. Гэтую кнігу вершаў, якія шырока друкаваліся ў перыядычных выданнях, яе проста прымусіў скласці Аляксей Карпюк. Ён і быў той сілай, якая «афарміла» маладую журналістку ў магчымую пісьменніцу. Як сакратар абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў ён быў зацікаўлены ў росце яго пісьменніцкіх сіл, каб таленавітыя людзі не сыходзілі кудысьці з гарызонту. Асабліва «сыходзяць» дзяўчаты ці жанчыны — у замужжа, у сям'ю — і тады ўсё заканчваецца. Аляксей Карпюк асабіста вазіў першы зборнік Вольгі Іпатавай у выдавецтва. Ад аўтара патрабавалася толькі передрукаваць свае вершы на машынцы. З машынкай ёй дапамагла Данута Бічэль-Загнетава, як дапамагла і падрэдагаваць некаторыя вершы на правах больш вопытнай у

мастацтве паэтычнага слова пісьменніцы. У кароткай анатацыі да «Раніцы» гаварылася, што першая кніга паэтэсы — гэта «яе шчырая споведзь перад Радзімай, вершы аб дружбе, каханні, добрых чалавечых адносінах». На першую кніжку паэзіі Вольгі Іпатавай адгукнуўся лістом-рэцэнзіяй таленавіты крытык Варлен Бечык (1939-1985). Ён пісаў: «Як чытач («рэцэнзент») я парадаваўся б таму, што праявіла цябе ў чысціні, свежасці, сонечнасці. Я б сказаў, што нават ёсць у табе нейкае шчаслівае ўменне прасвечваць святлом і лёгкасцю жыццёвы цяжар — бо і пакутнае, нядобрае, прайшоўшы праз цябе, захінулася тваёй дабрынёю, абвеялася цёплым ветрам, а з гэтым — стала інакшым... Ох, гавару нейкай «иноверною прозой», не магу адолець «тяжесть непзглагольную», а побач жа кніжка, дзе гаворыць душа з душою, дзе многія радкі ідуць у сэрца, як свежае паветра ў нахлашч расчыненыя дзверы...

Я стаў заглядваць у кніжку — і скрозь праменьчыкі святла, добрага, прывабнага, чароўнага.

Можа, рэцэнзенты прамінаюць, можа, нават лічаць банальным, а па мне істотныя ў тваёй кніжцы і «Не трэба музыку перакладаць на словы» (з празарэннем, праўднасцю, што выдаюць пачуццё сапраўднае: «...Па чысціні пачуццяў мы сумуем, сябе шляхам чужым аддаючы»), і па-простаму яўленае сталенне: «Мне дзяцінства тугія сняжкі нясе, называе чамусьці настаўніцай», і як уласна здабытае («вот истина моя — вы ж до сих пор банальностью владели»): «Мы ўсе ў каханні шукаем, а толькі знаходзім рэдка — звычайнай, самай звычайнай чалавечае дабраты...»

«Рэха, з далечы сонечнай гэтай мяне яго голасам гучна пакліч», — я чытаю гэта як сапраўдную паэзію, хоць нехта нудны можа мяне і аспрэчваць. «Ты свет перавернеш, дужы і рослы...» — верш, які, здаецца, ніхто нават і не згадаў, а я тут чую існае, жыццёвае, праўдзівае...

«Ля твайго акна я тапалінкай выраслу за сённяшнюю ноч...» «У мір давер'я шчырага пацягне, да цёплай чалавечай дабраты...» «Сёння толькі я не іду ні з кім. Набіта кнігамі новая сумка, і мне адной у натоўпе людскім сярод усмешак нікольні не сумна...»

Вось крыху з таго, што вычытаў я ў тваёй кніжцы, парадаваўшыся, што падчас вершавання ты знаходзіш у сабе столькі сапраўднага жыцця, што табе бывае пад сілу глянуць у «сэрца глыбіню»... (ЛіМ, 2001, 16 сакавіка).

Як паэт Вольга Іпатава сцвердзіла сябе і ў наступных зборніках лірыкі: «Ліпеньскія навальніцы» (1973), «Снягурка» (вершы для дзяцей, 1974), «Парасткі» (1976), «Крыло» (на рускай мове, 1976). Ужо самі

назвы іх трапна вызначылі сэнс першапачатковага этапа яе творчасці, абумоўленага перажываннямі сіроцтва, але і адчуваннямі красы, непаўторнасці маладосці, якая пазнавалася «не розумам, а сэрцам», прарастала вершамі. Першае, што ўражвае пры іх прачытанні, — гэта лірычная настраёвасць, асабістасць, праўда пачуццяў. Галоўная гераіня паэтычных кніг Вольгі Іпатавай — эмацыянальна ўражлівая, духоўна багатая асоба, якая, усвядоміўшы «вялікую цану жыцця», імкнецца пазнаць людзей і рэчаіснасць, знайсці сваё месца сярод іх, быць моцнай і незалежнай. Яна бачыць сябе дзяўчынкай, «з нагамі ўлезшай у цёплую раллю», якая радуецца сонцу, высокаму блакітнаму небу і паступова ачуньвае ад цяжкіх страт, хаця яны незабыўна-шчымліва будуць адгукацца ў сэрцы заўсёды. Шмат аўтабіяграфічных радкоў рассыпана ў вершах гэтай пары («Як ты колешся, слова «сіротка», «Колькі сонных начэй да відна маці я з небыцця гукала...», «Мы сталі з табой равесніцы, адной і далей мне жыць...», «Я панесла з сабой праз гады мацярынскай любові бязмежнасць...»). Усё гэта не магло не прысутнічаць у светаадчуванні аўтара, у драматычных зломах жыццёвага лёсу. Моцнае пачуццё суперажывання і разумення выклікаюць вершы Вольгі Іпатавай, прысвечаныя дзяцінству, дзетдомаўскім сябрам ранняга юнацтва. («Слова пра маці», «Бацьку», «Мачыха», «На Навагрудскіх могілках», «Маці», «Сыну», «Маім аднагодкам» — «Вы помніце? У інтэрнаце ў цёплыя сны дзіцячыя прыходзілі нашы маці, якіх мы ніколі не бачылі?...», «Не маці ў Інстытут праводзіла мяне, зрабіўшыся ад шчасця маладой // Узрушана ў той вечар зазвінеў каля вагона ўвесь дзіцячы дом...»). У праўдзівасць пачуццяў і перажыванняў гераіні верыш, бо за імі раскрываецца шчырая душа самой паэтэсы, якая зведала сямейныя трагедыі: са стратай маці ёй давялося расстацца і з бацькам, зведаць горкі сэнс халоднага слова «мачыха» («Чужая жанчына бачыцца ў снах //Я толькі цяпер разумею, чаму мне на сэрца сцюдзёнай завеяй штодзень ападала яна...»). Аднак не заледзянела яе сэрца, хапіла прыроджанага аптымізму і душэўнай раўнавагі, каб не засяроджвацца толькі на гэтых асабістых перажываннях. Усё часцей у жыццёвай непагадзі праступаюць ясныя прасветліны, якія быццам кандэнсавалі сілы для будучага. («...Ды за святлом дарогаю другою спяшаюся // У ім — мой скарб»).

І сапраўды, дарогі да пазнання свету, людзей, самой сябе сталі пісьменніцкім скарбам Вольгі Іпатавай («Якім жа знакам светлым і высокім // Гадзін маіх цяпер пазначай ход...»). Маладая паэтэса імкнецца ўсвядоміць, што

Можа там, за невядомым гаем,
На шляхах, калючых, як асцё,

Зразумець упершыню, якая
Сіла дадзена табе жыццём?..

Але яна і тут не жадае «абмінаць віроў імклівасць», бо зведала іх глыбіню і непрадказальнасць. І ўжо можа сказаць самой сабе: «Я радуюся свету, як дзіця! // Я мудрасці крыху ўзяла ў жыцця...» Паэтэса настойлівая ў дасягненні мэты і ўжо разумее, што вызначыўся яе шлях у вялікую літаратуру, а гэта — супярэчлівыя праблемы грамадства, глыбіні чалавечай псіхалогіі, бясконцае ўдасканаленне свайго майстэрства, разнастайная і цяжкая штодзённая праца. Увага паэтэсы звернута цяпер найбольш да ўнутранага, хутказменлівага душэўнага стану гераіні, у вобразе якой увасоблена наша сучасніца. Мы бачым яе ў розныя жыццёвыя перыяды, адчуваем, як адбываецца сцверджанне жыццёвых ідэалаў, спасціжэнне мудрасці пакаленняў, як паступова вымалёўваецца творчая індывідуальнасць мастака. Усё часцей паэтэса адчувае трапяткія хвіліны натхнення, яны для яе — адкрыццё таямніцы паэтычнага таленту, высокага мастацкага слова:

Бывае азарэння момант дзіўны...
Але знікае ўдачы прадчуванне,
І зноў — яшчэ наіўна-малады
Ідзеш, ідзеш, шукаючы пазнання,
Якое прыйдзе, пэўна, праз гады...

Яна ўся ў пошуку слова, у пошуку незвычайных метафар, выразных, трапных эпітэтаў, параўнанняў, разнастайнасці, гнуткасці інтанацый, рытмікі — усяго таго; што змагло б дакладна перадаць яе маладое захапленне і разуменне свету, яго непаўторнага хараства. («А зямля так даверліва проста //У сваім хараstве паўстае...», «Туманы, як мядзведзі калматыя...», «Ад сонца засланіўшыся далоняй // Хмурынкай-хусткай атуліўшы плечы // Стаіць здаўна над Нёманам Каложа // Нібы мяжу пераступіла ў вечнасць...»). Яна шчыра верыць, што «і сапраўды гавораць між сабой зямля і травы» і ціха ўслухоўваецца ў патаемную гаворку Сусвету і прыроды. Для яе шчасце бачыць «антонавак свячэнне белае //У ружовым мроіве зары...» Ад замілаванага стаўлення да ўсяго роднага, блізкага аўтар ідзе да ўсведамлення Бацькаўшчыны, што дала ёй мову, навучыла слухаць салаўіны спеў, верыць у шчасце, цвёрда стаяць на зямлі. Але ў гэтым жыццесцвярджальным пафасе паэтэсы заўсёды прысутнічаюць ноткі тугі і смутку. У яе самавыяўленні ёсць выразная адметнасць: складаны час, драматызм асабістага лёсу выступаюць у паэтычных творах тэматычна адкрыта, першым планам, без шматступенных асацыяцый і ўнутранай апасродкаванасці. Пра ўсе перажыванні гаворыцца проста, шчыра, і такія вершы найбольш западаюць у памяць:

Да скону дзён забыць я не магу —
Руінаў дым, натоўп за хлебам ноччу
І крык: «Дзетдому ў першую чаргу!» —
Хоць у людзей гарэлі смуткам вочы...

Пазнаючы шматпакутную гісторыю Бацькаўшчыны, Вольга Іпатава адчувае сваю цесную знітаванасць з яе лёсам: «Я толькі кропля ў тваіх крыніцах...» Вочы і душа поўняцца пяшчотай да гэтай зямлі, што, знаходзячыся на перакрыжаванні вялікіх шляхоў, не раз вынішчалася дашчэнту:

А яна, непакорная, усё паднімалася зноў,
Галавы не схіляючы перад чужынцам ніколі,
І расціла, і ўкладвала ў душы сыноў
Сваю прагу да шчасця, да лепшае долі...

Яна верыць, што «князёўнай) Полацкаю пачаты той шлях да гісторыі...»

Веру чамусьці — той, хто жыў на зямлі,
Зноў на яе ў другім абліччы прыходзіць.
Помніш? За рукі ўзяўшыся, мы ішлі
Яшчэ ў нейкім далёкім стагоддзі...

І можа, адсюль, з гэтай веры яе няўхільная цікавасць да гісторыі Бацькаўшчыны. Ужо ў ранніх вершах паэтэса звяртаецца да часоў паганства, адчувае, што не паміраюць старыя сімвалы, якім маліліся нашы продкі. («Язычнікі маліліся ціха і ўпарта Чырвонаму Сонцу і Перуну...»), адкрывае для сябе постаці беларускай мінуўшчыны (вершы «Рагнеда», «Усяслаў», «Полацкай Сафіі» — «Чую звон твой, Сафія // Чую скрозь стагоддзі і скрозь муры...», «Я шчаслíва наноў дыхаць ветрам стагоддзяў...»), апісвае лёсы славутых беларускіх паэтаў («Магіла Багдановіча», «Адам Міцкевіч у Туганавічах», «Міхасю Васільку»), захапляецца Камілай, дачкой Дуніна-Марцінкевіча («Равесніцы»), асуджае тых, хто забывае сваю гісторыю, мову, вынішчае нацыянальныя святыні. Толькі далучанасць да гісторыі Радзімы, захаванне яе лепшых традыцый, пераемнасць іх новымі маладымі пакаленнямі дае адчуванне незалежнасці, упэўненасці ў заўтрашнім дні. Лірычная гераіня верша «На вуліцы Замкавай», калі ў яе «вісіць адзінотаю ноч на душы», спяшаецца да сцен замка, да адвечнай цішыні і спакою стагоддзяў:

Толькі ходзіць ля сцен старажытных бясшумна
Побач з векам дваццатым трынаццаты век.
Хай кране мяне вечнасць далонню шурпатай,
Голас продкаў далёкіх у цішы прагудзе,
І чамусьці адразу з душой крылатай

Крочу з вуліцы Замкавай да людзей...

І быццам з вышыні стагоддзяў яна ўглядаецца ў сучаснікаў, чытае ў іхніх сэрцах, імкнучыся разгледзець тое добрае, светлае, што складае сапраўдную чалавечую сутнасць, ідзе «па цяпло, па ласку чалавечую». Паэтэса ставіць за мэту «спазнаць няўтольна слодыч будняў і гаркавасць свята». Цяпер яна з поўным правам можа сказаць пра сябе: «У краіну паэзію ўваходзіць жанчына // Ідзе па пякучых снягах басаnож...» Такое дакладнае эмацыянальнае вызначэнне свайго духоўнага стану сведчыць, што наспеў час вялікай самаахвярнасці і глыбокага роздуму. З другога боку, лірычная гераіня ўступіла ў такую пару, калі да чалавека прыходзіць высокае і непаўторнае пачуццё вялікай любові і кахання. Паэтэса думае пра вершы, што напіша пра закаханых. У яе паэзіі гэтага перыяду найбольш кранаюць радкі, якія раскрываюць шчырасць і непасрэднасць пачуццяў закаханых («Было свабодным неба і высокім // І веснавым напоўненая сокам / / «Кахаю!» — я спявала над абрывам...», «Зноў пачынаюць гродзенскія вуліцы // Нячутна закаханых калыхаць...», «Ты да мяне прыйшоў як непазбежнасць // Усіх знаходак, радасцяў і мук...», «Жыцця і з ім і без яго няма // І пекла тут і рай — усё адразу...», «Якою мерай, якой пакутай / /За незвычайнасць, за пачуццё? За тую веру, якою скутае / /З тваім навечна маё жыццё?...», «Ты не ведаеш сам, як мне гэта трэба // Проста рукі твае. Проста вочы твае...», «І я на спатканне бегла // Быў бэз, пацалункі і зоркі...»). Але вось ужо «бабінага лета павуцінкі //З далячыняў вечных прыплылі // Першыя танюткія маршчынкі //Ля вачэй усмешлівых ляглі...» Набліжаецца сталасць і развагаліваць высокага поўдня, і гераіня задумваецца, як спалучыць абавязкі жанчыны, маці, каханай, жонкі з адданасцю мастацтву? Тут яўна праглядваецца аўтарскі роздум над гэтай складанай у нашых умовах праблемай («І кінуты дом замаўкае ў дакоры // І ходзіць свякруха вастрэй ляза // Бяжыць жанчына ў вершы, бы ў мора // Мужыку не паспеўшы слова сказаць...»).

У каларытным па дэталях і запамінальным вершы «Ліліт» Вольга Іпатава раскрывае адвечнае супрацьстаянне гэтых будзённых абавязкаў жанчыны і яе высокага прызвання. Аказваецца, першай жонкай у Адама была не Ева, а Ліліт. Яна глыбока і тонка адчувала хараство прыроды, мастацтва, знаходзіла паэзію ў людзях, жыццёвых з'явах, глядзела на зоры, задумвалася, сумавала, кахала, спявала і не да пабытавых спраў ёй было. Адам не вытрымаў, расстаўся з Ліліт. Бог пашкадаваў Адама і выляпіў з яго рабра паслухмяную Еву, пакорлівую гаспадыню, якая «ў простых гаршках варыла // Дзяцей гадавала, пра зоры ніколі не гаварыла...» Але Адаму так не ставала Ліліт. «Па сёння

яму ўсё сніцца //То росны слядок, то спевы //Па сёння Адам мітусіцца // Паміж Ліліт і Евай...» Адчуваецца, што змаганне Ліліт і Евы ідзе і ў душы самой паэтэсы, якая задумваецца над адвечным і агульным для ўсіх філасофскім пытаннем, як стварыць і захаваць гармонію ва ўзаемінах у сям'і, паміж людзьмі, дзе тая мяжа, перад якой трэба спыніцца, азірнуцца, задумацца?

Многія паэтычныя творы Вольгі Іпатавай маюць глыбокі падтэкст, насычаны жыццесцвярджальнымі ідэямі, бо, закранаючы асабістыя, здавалася б, прыватныя пытанні, яна здольная выйсці да агульначалавечых праблем, якія датычаць кожнага. Па-ранейшаму, хоць паэтычны талент узмужнеў, узбагаціўся жыццёвым вопытам, паэтэса незвычайна патрабавальна ставіцца да сябе, поўніцца жаданнем зняць «слоў драбязу і дробных спраў паспешнасць», задумваецца аб тым, што зроблена і што яшчэ не ўдалося здзейсніць. Ёй хочацца паглядзець на сябе, юную, сустрэцца з тою дзяўчынкай, якая некалі марыла пра вялікае каханне, высокую паэзію, каб павучыцца ў яе чысціні, аптымізму. («Рэдка збоку сябе, пасталеўшы, бачым мы // Па жыццю лягчэй бяздумна прайсці // Адплываюць гады, як лодка рыбачая // З тым, што спраўдзіць хацелася ў жыцці...»). І ўсё ж спраўджана, здзейснена многае. Ужо на раннім этапе творчасці прыкмячалася, як у паэтычны, інтымны свет Іпатавай урываецца подых грамадскіх падзей, з'яў, як імкнулася паэтэса ўнікаць драбнатэм'я, апісальніцтва, паспешлівасці. Калі меркаваць па шматлікіх рэцэнзіях на яе паэтычныя зборнікі такіх строгіх арбітраў эстэтычнага густу, як Анатоль Вярцінскі, Сяргей Грахоўскі, Алесь Бачыла, Анатоль Грачанікаў, Юрась Свірка, Алег Лойка, Варлен Бечык, Тамара Чабан, то яны высока ацэньвалі паэзію Вольгі Іпатавай. Бясспрэчныя паэтычныя здольнасці маладой аўтаркі адзначаў і Ніл Гілевіч. Праўда, было і нямала крытыкі, добразычлівых заўваг, з якімі нельга не пагадзіцца (моўная match розна стылёвасць, часам уяўная асацыятыўнасць). Але найбольш адзначаліся асаблівасці творчай індывідуальнасці паэтэсы, яе ўменне карыстацца шырокай эмацыйнай гамай роднай мовы і фальклору («Сказ пра маці», «Маналог Людмілы Сечкі», «Балада пра Лілею»), высокі эквівалент слова, яго шматфарбнасць, імкненне бачыць з'явы не звонку, а знутры, выхопліваць яскравыя прыкметы і высвечваць паэтычным зрокам. І сапраўды, лепшыя вершы Вольгі Іпатавай прывабліваюць спавядальнай даверлівасцю. Рэальны, непаўторны свет яе паэзіі ўздзейнічае на чытача ціхім смуткам і рамантычнай узнёсласцю, далікатным, безабароннажаноцкім вобразам галоўнай гераіні і не менш аўтарскім хваляваннем за людзей, за вострыя праблемы, што перажывае краіна. У эстэтычна пераканаўчай

форме яна выяўляе сваё стаўленне да жыцця, свае сімпатыі і антыпатыі, густы і схільнасці. У яе вершах, як ужо падкрэслівалася, шмат аўтабіяграфічнага, але думкі, пачуцці маюць не вузкаасабісгы характар.

Асобную старонку ў паэзіі Вольгі Іпатавай складае паэтычны цыкл грамадзянскай лірыкі. Свой роздум пра сённяшнія, незвычайна складаныя і супярэчлівыя праблемы, пра нацыянальнае адраджэнне яна раскрывае ў вершах: «І аптымістам трэба аптымізму», «Хата», «Зажынкі», «Жанчыны», «Вечар», «Да дня 25 Сакавіка», «Нібы пуховаю хусцінкай» ды інш. Проста, без высокіх слоў і ўзнёслай рыторыкі выказвае Іпатава свае пачуцці, грамадзянскую пазіцыю, сваю невымерную любоў да Беларусі, роднай мовы, гісторыі, праяўляе страсную зацікаўленасць усім, што датычыць нашай незалежнай дзяржавы, нацыянальных традыцый. Яе мастацкае слова набрала моцы, унутранай пераканananасці — гэта сціслы духоўны летапіс, што пісаўся лёсам, што ствараецца мэтаімкнёна, шырокім і вольным дыханнем («Веру я: крыніцаю праб'ецца // Праўда аб народзе і зямлі...»). Ей хочацца пацвердзіць сваю веру вершамі пра сапраўдныя таленты, якія выйшлі з самых глыбіняў, здзейсніліся, нягледзячы на неспрыяльныя абставіны («Талент» — пра Я. Коласа, «Настаўнік», «Вяртанне» — пра беларускага вучонага, асветніка Барыса Кіта). І важна адзначыць, што няма ў яе вершаў, прысвечаных чырвоным датам, партыі, розным камуністычным правадырам, з выкладаннем агульнавядомых, вернападданых настрояў (а, нагадаем, друкавацца Вольга Іпатава пачала з 1957 года). Яе пісьменніцкім крэда заўсёды была праўда жыцця, праўда падзей, пачуццяў, чалавечых лёсаў, выказаныя праз шчырае, сумленнае слова.

Паэтычнае слова Вольгі Іпатавай ужо тады гучала і сярод суайчыннікаў далёкага замежжа. У 1967 годзе ў газеце «Беларус» (128-ы нумар), якая выдавалася ў Нью-Ёрку, з'явіўся вялікі артыкул С. Станкевіча пра творчасць маладой беларускай паэтэсы з багатым цытаваннем яе вершаў, біяграфічнымі звесткамі. Найперш аўтар артыкула адзначаў нацыянальна-патрыятычныя матывы, якія дамінуюць у паэзіі Іпэтавай, яе любасць да Беларусі, вёскі, роднай мовы:

Як бохан хлеба, ты дала мне мову, —
Яна, як золак росны на губах,
Дзе кожны склад, пявучы і вясновы,
Дажджом і медуніцаю прапах...

Падкрэсліваючы высокую эстэтычна-мастацкую вартасць творчасці пісьменніцы, С. Станкевіч адзначаў: «Сярод твораў Вольгі Іпатавай не знойдзеш вершаў банальных, не знойдзеш паўтораў вобра-

заў і думак, ужо выкарыстаных іншымі паэтамі. Усе вершы Іпатавай арыгінальныя мастацкім апрацаваным тэмы, самабытным нацыянальным каларытам. У асобе Вольгі Іпатавай даспявае моцны, арыгінальны й самабытны паэтычны талент...» Артыкул С. Станкевіча з чытаннем многіх вершаў паэтэсы прагучаў на радыё «Свабода» ў Мюнхене (1967, перадача серыі «Сучасная беларуская літаратура»), а ў гэтай рэдакцыі працавалі тады Ант. Адамовіч, Янка Запруднік, Масей Сяднёў, іншыя беларускія пісьменнікі-эмігранты.

Цытаваў Іпатаву і Юрка Віцьбіч — вядомы публіцыст, празаік, стваральнік літаратурнага аб'яднання «Шыпшына» на далёкім замежжы. У газеце «Беларус» (1971, № 168) ён змясціў артыкул «Ёсць у гораду душа», узяўшы для свайго загалоўка радок з верша В. Іпатавай («Ёсць у гораду душа // Ды мы забываем гэта ў дзённым гудзе...»). У артыкуле Віцьбіч раскрывае гісторыю Горадні, устанаўлівае, калі было першае ўпамінанне ў летапісах пра горад, расказвае пра гарадзенскія Стары і Новы замкі. А часопіс «Божым шляхам», які выдаваўся ў Лондане, не аднойчы змяшчаў вершы В. Іпатавай на сваіх старонках (як, да прыкладу, яе выдатны верш «Каложа» пра старажытную гарадзенскую царкву // «Божым шляхам», 1966, верасень-кастрычнік, № 5). Гэтая папулярнасць Вольгі Іпатавай, яе незалежнасць у жыцці, у паэзіі, свабода мыслення і выказвання, з якой пісьменніца выбудоўвала свой лёс, абумоўлены не толькі ранняй самастойнасцю, але і тым, што яе творчы шлях пачынаўся ў спрыяльным беларускім пісьменніцкім асяроддзі. Да таго ж Вольга Іпатава шмат чытала, захаплялася сусветнай класічнай літаратурай, увесь час знаходзілася ў цэнтры грамадскага жыцця старажытнай Горадні з яе інтэлігентнай, інтэлектуальнай атмасферай, нацыянальна-вызваленчымі традыцыямі, цікавай гісторыяй, блізкасцю да Еўропы. Не меншую значнасць для яе творчага росту, пазнання жыцця мела і настаўніцкая праца на Віцебшчыне (60-я гады), хай і не вельмі працяглы час, але яна дала магчымасць адчуць сябе паўнавартасным педагогам, здольным несці дзецям разумнае, добрае, вечнае.

І ўсё ж яе стыхіяй было вольнае пісьменніцкае слова, незалежна, дзе яно гучала — на тэлебачанні ці на старонках газет і часопісаў. У 1970 годзе Вольгу Іпатаву прынялі ў Саюз пісьменнікаў Беларусі. Рэкамендацыю ёй далі Васіль Быкаў, Данута Бічэль-Загнетава, Аляксей Карпюк. Назаўсёды запомніўся той хвалюючы дзень, калі яна, адначасна з Уладзімірам Скарынкіным і Леанідам Дайнекам, стала сябрам пісьменніцкага Саюза. Як успамінае сёння Вольга Міхайлаўна, «...той Саюз пісьменнікаў быў інакшы. Па-першае, ён быў меншы. І наўкол панавала атмасфера разумення, што пісьменнік і яго талент —

гэта рэдкі дар, які трэба берагчы і ахоўваць. І з іншымі, і са мной працавалі, аберагалі. У 23 гады я атрымала сваю першую кватэру менавіта таму, што была пісьменніцай. Была ў Саюзе і нейкая асаблівая «вольніца», і павага да слова. Гэтаму шмат садзейнічалі тыя карыфеі літаратуры, якія былі для нас, маладых, з дзяцінства знаёмыя і вядомыя. Гэта Янка Маўр, Максім Танк, Янка Брыль, Іван Шамякін. Я з першага класа чытала іх вершы, апавяданні. Яны былі тады зусім маладыя, як меркаваць сёння. Але для мяне, колішняй, гэта былі жывыя класікі. Нават не ўяўляю сабе, каб маладыя маглі падумаць, што можна напісаць нешта абразлівае пра кагосьці з іх. Тое, што ў апошнія гады мы назіралі — цкаванне нашых лепшых літаратараў — гэта, па-мойму, дзікунства...»

Вось такая атмасфера «вольніцы», павагі да беларускага слова і ягоных творцаў, якую адчула Вольга ў Саюзе пісьменнікаў, як бы замацоўвала тыя незалежніцкія імпульсы, атрыманыя маладой паэтэсай на самым пачатку творчага шляху. Яна адна з першых, яшчэ ў 70-х гадах, выступіла ў абарону роднай мовы і нацыянальнага адраджэння і ў знак пратэсту супраць русіфікацыі адмовілася ад Граматы ЦК камсамола, што было нечуванай крамолай у тыя часы. Была створана нават камісія, каб «разабраць» яе паводзіны, тым больш, што працавала тады Вольга Іпатава на так званым ідэалагічным фронце, а гэта азначала нязгоду з палітыкай партыі ў «камуністычным выхаванні савецкага народа». Аднак усе камісіі і «разборкі» не спалохалі маладую пісьменніцу, не пахіснулі веры ў нацыянальнае адраджэнне. З усяго гэтага яна зрабіла адпаведныя высновы — напісала (першая ў беларускай літаратуры) аповесць пра Еўфрасінню Полацкую. І якраз у гады, калі ў Савецкім Саюзе панавала тэорыя зліцця нацый і моваў, вялася бязлітасная барацьба супраць рэлігіі і не магло быць ніякіх размоў пра ўласна беларускую гісторыю, яе вялікіх дзеячаў, святых, герояў, а тым больш царкоўных асветнікаў-гуманістаў. Пазней Вольга Міхайлаўна ўспамінала: «Калі ўпершыню, у «Маладосці» (1971, № 12) пры дапамозе галоўнага рэдактара Алеся Асіпенкі была надрукавана аповесць «Прадыслава», пасыпаліся разгромныя рэцэнзіі такіх гісторыкаў, як Абэцэдарскі. Было нават спецыяльнае пасяджэнне сектара атэізму пры ЦК КПБ, былі лісты абражаных пенсіянераў у самыя розныя інстанцыі — ад ЦК КПСС да КДБ і «Праўды». Можна было падумаць, што аўтарка замахнулася не меней як на асновы імперыі... Толькі праз гады я добра зразумела — самая маленькая драбінка праўды аб нашай самастойнай гісторыі, пра нашых асветнікаў, святых, каралёў здавалася пэўным сілам, што свядома пагружалі ў гістарычнае бяспамяцтва цэлы народ, — небяс-

печнай....» («Ад забыцця — да кожнага сэрца», газета «Культура», 1994, 1 чэрвеня.)

Сёння, прынамсі, смешна чытаць «глыбакадумныя» развагі савецкага гісторыка Л. Абэцэдарскага пра аповесць «Прадыслава» («Советская Белоруссия», 17 мая 1973), пра «князёўну-дэмакратку, імя якой заўсёды служыла рэакцыі, а не задачам камуністычнага выхавання моладзі». Да рэакцыянераў ім аднесены таксама Мялецій Сматрыцкі, Лаўрэнцій Зізаній, іншыя вядомыя асветнікі мінулага. Аднак час разважыў па справядлівасці. На сённяшні дзень «Прадыслава», іншыя гістарычныя творы Вольгі Іпатавай, выдадзеныя ў серыі «Школьная бібліятэка», якраз і служаць нацыянальнаму ўзгадаванню моладзі, расказваюць пра выдатных беларусаў, якія з'яўляюцца прыкладам самаадданага служэння радзіме і свайму народу. Да слова згадаць, сёння ў школах праводзяцца настаўнікамі-энтузіястамі беларускай мовы і літаратуры ўрокі па творчасці Вольгі Іпатавай і яе аповесці «Прадыслава». Сцэнар такога ўрока (праводзіла Марыя Сцяпанаўна Мацюкевіч, настаўніца беларускай мовы і літаратуры Салігорска) апублікаваны ў часопісе «Роднае слова» (2001, № 1) пад назвай «Пуцяводная зорка беларусаў». Дык вось як ацэньваюць вучні пасля ўважлівага прачытання «Прадыславы», якая глыбока закранула патаемныя струны маладых душ, разбудзіла іх уяўленні, твор Вольгі Іпатавай (у адрозненне ад прафесара Абэцэдарскага) і саму дзейнасць і постаць святой Еўфрасінні»: «Я лічу, што жыццё Еўфрасінні Полацкай, яе дзейнасць — подзвіг, бо ўсю сябе яна прысвяціла служэнню народу...» «Уводзячы ў сваю аповесць шчымлівыя сцэны кахання, Вольга Іпатава, як мне думаецца, хацела падкрэсліць моц духу князёўны і паказаць, як жаданне служыць народу, прынесці карысць роднай зямлі, перамаглі ўсе зямныя спакусы...»

Адна з вучаніц згадвае: «У Евангеллі ёсць цудоўная прыпавесць пра сейбіта, які ранняй вясной выйшаў у поле, каб даверыць зямлі каштоўнае зерне будучага жніва... Ідзе сейбіт па свежых баразнах і старанна рассейвае насенне. Частка зерня падае пры дарозе, частка — на камяністую глебу ці ў зямлю, зарослую калючкамі. Але тое, што ўпала на добрую глебу, дасць у сто разоў багацейшы ўраджай. Вось такім першым вялікім сейбітам духоўнага насення — сярэднявечнай духоўнай культуры, хрысціянскай веры, дасягненняў еўрапейскай і сусветнай цывілізацыі на старабеларускіх землях — была наша славутая асветніца, князёўна Прадыслава са слаўнага горада Полацка, якая на заранку нашай гісторыі, у XII стагоддзі, зразумела вялікую ролю асветы ў жыцці народа і аддала гэтай справе ўсе свае здольнасці і сілы...»

«Еўфрасіння Полацкая зрабіла для нашага народа столькі добрага, што людзі назвалі яе святой. Нашы продкі верылі, што за вялікія заслугі Бог забраў асветніцу на неба і адтуль яна спрыяе землякам ва ўсіх добрых справах...» Можна шмат прыводзіць такіх выказванняў маладых нашых сучаснікаў, якія высока ацэньвалі аповесць «Прадыслава”. Аднак і ў той час, калі твор толькі выйшаў з друку, былі станоўчыя «закрытыя» і апублікаваныя рэцэнзіі на аповесць «Прадыслава», сярод якіх «Сказ о Ефросинье Полоцкой» Святланы Алексіевіч («Знамя юности», 1972, 21 лістапада), як і рэцэнзіі Міколы Ермаловіча, Міколы Прашковіча, якія вылучаюцца слушнымі меркаваннямі, што аповесць «акрамя эстэтычнага задавальнення дае чытачу немалыя падставы для роздуму». Але галоўнае, рэцэнзенты ўбачылі ў асобе Вольгі Іпатавай гісторыка, якому падуладны дакладнасць і праўдзівасць у апісанні падрабязнасцяў побыту, жыцця таго часу, адчуванне велічы здзейсненага Прадыславай-Еўфрасінняй. «Прадыславу» ўхваліў Уладзімір Караткевіч, але адзначыў, што жанчыне ўздымаць такую глыбу, як беларуская гісторыя, наўрад ці па сілах. А з Вільні ад Янкі Шутовіча прыйшоў ліст-водгук на «Прадыславу»: *«З вялікай радасцю і задавальненнем прачытаў Вашу аповесць «Прадыслава» («Маладосць», № 12, 1971). Таленавіта напісана, стройнай, яркай і беларускай мовай, у тэматычных і кампазіцыйных адносінах — беззаганная, у гістарычных — даволі правільна і праўдзіва адлюстравана эпоха, пра якую гаворыцца ў аповесці. Я перакапана сцвярджаю, што Вы гэтай сваёй аповесцю зрабілі заяўку на сур'ёзнага, таленавітага празаіка — нашу Арэшчыху Алоізу ці нават Сенкевіча Генрыка. Сардэчна віншую Вас з гэтай прыгожай удачай і сардэчна зычу Вам далейшых творчых удач.*

*Маю жаданне пабачыцца з Вамі. Калі будзеце ў Вільні, не абмініце мяне... З ахвотай, калі б дазволілі, зложыў бы Вам візіт...*

*Вільня, 19 студзеня 1972 г.*

*Шчыра аддany Янка Шутовіч...»*

І сапраўды, кожны, хто прачытае «Прадыславу», адчуе глыбіні айчыннай гісторыі, да якіх пісьменніца толькі пачала падступацца. Ці варта падкрэсліваць, як важна ведаць нашу гісторыю цяпер, калі Беларусь зноў апынулася перад пагрозай страты незалежнасці. Сваёй аповесцю Вольга Іпатава яшчэ ў 70-х гадах сцвярджала, што духоўнымі арыенцірамі нацыі павінны быць не ілжэгероі і не заваёўнікі, а людзі высокага маральнага подзвігу і вялікай ідэі, як святая Еўфрасіння Полацкая — асветніца, што запальвала сваімі справамі палачан, умела знаходзіць сярод іх таленты. І самае галоўнае — твор Вольгі Іпатавай абудзіў цікавасць чытача да лёсу Прадыславы, а тым

самым і да яе радаводу. А гэта ж амаль уся беларуская гісторыя, бо паходзіла. Прадыслава з роду Рагвалода. Дачка яго — пакутніца Рагнеда, якая скончыла жыццё як манашка Анастасія, а пачынала яго як гордая князёўна, што не пажадала ісці замуж за кіеўскага князя Уладзіміра, бо не хацела «разулі рабыніча» (як вядома, маці будучага князя Уладзіміра была ключніца Малуша, рабыня княгіні Вольгі). У ліку продкаў Прадыславы быў таксама Ізяслаў-кніжнік, сын Рагнеды, у чый гонар названа сённяшняе Заслаўе. Яе стрыечныя сёстры, дочкі Яраслава Мудрага (сына Рагнеды) былі каралевамі ў еўрапейскіх дзяржавах. Дзед яе, Усяслаў Чарадзей, магутны полацкі князь, навечна застаўся самым вабным і таямнічым героем «Слова пра паход Ігаравы». І нічога дзіўнага, што дзяўчына са слаўнага роду князёў полацкіх таксама мела вешчую душу і рана адчула сваё прызначэнне. Яна запаліла сонца асветніцтва над беларускай зямлёй, адкрывала школы, храмы, вучыла дзяцей, перапісвала кнігі, заснавала багатую бібліятэку, спаленую, разрабаваную захопнікамі Івана Жахлівага. Па яе замове таленавіты мастак-ювелір Лазар Богша стварыў неперасягальны твор мастацтва — Крыж Еўфрасінні Полацкай. І яна — беларуская жанчына-хрысціянка з тых святых праведнікаў, што ў свой час уплывалі на духоўную атмасферу і народную самасвядомасць, была кананізавана і стала Святой Еўфрасінняй — сімвалам і апякункай нацыі. Сёння ў Полацкі Свята-Еўфрасінеўскі манастыр ідуць і едуць людзі, каб пакланіцца і памаліцца яе памяці. Дык ці не была «Прадыслава» Вольгі Іпатавай у гады, калі мы жылі пад прэсінгам надзвычай неспрыяльных для нацыянальнага адраджэння абставінаў, своеасаблівым пратэстам і адначасова прарывам у далёкую беларускую гісторыю?

Відаць, гэты «нацыяналізм» маладой пісьменніцы «паспрыяў» таму, што пачалася ў яе паласа нейкіх жыццёвых няўдач. У 1973 годзе Вольгу Іпатаву як лепшага рэдактара Гродзенскай тэлестудыі запрасілі ў Мінск на працу ў літаратурна-драматычную рэдакцыю сталічнага тэлебачання. Але шлях туды, як і магчымасць друкавацца, раптоўна зачыніўся. Зверху было даведзена, што Вольга Іпатава не член партыі і наогул «неблагонадёжная». А яна ўжо звольнілася з працы ў Гродне, прыехала ў Мінск, зняла кватэру. «Калі я ўпала ў поўны адчай, — успамінае пісьменніца, — без прапіскі мне было не ўладкавацца нікуды — прыйшло выратаванне: Леанід Прокша, галоўны рэдактар газеты «Літаратура і мастацтва», узяў мяне малодшым літсупрацоўнікам. «Каб жа Вы ведалі, мілае дзіця маё, што мне давялося з-за Вас выцерпець!» — сказаў ён мне аднойчы недзе праз два гады пасля нашага супрацоўніцтва. Ласкавы гэты зварот, якім ён

заўсёды карыстаўся ў дачыненні да мяне, а галоўнае — пастаянны клопат гэтага немаладога, але вельмі добрага да нас, маладых, пісьменніка і галоўнага рэдактара — шмат дапамаглі мне ў тыя адзінокія гады, калі я прывыкала да Мінска»...

І ўсё ж нястомная энергія, уменне пераадольваць цяжкія абставіны і спадзявацца толькі на ўласныя сілы скіроўвалі маладую пісьменніцу на шлях удасканальвання і паглыблення сваіх ведаў. У 1975 годзе яна паступае і на працягу трох гадоў вучыцца ў аспірантуры Літаратурнага інстытута імя М. Горкага. Жывучы ў Маскве, Вольга Іпатава спаўна выкарыстоўвала магчымасці сталіцы дзеля агульнай і прафесійнай адукацыі — наведвала музеі, тэатры, вывучала, перачытвала багатую мастацкую, філасофскую, асветніцкую спадчыну сусветна вядомых пісьменнікаў, філосафаў, асабліва тых, хто быў пад афіцыйнай забаронай, як, да прыкладу, М. Бердзяеў. Яго вядомы афарызм «Перад Богам пісьменнік можа апраўдацца толькі сваёй творчасцю» стаў для яе жыццёвым дэвізам. У гэтыя гады яна актыўна друкуецца на старонках «Правды», «Литературной газеты», «Комсомольской правды», «Дружбы народов», «Новога мира», «Литературного обозрения», «Молодой гвардии», працягваючы і пазней дасылаць у гэтыя маскоўскія выданні свае вершы, крытычныя і публіцыстычныя артыкулы. Гэта былі ў асноўным змястоўныя, напісаныя на рускай мове, агляды твораў, якія выходзілі ў 70-х гадах у былой шматнацыянальнай савецкай літаратуры. Як крытык Вольга Іпатава аналізавала пераважна аповесці, раманы В. Быкава, І. Навуменкі, А. Ананьева, А. Кешокава, В. Петрасяна, К. Галаванава, Ю. Палухіна, А. Хакімава, Ю. Галкіна і многіх іншых аўтараў, якія закраналі самыя разнастайныя праблемы, тэмы тагачаснага жыцця, звярталіся да ваенных падзей, далёкай і блізкай гісторыі. Крытычныя агляды Вольгі Іпатавай вылучаліся аб'ектыўнасцю, сведчылі пра добрае веданне літаратурнага працэсу, яе эрудыцыю, уменне ў творы таго або іншага аўтара вызначыць нацыянальныя адметнасці побыту, характару герояў, глыбінную філасофію жыцця, іх светапоглядныя арыенціры. Яна заўсёды імкнулася падкрэсліць, што сапраўдную паэзію, прозу нельга ўявіць без кроўнай сувязі з Радзімай, без асэнсавання духоўных пошукаў чалавека. Таму што душа — гэта Радзіма, гэта боль і гарэнне, адчуванне сябе не толькі грамадзянінам свету, але і парасткам поля, засеянага продкамі, адчуванне сябе прадстаўніком роднай зямлі, дзе б ты ні жыў. Менавіта так яна сябе і адчувала, не ўяўляла сябе і сваю творчасць без Радзімы, яе гісторыі.

Вярнуўшыся пасля аспірантуры ў Мінск, пісьменніца некаторы час працавала ў Тэатры юнага гледача загадчыцай літаратурнай

часткі, якую да яе ўзначальвалі Артур Вольскі і Аляксей Дудараў. Там яна прабыла нядоўга, але пазнаёмілася з жанчынай, якая аказала на яе немалы ўплыў і якой яна прысвеціць пазней некалькі твораў — апавяданне «Мышка ў капелюшы», вершы «Віргініі», «Вясёлай была. Магутнай». Маладая рэжысёра Віргінія Тарнаўскайтэ таксама захапілася пісьменніцай — яна замовіла ёй вершы да спектакля «Маўглі». І абедзьве апантана працавалі над гэтай пастаноўкай, а пасля пасябравалі. І колькі гарачых дыскусій аб лёсе чалавецтва, аб касмічных законах і філасофскіх поглядах тых або іншых дзеячаў культуры ўспыхвала на ціхіх берагах рэчкі Свіліцы Глыбоцкага раёна, дзе абедзве купілі старыя вясковыя хаты і куды амаль дзесяць гадоў прыязджалі пры першай жа магчымасці. Вольга Іпатава не стала заўзятай тэатралкай, але яна ўдасканаліла ўменне «закручваць» раманную інтрыгу, узмацняць дробную, здавалася б, дэталь, якая па-новаму асвеціць усё навокал.

Вольга зноў вярнулася да «вольнай» працы літкансультанта ў газеце «Чырвоная змена», адкуль і сыходзіла ў аспірантуру. Друкавала на яе старонках, як і ў «ЛіМе», «Звяздзе», «Полымі», «Маладосці» не толькі артыкулы, рэцэнзіі на творы беларускіх пісьменнікаў (У. Галубка, В. Таўлая, У. Караткевіча, Р. Барадуліна, Г. Бураўкіна, В. Зуёнка, П. Макаля, Г. Далідовіча, Д. Бічэль-Загнетавай, В. Вярбы, Н. Тулупавай, В. Макарэвіча, І. Бурсава, М. Дуксы, Г. Юрчанкі і інш.), але і многія свае вершы, апавяданні, якія пачала пісаць з пачатку 70-х. Як кансультант Вольга Іпатава выводзіла на паэтычную арбіту маладых аўтараў, падтрымліваючы божы дар у душах пачаткоўцаў. Яе ўласнае жыццё, напоўненае творчай працай, было багатым на цікавыя падзеі, сустрэчы, знаёмствы. Яна не аднойчы брала ўдзел у папулярных тады Днях культуры, якія рэгулярна адбываліся ў розных рэспубліках былога Саюза. Такія паездкі садзейнічалі таму, што Вольга захапілася перакладчыцкай дзейнасцю. На беларускую мову ў 70-80-х гадах ёю былі перакладзены паасобныя творы ўкраінскіх (М. Алейнік, М. Ваўчок, А. Іваненка, А. Сенатовіч, А. Цясленка), літоўскіх (І. Авіжус, Я. Дэгуцітэ), латвійскіх (В. Брутанэ) армянскіх (С. Капуцікян), грузінскіх (М. Эліазішвілі) пісьменнікаў. Дзякуючы В. Іпатавай беларускі чытач змог пазнаёміцца з творчасцю паэтаў, празаікаў рэспублік Сярэдняй Азіі: кіргізскіх (С. Джусуева, Б. Абакірава), казахскіх (М. Мурталіева), узбекскіх (Зульфіі, А. Абіджана, А. Арыпава, Э. Ахунава, Э. Вахідава Д. Джабарава, Ісфандзіяра, М. Карыева, П. Муміна, Н. Нарзулаева, А. Хаджыева, Х. Шэйхова, А. Шамірзаева). Захапленне літаратурай наогул культурай, прыродай Усходу ў Вольгі Іпатавай пачалося яшчэ са студэнцкіх гадоў і было, відаць,

найперш абумоўлена тым, што ў Кіргізіі нарадзіўся яе бацька — Міхаіл Іванавіч Іпатаў — і паходзіў ён, як устанавіла свой радавод Вольга Міхайлаўна, са шляхетнага беларускага роду Гвяздоўскіх, прадстаўнікі якога ўдзельнічалі ў паўстанні Кастуся Каліноўскага і былі высланыя царскімі ўладамі ў стэпы Кіргізіі. У адным са сваіх артыкулаў («Любоў душы маёй», ЛіМ, 1977, 26 жніўня) Вольга Іпатава пісала пра сваю першую сустрэчу з Кіргізіяй" «Студэнткай-першакурсніцай я ўпершыню сабралася на радзіму свайго бацькі, у горад, экзатычная назва якога — Джалал-Абад — гучала ўва мне з дзяцінства, зачароўваючы незвычайнасцю і вабячы. Заснуўшы пасля тлумнай перасадкі ў Ташкенце я прачнулася на досвітку і зірнула ў акно.

Цягнік ішоў па Ферганскай даліне, і вочы мае прагна ўбіралі фантастычнае відовішча: белыя грабяні гор, да якіх, злёгку калыхаючыся, падбіралася ружова-фіялетавае марыва агромністай даліны — сіне-фіялетавае ў нізінах, у купах стромкіх таполяў і асляпляльна-ружовае там, дзе з-за спін гор вось-вось павінна было выглянуць сонца, якое ўжо афарбоўвала плечы гор гарачым, аранжавым святлом. А скрозь марыва праступалі то залатыя палі пшаніцы, то белыя разлівы бавоўніку, то карычневы разлом скалы, і гэтае буйства фарбаў абрыньвалася, як вадаспад на маленькага зялёнага вусеня — цягнік, які ішоў паволі, нібыта нехаця, нібы цвярозасцю ён упадаў у дысананс з казачным хараством прыроды і адчуваў гэта...

Тое першае ўражанне засталося ў душы мелодыяй, а кожная новая сустрэча нібы ўпляталася ў яе, пашыраючы і ўзбагачаючы Варта сказаць сабе: «Кіргізія!», і бачыцца возера ў Сарычэлекскім запаведніку, дзе скрозь шматметровую бірузовую тоўшчу вады відзен на дне кожны каменьчык, паўстае ў памяці велічэзнасць гранітных кражаў, і нияркая сціпласць белай кветкі бавоўніку і дзівосна пяшчотныя струмені шоўку на Ошскім шаўковым камбінаце, і бронзавы твар вартаўніка агромністай атары, — твар вандроўніка, цярплівы і задуменны...

Экзотыка часам робіцца звыклай — экзотыка краявіду, клімату, звычаяў: не так цяжка насыціць пагляд, як душу. Але няма стомы для душы там, дзе духоўны пагляд шукае і знаходзіць сувязь мінулага і будучага. Гэта пазелянелы бронзавы тур — сучаснік залатой Элады, дваццаць тры стагоддзі хаваў яго панурыя будыйскі храм; сіняя ўзорыстая муроўка з цэглы на маўзалеі Манаса стваралася народнымі ўмельцамі амаль адначасова з роспісамі ў Полацкай Сафіі; і слова, не маючы свайго выйсця ў літаратуры, захоўваецца ў памяці народнай, каб дайсці да нашчадкаў багацейшай скарбніцай фальклору, магут-

ным эпасам пра Манаса (ці не гэтак жа беражліва перадаваліся з пакалення ў пакаленне песні і казкі Беларусі?)...»

І ці не гэтыя ўражанні ад Кіргізіі паспрыялі выдатнаму перакладу В. Іпатавай верша кіргізскага паэта Барктабаса Абакірава «Подзвіг»:

Ад вяршынь, дзе начуюць арлы,
Дзе аблокі, прыплыўшы здаля,
Спачываюць — ад кропель малых
Пачынаецца подзвігу шлях.

Дзе аблокі, прыплыўшы здаля,
Гор каменнае крышаць лайно —
Там пастух на джайляе крутым
Залатое гадуе руно.

Дзе сухая, нібыта асцё,
Ты, зямля, прагібела вякі —
Там бавоўніку белы касцёр
Распалілі мае землякі.

Гор маўчанне, як мудрасць вякоў,
Я прыняў за навуку, але
Склаў бы подзвігам я землякоў
За Узгенскі вышэй маўзалей.

Дай натхненне, адвагу радку
Перадаць, што на сэрцы нашу!
Бо знаходжу ў сваім земляку
Я Манаса-асілка душу.

Гэтыя першыя знаёмствы, уражанні, пераклады перараслі потым у сур'ёзнае вывучэнне літаратурных традыцый сярэднеазіяцкіх рэспублік, склалі пэўны перыяд у творчасці Вольгі ватавай, мастацкім вынікам якога стаў раман «За морам Хвалынскім». Яе асаблівае захапленне — літаратура Узбекістана. На беларускую мову яна пераклала кнігу вершаў Пулата Муміна «Яблык для ўсіх», прысвечаную дзецям. Гэтая кніга народнага паэта Узбекістана распавядае пра жыццё і працу хлебаробаў, чабаноў, пра непаўторную прыроду сонечнага Узбекістана. Добры пераклад вершаў «Наш чабанскі род», «Пешаходная балада», «Чароўная кветка», «Садоўнік», «Салаўіная крыніца», «Босы эскадрон» дакладна і паэтычна перадае сам дух і змест арыгінала, нацыянальна-падзейны каларыт. У 1982 годзе газета «Камсамолец

Узбекістана» на працягу многіх нумароў друкавала пераўвасобленую В. Іпатавай на рускую мову навукова-фантастычную аповесць Х. Шайхава «Касманаўт і робат», а таксама пісала пра творчасць самой беларускай пісьменніцы.

Вольга Іпатава з'яўляецца ўкладальнікам і перакладчыкам шматлікіх празаічных твораў, а таксама аўтарам прадмовы да кнігі «Другі перавал», куды ўвайшлі аповесці Нуралі Кабула «Дзень добры, горы!», Мурада Мухамада-Доста «Адстаўны», Эркіна Агзамава «Адказ», Ульмаса Умарбекава «Пустыня». Гэта найбольш таленавітыя прадстаўнікі сучаснай літаратуры Узбекістана, якая дала свету выдатных мастакоў слова: Рудакі, Джамі, Саадзі, Наваі і іншых славутых майстроў Сярэднявечча, а таксама заснавальніка ўзбекскай і таджыкскай савецкіх літаратур Садрыдзіна Айні і такія імёны, як Хамза, Айбек, Гафур Гулям, Зульфія, Алімджан. Аповесці, якія ўвайшлі ў «Другі перавал»і даюць беларускаму чытачу ўяўленне пра лепшыя рысы ўзбекскай прозы: мяккі лірызм, пластыку пісьма, глыбокае пранікненне аўтараў у народнае жыццё, паказваюць псіхалагічную завостранасць і драматызм канфліктаў, далучаюць нас да побыту, пачуццяў герояў. У змястоўнай прадмове да кнігі Вольга Іпатава акрэсліла асноўныя дасягненні ўзбекскай літаратуры, яе складаны, супярэчлівы шлях развіцця, характэрны для ўсёй савецкай літаратуры таго часу: «Літаратура Узбекістана, як і іншыя літаратуры краіны, прайшла і ўзлёты, і свой крыжавы шлях «праполкі» лепшых пісьменнікаў у часы жорсткага адміністрыравання, кіравання кожным яе крокам, прайшла перыяд так званага вульгарнага сацыялагізму, замоўчвання цэлых перыядаў. Але гэтага як быццам аказалася замала: ёй належала яшчэ больш балюча, чым любой з іншых нацыянальнах літаратур, перажыць часы застою... На чале рэспублікі доўгія гады стаяў чалавек, які сам пісаў кнігі і, што натуральна для тых гадоў, лічыўся «вялікім, выдатным пісьменнікам». Жыццё ў яго кнігах, якія мільённымі тыражамі крочылі па краіне, ніякім чынам не было падобна на тое, якім пад яго кіраўніцтвам жыла рэспубліка. У кнігах Рашыдава закаханыя юнакі і дзяўчаты гулялі ледзь не ў райскіх садах, перакідваліся залатымі яблыкамі шчасця. У кішлаках жа даведзеныя да адчаю невыноснай працай і бытам жанчыны часцяком абліваліся бензінам і ў знак пратэсту спальвалі сябе. У кнігах добрыя перадавікі канфліктавалі з выдатнымі перадавікамі, але і тыя і другія навыперадкі рваліся на поле, якое, як аказалася, было заліта смяротным ядам — буціфосам, спаборнічалі за лепшы гатунак бавоўны, — а ў рэспубліцы павялічвалася колькасць захворванняў,

набірала сілу мафія і адылавы ўсё смялей катавалі ў сваіх уласных астрогах-зінданах — непакорных.

Такі Галоўны мог успрымаць спакойна толькі падобныя да яго — установачных, лакіраваных кніг — «здабыткі» нацыянальнай літаратуры. І яны з'яўляліся. Механічна перанесеныя з іншых літаратур сюжэты і канфлікты, казачныя прыгажуні, якія лёгка і грацыёзна збіралі кветкі шчасця — бавоўну, перапаўнялі часопісы. Многія пісьменнікі, каб неяк уратавацца, пераходзілі на дэтэктывы, фантастыку (тым больш што традыцыі казачнай, фантастычнай літаратуры існавалі здаўна, і не толькі ў выглядзе «Тысяча і адной ночы»).

Але і там не было ратунку.

Гісторыя і фантастыка ўсё ж адлюстроўвалі, хаця і вельмі слаба, рэчаіснасць, і над гістарычнай прозай, мяркуючы па водгуках крытыкі застойных часоў, навісла пагроза «ідэалізацыі феадальнага мінулага».

І, тым не менш, нават паглыбляючыся ў бытавыя канфлікты, у сямейныя адносіны, узбекская проза адлюстроўвала лепшыя рысы народа, уздымала пытанні маральнасці, сапраўднага, а не санкцыянаваў зверху гуманізму, з вялікім чалавечым болем і грамадзянскай праўдай раскрывала бязлітаснасць і жорсткасць чыноўнікаў, што калечылі чалавечыя лёсы... Лепшыя прадстаўнікі ўзбекскай літаратуры ва ўсе часы настойліва паглыблялі рэчышча, ачышчалі яго ад напластаванняў бездухоўнасці і заняпаду».

Вольга Іпатава пісала пра літаратуру Узбекістана, але добра разумела, што праблемы яе развіцця шмат у чым праекцыяваліся на родную, беларускую. Яна не толькі выдатна ведала жыццё і літаратуру гэтай рэспублікі, але была асабіста знаёмая з многімі яе творцамі. У нарысе «Зоркі Узбекістана», апублікаваным у часопісе «Маладосць» (1979, № 12), беларуская пісьменніца, як быццам жыла тут вечнасць, адкрывае для нас цікавыя моманты — натуральныя малюнкі пабытавых і прыродных узбекскіх рэалій: «Жорсткае спякотнае паветра, жорсткая выпетраная зямля, цвёрдыя, як жалезныя, галіны карагача — а побач, тут жа, дзе бруіцца вада, цёплая прахалода засені тутаўніку, зелена кусціцца бавоўнік — свежы і ўпарты, і празрыста-сакаўны, цяжкі, як маленькая планета, персік на каржакаватым прысадзістым дрэве... Калі едзеш па дарогах Узбекістана, то ацаніць суцэльную зеляніну на палях і абавязковую засень тутаўніка ля дарог можна ў поўнай ступені толькі тады, калі цвёрда засвоіш: варта адзін толькі тыдзень не дакранацца да гэтай зямлі, і ўсё спаліць бязлітаснае сонца...

...Галоўная вуліца Маргілана пачынаецца з тонкай постаці Нурхон — першай у горадзе дзяўчыны-актрысы, якая скінула паранджу. Кажуць, каменная Нурхон вельмі падобная да сапраўднай — рабіў яе скульптар, закаханы ў Нурхон...

Гэтая легенда — адна з тых, што нараджаюцца амаль што на вачах. Яшчэ помняць тут старажылы, як загінула юная актрыса, што асмелілася пайсці па вуліцы з адкрытым тварам, а дзяўчаты, якія, шчабечучы, стаяць каля помніка і вырашаюць, у якую кавярню пайсці, паранджу бачылі хіба што ў музеі.

Дзяўчат у Маргілане мноства: у цюбецейках, у каляровых штоніках, якія выглядаюць з-пад шырокіх сукенак, зрэдку — у еўрапейскіх уборах. Зрэдку — таму што крой нацыянальнай узбекскай сукенкі — прызбораны, на какетцы — ідэальна прыстасаваны да спёкі: сукенка не аблягае постаць, а свабодна ахінае яе. Асабліва, калі гэтая сукенка пашыта з хан-атласу.

Бліскучая, мяккая тканіна з нацыянальным арнаментам — то каляровая, то чорна-белая — абдымае кожныя другія дзявочыя плечы. Нічога дзіўнага: Маргілан — горад хан-атласу, які пераліваецца чырвонымі, пунсовымі, барвовымі, вогненнымі — адным словам, усімі магчымымі і немагчымымі фарбамі. Тканіны носяць жаночыя, як цяпер гэта модна, імёны: «Гульчахра», «Муясар», «Зульфія». Як і жанчыны, яны розныя...

...Шахімардан — былое месца адпачынку шахаў, сённяшні дачны гарадок. Кожнага прыезджага абавязкова вязуць туды, і не пабываць у Шахмардане — значыць не бачыць Маргілана. Сюды прыязджаюць сем'ямі, гуртам і ў адзіночку, гатуюць плоў (у вялікую кафляную печ уладкавана ледзь не пяцьдзесят казаноў, ля кожнага дровы, нож, кумганы), сядзяць ля імклівай блакітнай ракі, настолькі халоднай, што і тры хвіліны не патрымаеш у ёй руку. Рака, ля якой месцяцца дачы, дае той непаўторны мікраклімат, што складаецца з ледзянога холаду ракі і распаленага саракаградуснага паветра...

...Узбекскія дворыкі, дзе на цвёрдай, утаптанай зямлі стаяць драўляныя тапчаны — суры, на якія зрэдку ападае счаўрэлы ліст вінаградніку, дзе звыклыя лілова-зялёныя кусты райхану, дзе ў лістоце абавязковай чынары пасвістваюць горлінкі, а па сінькаватай тынкоўцы дувала скача карычневы багамол, — гэтыя дворыкі таксама неадлучная частка штодзённага жыцця сям'і — зноў жа паводле статыстыкі, адной з самых устойлівых.

У спякотны дзень, калі плавіцца асфальт, у такім дворыку нечакана патыхне прахалодай траў і кветак... Часта, калі сям'я сядзіць за вячэрай, толькі роўны шум арыка ды няспешны шоргат лістоты

чутны ў паветры. Слухаць ваду і лістоту — адвечная прывілея мудрацоў і філосафаў. А яшчэ паэтаў.

Дзіўна, але Еўропа не ведала такой усенароднай любові да слова, да верша, як Усход. Менавіта Усход выпрацаваў такую шматзначнасць паэтычнага слова, такую яго важкасць, што словазлучэнне, асобны радок альбо бейт (двухрадкоўе) рабіліся не толькі прадметам пакланення, але і выклікалі шматлікія спрэчкі ў расшыфроўцы таго намёку, іншасказальнасці, алегорыі, той двухсэнсоўнасці паўтону альбо паўценю, якія мог хаваць кожны такі бейт альбо словазлучэнне...»

Развагі Вольгі Іпатавай пра літаратуру Узбекістана грунтуюцца на асабістай яе закаханасці ў паэзію Зульфіі, свет якой — вялікі, добры і пакутны адначасна — жыў у душы беларускай пісьменніцы са школьных гадоў, калі для яе ўся ўзбекская паэзія асацыявалася з імем Зульфіі. І вось пасля непасрэднага знаёмства і размоў з народнай паэтэсай Узбекістана, з яе выхаванцамі — маладымі і сталымі паэтамі і празаікамі, якія дарылі сваёй беларускай калежанцы новыя кнігі, Вольга Іпатава адчула сапраўдную стыхію шматграннай і мудрай паэзіі Усходу.

Усе гэтыя ўражанні ад знаёмства з жыццём рэспублікі, ад сустрэч з майстрамі паэтычнага слова, Вольга Іпатава апіша не толькі ў вялікім і грунтоўным нарысе «Зоркі Узбекістана», але і ў сваіх вершах. Дарэчы, з публіцыстычнымі артыкуламі яна пачала выступаць з 1972 года, калі ў часопісе «Беларусь» з'явіўся нарыс «Эстафета творчасці», а затым у газеце «Літаратура і мастацтва» публікаваліся нарысы «Такая ў яго прафесія» і «Светлая душа». Пазней яна пабывала на будаўніцтве трасы газаправода Цюмень-Надым і, адчуўшы не толькі рамантыку, але і цяжкія экстрымальныя ўмовы Сібіры, якія выпрабоўвалі маладых будаўнікоў на трываласць і мужнасць, напісала нарыс «Услед за трасай» («Маладосць», 1975, № 10). А «Зоркам Узбекістана» папярэднічаў нарыс «Не раз сюды прыводзілі дарогі» («Маладосць», 1979, № 11), дзе пісьменніца расказвае пра старажытны Лідскі замак, прыводзіць цікавыя звесткі пра далёкую гісторыю, падзеі, вядомых дзеячаў мінулага і пра нашых сучаснікаў, якія жывуць і працуюць на Лідчыне. За два апошнія нарысы Вольга Іпатава у 1980 годзе была ўзнагароджана прэміяй часопіса «Маладосць». А з Сярэдняй Азіяй пазней будуць звязаны не толькі уласныя паездкі, але і вандроўкі герояў яе прозы, на ўзбекскую мову будзе перакладзена і выйдзе ў Ташкенце (1985) кніга «Дваццаць хвілін з Немезідай».

Улетку 1984 года Вольга Іпатава разам з сынам і сваімі сябрамі — цёшчай і цесцем пісьменніка Сяргея Панізніка — Розай Рыгораўнай і Аляксандрам Пятровічам адправілася ў незвычайнае падарожжа. На

новай машыне «Волга» яна захацела праехаць па маршруце Мінск-Ташкент. Уласна кажучы, ніякага маршруту не было — яго выбралі па карце, самі пракладаючы шлях. Ужо тады у пісьменніцы спела задума, што ўвасобілася пасля у раман «За морам Хвалынскім», «падказаная» ёй шматлікімі скарбамі арабскіх дырхемаў, знойдзенымі ўздоўж старадаўніх гандлёвых шляхоў, што вялі на Полаччыну Яна хацела адчуць водар гэтай незвычайнай дарогі, якая, нібы моцная шаўковая нітка, звязвала розныя культуры яшчэ са старажытнасці. Вабілі і даўняя Сагдзіяна — тут пралягаў некалі шлях Аляксандра Македонскага, а таксама Бухара, Хіва. Яна ўжо была у некаторых гэтых гарадах падчас дзён савецкай літаратуры ва Узбекістане і Кіргізіі, пра што пісала ў артыкулах і нарысах Але упершыню падарожжа было такім тэматычна-цэласным — дзеля будучай кнігі. Вобразы герояў ўжо спелі ў ейнай душы — Алекса і Бяроза, Нігмат і Усяслаў.

«Калі верыць у закон пераўвасаблення, дык я, мабыць, некалі жыла на Усходзе, — узгадвае Вольга Міхайлаўна — Нешта трапеча у душы, калі дакранаюся да шоўку, да некаторых камя- — напрыклад нефрыту, халцэдону, яшмы, калі запальваю духмяныя курыльныя палачкі...»

Падарожжа ва Узбекістан доўжылася дваццаць чатыры дні ехалі, начавалі пераважна ў палатках, зрэдзь — у гасцініцах. Спачатку праз Украіну, затым — Грузію, Азербайджан. На высакагорнай дарозе, праз Сванетыю, машыну вёў Аляксандр Пятровіч. У Тбілісі ж, дзе для пунктуальнага, прывучанага да строгага парадку на дарогах мінчука было абсалютна невыносна паколькі ніякіх правіл язды на дарогах не было — машыну вяла Вольга. Руслан, сын, узгадвае сваю маці худзенькай, з шакаладным загарам, які моцна адцяняў ружовы в'етнамскі сарафанчык з залатым медальёнам на грудзях, у басаножках, якімі тая бясстрашна ціснула то на газ, то на тормаз, спрытна, амаль віртуозна слізгаючы паміж машынамі грузінаў, што спачатку лаяліся, але, пабачыўшы за рулём маладую жанчыну, абавязкова саступалі ёй дарогу.

« — У маёй маці ёсць такая якасць, якая па-руску называецца «кураж», — кажа Руслан. — Яна як бы трапляе на нейкую хвалю, на якой ёй удаюцца немагчымыя рэчы. У Гаграх, у Доме творчасці, яна падышла да стала, дзе гулялі ў пінг-понг мужчыны, і сціпла папрасілася ў чаргу. «Прапусціце жанчыну з дзіцем!» — насмешліва зрэагаваў адзін з іх, перад якім усе расступіліся (я, толькі пасталеўшы, даведаўся, што гэта быў паэт Я. Еўтушэнка). Маці пасадзіла мяне ў куточак, стала ля стала і аднаго за адным абыграла ўсіх мужчын, што там былі (паколькі там гулялі па сістэме «высадкі» слабейшага), а пасля

ўзяла мяне за руку і гэтак жа сціпла пайшла прэч. Назаўтра гэтыя мужыкі стаялі перад нашымі дзвярыма, ледзь не сілком цягнучы яе на корт — так ім хацелася адыграцца. Асабліва Еўтушэнка — ён аж кіпеў. Але ён адыграўся толькі, здаецца, дзень на дзесяты. Калі мы праз гады ўзгадвалі гэтыя падзеі, яна смяялася, што выйграла не на майстэрстве, а на «куражы». Дык вось і тут яна ехала з гэтым жа настроем, і ўсё ёй удавалася. Памятаю бледны твар Аляксандра Пятровіча, а сам я сядзеў ні жывы ні мёртвы — баяўся. А яна толькі смяялася. Каля нацыянальнай усыпальніцы на гары Мтацмінда спыніла машыну, і мы з ёй удваіх пайшлі на могілкі. Там адразу ж знайшоўся нейкі праваднік і з ахвотай паказаў нам усе магілы славутых людзей Грузіі, якія там пахаваны. Уражанне было моцнае. Але гэта было толькі адно з мноства сапраўды незвычайных уражанняў, напрыклад пераезд праз Каспійскае мора на пароме альбо язда праз пустыню Кара-Кум. Маці не магла зняць басаножак — так моцна напякала пясок, таму яна ішла да арыка і кідалася ў яго так, як стаяла, — у сваім сарафанчыку і нават басаножках, якія кідала на бераг ужо з сярэдзіны арыка. А пасля зноў, нават не абтрасаючыся, садзілася за руль — і праз хвілін дзесяць усё на ёй абсыхала. А вакол былі толькі пясок ды зрэдзь — вярблюды. Ды здаля за намі цікавалі пагранічнікі — ішла вайна ў Афганістане, і гэтая дарога, ледзь не лепшая ў свеце, дзе не было ніводнай выбоінкі, была пабудаваная для гэтай вайны. Нездарма, калі мы перасякалі нейкі там перашэек і яны ўпершыню адкрыта праверылі нашы пашпарты, то гаварылі з намі, як са знаёмымі: — «Ды мы ўсё пра вас ведаем!» Я вельмі дзівіўся, а пасля зразумеў — па нумары машыны яны даведаліся, хто мы і адкуль, там жа працавала сапраўдная разведка. Разам з тым я таксама пасля зразумеў, што гэтая паездка была надзвычай небяспечная — машыны тады давалі толькі па разнарадцы, і за новую «Волгу», за якую маці пасля гадоў пяць выплачвала даўгі, нас маглі папросту забіць, і слядоў бы нашых ніхто ніколі не зцайшоў у гэтых стэпах ды пустынях... Але — вёў «кураж» і, мабыць, яе анёл-ахоўнік...»

Відаць, ад таго, што Вольга Іпатава на смак, на водар паспрабавала і адчула пустыню і старажытныя гарады Узбекістана, апісанні пейзажаў у яе рамане заўсёды гранічна выверанья, дакладныя. Яна сама ўзгадвае пра гэта з асаблівым задавальненнем: «У Бухару я прыехала з высокай тэмпературай — укусіла нейкая ядавітая пачвара. Роза Рыгораўна, не давяраючы мясцовым эскулапам, узяла на станцыі хуткай дапамогі ампулу з хлорыстым кальцыем і сама мяне ўкалола. І я чамусьці страціла прытомнасць. А ачуняўшы, прама перад сабой убачыла незвычайна сінія, густыя фарбы арабскіх літар і

белізну мінарэта і ажно зажмурылася, бо яны нібы хлынулі проста ў мяне, і я адразу ўбачыла сцэну, якую я апісала ў рамане як развітанне Алексы з Бярозай на мізары, дзе яе хавалі...»

Гэтае цікавае падарожжа сапраўды адну за адной нараджала сцэны будучага рамана. І, вярнуўшыся з яго, Вольга Іпатава села за машынку — друкаваць старонку за старонкай захапляльнага твора, які палюбіўся многім беларускім чытачам.

І гэтак жа — на смак, на пах — праверыць яна пазней старонкі ўжо напісанага рамана — следам за сваёй «Залатой жрыцай Ашвінаў» паедзе ў Стамбул — старажытную Візантыю. Але гэта будзе праз шаснаццаць гадоў...

А пакуль усё гэтае актыўнае грамадскае жыццё, падарожжы, сустрэчы з многімі людзьмі выклікалі неадольнае жаданне расказаць, напісаць, выказаць свае ўражанні, думкі, меркаванні («Я багацейшай з тых прыйшла дарог...» — скажа яна ў адным з вершаў). І акрамя вершаў, публіцыстычных артыкулаў, нарысаў, дарожных нататак, інтэрв'ю, крытычных водгукаў і рэцэнзій за гэтыя гады (канец 60-х — пачатак 80-х) напісана нямала апавяданняў, аповесцяў. Адбываўся заканамерны пераход аўтара да празаічных жанраў, хаця вершы пішуцца пастаянна. Аднак шматграннасць пісьменніцкага таленту Вольгі Іпатавай пацвердзілася і тым, што яна шмат пісала і для дзяцей. Ды гэта і зразумела. У маладой жанчыны, таленавітай паэтэсы, якая мела сям'ю, зведала шчасце мацярынства, не маглі не з'явіцца творы для дзяцей і пра дзяцей. У Вольгі Іпатавай ёсць выдатныя вершы, прысвечаныя сыну («Свайму сыну», «Сыну»), А верш «Мой сын — мая найлепшая кар'ера» сёння ўспрымаецца не толькі як твор-прадбачанне, але і як здзейсненая мара шчаслівай маці. Яна па праве можа ганарыцца сваім Русланам, хоць, як і кожная маці, зведала і трывогі, і радасці, пакуль сын сталеў, служыў у арміі. «Ішла вайна ў Афганістане. Некалі, у 1979-м, я, даведаўшыся пра яе, эгаістычна падумала — майму сыну толькі восем, яго яна не датычыць», — узгадвае Вольга Міхайлаўна. — Але прайшло дзесяць гадоў, і яна нібы чакала яго. Кожны вечар, кладучыся спаць, я ўяўляла сабе жахлівую карціну — ідзе бой, а мой сын, згубіўшы акуляры (яго ўзялі ў армію, нягледзячы на слабы зрок), жмурачыся, азіраецца навокал, шукае сваіх... І ніводнае ночы не магла заснуць спакойна, кожнай клетачкай нарэшце адчуўшы, што няма чужога болю, што мы ўсе звязаныя адно з адным, і нікому не ўдасца застацца ўбаку... Пазней на нас усіх наваліўся яшчэ і Чарнобыль. Мой сын у той страшны дзень гуляў па горадзе, а я сядзела ў мантажнай і разам з паэтам Сяргеем Панізнікам рабіла мантаж «Ліры», дзе ён выступаў. Ён падвёз мяне

дадому на сваёй машыне, і я была на свежым паветры зусім мала. Затое мой сын... Мяне проста забівала яшчэ і гэтая карціна — нашы дзеці бесклапотна гуляюць па горадзе, а «мірны атам» упаўзае ў іхнія грудзі, у сэрцы. Іх ужо рыхтавалі да Афганістана, а тут скончылася вайна... Я дасюль, калі бачу старыя кадры вываду савецкіх войск з Афганістана, не магу ўтрымацца ад слёз...»

Так, сапраўды, мы і нашы дзеці, па сутнасці, заложнікі бязглуздых палітыкаў і невукаў-вучоных, спраектаваўшых такую атамную станцыю, як у Чарнобылі, ад «мірнага атама» якой сёння паміраюць беларусы. Можа, таму Руслан выбраў прафесію медыка, каб ратаваць людзей ад радыяцыі. Ён стажыраваўся ў Германіі, там жа абараніў доктарскую дысертацыю. Выдатна выхаваны, шырока адукаваны: дасканала валодае англійскай, нямецкай мовамі, добры піяніст, знаўца сусветнай і беларускай літаратур, гісторыі, на беларускай мове піша артыкулы — ва ўсіх гэтых поспехах сына немалая заслуга маці-пісьменніцы, якая з дзяцінства выхоўвала сына, і не толькі яго, сваімі творамі. І цяпер з поўным правам Вольга Міхайлаўна магла сказаць: «Я выгадавала сына, якім магла б ганарыцца кожная маці. Мужчыну. Ён вырас на нашай літаратуры, на традыцыях нашай культуры, на сваёй роднай глебе, і, хаця для сваёй штодзённай работы абраў медыцыну, мы вельмі блізкія па духу...»

Добра ведаючы і разумеючы душу дзіцяці, яго ўзроставыя запатрабаванні, псіхалогію, характар, пісьменніца складала казкі, вершы, пацешкі, чатырохрадкоўі, якія дзеці вельмі лёгка запаміналі і дэкламавалі. Такія яе вершы, як «Раніца», «Аблокі», «Дамавік», «Вадзянік», «Чапля і Журавель», «Зіма», «Новы год», «Снягурка», «Ручай», «Вожык», «Вавёрка», «Дудка-чараўніца» і многія іншыя, расказвалі ім пра хараство роднай прыроды, раслінны і жывёльны свет, птушак і звяроў, якія казачна пераўвасабляліся ў людзей, вучылі дабрыні і сяброўству. У даступнай форме паэтэса раскрывала такія паняцці, як радзіма-Беларусь, родная мова. У выдатнай паэме «Петрукова гара» яна вядзе сённяшняга школьніка ў глыб стагоддзяў, расказвае, як мужна нашы продкі — дарослыя і дзеці — абаранялі сваю зямлю ад розных нашэсцяў:

Бяжыш у школу. Звыкла ўсё наўкол.
Тут — гамана бярозавай алеі,
Там — сажалка, што ў спёку не мялее,
Там — дзяцелінаю зарослы дол.
За ім — лясок.
Узгорак над ракой.
Яго празвалі Петруковым людзі.

Звычайна ўсё.
А мо калісь так будзе,
Што ты іначай паглядзіш наўкол.
Кранецца сэрца ціхі шэпт зямлі,
І роздум павядзе у глыб стагоддзяў,
І ты пачуеш аб сваім народзе
Яшчэ нямала казак і былін...

Вершы, паэмы, казкі для дзяцей Вольгі Іпатавай публікаваліся ў часопісах «Бярозка», «Вясёлка», газеце «Піянер Беларусі», а пазней склалі кнігі «Снягурка» (1974), «Казка пра Паўліна» (1983). Для дзяцей яна перакладала вершы ўзбекскага паэта Пулата Муміна, якія былі выдадзены асобным зборнікам, а таксама падрыхтавала (укладальнік, аўтар прадмовы) кнігу прозы на рускай мове «Первое свидание», выбраўшы для гэтай кнігі, прысвечанай школьнікам-падлеткам, выдатныя творы пра каханне такіх вядомых пісьменнікаў, як К. Паўстоўскі, А. Грын, І Шамякін, Ю. Казакоў, У. Салаухін, У. Караткевіч, А. Васілевіч, Г. Гулія, дзе празаікі цнатліва раскрываюць гэтае ўзвышанае, незабыўнае пачуццё першага кахання, духоўны свет сваіх герояў (Кніга выйшла ў выдавецтве «Юнацтва», 1986 г.)

## РАННЯЯ ПРОЗА

На лепшых традыцыях сусветнай і беларускай літаратур пабудаваны празаічныя творы Вольгі Іпатавай. Некалі Б. Пастарнак сказаў, што сапраўдная паэзія — гэта проза. Шматгадовая плённая праца ў жанрах паэзіі, нарыса, перакладчыцкая дзейнасць, творы для дзяцей і логіка пошукаў, безумоўна, паспрыялі таму, што пісьменніца асноўныя свае намаганні пачынае скіроўваць на прозу, якая дае кожнаму мастаку шырокую прастору для ўвасаблення жыццёвых праблем і рэалій сучаснасці, падзей далёкай і блізкай гісторыі. «Час спеласці вядзе цябе па цернях // Шукаць прастор без столі і без дна...», — скажа Вольга Іпатава ў адным з вершаў. І сёння бачна, што яе паэзія, вядомая чытачу многімі яркімі, запамінальнымі вершамі, шмат у чым вызначыла ідэйную і тэматычную накіраванасць яе празаічных твораў. Яны вырастаюць з таго самага роздуму пра жыццё, справы, духоўны свет чалавека, які жывіў, адухаўляў лірыку таленавітай паэтэсы. Проза для Вольгі Іпатавай стала такой жа арганічна роднай стыхіяй, як і паэзія. Відаць, адлюстроўваць прастор «без столі і без дна», пранікаць у яго глыбіні і сапраўды найбольш прыдатна ў празаічным жанры, што было для аўтара натуральным працягам творчасці.

Першыя апавяданні Вольгі Іпатавай («На апошнім прыпынку», «Лялька дзядзькі Міколы», «Аднакласніцы», «Ноччу», «Першыя крокі», «Крынічка») былі апублікаваны ў 1969 — 1971 гадах на старонках «Маладосці», «Работніцы і сялянкі», «ЛіМа», «Голаса Радзімы». Гэтыя раннія празаічныя вопыты не ўключаліся пісьменніцай у зборнікі прозы, хаця яны, на сённяшні погляд, вылучаюцца змястоўнасцю, лаканічнасцю, эмацыйнай настраёвасцю. Найперш у іх заўважаецца пераважная схільнасць аўтара да маральна-этычных праблем сучаснасці. Аднак пазней, з другой паловы 70-х, у 80-х гадах, калі новыя апавяданні ўжо рэгулярна з'яўляюцца на старонках рэспубліканскай перыёдыкі, а таксама ў саюзных часопісах («Дружба народов», «Молодая гвардия», «Волга»), значна пашыраецца кола тэм і праблем у прасторы і часе.

У 1977 годзе выходзіць першая кніга прозы «Вецер над стромай» (Мінск, «Мастацкая літаратура»), куды ўвайшлі і першыя аповесці «Вецер над стромай» і «Прадыслава». Гэта, можна сказаць, быў празаічны дэбют пісьменніцы, імя якой як паэта, публіцыста было ўжо шырока вядомым не толькі на радзіме. Іпатава-празаік пачынала традыцыйна, як і іншыя пісьменнікі, з малой празаічнай формы — апавядання, але амаль адначасова пісала і аповесці, што сведчыла аб упэўненым аваладанні сакрэтамі эпічнага майстэрства. Прычым «Вецер над стромай» і «Прадыслава» — гэта зусім розныя эпохі, розны жыццёвы матэрыял, які стаў аднолькава падуладным яе пяру. Яна па-мастацку разгортвае сюжэтныя лініі, займальныя калізіі, акрэслівае кола дзейных асобаў, вызначае характары, не баіцца звяртацца да вострых праблем і непажаданых у тыя часы тэм, яскрава выказаць сваю аўтарскую пазіцыю да ўчынкаў і паводзін сваіх герояў.

Жыццёвыя рэаліі, пакладзеныя ў аснову аповесці «Вецер над стромай», былі добра вядомыя пісьменніцы, таму яна дакладна, пераканаўча-праўдзіва адлюстравала, калі казаць у агульным плане, працу, жыццё, узаемадачыненні нашых сучаснікаў. Лёгка ўгадваецца месца і час дзеяння — Гродна, 70-я гады, бо хто пабываў у гэтым горадзе, які апаэтызавала Вольга Іпатава ў вершах і ў прозе, безумоўна, не мог не пастаяць над нёманскай стромай каля двух старажытных каралеўскіх замкаў. Кампазіцыйна аповесць «Вецер над стромай» пабудавана востра-займальна, у лепшым сэнсе гэтага слова, хаця на першы погляд сюжэт даволі традыцыйны. Галоўны герой аповесці малады журналіст Сяргей Хадасевіч, сын актрысы, закахаўся ў простую ткачыху. Знаёмства адбылося, калі Сяргей рыхтаваў пра яе артыкул для абласной газеты, яшчэ будучы практыкантам. Пачуццё было ўзаемным, справа ішла да шлюбу, але раптоўна ўсё распа-

лася. Цяжка было адразу зразумець прычыну — магчыма, што Зіна Раеўская ўжо мела дачку, а можа, Сяргей больш думаў пра кар'еру, чым пра ўласнае шчасце, ды і невядома яшчэ, ці было б гэта шчасцем для яго звязаць свой лёс з жанчынай, далёкай ад яго прафесіі, працы, інтарэсаў наогул? Ён усё часцей задумваўся над словамі супрацоўніцы рэдакцыі Ніны Емельянаўны, якая апекавалася маладым практыкантам і, пабачыўшы Зіну, сказала: «Мілая, але вельмі просценькая», спытаўшы, ці пазнаёміў яе Сяргей са сваёй маці — Антанінай Дзмітрыеўна!!.

Разрыў адбыўся надзіва лёгка і проста, без драматычных сцэн і ўзаемных папрокаў, быццам і не было ніякага кахання. Сяргей прывёз Зіну да маці, якая вельмі чуйна ўлавіла гэтыя невымаўленыя ваганні сына. Яна, тактоўная, выхаваная, таленавітая актрыса, добра прыняла маладых, ніякім чынам не ўмешвалася ў іх узаеміны, толькі сказала нібы мімахолзь, што ён хутка можа перабрацца ў сталіцу, дзе ствараецца новая тэлестудыя але трэба паехаць на курсы ў Маскву. Сяргей радасна пагадзіўся і Зіна падтрымала, прамовіўшы, што яны з Юлькай яму не будуць замінаць, пачакаюць два гады. Да яе Сяргей болей не вярнуўся...

І вось тут пачынаецца галоўнае. Важнай была не гэтая вонкавая канва твора, а ўменне пісьменніцы раскрыць глыбіні ўнутранага свету герояў, што найбольш і цікавае для чытача. Яшчэ Кузьма Чорны некалі не адзін раз падкрэсліваў, што чалавек — гэта цэлы свет. Дык хто ж яны на самой справе — Сяргей Хадасевіч і Зіна Раеўская — нашы сучаснікі, дзе і ў чым яны сапраўдныя? Так, дабіўся Сяргей высокай кар'еры: паважаны загадчык рэдакцыі навін на тэлебачанні, якому ўсе прарочаць пасаду галоўнага, у яго добрая сям'я, жонка Стэла — выпускніца інстытута кінематаграфіі, падрастае дачка Марынка. Але чаму так неспакойна, трывожна на душы, асабліва пасля таго, як убачыў карціну невядомай мастачкі: юнак з дзяўчынай — прыгожыя, летуценныя — стаяць, узяўшыся за рукі, на высокім беразе ракі. І ўспомнілася Зіна, яна ж вельмі добра малявала і некалі яны з ёю стаялі на стромым беразе Нёмана... Так пачынае разгортвацца адвечна-маральная праблема, якая няўхільна паўстае наогул перад кожным чалавекам — праблема сумлення, высокай адказнасці перад лёсам і людзьмі, і кожны судзіць сябе, сам сабе бескампрамісны суддзя, па тым, што найбольш яму баліць, не пакідае ні на хвіліну, што заўсёды помніцца падсвядома. Менавіта гэтыя маральныя праблемы вызначаюць воблік герояў, іх грамадзянскі і чалавечы статус. Аўтара, ды і нас, чытачоў, цікавіць не сама «кухня» падрыхтоўкі тэлеперадач, хоць і гэта само па сабе цікава. Пісьменніца асобнымі штрыхамі дае ўяўлен-

не, што такое цалкам «прахадныя» перадачы на тэлебачанні, а што, ці. дакладней, хто тармозіць або зусім здымае вострanaдзёнeння праграмы, асабліва калі за імі стаіць «тэлефоннае права» высокага начальства. Нам найбольш важна і цікава ведаць, што за людзі працуюць на тэлебачанні, якое сёння, банальна кажучы, увайшло ў кожны дом, які духоўны патэнцыял тых, хто валодае магутнымі сродкамі ўздзеяння на свядомасць гледачоў?

Аўтар дае магчымасць зразумець сутнасць галоўнага героя і праз вонкавыя падзеі, паказваючы яго ў сённяшніх узаемадачыненнях з людзьмі, і рэтраспектыўна праз самараскрыццё, глыбока асабістыя перажыванні, пачуцці, зрухі душы. І мы ўяве бачым гэтую супярэчлівую, няпростую натуру. У характары Сяргея спалучаюцца супрацьлеглыя рысы: прафесіяналізм, эрудыцыя, высакародства, самаахвярнасць і ў той жа час асцярожнасць, абывацельская памяркоўнасць, чэрствасць. Ён здольны кінуцца ў бойку супраць чатырох падонкаў, што здзекаваліся над безабароннай дзяўчынай, закахацца і здрадзіць сваймy сапраўднаму каханню, а потым пакутаваць ад неўсвядомленай віны. Чым сам перад сабой ён вытлумачвае такія ўчынкі? Можа тым, што шукаў гармонію паміж унутраным светам і рэальнасцю, шукаў нейкую раўнавагу ў бясконцай стыхіі быцця? Дык чаму ж ён адгарадзіўся ад гэтай стыхіі «трыма сценамі», паводле слоў адной з супрацоўніц рэдакцыі? Чаму здрадзіў Зіне, да маці'ставіўся апошнім часам з ледзяной абыякавасцю, айчыма называў няўдачнікам (хаця той быў таленавітым вучоным), не лічыўся з думкай сваіх бліжэйшых калегаў? Аказваецца, не ўсё так проста ўкладвалася ў тую жыццёвую схему, якую Сяргей Хадасевіч выбудаваў для сябе і лічыў адзіна правільнай.

Есць у аповесці сімвалічныя сцэны — Сяргей ледзь не патануў, пераплываючы Нёман, яго амаль паглыналі віры на самай сярэдзіне ракі, ён да крыві параніў ногі аб падводныя камяні, не мог падняцца, ужо даплываючы да берага, і толькі працягнутае незнаемым рыбаком вясло стала яго паратункам. І другі раз ён пераплывае раку разам з Зінай, якая выдатна плавала, і з ёй было лёгка і бязбоязна плысці побач, а потым, стоячы на строме, аглядаць бясконцую плынь вады, адчуваць упэўненасць і цвёрдую глебу пад нагамі. І сёння, згадваючы ўсе перыпетыі мінулага, ён зразумеў, што Зіна была яго выратаваннем, а нёманская строма, на якой яны, маладыя, шчаслівыя, стаялі тым летнім днём, была сапраўднай маральнай вяршыняй яго жыцця, на якой ён не змог утрымацца.

Так паступова, доказна і па-мастацку абгрунтавана, без усялякага маралізатарства, падводзіць аўтар свайго героя да ўсведамлення цаны тых учынкаў, з-за якіх сёння яму даводзіцца пакутаваць.

Вобраз Сяргея Хадасевіча не атрымаўся б такім жыццёва праўдзівым, калі б пісьменніца паралельна не вяла вобраз Зіны — маладой нашай сучасніцы, чалавека нялёгкага лёсу. Менавіта праз дачыненні з Зінай шматгранна і псіхалагічна тонка раскрываецца яго характар. Тут аўтар вельмі да месца ўжывае ўдалы мастацкі прыём — паказвае яго партрэт, намаляваны Зінай, якая глядзіць на яго вачыма закаханай жанчыны. Яна шчыра верыла, што ён такі і ёсць на самой справе — верны, да канца адданы ёй рыцар. Раскрываючы вобраз Зіны, з якой мы ўпершыню знаёмімся праз успрыманне Сяргея, праз яе стаўленне да працы да сяброўак, што побач з ёй дзень пры дні крочаць на фабрыку выстойваюць за станкамі, да суседак па камунальнай кватэры да

Сашы, бацькі дачкі Юлькі, якому не магла дараваць здрады і засталася маці-адзіночкай, нарэшце мы бачым яе ў спатканнях з Сяргеем і ўсё больш пранікаемся павагай і сімпатыяй да гэтай мужнай жанчыны, якая так пакутліва расплочваецца за свае памылкі, нават не памылкі, а за веру ў людзей. Яна чалавек самастойны, бескампрамісны, духоўна багаты, з высокім пачуццём чалавечай і жаночай годнасці. На такіх жанчынах трымаецца сям'я, дзеці, грамадства. Пісьменніца не паказвае, як перажыла Зіна тое, што зрабіў Сяргей: як гэта можна назваць — здрада, падман, здзек над лепшымі пачуццямі, верай у чалавека? Аўтару важна было сцвердзіць думку — нішто не праходзіць бясследна. Пакуты, зло, якія Сяргей прынёс Зіне, бумерангам абрынуліся на яго самога. І такую асноўную ідэю твора падзяляе з пісьменніцай і чытач, бо што б там ні было, а маральныя, духоўныя каштоўнасці — галоўнае ў жыцці кожнага чалавека.

Аповесць «Вецер над стромай» атрымала своеасаблівы працяг у апавяданні «Дваццаць хвілін з Немезідай», якое было напісана ў 1979 годзе і якое затым дало назву другому зборніку прозы Вольгі Іпатавай. У аповесці эпізадычна згадваецца жонка Сяргея — Стэла, затое ў апавяданні яна — галоўная гераіня і праз яе ўспрыманне, роздум, пачуцці раскрываюцца ўсе падзеі твора і як бы па-новаму дапаўняецца, высвечваецца вобраз Сяргея. Апавяданне напісана таленавіта, чытаецца на адным дыханні, бо ў яго дынамічны, густа насычаны жыццёвымі падзеямі змест. З аповесці і апавядання, аб'яднаных агульнымі героямі, мог бы вырасці выдатны раман, пажадай пісьменніца працягваць над імі працу далей. Раманная прастора праглядваецца не толькі ў вобразах галоўных герояў, якія па-мастацку дасканала

намаляваныя праз метад уласнага самараскрыцця, але і ў персанажах другога плана, паказаных недастаткова шырока, толькі нейкімі характэрнымі штрыхамі. Ды і тэхналогія працы самой тэлестудыі, пра якую нідзе не прачытаеш, была б вельмі цікавай чытачу. Але мы маем тое, што ёсць. Апавяданне пачынаецца з таго, чым заканчваецца аповесць. У чаканні таксі, каб ехаць у бальніцу, куды раптоўна трапіў Сяргей, Стэла ў роспачным стане згадвае ўсё сваё жыццё. Не кожнаму дадзена пабыць сам-насам з Немезідай, багіняй пакарання. Вось гэты найвышэйшы момант, гэтыя дваццаць хвілін, калі не толькі багіня помсты, але ты сам жорстка, адкрыта «пракручваеш» самае патаемнае ў душы, што хацелася схаваць нават ад самой сябе, выпадае на долю Стэлы. Як адзначаў адзін з рэцэнзентаў твора Вольгі Іпатавай, «нічога падобнага пра жанчын не даводзілася чытаць ні ў нашай «мужчынскай», ні ў «жаночай» прозе. Што захапляе ў гэтым апавяданні, дык шматаблічнасць гераіні, яе неаднапарадкавасць, шматграннасць»[1].

І сапраўды, паступова пазнаючы жыццё гераіні, пранікаешся даверам да яе споведзі. І пачуцці яна выклікае самыя розныя — ад спачування да асуджэння. Калі жыццё Сяргея параўноўваецца з плынню ракі, з яе падводнымі вірамі, стромым берагам, то Стэла «ішла па лесе цёмным і спакойным, як балота». У гэтым яе лесе была маскоўская забяспечаная сям'я, быў інстытут кінематаграфіі, куды яна, бесталанная, паступіла з дапамогай усёмагутнай мамы, была «прыстойная партыя» — замуства з Сяргеем, за якім яна цяпер як «за каменнай сцяной». Але было і «полымя, гарачае і зыркае» — каханне да Юркі Амельчанкі, таленавітага рэжысёра, смерць якога стала, паводле слоў Стэлы, «ягонай расплатай за тое, што жыў згодна са сваім сэрцам, жыў па-каралеўску — бо Ікар сам сабе дазволіў узляцець, і ўзляцеў, і бачыў сонца зблізку, а такое могуць дазволіць сабе нямногія...» Дык ці не карае Стэлу Немезіда за тое, што яна няздольная на подзвігі, не з тых, каму ляцець да сонца? «Але ёсць жа ў кожнага свая вышыня — ці ўзнімалася я на яе? Ці спрабавала падняцца? Здаецца, не спрабавала». Так і засталася Стэла ў сваім лесе, «цёмным і спакойным, як балота». Яна не адчувала адказнасці нават перад сваім сумленнем, не хацела трывожыць сэрца ўспамінамі пра Юрку. Стала хатняй гаспадыняй, ахоўвала Сяргея ад залішняй увагі сваіх сяброўак, спыніўшы ўсялякія стасункі з імі, без цікавасці чытала кнігі, час ад часу пісала артыкулы, «помесь дамскага шчэбету і

[1] А. Сідарэвіч. Супярэчнасці росту. ЛІМ. 1982. 29 студзеня.

кіназнаўчай тэрміналогіі». Вось так і праплылі гэтыя дваццаць гадоў пасля Юркавай смерці, так будзе яна існаваць і далей...

Апавяданне трэба чытаць, бо немагчыма перадаць яго каларыт, глыбіні чалавечай псіхалогіі, як здолела гэта зрабіць пісьменніца. Нельга не пагадзіцца з П. Васючэнкам, аўтарам рэцэнзіі на зборнік прозы Вольгі Іпатавай «На перакаце» (1984), які, аналізуючы «Дваццаць хвілін з Немезідай», адзначаў высокія мастацкія якасці твора: «Сапраўды ёсць сэнс правесці гэтыя дадатковыя дваццаць хвілін самнасам з суровай багіняй, паслухаць яшчэ раз нервовы, экспрэсіўны маналог гераіні.

Тут няпэўнае, зыбкае нечакана перапыняецца важкай, як свінцовая пячатка, фразай: тут думка вавёркай скача з галінкі на галінку, рацыянальная развага часам патанае ва ўсплёску эмоцый Але неўпарадкаванасць сюжэта ўяўная. Ён падначалены «ёй» арганізуецца яе, гераіні, асобай. Але хто яна сама?

Яе клічуць Стэлай, што азначае «зорка». Няроўнае, ліхаманкавае яе мігценне. Гульня святла і ценяў, кантрастаў і паўтонаў. Драпежніца з наманікюранымі кіпцямі, якая хапае ўсё ад жыцця, якой яна часам выстаўляе сябе самую ў параксізме самабічавання? Дылетантка, аўтарка крытычных артыкулаў па кінамастацтве? Але папрокі, кінутыя сабе самой, самаабвяргаюцца. Патрабавальнасцю да сябе заваёўваецца права меркаваць аб асяроддзі, аб людзях, з якімі даводзіцца сустракацца. Судзіць з пазіцыі свайго болю, сваёй, хай сабе і прыватнай, драмы.

У мігценні святла, якім зорыць свядомасць Стэлы, нібыта імгненнай фотаўспышкай выхопліваюцца аблíччы астатніх персанажаў, Юрка Амельчанка, «ён», «белазубы кучаравы блазен», высакародны Рамэа ў абшарпаных джынсах, фігура хай сабе і крышку прыдуманая, прыўзнятая на катурн, але такая патрэбная дзеля напружанай працы «яе» сумлення. Яе мама, нястрымная ў сваім жаданні ў што б там ні стала любымі сродкамі ладзіць «дабрабыт» уласнай дачкі. Муж, «самы выпрасаваны, задаволены» — і гэта ўсё аб ім...

Рацыянальнае ў творы спрасавана ў ёмістыя формулы. Формула таленту, напрыклад: «Гэта нібы нейкае акенца, праз якое прырода дыктуе нам свае таямніцы і адкрыцці». Вусны гераіні — не рупар чужых думак, манера афарыстычна выказвацца пасуе да яе ўнутранага «я», і таму такія згусткі рацыянальнага зместу не выглядаюць у творы іншароднымі целамі.

Цяжка вылічыць ступень аднадумства аўтаркі і гераіні, тую мяжу, за якой канчаецца «я» творцы і пачынаецца «я» персанажа, ды і ці варта ставіць паміж імі нейкі шлагбаўм? Адзначым толькі высокую

ступень умення ўжыцца ў вобраз прыдуманага чалавека, перадаць тое жаночае, імпульсіўнае, надта ўспрымлівае да самых складаных этычных рэбусаў жыцця, якое заўважаеш, акрамя В. Іпатавай, у шмат якіх прадстаўніц нашай сучаснай літаратуры, асабліва паэтак.

В. Іпатава піша ў жанры малога эпасу. Мабыць, таму такое і непаслухмянае «я» яе гераінь перад спробамі атаясаміць яго з «я» аўтаркі, што эпічнае тут у сімбіёзе, у шчыльным перапляценні з лірычным. І не ў тым прычына, што прозай загаварыла паэтэса. Сакрэт у абставінах мастацкага ўжывання. Мастак умее і прыблізіць і аддаліць ад сябе створаны вобраз. І тое няўлоўнае, чым лірызуецца празаічны матэрыял, бярэ вытокі, здаецца, ужо ад «яе» (гераіні), яе індывідуальнасці. Ствараецца «яе» малы свет, мікракосм...»[1]

Менавіта гэтым унутраным светам, што зыходзіць амаль ад кожнага з герояў В. Іпатавай, і цікавыя яе аповесці і апавяданні. Найбольш ёй удаюцца вобразы нашых сучасніц, асабліва маладых жанчын, дзяўчат, такіх розных па характарах, лёсах, абставінах жыцця. Гэта і спагадлівая, чыстая душой і сумленнем студэнтка педінстытута Наталля («Апоўначы, калі б'юць куранты»), і бескампрамісная, справядлівая ветурач Зося («Авантура»), і Гэля, якая, стварыўшы ўласную сям'ю, нарадзіўшы сына, не можа зразумець і даравацъ, чаму некалі маці адраклася ад яе, малой, бездапаможнай дзяўчынкі? («Шакаладка»), і таленавітая самадзейная артыстка Таццяна, моцная сваімі вясковымі каранямі, якая духоўна аказалася нашмат вышэй за чалавека, якога кахала і які патрабаваў, каб яна адраклася ад родных у імя такога кахання. («Позні канцэрт»). Амаль ва ўсіх апавяданнях раскрываецца ўнутраная драма, канфлікты, супярэчнасці чалавечай свядомасці, часцей за ўсё абумоўленыя нешчаслівым каханнем, як тое адбываецца ў апавяданні «Спасціжэнне». Нялёгка заваёўвала Ульяна свайго Сцяпана, прычынілася, як ёй здавалася, сваім гаданнем у знахаркі нават да смерці Паліны, якую моцна кахаў Сцяпан. Прыгожай, працавітай, адданай, але нялюбай жонкай стала яна для Сцяпана і, адчуваючы гэта, баючыся яго страціць, праз цяжкія душэўныя пакуты спасцігае ісціну — прычына ўсіх яе няшчасцяў — у ёй самой. У аповесці ёсць натуральна выпісаная сцэна — Ульяна забівае каля возера гадзюку, згадаўшы, што ў вёсцы жартам ці ўсур'ёз яе саму называлі змяёй. І пасля гэтага «ўпершыню за апошнія месяцы лёгка дыхаецца грудзям, нібыта там лопнуў нейкі нябачны нарыў. І першае за апошнія месяцы прыходзіла жаданне не спадылба, а прама глянуць у вочы Сцяпану, разарваць на сабе павуцінне страху — а там што

[1] П. Васючэнка. На перакаце. ЛІМ. 1985. 29 сакавіка.

будзе, тое будзе! Не страшнай, а жаданай здавалася цяпер споведзь перад ім. Што ёй суд чалавечы! Перажыве яна размову з мужам — нічога не будзе яе страшыць: ні Палініны вочы, ні нож, што кожную ноч разразае празрыстую ваду... Ляцела душа Ульяны насустрач Сцяпану — наперакор розуму. Як збавення, правучы кары... Яна мела права на адплату, на пакаранне. Дзіўная ісціна даходзіла да яе сэрца: пакаранне здымае віну, але права тое здабыць не лёгка. Усе пакуты яе, усе бязмерныя пакуты хіба не аплацілі перад нечым, што вышэй за нас, тое права?»[1]

Пісьменніца ў гэтым апавяданні змагла з разуменнем і чалавечай спагадай глянуць на лёс Ульяны, праўдзіва перадаць анамальныя рысы яе характару, яго зацятасць, жорсткасць, але і ўсведамленне віны, імкненне змяніць нешта ў самой сабе, стаць добрым, шчырым, чулым чалавекам. Так паступова, крок за крокам, аўтар дае магчымасць сваёй гераіні выказацца, раскрыць душу, паказаць, як абуджаецца сумленне, усплывае тое лепшае, што закладзена ў чалавеку ад нараджэння.

Тэма кахання — асноўны стрыжань амаль кожнага апавядання і праз гэтае пачуццё героі выпрабоўваюцца на чалавечнасць, раскрываюцца іх характары, духоўная напоўненасць («Нявеста», «Мой брат Цімка», «Вяртанне», «Цана», «Залаты яблычак на сярэбраным сподку» і інш.). Позірк аўтара пранікае ў самыя глыбіні душы сучасніка, і пра што б ні пісала, якую б тэму ні раскрывала — у цэнтры яе ўвагі светаадчуванне герояў, іх духоўны патэнцыял. Ёсць у В. Іпатавай апавяданні, цалкам створаныя ў форме ўнутранага маналогу, дзе галоўныя героі нязмушана, адкрыта-праўдзіва апавядаюць выпадковаму спадарожніку пра сваё жыццё, каханне, сям'ю, узаемадачыненні з бацькамі. І нескладана зразумець пазіцыю аўтара, зрабіць высновы са шчырых споведзяў персанажаў. Усе аўтарскія, ды і чытацкія, сімпатыі на баку Лары («Размова»), якая аказалася нашмат вышэй і мацней духам за свайго каханага, і Сымона, які здолеў абараніць і адстаяць сваё каханне перад жорсткай уладай бацькі-мешчаніна («А цягнік грукоча»). Пісьменніца заўсёды стараецца ўнікаць прасталінейных і канчатковых высноваў, аднак у кожным апавяданні выразна адчуваецца яе ўласнае стаўленне да герояў. Не ў «лоб» асуджае яна бацьку Сымона, які цяжкай працай здабыў матэрыяльны дастатак для сям'і, але наколькі ён збяднеў душою, як прынізіў жонку, імкнуўся дыктаваць сыну свае погляды на жыццё і не мог зразумець, чаму будучая свацця-настаўніца назвала яго «бедным чалавекам».

---

[1] Іпатава В. Дваццаць хвілін з Немезідай: Аповесць і апавяданні. Мн., 1981. С. 146.

Безумоўна, тэма кахання і цесна звязаная з ёю маральна-этычная праблематыка, абставіны, умовы, сацыяльны побыт сучасных горада і вёскі галоўная, але не адзіная тэма ў ранніх творах Вольгі Іпатавай. У апавяданні «Мышка ў капелюшы», напісаным ад «я» галоўнай гераіні — рэжысёра тэатра юнага гледача Багуміла Антонаўны, былой вясковай дзяўчыны, а цяпер гараджанкі, якая сваім талентам, апантанасцю і любоўю да тэатра стала яго галоўным рэжысёрам, сапраўдным мастацкім кіраўніком няпростага тэатральнага калектыву, разгортваецца праблема мастака і мастацтва ў цеснай сувязі з жыццём, раскрываецца яшчэ адно амплуа з шэрагу жаночых вобразаў, створаных Вольгай Іпатавай. На хвалі высокага духоўнага максімалізму жыве Багуміла і на гэтай хвалі пісьменніцай напісаны маналог-споведзь галоўнай гераіні, праз які мы становімся сведкамі яе творчага ўзлёту — выдатнай пастаноўкі прем'ернага спектакля, праходзім разам з ёю шлях да вялікага поспеху — ад мары вясковай дзяўчынкі, яе паступленне, мэтанакіраваную вучобу да здзяйснення мары ўсяго жыцця.

Некаторыя апавяданні Вольгі Іпатавай раскрываюць падзеі вайны. Балючыя, незабыўныя страты ваеннага ліхалецця адбіваюцца і сёння на лёсах, згадваюцца ва ўспамінах людзей старэйшага пакалення («Ластаўка», «Зачараваная півоня», «Цана», «Вяртанне»). Аднак у іх няма шырокамаштабных ваенных карцін, вайна праходзіць аддаленым фонам, успамінамі, істотнымі дэталямі, момантамі, сітуацыямі, што прадвызначылі ўмовы пасляваеннага жыцця дзейных асобаў таго або іншага твора. Паказальным у гэтым сэнсе з'яўляецца апавяданне «Ластаўка» — маналог-успамін нашай сучасніцы, удзельніцы вайны, пра сваю дачку-партызанку, якая загінула, здзейсніўшы подзвіг, у барацьбе з фашыстамі. Як згадвалася вышэй, Вольга Іпатава, працуючы на Гродзенскім тэлебачанні, зрабіла цікавую перадачу, па сутнасці, увекавечыла імёны настаўніцы Таісы Міхайлаўны Сечкі і яе дачкі Людмілы, рэальна існаваўшых людзей з Любчы. Затым напісала лірычную паэму-споведзь «Маналог Людмілы Сечкі, разведчыцы атрада імя Катоўскага», дзе расказваецца, як юная партызанка, прадчуваючы, што ідзе ў апошні бой, у думках звяртаецца да любай маці са словамі развітання і прабачэння. Гэтая ж тэма, вобразы, пафас лірычнага твора пазней пераўтварыліся ў кранальнае апавяданне «Ластаўка», у якім галоўныя гераіні, асабліва вобраз маці, раскрыты ў розных часавых вымярэннях — і праз героіку партызанскай барацьбы і праз рэаліі сучаснасці. Праз маналог маці мы адкрываем новыя рысы яе дачкі, помнік якой стаіць у цэнтры Любчы, адчуваем душэўную блізкасць аўтара і яе гераінь, як і жывую народную памяць

пра тых, хто загінуў, абараняючы радзіму ад ворага. І паэму і апавяданне аб'ядноўвае лірычна-драматычны пачатак, ідэйна-тэматычная задума, аднак празаічны твор, дзякуючы шырокім эпічным магчымасцям жанру, па-новаму асвятляе і раскрывае духоўнае багацце, жыццё людзей, якія жылі ў неймаверна складаны і цяжкі час — на мяжы вайны і міру, непапраўных страт і пасляваенных выпрабаванняў.

У беларускай літаратуры амаль ніхто да Вольгі Іпатавай так праўдзіва-кранальна не паказаў вось гэтую мяжу страт і выпрабаванняў — пасляваеннае сіроцтва, адзіноцтва дарослых і асабліва дзяцей, побыт дзетдомаўцаў, якіх асіраціла не толькі вайна. Нікога не могуць пакінуць абыякавым лёсы адзінокага ціхага Антака («Апоўначы, калі б'юць куранты»), цяжкахворага дзевяцігадовага Васі Шкуцькі, непатрэбнага нават роднай маці («Перакат»), малой Вярунькі, з яе не па-дзіцячы задуменнымі, журботнымі вачыма, як і жыццё дзеда Цімоха, бабулі Ганны, якія пад старасць таксама аказаліся абыдзенымі лёсам, а дакладней — непазбыўнае гора і адзіноту прынесла ім вайна... Ці не ўласнае сіроцкае дзяцінства і жыццё сваёй незабыўнай бабулі апісвае Вольга Іпатава ў апавяданні «Хата з блакітнымі аканіцамі»? «Вецер, бязлітасны і ўпэўнены, мёў сухі снег з пагоркаў, шкуматаў парудзелыя сцяблíны быльніку, што тырчалі на мяжы, слаўся на полі танюткімі шлейфамі снежнага пылу. Над старой ваўкаватай хатай, што моцна ўчапілася ў пагорак, цярпліва рыпела імшыстая бяроза, доўгія, вузлаватыя яе галіны бесперастанку калыхаліся, нібыта адмахваючыся ад нечага, бачнага толькі ёй адной. Каля мяжы, з падветранага боку пагорка, дзе з-пад снегу вытыркаліся бітыя цагліны і абвугленыя бярвенні, на партфеліку, пакладзеным на снег, сядзела худая даўганогая дзяўчынка ў чорным футэрку, калматай вушанцы і валёнках. Футэрка не даставала да каленькаў, і дзяўчынка сядзела, нацягваючы пацёртае крысо чырвонымі ад холаду рукамі. Позірк яе шэрых сур'ёзных вачэй быў па-даросламу цярплівы і абыякавы. Яна сядзела доўга, аж пакуль ад калгаснага свірна не заспяшалася ў гэты бок вёскі высокая жаночая постаць у мужчынскім кажуху, абвязаная ў поясе старой вяроўчынай. Спатыкаючыся на калдобінах, жанчына падыходзіла да дзяўчынкі, а тая, заслухаўшыся роўным, сумным скрыпам бярозы, нічога не чула, апроч яго, і, як спалохаўшыся, раптам ускочыла ад голасу.

— Ты што гэта ў хату не йдзеш? Ці ключа не знайшла? — цяжка пераводзячы дыханне, спыталася жанчына. — Добра, што бабы заўважылі...

— Бабуля, а чым у дзярэўні дзяцей б'юць? — пераводзячы на яе той засяроджаны пагляд, якім яна аглядала бяскрайняе белае поле, запыталася дзяўчынка.

— А табе гэта нашто ведаць? — Старая здзівілася. Яна, нагнуўшыся, падхапіла партфелік. — Як калі! Што пад руку трапіць!

— А я сёння ў школе двойку атрымала. Мама мяне заўсёды біла рэмнем...

У старой сурова сціснуліся вусны. Яна моўчкі пакрочыла наперад, размахваючы партфелем, дзяўчынка спяшалася за ёю, з цяжкасцю трапляючы ў топкія яміны слядоў. Дайшоўшы да хаты, старая азірнулася, загадала:

— Каб болей маткай яе не клікала! Твая маці шосты гадок у сырой зямлі косці парыць... Яе я ніколі не лупцавала, а на цябе няўжо рука паднімецца? Вучыся як можаш — табе жыць. Беды мучаць, ды розуму вучаць.

Ад пабеленай, з чыстай фіранкай перад загнетам печы ішоў цёплы дух, перамешаны з земляной вільгаццю, якой цягнула ад падлогі з гнілаватымі палавінамі. Хата была акуратна абклеена газетамі, але над тапчаном, над сталом, што ледзь ліпеў, над абразом газеты палопаліся, і сухі шэры мох лез праз дзіркі.

— Лезь наверх, я сама падам кулеш! — загадала бабуля. — Яна падала наверх кулеш і заспяшалася: — Пайду я снапы дамалачваць, а то брыгадзір у нас — не дай божа!..

Выцягваючы ногі з гурбаў, жанчына думала пра тое, што падыходзяць ацёлы і трэба будзе адпаіць сырадоем унучку, якая пакуль не ўзяла ў рот ні кроплі малака ад іх казы, што мачыха Вярунькі, жаўтавокая, злая вяртуха, нябось, скардзіцца Вяруньчынаму бацьку на тое, што свякруха без дазволу забрала дзяўчынку да сябе ў вёску, а сама, пэўна, радуецца — пазбавілася лішняга рота. Думала яна і пра тое, ці прачнецца сумленне ў бацькі Вярунькі, пакуль што добра забытае праз жаўтавокую, паколькі не заўважаў ён ні галодных вачэй дачкі, цёмна-сініх плямін на яе цельцы, ці стане ён падкідаць якую капейку на дачку, таму што гады ў яе, Ганны, вялікія, зарабляць працадні ўсё цяжэй, а з унучкі памочніца пакуль ніякая, рукі-ногі ў яе танюткія, як пруткі...

Калі яна вярнулася, дзяўчынка спала, раскінуўшыся сярод старызны, прапахлай зернем, якое нядаўна прасушвалася на печы. А раніцай унучка забылася пра тое, пра што пыталася ўчора. Прыглядаючыся да яе бліжэй, Ганна бачыла, што дзяўчынку захоплівае нетаропкая, роўная плынь сялянскага жыцця, што яна нібыта ажывае ад недзіцячага свайго задумення і ўсё часцей прападае з дому...

Неаднойчы хадзілі той зімой па дровы Ганна з унучкай, і Вярунька ўжо цягнула не адну-дзве алешыны, а набірала што пабалей, і Ганна бачыла, што ўнучка набіраецца сілы, з кожным месяцам усё болей цягнецца да работы: сучыць кудзелю, лоўка ўпраўляючыся з верацяном, спрытна доіць бадлівую казу Машку...

За дзве зімы Вярунька выцягнулася, пабайчэла, усё часцей гаспадарыла ў хаце замест Ганны, а летам хадзіла з бабамі палоць моркву і буракі ў калгасе, зарабляючы зададзеныя ім працадні...»[1]

Рэчаіснасць у такіх апавяданнях паўстае непрыдуманымі праблемамі, псіхалагічнай дакладнасцю характараў, нялёгкімі лёсамі людзей, адчувальнай перажытасцю матэрыялу — і ўсё гэта, глыбока асэнсаванае ў адпаведнай спалучанасці з навакольнай прыродай, дае багаты эмацыйны сплаў, які нясе ў сабе жыццёвую і мастацкую праўду.

Выразна аўтабіяграфічнымі момантамі пазначана і выдатная аповесць Вольгі Іпатавай «Вузялок Святагора», па якой, дарэчы, у 1988 годзе быў пастаўлены мастацкі фільм «Гумункулус». Аповесць разам з апавяданнямі («Цана», «Апоўначы, калі б'юць куранты», «Спасціжэнне», «Авантура», «Фарфоравая маладая», «Перакат», «Позні канцэрт», «Шакаладка», «Хата з блакітнымі аканіцамі», «Нявеста», «Дваццаць хвілін з Немезідай») была змешчана ў другой кнізе прозы Вольгі Іпатавай «Дваццаць хвілін з Немезідай», якая выйшла ў выдавецтве «Мастацкая літаратура» ў 1981 годзе. Тэма аповесці (напісана на пачатку 80-х) — жыццё дзетдомаўцаў — актуальная і ў наш час. Тут памяць пра ўласнае дзяцінства цесна звязана з роздумам аўтара над сацыяльнымі і маральнымі праблемамі існавання грамадства, дзе на сённяшні дзень не ўбывае, а, наадварот, павялічваецца колькасць дзяцей-сірот, і, што самае парадаксальнае, пры жывых бацьках. У аповесці паўстае і тэма станаўлення асобы — адна з асноўных наогул у творчасці пісьменніцы. І вырашаецца яна ў самых розных варыянтах, што засведчылі і яе апавяданні, у якіх размова ідзе пра маральны воблік нашага сучасніка. Побач з сітуацыямі адкрытай схваткі дабра і зла, апісання падзей, вонкавых партрэтных характарыстык, супрацьстаяння чалавека — дарослага, падлетка — цяжкім абставінам аўтара найбольш прываблівае ўнутраная сутнасць герояў і метады яе раскрыцця. Вось і ў «Вузялку Святагора» адкрываюцца глыбіні дзіцячай псіхалогіі, якую добра ведае, разумее і ўмее паказаць у мастацкім творы Вольга Іпатава, бо яна была адной з тых, каму матчына любоў і пяшчота бачыліся хіба што ў марах і снах. Няспешна разгортваецца апавядальная плынь, і мы паступова ўваходзім у побыт

---

[1] Іпатава В. Дваццаць хвілін з Немезідай. С. 222.

і праблемы дзетдомаўцаў, знаёмімся з многімі, такімі рознымі, падлеткамі, іх настаўнікамі і выхавальнікамі.

Насельнікі дзетдома, які стаў для іх адзіным прытулкам, імкнуцца зразумець многія пытанні, што знаходзяцца за межамі іх уласнага жыццёвага вопыту. Менавіта ў такім стане мы застаём галоўную гераіню твора Віню Рыжык, або Піку, як празвалі яе дзетдомаўцы за высокі рост. Праз яе ўспрыманне, яе вачыма мы назіраем за жыццём гэтага своеасаблівага мікрасвету. Віня — чулая, надзвычай ранімая дзяўчынка, якая пакутуе не толькі ад таго, што яна не Брыжыт Бардо, але і ад няўвагі сваіх таварышаў, неспагадлівага, нетактоўнага стаўлення выхавальніцы, ад зняважлівага, балючага слова «падкідыш», якое кідаюць ёй услед аднагодкі, не жадаючы прызнаць перавагу ў спрэчках праўдалюбівай і разумнай Віні. Але яна не столькі спрачаецца, колькі думае, разважае, імкнучыся зразумець сваё становішча. Ёй не даюць спакою пастаянныя думкі пра маці: «Ну добра, я ёй не патрэбная. Але ж апроч маці ў мяне павінна быць бабуля. Можа, цётка і дзядзька. Яны, магчыма, адзінокія, ім я падышла б як прыёмная дачка. Увогуле, недзе ж жывуць мае родныя. А ЯНА ім нічога пра мяне не сказала. Проста ўзяла, загарнула ў пялюшку і прынесла — выкінула. І цяпер ніхто, ніхто не ведае пра мяне. Можа, мая цётка ўзяла сабачку? Можа, маёй бабулі нямоглася — я магла б мыць у яе падлогу, гатаваць. І яшчэ недзе жыве мой бацька, а ў яго таксама цэлая плойма радні І ніколі нічога я не даведаюся пра іх — пра іхнія твары, звычаі, нават сваркі... А ЯНА? Няўжо ЯНА ніколі пра мяне не ўспамінае? Яна ж — злачынца. Хай бы сама кінула мяне — але ж яна адабрала ў мяне родных...» У гэтым нячутным крыку душы адчуваецца драма не толькі аднаго чалавека, падлетка, але і многіх іншых абяздоленых дзіцячых лёсаў, якія раскрываюцца пісьменніцай стрымана, без залішняй расчуленасці. Яна патрабавальна, як да разумных дарослых людзей, ставіцца да сваіх герояў, разумее іх праблемы. Усе яны для яе — асобы, кожная са сваімі рысамі характару, станоўчымі і адмоўнымі. Становішча, у якім яны апынуліся, абумоўлівала канфліктнае стаўленне да людзей але яно і загартоўвала, а ў такіх, як Віня, закладвала асновы высокай самасвядомасці, выхоўвала самастойнасць мыслення паводзін і ўчынкаў. Шукаючы сэнс свайго існавання, пазнаючы людзей і сябе, Віня імкнецца даказаць у спрэчцы з аднакласнікамі, што «калі чалавек разумее, што побач з ім людзі, такія ж, як ён, калі ён разумее гэта, тады ён — чалавек...» Валодаючы'пачуццём прыгожага, якое даецца натурам глыбокім, ад нараджэння надзеленая немалымі здольнасцямі, Віня сур'ёзна, з неўласцівым яе ўзросту максімалізмам ставіцца да сваіх равеснікаў,

дарослых. Адзінае захапленне дзяўчынкі — маляванне, але талент гэты яшчэ больш абвастрае дачыненні падлетка з навакольным светам. І усё ж людзі, сярод якіх праходзіла яе дзяцінства і ранняе юнацтва, вучылі Віню пазнаваць жыццё ў розных яго праявах, вучылі чалавечнасці. І дырэктар дзетдома Савацея Віктараўна, і баба Марыля, якая перажыла вайну, і бальнічны доктар даюць ёй важны ўрок — умець радавацца, калі знаходзіш водгуку дабрыню, суперажыванне ў другім сэрцы. У душы падлетка ўвесь час ідзе напружаная работа, жыццё паварочваецца да яе ўсё новымі гранямі. З кожнай старонкай твора нарастае драматычнае напружанне, мы адчуваем унутраныя зрухі, якія «бунтуюць» душу Віні. Пасля цяжкай хваробы, якая была выпрабаваннем не толькі фізічных, але і духоўных сіл, Віня зусім іншымі вачыма стала глядзець на свет, спасцігаць добрае, чуйнае ў людзях, знаходзіць блізкіх па духу сяброў, адчуваць сілу свайго таленту. Сярод аднагодкаў Віня вылучаецца не толькі гэтым талентам, але і незвычайнай назіральнасцю, чуласцю, багатым духоўным жыццём, якое раскрываецца праз аўтарскія апісанні, дынамічныя дыялогі і асабліва праз унутраныя маналогі галоўнай гераіні, што няўлоўна пераходзяць, пераліваюцца адно ў другое, захапляючы арганічна-праўдзівай плынню побыту, узаемадачыненняў, умоў, абставін жыцця дзетдомаўцаў. «Недарэмна ж я прыйшла на зямлю, — думае Віня. — Не таму ж мільярды атамаў выпадкова выпалі ў самай спрыяльнай для мяне камбінацыі. Не выпадкова!..» Віня не здагадвалася, што гэта адтуль, з Дома дзіцяці, ішоў неўсвядомлены пратэст хваравіта чулай істоты супраць усяго, што пагражала яе раўнавазе ў вялізным, зыбкім свеце... Усім сваім чэпкім, абвостраным пастаянным роздумам, успрыманнем яна спрабавала разабрацца ў законнасці з'яўлення свайго тут, у старажытным горадзе з вузкімі сярэдневяковымі вуліцамі, з зелянінай карычневых і таўшчэзных дрэў, законнасці і праве — нягледзячы на яўную непатрэбнасць — для той, хто выкінула яе са свайго жыцця, са сваёй памяці — для таго, хто, магчыма, нічога не ведаў пра яе існаванне, а можа, і не хацеў ведаць...

Яны маглі быць толькі носьбітамі магутнай сілы тварэння яе, Віні, і як простыя носьбіты не несці ў сабе ведання пра яе. Але тая, вышэйшая, дзёрзкая і бясконцая, сіла, якая патрабавала да жыцця яе худое, касцістае цела і самае вялікае цуда — жывое пазнанне сябе самой, — тая ведала...

А часам, калі яна ляжала, гледзячы ў агромністае чорнае кола над сабой, што павольна перамяшчалася, раўнадушнае і свабоднае, яна задыхалася ад вострай здагадкі, што яна, Віня, усяго толькі не-

прыкметная, выпадковая (зноў гэтае страшнае слова — выпадковая) пясчынка, госць, які бесклапотна карыстаецца бясцэннымі гаспадарскімі рэчамі, пакуль... пакуль не паклічуць яго дадому, у чорнае бяздонне... Цемра паступова ахоплівала яе ўсё шчыльнейшым колам, і вялізны жаль да сябе, да людзей, чый век кароткі, як бліскавіца, апаноўваў яе, часта яна прымалася плакаць, а пасля нечакана засынала...

Прачнулася яна ноччу, з яснай галавой, як быццам і не спала. І першае, што загучала ў вушах чотка і нясцерпна, — словы Сірэны: «Нічыя...»

У першы раз яна зразумела іх па-сапраўднаму, усім сэрцам, гэтыя неверагодна жорсткія — і справядлівыя — словы, сказаныя проста, быццам гаворка ішла пра самае звычайнае.

Яна ўстала на коленцы і прыпала да акна... Тонкі, журботны серп маладога месяца стаяў высока над горадам, і празрыстае жаўтаватае святло яго абцякала цьмяныя сілуэты дамоў — не дасягаючы зямлі. На вуліцы панавала цішыня, адзінока свяцілася акно ў далёкім доме, цемра няроўнымі плямамі, квадратамі і кругамі выгіналася ў прасторы, злавесная і няўлоўная. Глыбокая, бязмерная туга абрынулася на Віню. Людзі спалі і нічога не ведалі пра яе, пра кацяня, якое жалобна крычыць у пад'ездзе... «Ні-чы-я!» — рэхам коціцца па зямлі, коціцца па вузкіх, пругкіх сцяжынках, засланых хвояй, па дарогах, дзе ссохлыя каляіны трымаюць жмуты жоўтай саломы, што паволі раствараецца пад коламі, зліваючыся з карычневай глебай... Раней Віня не задумвалася над акаляючым. А яно было загадкавым, яно клікала на роздум, толькі не многія разумелі гэты кліч.

Вось, напрыклад, узяць чалавечы твар. Ён — самае няўлоўнае, таямнічае, тое, што больш чуйнае, чым, скажам, кветка, таму што самыя пяшчотныя пялёсткі трывала зафіксаваны ў прасторы хаця на гадзіну-дзве, а чалавечы твар, пры ўсёй закончанасці яго формы, пастаянна пераменлівы: вось павольна, як сонца над гарызонтам, узнікае на ім усмешка — і вочы ажываюць, святлеюць, вось ружовая фарба сарамлівасці ці ўсхваляванасці прабілася на шчокі — і імгнення цені каля вуснаў на лбе перамяшчаюцца, як аблачынкі на небе — і зноў іншы выраз, другі як быццам твар. Не бачныя вокам хмурынкі — цені залягаюць пад вачыма, — і стомленасць праступае на твары гэтак жа неабвержна, як надыходзіць вечар... Шэрыя, ліловыя, жаўтаватыя, ружовыя — усе гэтыя фарбы спалучаюцца на твары, пераходзячы адно ў другое, мы мяркуем, што праз хвіліну бачым тое ж, што і раней...

Жменя сухога залацістага пяску, які няўхільна прасочваецца між пальцаў, імкнучыся зліцца з мільярдамі гэтакіх жа — і зусім іншых пясчынак пад нагамі, абрыс густа-сіняй азёрнай хвалі, што ўспенена імчыцца да берага, каб, ударыўшыся ў яго, пазелянець і адкаціцца назад, у бязмежжа, павеў саспелага жытнёвага поля, прынесены ў акно вятрыскам, які тут жа гатовы змяніцца на востранькі, дражнячы пах аеру, — вось што такое чалавечы твар. І як злавіць імгненне ў гэтым пераменлівым, няўлоўным свеце, як злавіць імгненне, каб разгледзець яго, прамацаць, каб разгадаць хаця часцінку цэлага, каб пасля па гэтай часцінцы ўзнавіць у памяці разгадку цэлага?

Віню дзівіла, што ніхто з дарослых не толькі не спрабуе разгадаць таямніцу цэлага, але нават і не думае пра яе...»[1]

На такіх старонках твора цяжка правасці мяжу, дзе тут разважанні Віні, а дзе аўтара, але адно відаць, што гэтая плынь свядомасці, пададзеная на фоне карцін прыроды, адпаведных душэўнаму стану чалавека, вызначае роднасных, духоўна блізкіх людзей, якія бачаць свет унутраным зрокам мастака-філосафа.

І яшчэ: праз успрыманне Віні пісьменніца знаёміць чытача з тым домам, дзе некалі ёй самой давялося жыць, сталець, зведаць горкія і радасныя хвіліны: «Паступова яна начала думаць пра інтэрнат. Раней варта было ёй задумацца аб усім, што папярэднічала хваробе, як свядомасць ставіла паміж ёю і ўспамінамі цвёрды заслон, цяпер, калі так многа было спасцігнута, перадумана, яна ўспамінала пра Стасю, з ціхай радасцю — пра Яню, нават Антоля Іванаўна рабілася ў Вініных вачах ні то маладзейшай, ні то проста больш прывабнай.

З пяшчотай яна ўспамінала стары дом. Драўляныя сцены яго, пафарбаваныя цёмнай малінавай фарбай, у самыя марозныя дні былі жывымі, пругкімі і пахлі смалой. І скрыпучыя лесвіцы, і вузенькія мансарды ўверсе, дзе жылі выхавацелькі, і высокія, у два чалавечыя росты, паўкруглыя вокны, дзе там-сям, побач з празрыстымі латкамі, чырванелі і сінелі сляды вітражоў, і пацямнелы стары паркет у піянерскай — усё гаварыла пра чужое, невядомае жыццё, пра людзей, што жылі, нараджаліся і паміралі ў гэтых сценах. На белых кафляных печах захаваліся польскія літары з невядомым словам «Магістрат», а два каштаны пад акном мелі гадоў па пяцьдзесят. Вясной іх пахучыя суквецці заглядалі ў рабочы пакой, а варта было падысці да акна, як ружова-белае воблака п'яніла непраўдападобнай радасцю чакання і дзікаватай прыгажосцю. А «церам», які стаяў насупраць галоўнага корпуса! Буйная фантазія архітэктара насяліла будынак макаўкамі,

---

[1] Іпатава В. Дваццаць хвілін з Немезідай. С. 37, 55.

святліцамі, якія прысталі б хіба палацу, але дзятва з радасцю коўзалася па патрэсканых мармуровых поручнях і з віскатам вылятала з каменных падзямелляў, калі замок заўхоза быў не зашчоўкнуты на закаваных у жалеза дзвярах. У «цераме» была сталовая і жылі малодшыя, якія прабіраліся ў сталовую па доўгім пахмурным калідоры, каменныя сцены якога не весялелі ад лімонна-жоўтай тынкоўкі, старанна наляпанай на столь. Затое памяшканні тут таксама былі драўлянымі, з высокай столлю, і ў спальнях лёгка дыхалася нават прахалоднымі асеннімі вечарамі, калі малыя абтыкаліся коўдрамі і баяліся ступіць босай нагой на драўляную падлогу, якая, мабыць, адчуваючы аголенасць сваіх сябровак пад акном, ледзянела і кідала ў дрыжыкі самых бясстрашных.

Вокны «церама» выходзілі на Гараднічанку, на будучы мост, і таму ён быў шчыльна абгароджаны парканам, а дзецям строга-настрога было забаронена ісці ў школу напрасткі. Асвянцоны шлях віўся сцяжынкай уздоўж Гараднічанкі да скверыка, з-за непраўдападобна густой зеляніны якога не бачна было галоўнай вуліцы, выбягаючы на якую трэба было ізноў паварочваць направа, каб апынуцца насупраць «церама», толькі па гэты бок Гараднічанкі. Таму, у абход самых суровых правіл, кожны дзень хто-ніхто ды ляцеў на гліністым беразе ў рачулку, а пасля таропка сушыў змакрэлыя калашыніны, мазюкаючы белую кафлю шляхетнай печы...

Буйны тупат згаладалай дзятвы да спакуслівай цёплай сталовай, да знямогі рэзкі і жаданы смак першага кавалка хлеба, адшліфаваная да гладкасці тэлескопа ледзяная горка на двары, імгненны рывок з якой абарочваецца галавакружнай спіраллю вакол уласнага цела, белы іскрысты куст над рачулкай, што асыпаецца пад ударамі лыжнай палкі, буйны вясенні дождж і бег па вязкай сцяжынцы пад доўгімі прахалоднымі струменямі — усё успаміналася Віні рэзка і ясна, і яна дзівілася таму, што падзеі тыя нібыта і не знікаюць з часам, нібыта яны жывуць — толькі ў іншым вымярэнні, і кожнае імгненне звязана не толькі з тым, што было тады, але і з тым, што адбываецца зараз з ёю, нібы ўсё пражытае накладвае на імгненні былога свой няўлоўны адбітак...»[1]

Наог ул шмат падобных апісанняў рассыпана і па старонках апавяданняў, за якімі ўгадваюцца незабыўныя родныя мясціны самой пісьменніцы: «Так густа і бессаромна рос палын на даўнім гарадзішчы, узнесеным на галавакружную вышыню над далінай, што ў самай няўцямнай галаве цьмяна варушыўся жах перад усёмагутным

[1] Іпатава В. Дваццаць хвілін з Немезідай. С. 51.

часам, і такой грознай сілай павявала ад шчарбатых сцен — рэшткаў некалі магутнага замка, што толькі самы апошні гуляка мог залачаваць у абдымку з бутэлькай на гэтай пустэльнай гары, што нагадвала выкрашаны зуб, які можна было ўбачыць за многа кіламетраў ад раённага гарадка.

Гарадзішча, у нагах якога стогадовыя паркавыя дрэвы здаюцца карлікавымі кустамі, а велічэзны шпіль фарнага касцёла — штыком звычайнай вінтоўкі, здаецца, плыве ў залаціста-блакітнай прасторы гарачага ліпеньскага дня...» («Апоўначы, калі б'юць куранты»)[1].

За такімі і многімі іншымі маляўнічымі карцінамі адчуваецца тая цяга, тая вялікая любоў да роднай зямлі, што вызначае галоўнае і ў вобліку герояў і ў душы іх стваральніцы. Гэта той вузялок Святагора, які імкнецца, сталеючы, падняць Віня, адна з найбольш цікавых і глыбокіх, духоўна багатых гераінь Вольгі (патавай. За апошнімі словамі Віні, якімі завяршаецца аповесць («Гэта мая зямля! — захапленне ўскіпае ў ёй. — Гэта мая зямля, пра якую раней я нічога не ведала — ні пра поўнач яе, ні пра поўдзень, ні пра ўсход яе, ні пра захад! Пра ўсё хачу даведацца, пра ўсё, што было з ёй, маёй зямлёй, што будзе? Хачу ўзважыць вузельчык з сілай зямлі маёй, хачу да яго дакрануцца!»), мы выразна адчуваем і жаданне аўтара далучыцца да народнага жыцця, да лёсу роднай зямлі, стаць яе часцінкай, патрэбнай людзям. І далучаецца пісьменніца да лёсу радзімы і народа ўсёй сваёй творчасцю.

Ужо на раннім этапе ў яе выспявала задума — даведацца самой і расказаць у творах, што было з нашай зямлёй у мінулым. Так быў напісаны цэлы цыкл апавяданняў пад агульнай назвай «Гул далёкіх стагоддзяў». Некаторыя з іх («Ваўкалакам абярнуся», «Пад нагамі нашымі», «Святаслава», «Расанка», «Набег», «Песня маці») змешчаны ў трэцяй кнізе прозы «Перакат», выдадзенай у 1984 годзе. Пазней былі напісаны «Гайна і Мікаш», «Мара», «Давыд Гарадзенскі». Усе гэтыя творы ў жанравым плане ўяўляюць сабой невялікія падзейныя навелы, у аснову якіх пакладзены эпізоды з жыцця вядомых гістарычных асоб: Рагвалода, Усяслава, Давыда Гарадзенскага, славутага военачальніка, які вадзіў войска Вялікага Княства Літоўскага на крыжакоў, раскрываюцца моманты побыту, звычаяў, вераванняў простых людзей, якія ўсё яшчэ маліліся паганскім багам і жыццё якіх цалкам залежала ад улады князёў. У невялікай навеле «Ваўкалакам абярнуся» аўтар расказвае пра цяжкі лёс паэта Паўлюка Багрыла, тыя моманты з яго сталага жыцця, а рэтраспектыўна, праз яго ўласныя ўспаміны і

[1] Тамсама. С. 109.

пра маладыя гады, калі ён, пасля дваццаць пяці гадоў службы ў царскім войску, вярнуўся ў Крошын, збудаваў хату, узяў маладую жонку, але не было спакою на душы, не мог ён болей пісаць вершы, бо змярцвела душа ад панскіх здзекаў, жудаснай салдатчыны, і ўспаміны пра ўсё гэта забівалі натхненне. Аднак усе апавяданні гістарычнай тэматыкі, ранняя аповесць «Прадыслава» былі толькі подступам пісьменніцы да больш грунтоўных твораў пра мінулае Бацькаўшчыны.

У кнігу прозы «Перакат» акрамя гістарычных навел увайшлі таксама такія выдатныя апавяданні сучаснай тэматыкі, як «Адна над безданню», «Мой брат Цімка», «Вяртанне», «Залаты яблычак на сярэбраным сподку», «Мышка ў капелюшы», «Зачараваная півоня», «Крыштальны келіх надзеі», «Ластаўка», «Размова», «А цягнік грукоча», «На дрызіне па шчанюка». Усе раннія кнігі прозы: «Вецер над стромай», «Дваццаць хвілін з Немезідай», «Перакат» атрымалі высокую ацэнку крытыкі. Некаторыя апавяданні тады ж былі перакладзены на балгарскую, нямецкую, польскую мовы («Апоўначы, калі б'юць куранты», да прыкладу, было перакладзена ў Балгарыі і ўвайшло ў зборнік майстроў прозы, выдадзены Сафійскім выдавецтвам «Народна культура»), У гэтым зборніку былі змешчаны таксама апавяданні М. Зошчанкі, С. Залыгіна, Б. Акуджавы і іншых вядомых пісьменнікаў.

Амаль усе раннія празаічныя творы Вольгі Іпатавай пераўвасобленыя на рускую мову. У 1980 годзе ў Маскве выйшаў зборнік яе прозы «Ветер над кручей» (выдавецтва «Молодая гвардия»), куды былі ўключаны аповесць «Вецер над стромай» (пераклад аўтара) і многія апавяданні ў перакладзе І. Маткарымава. Прадмову да зборніка напісаў Васіль Быкаў, дзе адзначаў: «Проза В. Іпатавай — тварэнне прыроджанага празаіка, хоць шлях да яе ляжаў праз юнацкае захапленне паэзіяй.

Каб пераканацца ў гэтым, дастаткова прачытаць некалькі апавяданняў са зборніка, даволі разнастайных па тэматыцы, але, як правіла, роднасных паміж сабой значнасцю канфлікта і сапраўдным драматызмам жыццёвых абставін. Наогул, драматызм заўсёды прысутнічае ў прозе В. Іпатавай — ідзе размова пра жаночы лёс і каханне, піша яна пра дзяўчынку-сірату ці расказвае пра невылечна хворага хлопчыка, прыкаванага да бальнічнага ложка. Найбольш пераканаўчыя абставіны і характары, а таксама сітуацыі, вынесены аўтарам з перажытага, пацверджаны жыццёвым досведам пісьменніцы...

Тэматычная шматстайнасць жыццёвага матэрыялу, які стаў асновай для празаічных твораў В. Іпатавай, сведчыць пра шырыню яе творчага пошуку, што наогул натуральна і правамерна для маладога празаіка. Адзначу, дарэчы, што Іпатава амаль у роўнай

ступені ўмее пісаць пра горад і пра вёску, умее ствараць характары як дарослых, так і маладых людзей, звяртаючы пісьменніцкую ўвагу на галоўным прадмеце мастацтва — чалавеку і яго псіхалогіі...

Імкненне да паглыбленага псіхалагізму ў адлюстраванні многіх герояў апавядальнай плыні — адна з самых прывабных якасцяў аўтара, таксама як і яе даволі спелае ўменне «маляваць словам», ствараць лапідарныя, але выразныя і змястоўныя карціны прыроды. Проза В. Іпатавай насычана колерамі, рухам, пахамі. Па старонках зборніка рассыпана нямала яркіх, запамінальных дэталяў, народных выразаў, трапных слоў, усё гэта моўнае, выяўленчае багацце падмацоўваецца нетаропкай, без афектацыі і перапіску аўтарскай інтанацыяй, за якой адчуваецца чалавек, узбагачаны жыццём і надзелены ад прыроды чулай і добрай душой.

Чытач не можа не паверыць таму, пра што прачытае ў гэтай кнізе, і, мусіць, не застанецца абыякавым да трывог і клопатаў многіх з яе герояў.

А гэта, відаць, самае галоўнае для кожнага сумленнага аўтара».

Такая праўдзівая ацэнка творчасці Вольгі Іпатавай Васілём Быкавым — неперасягальным майстрам прозы — пацвярджала, што маладая пісьменніца сапраўды знайшла прызнанне і прафесійных літаратараў і чытацкай аўдыторыі. За кнігу «Ветер над кручей» у 1981 годзе ёй была прысуджана першая прэмія ўсесаюзнага літаратурнага конкурсу імя Максіма Горкага за лепшую кнігу маладога аўтара (арганізаваны ЦК камсамола, Дзяржаўным выдавецтвам СССР, Саюзам пісьменнікаў СССР). А ў 1986 годзе ў Маскве выходзіць яшчэ адна кніга прозы Вольгі ватавай на рускай мове «Узелок Святогора» (з грунтоўным пасляслоўем вядомага крытыка Нічыпара Пашкевіча), куды ўвайшлі аднайменная аповесць і апавяданні («Ласточка», «Одна над пропастью», «Премьера», «Хрустальная чаша надежды», «Княжеские груши», «Завороженный пион», «Золотое яблочко на серебряном блюдечке», «Бумеранг», «Девочка с белыми гвоздиками», «Перекат»), Але задоўга да гэтых празаічных кніг на рускай мове быў выдадзены зборнік вершаў Вольгі Іпатавай «Крыло» («Советский писатель», 1976, пераклады С. Кузняцовай), вельмі прадстаўнічая для дэбюту перад усесаюзнай чытацкай аўдыторыяй кніга, якую склалі лепшыя вершы з трох паэтычных зборнікаў, выдадзеных В. Іпатавай на роднай беларускай мове («Раніца», «Ліпеньскія навальніцы», «Парасткі»), Перакладчыцы Святлане Кузняцовай удалося дакладна перадаць метрычную, вобразную, лексічную адметнасць паэзіі Вольгі Іпатавай, падкрэсліць яе настойлівыя звароты да гістарычнага мінулага Беларусі, замілаваную прыхільнасць да роднай зямлі, што дапамагло паэтэсе

стаць на крыло і зразумець, што чалавек не можа адбыцца як асоба, грамадзянін, творца па-за межамі радзімы.

## У ГЛЫБІННАЙ ПЛЫНІ ЖЫЦЦЯ

Людзі звычайна думаюць, што творчасць пісьменніка абмяжоўваецца яго ўласнымі рукапісамі, выданнем кніг, але гэта далёка не так. Інтэнсіўнае творчае жыццё, поспехі Іпатавай — паэта, празаіка — разгортваліся паралельна са звычайнай працай, сямейнымі клопатамі, грамадскімі абавязкамі, якім яна аддавала шмат часу, энергіі, душэўных сілаў. І самае галоўнае — яе светапоглядныя арыентацыі ў мастацкіх, публіцыстычных творах ніякім чынам не разыходзіліся з яе грамадскай дзейнасцю чалавека, грамадзяніна, творцы.

У лістападзе 1985 года Вольга Іпатава была нечакана запрошана на пасаду галоўнага рэдактара рэдакцыі літаратурна-драматычных праграм беларускага тэлебачання. Становішча там было крытычнае — з рэдакцыі няўхільна ішлі ў ЦК кампартыі ананімкі і скаргі, там часта мяняліся галоўныя рэдактары. Асноўная лінія «барацьбы» праходзіла па моўнай прыналежнасці — элітарныя рэжысёры і рэдактары не надта хацелі займацца нацыянальнай тэматыкай, у той час як пісьменнікі — галоўныя рэдактары — настойвалі на звароце да беларускай літаратуры і мовы. Патрэбен быў чалавек, які б спалучыў інтэлектуальны і нацыянальны пачаткі ў адно, стаў аўтарытэтам для супрацоўнікаў рэдакцыі.

Справа ўладкавання ўскладнялася тым, што Вольга Іпатава не была членам кампартыі (такія спробы рабіліся не раз, ды яна ўпарта адмаўлялася ад такога «гонару»). Але ўрэшце колішні старшыня Белдзяржтэлерадыё Генадзь Бураўкін і загадчык сектара тэлебачання Валянцін Блакіт (Болтач) угаварылі партапаратчыкаў у ЦК і з умовай, што галоўны рэдактар усё ж уступіць у шэрагі кампартыйцаў, яе зацвердзілі. (Да слова, у кампартыю В. Іпатава так і не ўступіла.)

«Першы год у мяне было ўражанне, што я ўпарта піхаю ўгару цяжкую калясніцу, ды яна цягне мяне ўніз», — узгадвае Вольга Міхайлаўна. Беларуская тэматыка, якую яна «ўводзіла» ў праграмы Беларускага тэлебачання, была ў многім новай і нязвыклай: так упершыню на ўсебеларускі, а не толькі гродзенскі экран зноў выйшлі такія асобы, як Зоська Верас і «віленскае кола»: сын Фабіяна Шантыра Антон, Лявон Луцкевіч, Янка Шутовіч, Янка Багдановіч, а таксама былы пасол Сойму Рэчы Паспалітай Павел Крынчык са Слоніма. Найбольш дарагой свайму сэрцу Вольга Іпатава лічыць перадачу пра жонку Браніслава Тарашкевіча Веру Нежанкоўскую з Радашкавічаў:

«Памятаю, як я прыйшла ў яе звычайную вясковую хату, але ўнутры жытло было інтэлігентным. І я ўбачыла ўжо немаладую жанчыну — надзіва элегантную — у яе была сапраўды царская пастава. Я заспела яе за чытаннем томіка французскай паэзіі. Тым, як грацыёзна яна адклала яго і пачала адказваць на мае пытанні, жанчына, якая была спадарожніцай вялікага беларускага дзеяча, канчаткова пакарыла мяне — як чалавек высокай, вытанчанай культуры, дзівосны прыклад беларускай шляхцянкі...»

Асноўныя праграмы Вольга Іпатава рабіла сама. Але многае ўсё з большай цікавасцю да адкрытай галоўным рэдактарам тэмы рабілі і маладыя рэжысёры. Так, Андрэй Астравух стварыў мастацкі партрэт Ларысы Геніюш — яе імя, як і многія іншыя імёны, тады прагучала на беларускім тэлебачанні ўпершыню, а Надзея Гаркунова і Галіна Краўчанка ўзяліся за тэмы беларускай гісторыі.

Але сапраўдны глядацкі поспех прыйшоў да Вольгі Іпатавай як вядучай у часы перабудовы. Гэта яна «вывела» да шырокага чытача цэлы шэраг беларускіх гісторыкаў — ад Георгія Штыхава да маладога Сяргея Тарасава, якія ўразілі беларускае грамадства інтэлектуальнасцю і глыбінёй узнятых праблем. Менавіта Іпатава ў сваёй «Ліры» знаёміла беларусаў са святарамі і замежнымі беларусамі (тады на такое не асмельвалася ні адно беларускае выданне). Супрацоўнікі рэдакцыі ўзгадваюць адзін выпадак, вельмі характэрны для таго часу: запісаная В. Іпатавай перадача пра святара Яна Матусевіча (пазней шырока вядомага дзеяча беларускага нацыянальнага руху) усяляк тармазілася, так што святар, не верачы ў яе выхад, прыйшоў у рэдакцыю, каб на свае вочы бачыць, што ж робіцца на студыі. «І калі перадача прагучала ў эфіры, ён, узяўшы руку Вольгі Міхайлаўны, прамовіў наступнае: «Звычайна руку цалуюць у мяне, святара, але на гэты раз я схіляюся перад Вашай мужнасцю» і пацалаваў яе пры ўсіх нас. Гэта ўразіла нас незвычайна — мы жывога святара ўвогуле бачылі на свае вочы ледзь не ўпершыню, і да канца не верылі, што гэтая перадача ўвогуле пойдзе...»

Гэта было на пачатку 1987 года. Пазней жа, адкрываючы ўсё новыя імёны, Вольга Іпатава асабліва ганарылася тым, што з-пад прэса цэнзуры ёю быў найперш «вырваны» Браніслаў Тарашкевіч, чыё імя было забароненае для друку. Вось як расказала пра гэта сама Вольга Міхайлаўна: «Заставалася чатыры гадзіны да выхаду ў эфір перадачы пра Браніслава Тарашкевіча, калі мяне выклікала наш цэнзар Вольга Філімонаўна і заявіла, што яна здымае перадачу.

— На якой падставе? У «Литературной газете» быў ужо артыкул Уладзіміра Арлова, а, паводле завядзёнкі, адкрытае Масквой перастае быць забароненым у нас, — адказала я ёй.

Яна ажно скаланулася. Так з цэнзарам, здаецца мне, не гаварыў ніхто. Звычайна яе слова было законам, якое нават не аспрэчвалася. У нас з ёю ўвесь час ішлі канфлікты, бо я адстойвала перадачы сваёй рэдакцыі да апошняга, і часам яна саступала — зразумела, у пэўных межах. Напрыклад, калі на мяне напісаў данос наш жа супрацоўнік аб тым, што я ў адной з перадач «культывавала варожасць да Расіі», я, узяўшы кнігу маскоўскіх гісторыкаў, лёгка даказала, што сказ «усё XVII стагоддзе прайшло для ВКЛ у няспынных войнах з Масковіяй», быў пазычаны адтуль, і абвінавачванне было з мяне знятае.

Але тут было яўнае непадпарадкаванне, да таго ж праўда была на маім баку. І яна адказала нечуванае для ўсіх нас:

— А Масква нам не ўказ...

— Калі забараняць — дык Масква яшчэ які ўказ? — парыравала я. — Не ўжо, Вольга Філімонаўна, стаўце візу. Іначай я буду скардзіцца ў ЦК.

Яна ўсё ж не пагадзілася, і мы амаль да самай апошняй перадэфірнай хвіліны званілі ў ЦК, у Галоўліт, і, нарэшце, дазвол на перадачу быў дадзены. І гэта быў пераломны момант у маіх дачыненнях з Галоўлітам. Ужо забаранялі не яны — іншыя добраахвотнікі, якіх было нямала. Хацелася б мне пабачыць усе тыя даносы, якія былі напісаныя на мяне ў тыя часы і рэха якіх я лавіла пастаянна».

Але адной са сваіх галоўных акцый на тэлебачанні Вольга Іпатава лічыць асвятленне першага, забароненага на радзіме, з'езда Беларускага народнага фронту ўлетку 1989 года. Заказваць тэхніку для запісу з'езда ў Вільні было бессэнсоўна — ніхто б не дазволіў гэтага. Тады яна напісала ў заяўцы: «Нарыс пра маці-гераіню»... і прыдумала беларускае прозвішча. Так брыгада тэлевізійнікаў апынулася на з'ездзе БНФ і зрабіла тыя кадры, якія скаланулі ўсю Беларусь — па шырокім праспекце ад пляца Гедзіміна ідзе шматлюднае шэсце над бел-чырвона-белымі сцягамі, ідзе ўпэўнена, з гонарам і годнасцю... Вольга Іпатава ўсё ўзяла на сябе — фармальна старшыня Белдзяржтэлерадыё нічога не ведаў ні аб запісе, ні аб незвычайным эфіры, але калі назаўтра яго выклікалі ў ЦК КПБ для вымовы, ён «прызнаў» сваё ўпушчэнне і нават даў у сваю чаргу Вользе Іпатавай таксама вымову. Ды абое беларускія пісьменнікі-патрыёты ведалі, што робяць і дзеля чаго рызыкуюць.

У тыя часы ўпершыню на тэлебачанні была таксама сказана праўда пра Вялікага Княства Літоўскага, што яно існавала на нашай

зямлі і было нашым гонарам, хаця да гэтага часу прапагандавалася, што ВКЛ не беларуская дзяржава, а толькі літоўская.

Вольга Іпатава атрымлівала мноства лістоў-водгукаў з удзячнасцю за тое, што яе перадачы спрыялі таму, што людзі пачалі адчуваць сябе беларусамі, разумець, што і ў нас ёсць вялікая, багатая гісторыя. Але было і іншае. Часта ёй тэлефанавалі невядомыя з пагрозамі. Рабілі гэта і падчас працы яе ў газеце «Культура», а ў канцы 1995 года нават зрабілі напад на яе, калі яна ішла з Нацыянальнай бібліятэкі ў Дом літаратара на вечарыну праз парк імя Горкага. Яе выратавала імгненная рэакцыя тэнісісткі і група моладзі, якая нечакана з'явілася на мастку праз Свіслач і напалохала нападоўцаў...

І сапраўды, беларускія перадачы Вольгі І патавай на рэспубліканскім тэлебачанні сведчылі не толькі пра мужнасць і высокую нацыянальна-грамадзянскую пазіцыю іх аўтара. Галоўнае, што яны адкрывалі старонкі багатай беларускай гісторыі і літаратуры, праломвалі сцяну маўчання і хлусні. Упершыню перад грамадскасцю паўставалі імёны са спецсховішчаў, забытыя гістарычныя асобы, праўда аб Курапатах (следам за славутай публікацыяй ў ЛіМе), і многае іншае. Дарэчы, якраз у рэдакцыі В. Іпатавай вядомы беларускі пісьменнік Алесь Адамовіч першы адкрыта сказаў пра наступствы Чарнобыльскай катастрофы. Гэта тады была праўда, пра якую ў Мінску яшчэ не гаварылі. І зноў было змаганне за кожны кадр, за кожны сказ. Але за такую перадачу Алесь Адамовіч шчыра падзякаваў Вользе, бо гэтая праўда была неабходнай для Беларусі, а яе вышэйшыя ўлады стараліся замоўчваць, не «сеяць паніку», рабілі выгляд, што нічога страшнага не здарылася.

На кожную з тых перадач прыходзілі стосы пісьмаў, перадачы «Ліры» атрымалі, згодна з сацыялагічнымі апытаннямі, першае месца па папулярнасці, а газета «Чырвоная змена» ў 1989 годзе назвала Вольгу Іпатаву лепшай вядучай года. І гэта яна ўспрыняла як самую вялікую ўзнагароду ў сваім жыцці. І справядліва, бо рэдактар, яе аднадумцы-калегі былі першаадкрывальнікамі, і могуць па праве ганарыцца справай свайго жыцця на ніве нацыянальнага адраджэння. І яшчэ адзін шчаслівы момант згадваецца пісьменніцы — усенародны Дзень ушанавання Святой Еўфрасінні Полацкай 5 чэрвеня 1993 года. Яна стаяла ў натоўпе, глядзела на бяскрайняе чалавечае мора, а ў памяці ўсплывалі падзеі дваццацігадовай даўніны, калі яе аповесць «Прадыс- лава», прысвечаная славутай беларускай асветніцы, была ўшчэнт «разбіта» на розных савецка-ідэалагічных нарадах, а сёння і яна гэтым творам прычынілася да таго, што многія душы абудзіла і прывяла да беларускай нацыянальнай ідэі. Прыхільнікаў гэтай ідэі

большала з кожнай перадачай «Ліры», «Спадчыны», асабліва ў 90-х гадах калі Беларусь нарэшце стала незалежнай і павінна была ўмацоўваць статус самастойнай, дэмакратычнай дзяржавы. Гэта былі тэлеперадачы найперш па беларускай гісторыі, цікавай, але і трагічнай па самой сваёй сутнасці: яе, як ніякую іншую, раскідалі, разрабавалі войны, рэпрэсіі, ды часам і ўласная'нядбайнасць. Разам з вядучай глядач быццам гартаў старонкі гісторыі сваёй айчыны: даведваўся пра нацыянальную сімволіку — бел-чырвона-белы сцяг і герб «Пагоня», Турава-пінскае княства, пачатак утварэння Вялікага Княства Літоўскага і род Гедзімінавічаў, пра старажытны Кіеў і месцы, звязаныя з полацкім князем Усяславам Чарадзеем і непасрэдна з гісторыяй Беларусі, а таксама пра тое, што паломнікі з Турава і Пінска прывозілі грошы на будаўніцтва манастыра ў Лаўры, пра што сведчаць імёны ў Сінодыку-памінальніку. Цікава распавядалася пра беларускіх князёў Міндоўга, Віценя, Гедзіміна, Альгерда, Вітаўта Вялікага, пра таленавітых, выдатных палкаводцаў: Давыда Гарадзенскага, Канстанціна Астрожскага, прадстаўнікоў вядомых магнацкіх родаў, іх мецэнацкую дзейнасць, асабліва пра род Радзівілаў, лёс Барбары Радзівіл, Уршулі Радзівіл і яе літаратурную спадчыну, заснаванне ў Нясвіжы тэатра, іх дапамогу ў адкрыцці друкарняў, выданні кніг. І, вядома ж, пра такіх дзеячаў, як Сымон Будны, Васіль Цяпінскі, Скарына і ягоны час, пра старажытныя беларускія гарады Полацк, Пінск, Навагрудак, гісторыю Менска і іншае, пра беларускія замкі ў Крэве, Лідзе, Троках, Міры і наогул архітэктурныя помнікі, музеі, бібліятэкі, рэдкія старажытныя рукапісы і кнігі, статут ВКЛ, геральдыку на Беларусі, якая на 250 гадоў старэйшая за расійскую, гербы беларускіх гарадоў і княжацкіх родаў, пра рэлігійныя веравызнанні беларусаў, цудатворныя абразы, беларускіх святых, гісторыю Жыровіцкага манастыра, Сафійскі сабор у Полацку і многае іншае.

У тыя гады «супернічала» з перадачамі Вольгі Іпатавай хіба што газета «Літаратура і мастацтва», дзе галоўным рэдактарам быў тады Анатоль Вярцінскі. Аднак і «Ліра» некаторыя тэмы ўздымала следам за «ЛіМам». Напрыклад, варта было з'явіцца ў пісьменніцкай газеце славутаму артыкулу Зянона Пазняка пра Курапаты, як галоўны рэдактар літаратурнай рэдакцыі паслала туды брыгаду, і нарыс, зроблены рэжысёрам Галінай Краўчанка, быў ашаламляльным. Перад тым як быў дадзены выхад у эфір, у кабінеце сабраліся В. Іпатава, намеснік Генеральнага пракурора рэспублікі Кандрацьеў, старшыня Белдзяржтэлерадыё, каб па кадрах прагледзець нарыс.

«Ішла барацьба за кожны кадр, — узгадвае Вольга Міхайлаўна. — Асабліва зацятай яна была на тых кадрах з магіл, дзе на кожным з чалавечых чарапоў бачна дзірка — след ад кулі.

— Гэта нельга даваць ні ў якім разе! — закрычаў намеснік пракурора.

— Як гэта — нельга? Гэта — праўда.

І ён сказаў фразу, якая мне здалася проста непрыстойнай на фоне гэтых бедных костачак, гэтых прастрэленых чарапоў, што былі некалі жывымі людзьмі і былі гвалтоўна выхаплены з жыцця: «Гэта моцна пашкодзіць аўтарытэту партыі»...

Нейкія кавалкі нарыса сапраўды выразалі. Але і тое, што засталося, уражвала».

Уражвалі людзей і тыя асобы, якія тады з'яўляліся ў перадачах «Ліра» і «Спадчына». А таксама аператыўнасць літаратурнай рэдакцыі, з якой пачалі браць прыклад і іншыя рэдакцыі Беларускага тэлебачання.

Варта было Станіславу Шушкевічу, тады загадчыку кафедры БДУ, запрасіць да сябе фізіка Юрыя Арэхву з ЗША (з сям'і беларусаў), як той з'явіўся ў перадачы «Ліра» і расказаў на прыгожай беларускай мове аб тым, як эміграцыя захавала беларускія народныя традыцыі і родную мову.

Вольга Іпатава пакінула тэлебачанне толькі таму, каб перайсці ў часопіс «Спадчына» — прытым простым рэдактарам — дзеля таго, каб разам з вядомым пісьменнікам Іванам Чыгрынавым выпрацаваць канцэпцыю новага часопіса, які раней быў бюлетэнем Рэспубліканскага таварыства аховы помнікаў. Многія калегі не разумелі гэтага кроку — рэдакцыя стала адной з лепшых на ТБ, заўсёды займала прызавыя месцы сярод іншых, яе аўтарытэт сярод калег-журналістаў быў высокі. Як так пайсці з паста галоўнага рэдактара, ізноў нешта пачынаць пасля таго, як дабілася поспеху? Але Вольгу Іпатаву вабіла не толькі новае — яна ў тыя гады, паверыўшы ў магчымасць зменаў, працавала не на сябе — працавала на беларускую нацыянальную ідэю, на дэмакратычныя ідэалы. Як пісьменніца амаль нічога тады не стварыла — увесь час займалі тэлевізійныя перадачы, якія ставілі надзённыя задачы, асабліва ж тыя, дзе прапагандавалася барацьба за родную мову. Вялікі рэзананс мелі перадачы, дзе яна падтрымала ініцыятыву вучоных — Зянона Пазняка, Юрыя Хадыкі і Алега Трусава — аб захаванні храмаў на Беларусі, асабліва Свята-Духава сабора ў цэнтры Менска, якому пагражала тады знішчэнне з-за пракладкі пад ім метро. Менавіта гэты грамадскі розгалас спыніў тых, хто замахнуўся на Храм. А Вольга Іпатава «зарабіла» чарговую вымову «зверху».

Ды не з прычыны вымоваў пайшла яна ў «Спадчыну», а каб прадоўжыць усё тое, чым жыла і дыхала ў тыя незабыўныя, гарачыя гады.

Першы нумар «Спадчыны» выклікаў скандал у кіраўнічых колах рэспублікі. Пасыпаліся папрокі на галоўнага рэдактара і старшыню толькі што створанага Фонду культуры Івана Чыгрынава. Ды паступова ўсё ж новая канцэпцыя часопіса, заснавальнікам якога быў Фонд культуры, стала знаходзіць падтрымку не толькі інтэлігенцыі. Часопіс нумар за нумарам набіраў вышыню. Вольга Іпатава, якая да таго часу стала намеснікам галоўнага рэдактара, прывяла на працу Кастуся Тарасава, Вінцука Вячорку, Вячаслава Ракіцкага. Упершыню, мабыць, за ўсе савецкія часы ў часопісе быў ажыццёўлены пераклад «Бібліі», замоўлены рэдакцыяй А. Клышку. Вольга Іпатава «прабівала» дазвол на друкаванне гэтага перакладу ў ЦК КПБ. Такі дазвол быў, хаця і з цяжкасцю, дадзены. Ішлі новыя часы, і вельмі важным уяўлялася для пісьменніцы менавіта гістарычна-асветніцкая праца, якая несла агромністую інфармацыю пра багатую гістарычную і культурную спадчыну, якой яна захаплялася сама і захапляла людзей. Яна лічыла яе святыняй, якую трэба захоўваць, аберагаць, а галоўнае, яе трэба ведаць. Асноўнай каштоўнасцю тэлеперадач было тое, што, рыхтуючы іх, Вольга Міхайлаўна выкарыстоўвала, вывучала шматлікія працы па беларусазнаўстве, гісторыі, літаратуры, запрашала іх аўтараў, глыбока дасведчаных у той або іншай галіне вучоных, навукоўцаў, гісторыкаў, пісьменнікаў, краязнаўцаў, музейных і бібліятэчных супрацоўнікаў, рабіла прэзентацыі цікавых выданняў, як, да прыкладу, кніг з серыі «Вяртанне», «Рэстытуцыя культурных каштоўнасцей», дзе сабраны звесткі амаль пра ўсё, што было некалі зроблена ў Беларусі, разрабавана і што цяжка цяпер вярнуць у нашы музеі, бібліятэкі, архівы. У яе перадачах неаднойчы выступалі гісторыкі — браты Грыцкевічы, Г. Штыхаў, М. Ткачоў, П. Лойка, С. Тарасаў, М. Чарняўскі, П. Лысенка, А. Трусаў, А. Краўцэвіч, А. Цітоў і многія іншыя, прадстаўляліся многія іх гістарычныя кнігі, падручнікі («З факелам Гіпакрата», «Дзесяць шляхоў з Вільні», «Шляхі вялі праз Беларусь», «Нашы славутыя землякі», «Про белорусов из Вильни», «От Нёмана к берегам Тихого океана», «Людзі і замкі», «Гарадская геральдыка Беларусі», «Скарынінскі час», «Гісторыя старажытнай Беларусі» Міколы Ермаловіча, кнігі В. Ластоўскага, І. Ігнатоўскага і інш.). Запомніліся гледачам перадачы пра М. Улашчыка (1906-1986), пра беларусаў свету.

Перадачы пра вядомых дзеячаў беларушчыны, якія жывуць за межамі радзімы, былі запісаны падчас першага і другога з'ездаў беларусаў свету, што праводзіла Міжнароднае грамадскае аб'яднанне

«Бацькаўшчына». Гэта беларуская паэтэса Аўгіння Кавалюк, доктар філалогіі Мікола Нікалаеў, гісторык Валянцін Грыцкевіч, якія жывуць у Санкт-Пецярбурзе, доктар філалагічных навук Аляксей Каўка з Масквы, Васіль Еўдакімаў — беларус з Англіі, Мікола Антух з далёкай Аўстраліі, Ян Чыквін з Беласточчыны, таленавіты паэт і даследчык беларускай літаратуры, а таксама прафесар, доктар філалогіі з Польшчы Мечыслаў Яцкевіч — перакладчык твораў У. Караткевіча, Я. Брыля, С. Законнікава, фундатар помніка Яну Баршчэўскаму ў Расонах.

Заслугай Вольгі Іпатавай было і тое, што яна стварыла цыкл з 12 дакументальных фільмаў пра беларусаў далёкага замежжа, адна з першых вяртала іх імёны, творчую, гістарычную спадчыну на радзіму. У 1993 годзе яна разам з рэжысёрам Валерыяй Скварцовай пабывала ў Злучаных Штатах Амерыкі, запісала інтэрв'ю з беларусамі Кліўленда, Саўт-Рывера, Чыкага, Вашынгтона і Нью-Ёрка, а таксама з тагачасным беларускім паслом у ЗША Сяргеем Мартынавым. Упершыню айчынныя гледачы на свае вочы пабачылі, які высокі матэрыяльны, побытавы ўзровень жыцця нашых землякоў-эмігрантаў у вольнай, дэмакратычнай краіне, даведаліся пра грамадскую дзейнасць на ніве беларушчыны асабліва такіх вядомых ужо і на Бацькаўшчыне беларусаў, як Зора і Вітаўт Кіпелі, Янка і Надзея Запруднікі, спадарства Андрусішыных, Рамукоў, Лук'янчыкаў, В. Мельяновіч, А. ІЧукелойц, мастачкі Галіна Русак, Тамара Стагановіч, пісьменнікі М. Сяднёў, Я. Золак, М. Кавыль, ды і наогул, як захоўваюць беларусы далёка ад радзімы памяць пра яе, трымаюцца, асабліва старэйшае пакаленне, сваіх звычаяў, традыцый, нацыянальных святаў і нацыянальных сімвалаў.

Вольга Іпатава была заснавальніцай цыкла перадач «Спадчыннікі», які адрозніваўся ад тэлеперадачы «Спадчына» перш за ўсё тым, што галоўным кампанентам кожнай перадачы стала не гісторыя, а літаратура: проза і паэзія, якія расказваюць пра тыя ці іншыя падзеі нашай культуры, а таксама мастацка-гістарычныя эсэ. Перадачы гэтыя будаваліся як своеасаблівы часопіс, дзе былі старонкі, прысвечаныя выхаду асноўнай кнігі таго або іншага аўтара, і тыя, якія «апасродкавана» асвятляюць тую ці іншую эпоху. Да прыкладу: гаворка аб першым нумары літаратурна-мастацкага часопіса «Ад Лідскіх муроў» суправаджалася кароткім інтэрв'ю з гісторыкам і інфармацыяй пра гістарычныя працы на гэтую тэму, а таксама мастацкім чытаннем твораў у выкананні вядомых артыстаў. «Спадчыннікі» — гэтая назва ішла ад папярэдняга цыкла, толькі галоўнымі яе героямі сталі пісьменнікі, якія пішуць на гістарычную тэму. Гэта І.

Шамякін і яго гістарычны раман «Вялікая княгіня», У. Бутрамееў — аўтар кнігі «Карона Вялікага Княства», А. Петрашкевіч, А. Дудараў і іх гістарычныя п'есы, В. Чаропка і яго раманы «Імя ў летапісе», «Валадары Вялікага Княства», кніга «Беларускія летапісы», выдадзеная ў серыі «Беларускі кнігазбор», патрэбная не толькі гісторыкам і літаратарам, але і звычайным чытачам, Генрых Далідовіч — вядомы празаік, аўтар цікавых гістарычных твораў. Гістарычнай асновай для яго рамана «Кліч роднага звона» паслужыла «Гісторыя старажытнай Беларусі» Міколы Ермаловіча, з якім пісьменнік абхадзіў і аб'ездзіў амаль усе гістарычныя мясціны Беларусі.

У цыкле «Спадчыннікі» прайшлі перадачы, прысвечаныя 200-гадоваму юбілею Адама Міцкевіча, такім значным падзеям культурнага жыцця нашай краіны, як 930-годдзе Менска, аднаўленне Крыжа Святой Еўфрасінні Полацкай, 480-годдзе беларускага кнігадрукавання, выхад у свет у 1517 годзе «Псалтыра» Францішка Скарыны, перадача пра паэта Сяргея Законнікава, галоўнага рэдактара часопіса «Полымя», з нагоды прысуджэння яму Міжнароднай літаратурнай прэміі імя Грыгорый Скаварады, украінскага пісьменніка, філосафа XVIII стагоддзя. Сяргей Законнікаў, як нагадала вядучая, меў прэзентацыю сваёй кнігі «Чорны Апакаліпсіс» у Франкфурце-на-Майне, а таксама з'яўляецца лаўрэатам польскай літаратурнай прэміі. Некалькі перадач было прысвечана праблеме «Пісьменнік і сучаснасць», дзе ў дыялогах пісьменнікаў ставіліся і абмяркоўваліся такія пытанні, як зберажэнне духоўнай спадчыны, вытокі творчасці і натхнення, надзённыя праблемы літаратуры. Усе гэтыя, як і многія іншыя тэлеперадачы, Вольга Іпатава працягвала весці, калі ўжо працавала ў часопісе «Спадчына». І часопіс і тэлеперадачы як бы дапаўнялі адзін аднаго. Часопіс — гістарычны ў сваёй аснове — адкрываў новыя, а дакладней, забароненыя раней імёны славутых беларусаў, друкаваў іх працы, звесткі пра жыццё і творчасць, навуковую дзейнасць («Вітаўт Вялікі і беларусы» кс. Адама Станкевіча, «Геаграфія Беларусі» А. Смоліча, «Лабірынты» В. Ластоўскага, «Айцы БССР і іхны лёс» А. Калубовіча, працы І. Канчэўскага, Я. Лёсіка, а таксама сучасных даследчыкаў: М. Ермаловіча, К. Тарасава, М. Ткачова, А. Трусава, А. Цітова, матэрыялы пра сталіншчыну, як, да прыкладу, «Здзек» А. Лукашука і інш.) Менавіта беларускія пісьменнікі — Іван Чыгрынаў і Вольга Іпатава — надалі часопісу беларуска-гістарычнае аблічча, якое і было адзіна прымальным для такога кшталту выданняў.

У 1991 годзе Вольга Іпатава стала галоўным рэдактарам газеты «Культура», куды яе запрасіў працаваць міністр культуры Яўген Вайтовіч. Час стварэння «Культуры» — гэта вялікі ўздым радасных

надзей, звязаных з аб'яўленнем незалежнасці Беларусі і будаўніцтва сваёй духоўнай прасторы. Нялёгкая гэта была справа для жанчыны, пісьменніцы, якой хацелася больш увагі аддаваць здзяйсненню творчых задум. Але ж і беларускія газеты, часопісы таксама вельмі важныя для рэалізацыі святой справы — беларускай нацыянальнай ідэі, тым больш што для яе ажыццяўлення зноў надыходзілі цяжкія часы. У адным з тагачасных інтэрв'ю Вольга Міхайлаўна згадвала: «Наша выданне з тых, што арганізаваліся ў апошні час. Нам найцяжэй выжываць. Востра стаіць праблема падпісчыкаў. Спрацоўвае прывычка. Людзі, як правіла, падпісваюцца на тое, што яны добра ведаюць. Ды і даражэе ўсё на вачах. У іншых дэмакратычных дзяржавах чым больш газет, тым лепш. А ў нас наадварот, проста нейкая дурная дэмакратыя, якая стварыла такія бізнес-структуры, якія зноў душаць. Няма класа прадпрымальнікаў, які б падтрымліваў прэсу. Вядома, маю на ўвазе беларускую, якую з усіх бакоў заціскаюць рускамоўныя выданні, і няма закону, які б абараняў сваё, нацыянальнае. Трэба, каб нашы парламентарыі прынялі такі закон. Хай бы ўсе, хто займаецца выданнем рускай літаратуры, адлічвалі б з прыбыткаў хаця б дзесяць працэнтаў падаткаў на карысць нацыянальных выданняў. Ва ўсім гэтым радуе адно, што міністэрства культуры і міністр асабіста робяць усё, каб падтрымаць газету ды і беларускую культуру ўвогуле.

У аўтарскім актыве газеты «Культура» шмат людзей, якія імкнуцца праўдзіва расказаць пра нашу гісторыю, пра адметнасць нашых культурных традыцый. У газеце шмат цікавага могуць знайсці для сябе настаўнікі, работнікі ўстаноў культуры. На іх, уласна кажучы, і разлічана наша выданне. Трэба больш дбаць пра свае нацыянальныя інтарэсы...» І пазней з нагоды 10-гадовага юбілею газеты пісьменніца як бы працягвала свае развражанні: «Мне радасна, што многія закладзеныя ў тых першых нумарах нашай новай газеты ідэі ажыццявіліся. Хачу ўзгадаць, што менавіта гэтая газета стала ўпершыню друкаваць невялікія допісы аб гісторыі цудатворных абразоў на Беларусі, артыкулы пра жыццё, чалавечыя якасці і побыт нашых каралёў і вялікіх князёў — і колькі ўжо ўслед за А. Грыцкевічам напісана пра іх! І гэта не здзіўляе — чаму нашы чытачы могуць захапляцца «Праклятымі каралямі» М. Друона і нічагусенькі не ведаць пра сваё?

Не так проста было шукаць і свайго чытача. Нямала паездзілі мы разам з намеснікамі міністра культуры па раёнах, ладзячы сустрэчы з бібліятэкарамі і настаўнікамі, прапагандуючы новае выданне, і як жа

радасна было праз год-два чуць ад іх, што «Культура» дапамагае ім працаваць!..»[1]

Кіруючыся нацыянальнымі інтарэсамі, Вольга Іпатава выконвала і выконвае сваю місію — гістарычнага асветніцтва народа. Яе ўменне працаваць самаахвярна і творча, ствараць свайго кшталту часовыя калектывы аднадумцаў, якія выступалі ў яе тэлеперадачах, друкаваліся на старонках «Спадчыны», «Культуры» і садзейнічала таму, што яны станавіліся такімі змястоўнымі і папулярнымі. Тут не лішнім будзе адзначыць і яе талент красамоўства, прыгожа, складна, нязмушана гаварыць без усялякіх паперак на любую тэму на выдатнай, мілагучнай беларускай мове, як і на рускай, што сведчыць пра яе эрудыцыю, камунікабельнасць, добрае веданне прадмета размовы. Пацверджаннем і прызнаннем усіх гэтых яе здольнасцей, але найперш таго, што яна — жанчына, пісьменніца — усё сваё жыццё мужна і паслядоўна змагаецца за нацыянальнае адраджэнне, стаў той факт, што Вольга Іпатава ў 1998 годзе была абрана намеснікам, а на XIII з'ездзе пісьменнікаў Беларусі і старшынёй старэйшага творчага саюза рэспублікі, на чале якога ў розныя гады стаялі М. Лынькоў, П. Броўка, М. Танк, Я. Брыль, І. Шамякін, Н. Гілевіч, В. Зуёнак і іншыя вядомыя беларускія творцы. І гэта адбылося ў найцяжэйшы, лёсавырашальны час для нацыянальнай ідэі, калі размова ідзе наогул пра выжыванне ўсяго беларускага: самой Беларусі, мовы, гісторыі, традыцый жыцця народа, захаванне яго генафонду, пра выжыванне беларускамоўных часопісаў, газет, кніг, захаванне пісьменніцкай арганізацыі як грамадскай, творчай супольнасці.

Ці варта казаць, наколькі з гэтым абраннем павялічылася розных абавязкаў у Вольгі Іпатавай як старшыні Саюза пісьменнікаў Беларусі і адначасова віцэ-прэзідэнта Канфедэрацыі творчых саюзаў. Гэта шматлікія сустрэчы з чытачамі, літаратурныя вечарыны, пісьменніцкія юбілеі, прэзентацыі кніг, святы паэзіі, паездкі па рэспубліцы і за яе межы (апошнім часам — Сібір, Узбекістан, Азербайджан, Каракалпакія, Літва, Карэлія), выступленні перад самымі рознымі аўдыторыямі, удзел у стаўшых традыцыйнымі святах беларускага пісьменства і друку, напісанні сцэнарыяў для іх. Калі гаварыць пра замежныя паездкі і вандроўкі Вольгі Іпатавай, то іх за апошнія гады адбылося шмат і кожная мела адпаведны творчы вынік. Першы раз за мяжу, у ГДР, яна трапіла ў 1987 годзе як пераможца ўсесаюзнага конкурсу імя М. Горкага за лепшы твор маладога аўтара (кніга «Вецер над стромай»). Як турыстка ў 1990 годзе яна пабывала ў Індыі,

---

[1] Іпатава В. Як яно пачыналася. Культура. 2001. 10-16 лістапада

Непале, Сінгапуры, у Агры аглядала неперасягальны па прыгажосці помнік архітэктуры Тадж-Махал. У 1992 годзе ўдзельнічала ў Днях беларускай культуры ў Нямеччыне (Кіль, Шлезвіг-Гальштэйн). У Германіі, дарэчы, яна была некалькі разоў: у 1993 годзе вучылася на курсах нямецкай мовы ад Гётэ-інстытута, які дзейнічае ў Менску, у 1996-1998 гадах аб'ехала многія нямецкія гарады: Берлін, Гайдэльберг, Ляймэн, дзе знаходзіцца беларускі музей, заснаваны беларускім пісьменнікам Ю. Попкам (Ю. Жывіца) з дапамогай славутага вучонага, таксама беларускага эмігранта, Барыса Кіта. Ён, як і Вольга Іпатава, паходзіць з Карэліччыны. Дарэчы, Барыс Кіт, змушаны пакінуць Бацькаўшчыну ў 1944 годзе, жыў у ЗША, працаваў у амерыканскіх касмічных даследваннях (у 1939 годзе ён скончыў фізічна-матэматычны факультэт Віленскага універсітэта імя Стэфана Баторыя, быў настаўнікам матэматыкі і дырэктарам Віленскай, пазней Наваградскай беларускіх гімназіяў), стаў адным з вынаходнікаў касмічнага паліва, акадэмікам Міжнароднай акадэміі астранаўтыкі, сябрам многіх еўрапейскіх навуковых таварыстваў, прафесарам Вашынгтонскага, Мэрылендскага універсітэта і яго еўрапейскіх філіялаў, чытаў лекцыі ў многіх універсітэтах Еўропы, Індыі, Японіі. З 1972 года ён жыве ў Франкфурце-на-Майне, пераехаў бліжэй да радзімы, каб па магчымасці дапамагаць яе нацыянальнаму адраджэнню. У Франкфурце і адбылося знаёмства Барыса Уладзіміравіча Кіта і Вольгі Іпатавай (1993). Гэтай падзеі яна прысвяціла выдатны верш «Настаўнік», адчуўшы шчырую прыязнасць да гэтага высакароднага, сусветна вядомага чалавека, духоўную блізкасць, якая ўзнікае на грунце агульнай любові да Радзімы. Духоўнай блізкасцю і ўзаемнай прыхільнасцю пазначана было і знаёмства Барыса Кіта з Васілём Быкавым. Бог даў сустрэцца і пасябраваць двум вялікім беларусам таксама ў Франкфурце-на-Майне, дзе жыў Васіль Быкаў больш за год (2001-2002) і дзе былі створаны «Аповя- ды Барыса Кіта ў запісах Васіля Быкава» (апублікаваны ў «Полымі». 2002. № 3-4). Кожным разам, калі Вольга Іпатава была ў Германіі, яна наведвала Франкфурт, дзе, дарэчы, з 1996 года стажыраваўся ў адным з медыцынскіх цэнтраў і абараняў дысертацыю яе сын Руслан, яна заўсёды сустракалася з Барысам Кітам. Вынікам гэтых паездак і сустрэч з'явіліся яе артыкулы і выдатныя вершы пра нашага знакамітага вучонага (акрамя верша «Настаўнік» былі напісаны наступныя: «Вяртанне», «У полі ён не адзін», «На зямлі тэўтонаў», «Барысу Уладзіміравічу Кіту»), а таксама нарыс «Постаць Барыса Кіта вачамі яго сучаснікаў» і аповесць «Сведка стагоддзя» (пачатак друкаваўся ў газеце «Голас Радзімы», 2000 год, цалкам аповесць яшчэ не завершана). Пісьменніцай

быў напісаны і цыкл нарысаў пра сустрэчы з немцамі, зробленыя тэлеперадачы пра Ляймэн, што, да слова, знаходзіцца непадалёку ад Франкфурта-на-Майне, а таксама актывістаў магістрата горада, якія апякуюцца беларускім музеем. Дарэчы, Ляймэн пры спрыянні Барыса Кіта стаў пабрацімам Наваградка, а прадстаўнічая дэлегацыя ляймэнцаў, якую суправаджала Вольга Іпатава па іх прыездзе на Беларусь, не раз пабывала ў Наваградку, аказвала гораду гуманітарную дапамогу. Падчас наведання Барысам Уладзіміравічам Бацькаўшчыны, пасля паўвекавой адсутнасці, Вольга Іпатава разам са сваім славутым земляком ездзіла ў Карэлічы (тут Барыс Кіт пабываў на магіле бацькі), у Навагрupадак, які прысвоіў яму званне ганаровага грамадзяніна горада, а таксама ў Гродна, дзе Гродзенскі універсітэт імя Янкі Купалы прысвоіў Барысу Кіту званне ганаровага доктара навук.

Працавала Вольга Іпатава і падчас сваёй паездкі ў ЗША (як адзначалася вышэй, ёю было створана 12 тэлеперадач «Беларусы ў Амерыцы»). Дзеля напісання рамана «Залатая жрыца Ашвінаў» яна пабывала ў Грэцыі, Афінах (1995), у Стамбуле (Турцыя, 1997).

І нарэшце «Літэкспрэс» — 2000 год — выступленні ў Лісабоне, Мадрыдзе, Парыжы, на ЭКСПО-2000 у Гановеры, знаёмства з многімі сусветна вядомымі пісьменнікамі, якія бралі ўдзел у «Літэкспрэсе», арганізацыя іх сустрэчы з чытачамі ў Менску. Цікавай і выніковай была паездка ў Балгарыю (кастрычнік 2001 года) па ініцыятыве нашага пасольства ў Балгарыі. Праграма была вельмі напружанай. Вольга Іпатава выступала з лекцыяй у Сафійскім універсітэце, удзельнічала ў стварэнні таварыства «Беларусь-Балгарыя» ў г. Враца, у вечарах паэзіі ў Карлаве і Велінградзе і сустрэчах у мэрыях гэтых абшчын. Брала таксама ўдзел у розных беларускіх мерапрыемствах, такіх, як адкрыццё плошчы ў гонар нашага горада Баранавічы ў абшчыне Карлава, у святце бульбы ў г. Клісуры, наведала разам з беларускім паслом беларускую аздараўленчую школу ў Велінградзе. У праграме была і прэзентацыя зборніка перакладаў з беларускай паэзіі Найдзена Вылчава — выдатнага балгарскага паэта і перакладчыка, які быў у 2000 годзе ўзнагароджаны медалём Ф. Скарыны. На прэзентацыю ў гарадскую бібліятэку прыйшло шмат людзей, гучалі вершы лаўрэата Міжнароднай прэміі імя Хрыста Боцева народнага паэта Беларусі Ніла Гілевіча, Анатоля Вярцінскага, Генадзя Бураўкіна, Яўгеніі Янішчыц, чытала свае вершы і Вольга Іпатава. Затым яна разам з балгарскімі паэтамі Найдзенам Вылчавым і Стэфанам Паптоневым пабывала ў мясцінах Хрыста Боцева, у славутых балгарскіх манастырах, у фракійскім старажытным свяцілішчы ў Стараселе. Вынікам

гэтай паездкі было падпісанне дамовы з Саюзам пісьменнікаў Балгарыі аб супрацоўніцтве.

Усюды, дзе б ні пабывала, што б ні рабіла Вольга Іпатава, — яе вяла высокая ідэя служэння Радзіме, імкненне адстойваць неацэнныя маральныя каштоўнасці продкаў. Усё гэта надае ёй сілы жыць і змагацца і сёння, у адзін з пераломных момантаў жыцця нашага народа. Калі пісьменніцы падчас шматлікіх сустрэч з чытачамі, асабліва з моладзю, задаюць пытанне, што яе турбуе сёння, яна звычайна адказвае: «Турбуе многае — ці застанецца Беларусь суверэннай? Ці выжыве ва ўмовах няўвагі і непавагі, уплыву больш магутнай дзяржавы наша цудоўная мова, ці вытрымае цяжар выпрабаванняў нацыя, чые сілы падарваныя Чарнобылем і якая з кожным годам няўхільна скарачаецца? Ці змогуць аб'яднацца ў імя будучыні сілы, што зараз катастрафічна раз'яднаныя? Ці патрэбная будзе беларуская літаратура нашым нашчадкам, ці ўсё, што ў пакутах, ахвярах было напрацавана і з любоўю пакладзена ў духоўную скарбніцу жыцця, згіне без следу, як знікалі некуды ў бездань мястэчкі і гарады, чые званы і сёння гучаць толькі ў легендах?

З гэтымі думкамі я прыйшла ў Саюз беларускіх пісьменнікаў, які для мяне, нягледзячы ні на што, застаецца нейкім нябачным, але вельмі адчувальным згусткам духоўнай энергіі і любові да Беларусі, які нельга затаптаць ці папросту знішчыць. Жорсткі час, у які мы жывём, мяняе ўсё вакол, мяняемся мы самі, і, магчыма, праз колькі часу наш агульны асяродак стане нейкім іншым. Таленавітая і напорыстая моладзь, якая сюды ідзе, зарукай таму, што засталася яшчэ тая прыцягальная сіла, якую назапасілі Максім Танк, Пімен Панчанка, Іван Мележ, Аркадзь Куляшоў ды і дзесяткі іншых творцаў, якіх няма сярод нас, але на якіх забывацца мы проста не маем права...

Для мяне сёння пасада старшыні Саюза пісьменнікаў, якую дасюль займалі толькі пісьменнікі-мужчыны, — перш за ўсё работа і адказнасць, а яны мала адрозніваюцца ад тых, якія былі раней, калі я выконвала старшынёўскія абавязкі. Змянілася хіба тое, што цяпер справы пісьменніцкай арганізацыі даверылі канкрэтна мне. І адна з галоўных праблем, якая мяне найбольш хвалюе, — узаемадачыненні пісьменніка і грамадства. Гэта значыць — наколькі грамадства ўспрымае сёння літаратуру ўвогуле і беларускую літаратуру ў прыватнасці, наколькі ўспрымае літаратуру ўлада, наколькі сам пісьменнік успрымае рэаліі сённяшняга жыцця. Напрыклад, ва ўзаемінах літаратуры і ўлады непачаты край работы...

Кажуць, беларускую кнігу мала чытаюць. Што ж, калі чалавек скончыў рускую школу, то яму сапраўды цяжка чытаць на беларускай

мове. Таму мы зноў і зноў будзем гаварыць пра тое, што для захавання нацыі патрэбна, каб народ сваю мову не страціў. Спадзяюся, улады нарэшце зразумеюць, што нам трэба трымацца за сваю незалежнасць, што мы можам сябраваць колькі заўгодна з Расіяй, маючы сваю мову, сваю нацыянальную школу. Прынамсі, пра гэта клапоцяцца ўсе краіны свету. Пуцін, наколькі я ведаю, уваходзіць у камісію па выратаванні рускай мовы. Ёй таксама пагражае засмечванне, уніфікацыя. Што ўжо казаць пра нашу? Калі мы ўжо раўняемся на Маскву, то давайце браць у яе добрыя прыклады, асабліва сённяшняе вяртанне да нацыянальнай ідэі. Беларускія літаратары на сённяшні дзень у грамадстве бадай што адзіныя ахоўнікі нацыянальнага суверэнітэту і нацыянальнай душы, не толькі таму, што ў большасці сваёй пішуць і друкуюцца на роднай мове. Сапраўды, з 505 сяброў Саюза дзесьці 50 пішуць на рускай мове. А большасць ствараюць мастацкія творы на беларускай мове не таму, што не ведаюць рускай. А таму, што менавіта так могуць настроіць сваю душу на тое, што праз іх усё яшчэ выказвае наша беларуская зямля. Нават размаўляючы на рускай мове, мы не можам стаць рускімі, у нас іншы менталітэт. Неабходна дакладна і ясна вызначыць моўную і нацыянальную палітыку дзяржавы. Зайдзіце ў крамы нашых мястэчак і вёсак. Там амаль няма беларускіх кніг. Няўжо грамадскасць па выпуску кожнай кнігі кожнага пісьменніка павінна ісці ў адказныя за гэта ўстановы ці рабіць заявы? Мне здаецца, што ўжо даўно трэба ўводзіць ва ўрад у якасці дарадчыкаў інтэлектуалаў... І зразумела, чаму з'яўляюцца нейкія скажоныя звесткі пра Саюз пісьменнікаў, пра моўную сітуацыю. Несумленна прыхарошваць сітуацыю, якая з'яўляецца сапраўды трагічнай. Улада болей ведае пра эканамічную сітуацыю. А пісьменнікі болей ведаюць народную душу...

Нарэшце, непакояць пытанні сацыяльнай абароны пісьменнікаў. Апошнія гады я вельмі ўважліва вывучала вопыт розных краін на гэты конт. Разумею, што няма ў нас сёння матэрыяльнай магчымасці, каб, надаючы тым ці іншым пісьменнікам свайго кшталту званне «гонар нацыі», выплачваць ім штомесяц прыкладна 2 тысячы долараў, як гэта робіцца ў Швецыі. Напрыклад, у Ноўгарадзе ўсім сябрам пісьменніцкай суполкі дзяржава выплачвае па 250 рублёў. Сума, вядома, сімвалічная, але яна доказ таму, што ў сённяшніх умовах Расійскай Федэрацыі пра пісьменнікаў помняць. У нас таксама трэба нешта шукаць. Я прапанавала б ураду вызначыць пэўную колькасць заслужаных пісьменнікаў, магчыма, з тых, якім ужо за 70 гадоў, і прызначыць ім пенсію.

Няхай не ў шведскіх памерах, але даць ім адчуць, што імі ганарыцца нацыя. Справа нават не ў грошах, хоць і яны не залішнія. Гэта важна для нацыі, яна як бы сплачвае даўгі людзям, якія аддана працавалі для яе і дзеля яе. Зрэшты, хвалюючых праблем нямала...»

Зразумела, цяжка адразу вызначыць усе праблемы, якія паўстаюць перад Вольгай Іпатавай — старшынёй Саюза пісьменнікаў, асабліва ў сённяшняй Беларусі. І калі ў многіх інтэрв'ю ёй задаюць пытанне, ці перашкаджаюць шматлікія абавязкі яе ўласнай творчасці, яна адказвае: «Я думаю, што адно другому перашкаджаць не будзе, а нават наадварот. Я ўжо была вольным мастаком. Вольнае пісьменніцкае жыццё часам і расхалоджвае, цяжка бывае сабрацца «ў камяк» і ўсесціся за працу, за пісьмовы стол. Не ведаю, як хто, а я для гэтага павінна быць у стане сабранасці. Праца ў Саюзе гэтаму якраз спрыяе — арганізуе, канцэнтруе мой творчы, чалавечы, грамадзянскі патэнцыял. Наогул, сімвал жыцця для мяне — гэта праца. Я адчуваю задавальненне ад жыцця, калі ўвечары магу прыгадаць, што сёння нешта карыснае зрабіла ці некаму змагла дапамагчы...»[1]

Вядома ўсё ж, для кожнага пісьменніка галоўнае — творчасць. Не спыняецца, нягледзячы ні на што, творчае гарэнне Вольгі Іпатавай. Апошнія гады яна піша шмат, па-ранейшаму звяртаючыся да паэзіі, прозы, публіцыстыкі, аддаючы перавагу празаічнаму жанру.

## ГІСТАРЫЧНАЯ ПРОЗА

І усё ж галоўная творчая ўдача Іпатавай-празаіка — яе гістарычныя аповесці і раманы. Цікавасць, вялікая любоў і прыхільнасць пісьменніцы да гісторыі, імкненне раскрыць перад чытачом яе невядомыя старонкі тлумачыцца многімі прычынамі. Найперш вялікае значэнне, як ужо адзначалася, мела тое, што нарадзілася яна ў старажытным Міры, які стаў той пуцяводнай зоркай, што павяла будучую пісьменніцу ў свет далёкай мінуўшчыны. Ды і выхаванне ў дзіцячым доме выклікала патрэбу даведацца пра свае карані, пра родных, пазней наогул пра беларускіх продкаў, сіла якіх давала і пісьменніцы быць моцнай духам. Як адзначае сама Вольга Міхайлаўна, гэтая яе цікавасць да спадчыны жывілася і праз людзей: «Тры жаночыя імені для мяне святыя: мама мая Марыя, бабулі — была адна Вольга, а другая — Еўфрасіння. Мяне назвалі ў гонар мамінай мамы, але імя Еўфрасіння тым не менш засталося ўва мне і са мной як

[1] 24 верасня 2002 г. на XIV нечарговым з'ездзе Саюза пісьменнікаў па рэкамендацыі Вольгі Міхайлаўны быў абраны на гэтую пасаду Алесь Пашкевіч.

сакральнае. І першая мая празаічная рэч была прысвечана якраз Еўфрасінні Полацкай. Так што імя Багародзіцы — Марыя, імёны дзвюх святых (Вольгі і Еўфрасінні) усё жыццё пры мне. Яны — як тры жаночыя постаці нада мной.

Над маім жыццём, над маім лёсам. Я іх заўсёды адчуваю...»

І яшчэ пісьменніца згадвае цікавыя моманты з уласнай біяграфіі, як адкрывала самой сабе імёны, кнігі, наогул гістарычныя веды, якія ў савецкія часы не давала нават універсітэцкая адукацыя, аб сапраўдных падзеях беларускай мінуўшчыны: «З таго часу як я напісала пра Еўфрасінню Полацкую — з ёй у маім жыцці звязаны проста містычныя рэчы. Як, напрыклад, тое, што я даведалася пра яе сама ўпершыню, прыехаўшы ў Каўнас купіць туфлі (тады пачала працаваць на Гродзенскім тэлебачанні, трэба было выглядаць прыстойна). А крама была зачыненая на абед, таму я заглянула ў букіністычную. Там убачыла вялікую кніжку Ластоўскага «Гісторыя беларуска-крыўскай кнігі». І калі яе тарганула (што за кніга? што за Ластоўскі, пра якога я нічога не ведаю?), то яна адкрылася якраз на выяве Еўфрасінні Полацкай. Я памятаю сваё здзіўленне: Полацкая? Значыць, з Полацка? А чаму я пра яе не ведаю? Я пра яе даведаюся! Гэта быў містычны момант. Дадому я вярталася з той кніжкай, але без абутку (туфлі, як і кніжка, каштавалі 50 рублёў). Гэтая кніжка, дарэчы, і цяпер у мяне ёсць. Потым я даведалася, што мастак з Баранавіч зрабіў цудоўны габелен «Еўфрасіння Полацкая». Але гэты габелен Полацкі музей у яго не купіў, і твор дастаўся мне. Праўда, мастак прадаў мне яго за меншую цану. Чаму Еўфрасіння прыйшла да мяне?

Былі і іншыя выпадкі, сітуацыі, якія надавалі ўпэўненасці: мяне па жыцці вядзе Еўфрасіння Полацкая... Я звярталася да яе ў цяжкіх сітуацыях, і дапамога прыходзіла. Як гэта адбывалася? Сама сітуацыя рабілася як бы лягчэйшай і неяк так усё складвалася, што беспрасвецце разыходзілася. Часам мы кажам: не шанцуе. Пераследуе адзінота... А можна паглядзець на гэта і як на стан богапакінутасці. Гэта цяжкі стан. Як мне падаецца, кожны з нас мае нябесных заступнікаў, і здараецца, што яны ад нас па нейкіх прычынах адыходзяць, і пустэча вакол. Свет вакол нібы мёртвы. Дык вось, гэты стан, я лічу, — самае страшнае для чалавека. Мы ўвесь час павінны адчуваць, што свет цёплы, што ён поўны, што мы не адзінокія ў гэтым свеце... А калі я пісала «Прадыславу», былі і падчас працы цікавыя моманты. Напрыклад, я не ведала, як жа Еўфрасіння адправілася ў Ерусалім, трэба было шукаць пра гэта нейкія матэрыялы, звесткі. Але разумела, што ў бібліятэцы наўрад ці што знойдзеш. Што ж мне рабіць? І вось неяк раніцай уключаю радыёстанцыю «Свабода» ў 6 гадзін, а там —

перадача пра Еўфрасінню Полацкую, і якраз пра той адрэзак яе жыцця, які мне патрэбен. Як гэта назавеш? І такія «падказкі» мне ішлі пастаянна. У дзённіках, калі пагартаць, я запісваю нямала такіх супадзенняў. З вышыні сённяшняга досведу за ўсім гэтым можна разгледзець тонкую сувязь з наасферай Зямлі, яе энерга-інфармацыйным полем. Калі такі знак вышэйшай дапамогі, нейчай вышэйшай прысутнасці прыходзіць, то адчуваеш такое натхненне, такія сілы, якія да цябе ў звычайным стане проста не могуць прыйсці... І, нягледзячы на трагічнасць нашай гісторыі, усё-такі мы, як народ, таксама атрымліваем ад продкаў той аптымістычны імпульс, які, мне здаецца, цяпер нам вельмі патрэбны. Як увогуле патрэбны кожнаму народу. Але нам на сённяшнім этапе станаўлення асабліва.

Чаму мы сёння так многа гаворым пра гісторыю? Таму што мы бачым, што сённяшняе становішча беларуса як бы «перакошанае». Калі мы стаім не на галаве, дык мы стаім дзе-небудзь «на плячы». І нашыя ногі, па сутнасці, не ходзяць.

Мы ведаем, што калі, скажам, энергетычны баланс у чалавека не ўраўнаважаны, у яго пачынаюцца шматлікія «перакосы», хваробы — ад ангіны да нефрыту. І як яго ні лячы — усё не так, усё не гэтак. Дык вось у мяне такое ўражанне, што ў нас таксама «ўсё не так». А сэнс нашых высілкаў такі: жыць паводе законаў космасу, каб энергія нашага мінулага ішла у наш народны арганізм нармальна. І тады мы будзем прымаць, як мне здаецца, сапраўды дзейсныя рашэнні на палітычным узроўні, на эканамічным, зыходзячы з інтарэсаў сваёй нацыі. Таму што кожны ўрад перш за ўсё пра сваю дзяржаву клапоціцца. Гэта тыя ісціны, пра якія мы павінны казаць...»

І галоўнае, пісьменніца добра разумела, якую велізарную ролю для краіны, што імкнулася да адраджэння і незалежнасці ад усялякіх акупантаў, мелі гістарычныя веды, і найперш гістарычныя мастацкія творы, якія павінны канцэнтраваць у сабе лепшыя нацыянальныя традыцыі і здабыткі дзеля прасвятлення грамадскага і духоўнага ўсведамлення народа, дзеля ўзмацнення нацыянальна-патрыятычнай свядомасці.

Вось такім глыбінным разуменнем важнасці гістарычных ведаў для вырашэння розных праблем сучаснага і будучага жыцця народа кіруецца ў сваёй творчасці Вольга Іпатава. Яе гістарычныя раманы і аповесці нясуць не толькі багатую інфармацыю, але выхоўваюць і абуджаюць, нагадваюць, што мы — нармальны паводле гістарычнай спадчыны народ, што беларусы гістарычна і духоўна цвёрда стаяць на зямлі, маючы сваю мову, культуру, нацыянальныя традыцыі.

І пачынала яна пісаць, калі ў нас былі ўжо шырока вядомыя і папулярныя творы Уладзіміра Караткевіча, якога пісьменніца лічыць адным са сваіх настаўнікаў: «Як усе, я захаплялася ягонымі творамі, а выхад рамана «Каласы пад сярпом тваім» стаў для мяне, як і для многіх іншых, сапраўдным святам душы, — узгадвае яна. — А самымі галоўнымі — ягоныя запаветы, выказаныя ў інтэрв'ю ці эсэ, аб тым, што народ павінен прайсці праз стадыю гістарычнага рамантызму, каб спакойна ісці далей, любячы сваё мінулае. Пакуль жа свайго мінулага мы не ведаем. А таму многім і не шкада ад яго адмаўляцца. Вось чаму я пішу цяпер гістарычную прозу. Апроч таго, што я ад усяе душы люблю гісторыю свайго народа, як і ўвогуле гісторыю чалавецтва, лічу, што якраз там, у пластах часу, лягчэй знайсці тыя ўзоры для захаплення і служэння сваёй Бацькаўшчыне, якія змогуць даць духоўную сілу сённяшнім людзям, якія літаральна ахутаныя чорным воблакам антыдухоўнасці і разбурэння спрадвечных чалавечых ідэалаў...»

Відаць, быў сапраўды нейкі знак лёсу ў тым, што Вольга Іпатава свой першы празаічны твор на гістарычную тэму прысвяціла святой Еўфрасінні Полацкай — жанчыне-асветніцы (а гэта якраз тое, чым усё жыццё яна займаецца сама), апякунцы нацыі, якая цяпер нябачна прысутнічае ў духоўным свеце пісьменніцы. Гэта быў адначасова зварот і да хрысціянскіх матываў, наогул веравызнанняў беларусаў, якія больш грунтоўна раскрываюцца ў аповесці «Агонь у жылах крэменю» і асабліва ў пазнейшым рамане «Залатая жрыца Ашвінаў».

Калі сёння ўважліва перачытаць «Прадыславу» ў кантэксце ўсёй творчасці Вольгі Іпатавай, то адчуваецца, што гэтая аповесць сталася тым грунтам, на якім будаваліся наступныя гістарычныя рэчы пісьменніцы. Яны звязаны паміж сабой не столькі тэматычна, колькі ўзнятымі праблемамі, глыбіннай філасофіяй, роздумам аўтара над цеснай повяззю часоў. Жыццё Святой Еўфрасінні, можна сказаць, пададзена ў творы пункцірна, без асаблівай заглыбленасці ў падзейны бок. Згадваюцца толькі асноўныя моманты з яе асабістага жыцця і пазнейшай дзейнасці — ад маладых гадоў (у доме бацькі, князя Георгія, малодшага сына Усяслава Чарадзея, калі яна захаплялася кнігамі, філасофіяй Платона і Арыстоцеля, рэлігійнымі вершамі-гімнамі Рыгора Назіанзіна, Іаана Дамаскіна, перажывала першае і адзінае каханне) — і да апошняга смяротнага часу, што напаткаў яе ў Ерусаліме. А паміж гэтымі перыядамі жыцця — дзейнасць Святой Еўфрасінні ў Полацку. На гэтых старонках больш падрабязна расказваецца пра таленавітых мастакоў — Іаана — архітэктара-будаўніка першага храма на тэрыторыі манастыра, які намаляваў першы

іканапісны паргрэт-абраз Святой Еўфрасінні, і Лазара Богшу — стваральніка славутага Крыжа.

У сваіх гістарычных творах не абышла ўвагай пісьменніца і малавядомыя, але важныя факты з жыцця Прадыславы-Еўфрасінні і полацкіх князёў (верш «Выгнанне полацкіх князёў у Візантыю. Год 1129»), А з аповесці «Прадыслава» мы даведваемся, праз успаміны галоўнай гераіні, пра такі цікавы гістарычны факт, як хрышчэнне ігуменняй Еўфрасінняй дзвюх дзяўчынак, якіх па жаданні бацькоў назвалі таксама Еўфрасіннямі. Адна з іх — дачка Галіцкага князя Яраслава Асмамысла, у будучым славутая Яраслаўна, гераіня «Слова пра паход Ігаравы», жонка князя Ігара, другая — дачка стрыечнага брата Еўфрасінні, Рагвалода Барысавіча, які, вярнуўшыся з выгнання ў Візантыю, стаў княжыць у Полацку. Гэтая дзяўчынка стане пасля княгіняй Пскоўскай, а затым ігуменняй Пскоўскага манастыра, якую пскавічы кананізуюць і праслаўяць як Пскоўскую святую.

Аднак акрамя гэтых падзей самае галоўнае для пісьменніцы ў «Прадыславе» — раскрыць багаты ўнутраны свет сваёй незвычайнай гераіні, паказаць моц духу і розуму жанчыны-прарочыцы, здольнай узняцца над сваім часам, аналізаваць яго сутнасць, жыццё людзей, задумацца над вечным і часовым. Ужо сам пачатак твора, эмацыйна захапляючы чытача паэтычнай сітуацыяй чыстага светлага кахання князёўны-хрысціянкі і простага смерда-язычніка, завязаны на многіх складаных пытаннях, якія потым будуць няўхільна паўставаць перад героямі ў розныя перыяды жыцця. Гэта тая атмасфера эпохі, з якой несла нашчадкам свае запаветы, роздум, пачуцці, сумненні Прадыслава-Еўфрасіння. Што такое вечнасць і чалавечае жыццё, каханне і служэнне Богу, свабода чалавека і ўлада, жывая прырода (з якой атаясамлівалася язычніцтва) і хрысціянства? У чым сутнасць жыцця наогул — вышынях духу ці зямных спакусах? І як зрабіць, каб перамагалі дабрыня, спагада, сумленне, годнасць і гонар, талент і натхненне, вернасць запаветам бацькоў і зямлі, на якой вырас, а не злосць, нянавісць, варожасць, здрада, зайздрасць, войны і беднасць? Як давесці зямным валадарам і царкоўным пастырам, што ўлада і вера — гэта не жорсткае, прымусовае насаджэнне страху, раз'яднанасці, не кроў і вынішчэнне іншадумцаў, а ўменне пераконваць сілай слова, высокай духоўнасцю і самаадданым служэннем народу? Можа, дзеля гэтага варта было ахвяраваць каханнем, зямным жаночым шчасцем і несці людзям вечна жывы дух мудрасці, які застаўся ў кнігах, у словах, што перажываюць вякі, вучаць дабрыні і справядлівасці, паказваюць шлях з духоўнай цемры, а не думаць пра тленнасць, хуткаплыннасць чалавечага веку? Усе гэтыя і многія іншыя

праблемы духоўнасці, якімі жыла Прадыслава-Еўфрасіння, з'яўляюцца надзённымі ва ўсе часы і таму кожная з іх у той або іншай глыбіннай аснове знаходзіла сваё раскрыццё ў наступных творах Вольгі Іпатавай гістарычнай тэматыкі.

## АГОНЬ У ЖЫЛАХ КРЭМЕНЮ

Да балюча-актуальных у мінулым і сучасным жыцці беларусаў праблем веравызнання і лучнасці нацыі пісьменніца звяртаецца ў аповесці «Агонь у жылах крэменю», напісанай у 1989 годзе. Аповесць адлюстроўвае тыя моманты ў існаванні Вялікага Княства Літоўскага, калі для яго з боку Рэчы Паспалітай пачала паўставаць небяспека паланізацыі, калі разгарнулі сваю дзейнасць езуіты з мэтай прымусовага акаталічвання насельніцтва. Вядома, у аснову твора, як, да слова, і іншых гістарычных рэчаў, пакладзены дасканала вывучаныя дакументы і матэрыялы, аднак тут выразна адчуваецца і ўласнааўтарскае бачанне, разуменне гэтых складаных праблем з гледзішча дня сённяшняга. Такая трактоўка цалкам прыймальная для чытача, бо яна грунтуецца на тых гуманістычных пазіцыях, што ідуць ад хрысціянскіх запаветаў Святой Еўфрасінні. Свае погляды наконт гэтых няпростых пытанняў Вольга Іпатава выказвае ў адным з інтэрв'ю (часопіс «Беларусь». 2001. № 1): «Мы ведаем: да 1054 года хрысціянская Царква была адна, да таго часу былі разам каталіцызм і праваслаўе. Так, сёння гэтыя абрады адрозніваюцца, але не настолькі, каб сеяць паміж каталікамі і праваслаўнымі варожасць. Тым больш на Беларусі, дзе ўсё перамяшалася, дзе акрамя іх ёсць яшчэ і уніяты, і пратэстанты, і мусульмане, і іудзеі. Таму я рэзка супраць такой артадаксальнасці, якая распальвае варожасць. Дарэчы, у гэтым праве выбіраць сваю веру і ёсць адно з праяўленняў свабоды чалавека, якая дадзена яму ўсявышнім. Ніхто не мае права прымушаць дарослага чалавека верыць ці не верыць — гэта права нашага выбару... Мне здаецца, што размовы пра веравызнанні павінны быць добразычлівымі, ласкавымі, а не агрэсіўнымі. Трэба вучыцца даказваць сваю правату не зброяй, а любоўю. Бо колькі ўжо было рэлігійных войнаў, колькі награшыла чалавецтва! Колькі было нянавісці ў імя любові! Але хіба патрэбна ўсявышняму такая любоў, што спараджае нянавісць і чалавечыя ахвяры? «Кроў за кроў» — гэта грубы язычніцкі светапогляд, а былі ж і такія язычнікі, якія па сваіх перакананнях набліжаліся да хрысціянскай ідэі: Бог ёсць Любоў... Увогуле жыццё нельгаператвараць у суцэльны ланцуг нейкіх абавязкаў, абрадаў, фармальнасцяў. Любая справа толькі тады нечага вартая, калі за ёй стаіць

гарачае, жывое пачуццё. Як царкве зберагчы веру жывую? Мы, вернікі, усе павінны над гэтым задумвацца — не толькі святары. На мой погляд, усё ажыўляе толькі любоў. У змаганні за душы не павінна быць нянавісці, злосці, нейкіх «паходаў супраць ерэтыкоў» на чале з прававернымі бацюшкамі... Мяне насцярожвае, што ў некаторых вучэннях, якія цяпер спрабуюць пранікнуць у інтэлігентнае асяроддзе, як бы адсоўваецца ў бок любоў. І адсутнасць гэтага «элемента» робіць усю сістэму халоднай, выхалашчанай. Чалавек, які «прымервае» новыя погляды на сябе, становіцца халодным. Яго ўвага скіравана толькі на сябе і на Бога, а што вакол робіцца — яму ўсё роўна. Таму я заўсёды пытаюся ў тых, хто «знайшоў» сваё: а дзе ў гэтай сістэме месца любові? Ці ёсць месца там сям'і, тваім блізкім? І чаму ў імя нейкага бога (ці невядома каго) трэба, напрыклад, жонцы альбо мужу адмаўляцца ад шлюбнага ложа? Хрысціянства сцвярджае: твой муж (ці твая жонка) табе Богам дадзены. А што гэта за бясполыя браты і сёстры?..

Свет, у якім няма любові (я любоў разумею шырока: да дзіцяці, да сябра, да няшчаснага чалавека) — гэта не для мяне. Мяне трымае і радуе ў хрысціянскім свеце тое, што там месца любові ёсць... Мой якар у веры кінуты, вера мая ад бабулі Вольгі і ніякіх тут не можа быць хістанняў і нават гаворак... Я ўспрымаю хрысціянства на сваім жыццёвым узроўні, на маіх рэаліях — і яно мне блізкае. Я звяртаюся часам і да тыбецкай філасофіі, і да поглядаў іншых рэлігій, але малiцца хаджу ў праваслаўны храм... Я вельмі цаню нашых праваслаўных святароў, якія спрабуюць прамаўляць у храмах па-беларуску. Я паважаю тых, хто спрабуе праз многія цяжкасці весці беларускае слова ў Царкве. З Богам можна гаварыць на любой мове, любая мова ад Яго, мова не павінна быць мяжой на шляху да веры... Безумоўна, пытанне мовы ў Царкве за адзін год не вырашыш. Але, на мой погляд, праваслаўная Царква вымушана будзе рабіць крокі ў гэтым накірунку. Ужо сёння нішто (акрамя, вядома, «суб'ектыўнага фактару» — асобы свяшчэнніка) не перашкаджае гаварыць казанні ў Царкве па-беларуску...

Наконт ідэі яднання ўсіх хрысціянаў свету — то можа і лепш абысціся без яднання царкоўных структур, толькі б цэрквы не страўлівалі людзей. Бо гаварыць, што наша вера лепшая, больш правільная, а тая кепская — гэта, напэўна, блазнерства. Гэта — барацьба за душы. А яна павінна быць — за канкрэтную душу, за тое, каб яна, душа, не стала агрэсіўнай, ваяўнічай, «горделивой»... Так, хтосьці прызнае іконы, хтосьці не — але гэта не павінна быць падставай, каб зневажаць і нават забіваць адзін аднаго. У хрысціянскім свеце ёсць

месца для дыялога, дыскусіі, але няма месца для барацьбы паміж сабой. Бо мы сёння жывём у вельмі неспакойным, крохкім свеце... Так, я большая прыхільніца яднання хрысціянаў на міжасабовым (а не на структурным) узроўні. Зямля — адна, маленькая, ёсць і мая там дзялянка, мой эгрэгар хрысціянскі, як цяпер кажуць. І я не хачу ўнутры гэтага хрысціянскага свету сеяць варожасць, весці барацьбу. Ёсць у вас ваша дзялянка, лічыце вы яе лепшай за маю — і дай вам Бог. Але і нам, з рознымі дзялянкамі, лепш жыць у міры... І ў пісьменніцкай працы важна не толькі пра што, але і як пісаць. Не кожны, хто піша на хрысціянскія тэмы, п'е з жывой крыніцы пачуцця...»

Творы Вольгі Іпатавай гістарычнай тэматыкі таму і чытаюцца з цікавасцю, захапленнем, што адухоўлены жывой крыніцай пачуцця, душэўнай неабыякавасцю аўтара да самых розных праблем. Даследчыцкі плён, пэўна вызначаныя ўласныя погляды на такую, здавалася б, далёкую ад мастацкасці праблему, як розныя рэлігійныя веравызнанні, што абумовілі нацыянальны нігілізм, увасобленыя ў аповесці «Агонь у жылах крэменю» ў жывыя, запамінальныя вобразы, а не схематычныя іх адлюстраванні, сцэны, сітуацыі. Ужо сам пачатак твора, жудасная сцэна пакарання сялянскай праваслаўнай сям'і паняй-каталічкай выклікае ў нас пачуццё моцнага суперажывання і, галоўнае, абуджае пратэст супраць нянавісці, злосці, насілля над чалавекам іншай веры. З першых старонак аповесці мы як бы ўключаемся ў трагічныя падзеі, што адбываюцца ў лёсе галоўных герояў, — спачатку дзяцей — зусім малога Алеські і васьмігадовага Янкі (а потым дарослых), якія, застаўшыся без бацькоў, закатаваных за сваю веру, трапляюць у рознае асяроддзе: Янка прыжываецца ў сялянскай сям'і, Алеся падбірае на дарозе, каля мёртвай маці, езуіцкі прапаведнік Пётр Скарга, які разам з Львом Сапегам кіраваўся, на загад караля, з Вільні ў Полацак для інспектавання езуіцкай калегіі. На грудзях гэтых спакутаваных дзяцей былі выпалены каталіцкія крыжы...

Такая завязка твора як бы падрыхтоўвае чытача для ўспрыняцця асноўных падзей, якія адбываюцца ў 1629 годзе. Гэта быў той час, калі пачынаўся заняпад Вялікага Княства Літоўскага, час імклівага распаўсюджвання каталіцтва, якому, жадаючы захаваць народ і краіну, як маглі, супрацьстаялі праваслаўныя брацтвы. Але галоўнае для аўтара — на канкрэтных чалавечых лёсах паказаць, якія сілы развялі беларускіх сыноў, пасеялі паміж імі варажнечу. Калі Янка, застаўшыся на роднай зямлі, не здрадзіў веры бацькоў, то лёс Алеся (а пазней брата Казіміра, лепшага выхаванца езуіцкай калегіі), быў прадвызначаны менавіта езуітамі. Пісьменніца знаходзіць такія мастацкія прыёмы, якія перадаюць тагачаснае становішча ў краіне не

апісальна, а праз паток свядомасці герояў, унутраныя маналогі, дынамічныя змены карцін і плыняў часу, дыялагічную форму, малюнкі прыроды, раскрытыя ў цеснай суаднесенасці з падзеямі і лёсам дзейных асобаў. На многія сітуацыі мы глядзім іх вачыма, а гэта прымушае чытача не пасіўна ўспрымаць твор, а думаць, аналізаваць, суперажываць, згаджацца або асуджаць, адчуваць небяспеку для краіны, якую неслі такія каралеўскія прапаведнікі, як Пётр Скарга, рэктар езуіцкай акадэміі ў Вільні: «Скарга, папраўляючы чорны дажджавы капялюш, думаў пра тое, што вось ужо за трыццаць гадоў прайшло з таго часу, як па запрашэнні віленскага епіскапа Валерыяна Пратасевіча прыйшлі ў гэты край езуіты, а зробленае імі нібы ўвесь час раствараецца ў агромністых тутэйшых прасторах, як шчопця солі ў адным з гэтых азёр... Яны ехалі ўжо па беразе возера, магутныя цёмныя яліны грозна шумелі наверсе, хвалі перакочваліся і глуха плёскаліся ў бераг, такі ж непрыветны, як і ўсё навокал. Скарга думаў пра тое, што задача, якая ўяўлялася і так няпростай — знішчыць у гэтым краі ўсё, што нагадвае пра часы вольнасці і незалежнасці, калі мясцовы князь Альгерд акунаў кап'ё ў Чорнае мора, дайшоўшы да яго, а сама Польшча, знясіленая тэўтонамі, прагла мець добрую апору і прасіла Ягайлу стаць каралём — гэтая задача аказалася невыносна цяжкай. Магнаты Белай Русі, Літвы, Жамайціі ўпарта трымаліся прывілеяў і правоў асобнай дзяржавы, і хаця многія з іх перайшлі ў каталіцтва, але гэта не паменшыла зацятасці, з якой яны шукалі магчымасцяў захаваць Вялікае Княства Літоўскае. Але ж свая мова, свае звычкі і фінансы, сваё войска і юрыспрудэнцыя — яны ж у любы момант змогуць патрабаваць аддзялення, як было гэта пасля смерці Ягайлы. Яны і цяпер сцвярджаюць, што ўмовы першай уніі былі іншыя, што падробка без пячаткі і без подпісаў, а не сапраўдны акт ляжыць у архіве капітула. Адзінае выйсце — растварыць гэты бунтоўны народ у Рэчы Паспалітай — дзяржаве, у якой вялікая будучыня. А для гэтага пойдзе ў ход усё магчымае. Слых яго ўлавіў дзіцячы плач. Вось такія, як гэты хлоп, будуць працаваць на ідэю акаталічвання, яны будуць самымі вернымі псамі езуітаў. Туркі разумна выкарысталі кінутых і бязбацькавічаў. Бацькоў выразалі, а дзяцей рабілі мамелюкамі. Трэба, каб і тут, на гэтай няласкавай, няскоранай зямлі было як болей такіх мамелюкаў...»[1]

Так, зрабіў Скарга з беларускага дзіцяці манаха-каталіка, вернага служку ордэна езуітаў. Алесь-Казімір выбраў сваім дэвізам лацінскі выраз: «Агонь, што схаваны ў жылах крэменю». Пісьменніца

[1] Іпатава В. Прадыслава: Аповесці. Мн., 1997. С. 243.

тлумачыць, чаму яму падабалася паэзія і дакладнасць гэтых слоў: «Знешне ён будзе як крэмень. А ўнутры душа будзе гарэць агнём... агнём веры. І ўсё-ткі ён, не прызнаючыся сабе, любіў тое, што гнеўна асуджаў на словах: багацце магнацкіх палацаў, іх раскошу, крышталь на абедзенным стале, венецыянскую парчу на жанчынах і пурпурныя заслоны ў гасцiных. Багацце пахла вострымі індыйскімі спецыямі, коленскай вадой і мускусам у зімовы вечар — о, не так, зусім не так, як пахла жыллё беднякоў. Ён ненавідзеў іх чырвоныя, распараныя ад бясконцай работы рукі, іх лахманы і запэцканыя твары, іх невуцтва. Ён добра ведаў іх грубую гаворку — але гэта было патрэбна для будучай яго работы, і ён ненавідзеў тую работу таксама. Але інача́й не возьмеш таго, што хочаш, — улады і раскошы...»[1]

Казімір Яноўскі не меў у сэрцы літасці да іншаверцаў, лічыў сваіх землякоў-беларусінаў хлопамі, не любіў, калі яму нагадвалі, што ён адзін з іх. І калі аднойчы Леў Сапега, які добра ведаў, каго выхавалі езуіты з гэтага беларусіна, нагадаў яму, што Княства не памерла і што ён беларус, а не паляк, Казімір у душы назваў усё гэта дзівацтвам, перакананы, што ніякага Княства не існуе, а яго радзіма — Карона, дзеля якой ён гатовы выканаць любы загад. А якім перакананым палякам-каталіком Казімірам стаў беларус Алесь, відаць з дыялога паміж ім і мітрапалітам, які адпраўляў яго ў родныя мясціны дзеля вялікай і адказнай працы: прыводзіць «схізматыкаў» да адзіна правільнай веры: «Мітрапаліт раптоўна спытаў пранікнёна і шчыра:

— Скажы, сыне мой, ці прыходзяць да цябе сумненні ў тым, наколькі правільны твой шлях?

Твар у манаха ўпершыню за час гутаркі асвяціўся. Вочы ў яго пацямнелі, і чырвань з'явілася на бледных шчоках:

— Не, у мяне няма сумненняў.

— Та-ак... Але ж нават твой настаўнік часам сумняваўся. Дарэчы, ты помніш, што без яго ты быў бы звычайным хлопцам, а можа, і наогул не выжыў бы?

— Я не хачу, каб мне бясконца напаміналі аб маім паходжанні! Яно не перашкодзіла мне добра навучыцца ўсяму, што мелі ласку даць мае настаўнікі!

— Гардыня — цяжкі грэх. За гэтыя словы — дзесяць дзён цяжкага посту!

Ён памаўчаў.

---

[1] Тамсама. С. 248.

— А зараз я хачу даць табе больш канкрэтнае заданне. Але... яшчэ скажы...

Вочы мітрапаліта, здаецца, наскрозь пранізвалі субяседніка.

— Скажы мне, як свайму духоўніку, ці хацелася табе даведацца што-небудзь пра сваіх родных, пра тое, хто ты?

— Не. Я не хачу нават думаць пра гэта. Я — Казімір Яноўскі і не хачу быць нікім іншым.

Твар мітрапаліта аставаўся прыязны — нельга было зразумець, як ён паставіўся да гэтых слоў. Але вось лёгкі смутак ахінуў яго твар, ён узняў вочы ўгару.

— Для гэтага трэба ўжыць усе магчымыя сродкі! Калі патрабуе справа, можна зрабіць выгляд, што ты праваслаўны. Ты ж добра помніш, для чаго быў створаны святым Лайолам ваш ордэн?

— Барацьба за адзіную веру — вось задача. Настане час, калі на ўсёй зямлі не будзе ніводнага схізматыка і народы стануць пад сцяг папы — намесніка Бога на зямлі! І дзеля гэтай высакароднай мэты не трэба шкадаваць ні сябе, ні блізкіх...

Так Казімір даведаўся, што ў Віцебску ёсць брацтва, дзе адзін з самых заядлых схізматыкаў — нейкі Ян Корань. Увайсці ў яго акружэнне, «узарваць» збродняў знутры, аблудна стаць іх сябрамі... І калі адсылаў яго мітрапаліт, расказаўшы ўсё патрэбнае пра уніятаў Віцебска, вочы ў маладога манаха гарэлі радасцю і рашучасцю. «Агонь, што тоіцца ў жылах крэменю...»

Наперадзе чакала дарога. А за ёю — новыя прыступкі да славы, да ўзвышэння...»[1]

Пісьменніца далей паказвае, якімі злачынствамі быў пазначаны шлях Казіміра Яноўскага да славы і ўзвышэння ў імя веры. У Віцебску, дзе ён стаў Лукашам і ўвайшоў у давер да простых людзей, нават даведаўшыся, што Ян Корань яго старэйшы брат, а бацька загінуў пакутніцкай смерцю, закатаваны халопамі пані Мацieўскай, Казімір не спыняецца перад забойствам брата. Яму хацелася хутчэй «пазбыцца і гэтага сваяцтва, і гэтай як праклятай панам Богам зямлі! Паехаць бы ў светлы влоскі край, дзе вечнае сонца, дзе прыгожыя жанчыны кахаюць сваіх духоўнікаў, дзе ўсё лягчэй і прасцей, чым тут! Зямля гэтая сапраўды замешаная на крыві, усё на ёй цяжкае, страшнае, гняце душу і забівае невыноснымі для яе пакутамі!

Каваль павінен знікнуць, і хутчэй, каб ніхто з дасведчаных людзей ордэна не змог дазнацца, што манах Казімір, любімчык Скаргі, мае брата-схізматыка і, мала таго, дзяржаўнага зброднямя — злачынцу.

---

[1] Іпатава В. Прадыслава: Аповесці. С. 251.

І ён не дасць кавалю памерці прынародна, як багатыру, — не, смерць яго будзе ціхая і нечаканая...»[1]

Але не мог Казімір-Алесь прадбачыць, што голас крыві і покліч роднай зямлі акажуцца мацнейшымі за штучна прывіты агонь веры. Не стаў ён сапраўдным мамелюкам, не змог пераджыць пакутаў пабуджанага сумлення і скончыў самагубствам.

Ёсць у такім фінале і трагічны і аптымістычны сэнс. У трагічным лёсе адзінакроўных братоў-беларусаў мы бачым рэлігійна-раз'яднаную краіну, панаванне чужой ідэалогіі, адкуль адна з прычын нацыянальнага нігілізму, прыстасавальніцтва многіх несвядомых людзей. Аптымізм усяляе тое, што ўжо колькі вякоў, нягледзячы на ўсялякі ўціск і ўсялякіх заваёўнікаў-асімілятараў з боку моцных дзяржаў-суседзяў, Беларусь жыве і нейк нябачна для свету змагаецца і захоўвае пакуль што сваю самастойнасць. І ўсё дзякуючы таму, што ёсць у народных глыбінях непахісная любоў і прыхільнасць да роднай зямлі, лепшых звычаяў і традыцый продкаў, ёсць людзі, якім гэта даражэй за ўласнае жыццё. І вельмі важна, калі дзеля захавання і ўзнаўлення нацыянальнай свядомасці пішуцца творы, якія нясуць праўду пра гісторыю краіны, прымушаюць думаць і памятаць. Нельга не пагадзіцца з думкамі В. Шынкарэнкі, якая, рэцэнзуючы аповесць, пісала, што яе «філасофская аснова заключаецца не толькі ў гістарызме і жыццёвай змястоўнасці характараў, арганічнасці іх увасаблення, але і ў адкрытасці вобразаў у прасторы і часе, іх скіраванасці ў будучыню. Такія пошукі В. Іпатавай у галіне зместу і формы робяць яе прозу вобразна і эмацыйна разнастайнай. На першы план пры ўсёй імклівасці дзеяння выходзіць даследаванне зрухаў чалавечай свядомасці, пачуцця, адкрыццё гістарычным персанажам раней прыхаванай вышэйшай ісціны, сэнсу жыцця...»[2]

## «ЧОРНАЯ КНЯГІНЯ»

У такім жа ключы напісана і другая аповесць Вольгі ватавай «Чорная княгіня» (1989), таксама звернутая да падзей XVI стагоддзя. На першым плане тут жыццё верхніх станаў: польскага каралеўскага двара і магнатаў Вялікага Княства Літоўскага — Радзівілаў, Астрожскіх, а таксама збяднелай шляхты.

Асноўнаму зместу твора папярэднічае невялікі ўступны раздзел — дзённікавыя запісы, знойдзеныя ў старых архівах, якія вядуць

---

[1] Тамсама. С. 267.
[2] Шынкарэнка В. Нам адраджацца праз вяртанне // Беларусь. 2000. № 9.

чытача ў далёкае стагоддзе, знаёмяць з аўтаркай гэтых запісаў — у будучым галоўнай гераіняй твора, шляхцянкай Евай. Праз яе ўспрыманне мы глядзім на падзеі тагачаснай эпохі і на жыццё дзейных асобаў, як рэальна існаваўшых, так і створаных фантазіяй пісьменніцы.

«Сёння, генвара дванаццатага дня, року тысяча пяцьсот восемдзесят восьмага, пачала я, раба божая Ева Ваяроўна Касцевічуўна, запіс гэты. Кожны год нясе нам перамены. Вось і сёлета абраны на Каралеўства польскае Жыгімонт Трэці, сын кроля Яна Шведскага, і ад арцыбіскуп гнезненскага ў Кракаве каранаваны. А мінулым годам памёр Стэфан Баторы, які кралеваў год дзесяць, месяцаў сем, а дзён 12, пры якім узяты назад быў Полацак і многа іншых гарадоў княства Літоўскага. Перажыла я і кроля Сігізмунда Аўгуста, якога цяпер, у пазнейшыя часы, празвалі «Рамэа і Джуліяй стагоддзя». Яго каханнем была Барбара Радзівіл — няшчасная прыгажуня, якую, як кажуць, атруціла каралева Бона, а яе ў сваю чаргу атруціў уласны доктар у княстве яе Бары, што ў Італіі — Влохіі.

Але пра каралёў ведаюць усе, крокі іхнія занатоўваюцца гісторыяй, а пра нас, людзей простых, можам расказаць толькі мы самі. Дык я і раскажу пра сябе і благое, і добрае, а хай той, хто будзе чытаць усё гэта, разбярэцца ў маім жыцці альбо асудзіць, як суджу цяпер я сябе сама. Раскажу пра чалавека, якога кахала так, як толькі можа кахаць жанчына, — імя яго засталося невядомым, хаця спраў зрабіў ён многа і навучыў мяне зямлю сваю любіць і ведаць, хто я такая і на якой зямлі жыву.

Раскажу яшчэ пра адну няшчасную жанчыну нашага крывавага і суровага стагоддзя, якую не засцераглі ад лёсу вялізныя багацці і знакамітасць. А можа, якраз яны перашкодзілі ёй быць шчаслівай? Хоць мы, жанчыны, болей за ўсё жадаем сабе шчаслівасці, і яна найперш — у дзецях і добрым мужу, у каханні адзін да аднаго, у павазе ды шчырасці...»[1]

Апавядае далей Ева Касцевіч пра сваю шляхецкую сям'ю, якая ледзь зводзіла канцы з канцамі, пра тое, як дзяўчынкай яна трапіла ва ўслужэнне да ўнучкі Канстанціна Астрожскага Гальшкі, у самы асяродак багацця і пышнасці найвялікшых вяльмож дзяржавы. На гэтым дзённік абрываецца і апавядальная плынь нязмушана пераходзіць у аўтарскае «дадумванне» — раскрыццё далейшага лёсу герояў. Такі інтрыгуючы пачатак твора захапляе чытача не толькі рэальна існаваўшымі гістарычнымі фактамі, з'явамі, асобамі, але і амаль

[1] Іпатава В. Прадыслава: Аповесці. С. 71.

дэтэктыўна-прыгодніцкімі элементамі, незвычайнымі паваротамі лёсу простых людзей, якіх шчаслівы або, наадварот, нешчаслівы выпадак ці злая воля валадароў кідалі ў нязвыклыя ўмовы. І што з гэтага атрымлівалася? Гэты прыём выкарыстоўвае Вольга Іпатава і ў папярэдняй аповесці, але не як паўтарэнне ўдала знойдзенага мастацкага ходу, а як тыповую сітуацыю таго часу. Калі Казімір Яноўскі цалкам успрыняў ідэалогію сваіх апекуноў-езуітаў, можа таму, што зусім немаўлём трапіў да іх, то Ева Касцевіч цвяроза-аб'ектыўна, нават крытычна глядзіць на жыццё, норавы, звычаі магнатаў, якія вызначалі яе канкрэтны лёс і палітыку свайго краю. У палац Астрожскіх яна трапіла падлеткам, калі славутага Канстанціна Астрожскага і нават яго сына Іллі не было ў жывых, расла і сталела, абслугоўваючы яго ўнучку, адзіную спадчынніцу Лізавету-Гальшку, вучылася разам з ёй розным навукам і мовам. І менавіта вачыма гэтай разумнай, удумлівай шляхцянкі мы ўспрымаем лёс няшчаснай князёўны, якою і маці Беата Іллёва і іншыя родзічы гандлявалі як звычайнай рэччу, у мэтах гэтак званага дынастычнага шлюбу, перакідаючы яе, як паланянку, ад аднаго мужа да другога — багатых прадстаўнікоў магнацкіх родаў: Сангушкаў, Збароўскіх, графа Лукаша з Горак, князя Сімяона Слуцкага-Алелькавіча.

Так і скончыла Гальнка свае дні паланянкай у халоднай замкавай вежы маёнтка графа Лукаша і празвалі яе «чорнай княгіняй» з-за пастаяннага чорнага адзення, адзінокасці і пакінутасці. Не выратавалі яе ні вялікія багацці, ні прыналежнасць да знакамітага роду. Да нешчаслівага лёсу князёўны Астрожскай прычыніліся не толькі блізкія сваякі, але і кароль Рэчы Паспалітай Сігізмунд (Жыгімонт) Аўгуст, яго маці каралева Бона, якая зрабіла жыццё свайго сына таксама нешчаслівым, не прызнаўшы яго шлюб з Барбарай Радзівіл, атруціўшы прыгажуню-нявестку. Князь Васіль Астрожскі, замольваючы грахі перад пляменніцай, якая завяшчала яму ўсе свае скарбы, выдаў пасля яе смерці Біблію, святую кнігу боскую, названую Астрожскай.

Побач з гэтай сюжэтнай лініяй Гальшкі Астрожскай, апісаннем жыцця магнатаў Рэчы Паспалітай і Княства Літоўскага, дзённікам Евы Касцевіч, які пачынае і завяршае аповесць, ідзе другая апавядальная плынь, найбольш значная для разумення ідэйнай скіраванасці твора. Вольга Іпатава спрабуе паказаць, у якіх складаных гістарычных умовах, рэлігійнай барацьбе (калі дзейснымі былі праваслаўе, каталіцызм, езуіты, кальвіністы, уніяты) развівалася беларуская самасвядомасць, калі многія прадстаўнікі магнацкіх родаў дзеля багацця і розных прывілеяў пераходзілі з адной рэлігіі ў другую, здраджвалі народу, не думалі пра захаванне самастойнасці сваёй краіны. І гэта

былі не адзіныя перашкоды, з якімі сутыкалася беларушчына ўжо ў тыя, адносна спрыяльныя для нашага народа часы. Пісьменніца раскрывае асветніцкую дзейнасць Сымона Буднага, паказвае самы пачатак яго кнігавыдавецкай працы па прыездзе ў Нясвіж з Базеля, якой спрыялі паплечнікі і аднадумцы Буднага Мацей Кавячынскі і Лаўрэн Крышкоўскі. Згадваюцца справы Францішка Скарыны, з якім Будны сустракаўся ў Празе, расказваецца пра Скарынавы кнігі, што прадаваліся ў Вільні і Нясвіжы, завезеныя клопатам Мікалая Радзівіла Чорнага, пра ідэі Рэфармацыі, выданне «Катэхізіса» Сымона Буднага, які скуплялі езуіты, каб знішчыць пад корань «пратэстанцкае зелле». Далёкім планам у аповесці праходзіць Мікола Гусоўскі і ягоная «Песня пра зубра», а таксама Васіль Цяпінскі. Гэтыя сюжэтныя лініі звязвае вобраз Евы Касцевіч і яе каханага настаўніка Марціна, які пасля вучобы ў Еўропе вярнуўся на радзіму, каб «папрацаваць на славу Княства, каб не знікла яно і не растварылася ў Кароне». Але цяжкі, нешчаслівы лёс напаткаў іх каханне, не змаглі яны быць разам па волі паноў-магнатаў, якія не дбалі аб простых людзях, называлі іх «нямым быдлам».

Марцін, выкладаючы ў кальвінісцкай школе Нясвіжа, адначасова пісаў падручнікі па беларускай мове і гісторыі. Ён быў адным з тых асветнікаў, якія добра разумелі, што трэба шукаць асобнай рэлігіі, грунтуючыся на якой можна было б аб'яднаць народ, вярнуцца да былой магутнай і самастойнай дзяржавы, незалежнай ад суседніх краін. «Марціну хацелася напісаць пра ўсё, што адбывалася некалі ў Вялікім Княстве Літоўскім. І пра тое, што быў у ім некалі слаўны горад Полацак з Рагнедаю і Усяславам, і пра тое, што ўнукі Гедымінавы, Андрэй Полацкі і Глеб Друцкі, храбра змагаліся з татарамі на Куліковым полі. Зусім нядаўна тут жыў славуты Канстанцін Астрожскі, якога паставілі першым у гаспадарскай радзе Рэчы Паспалітай, хаця ён не быў католікам. Не маглі не паставіць — ваенныя заслугі яго былі непараўнальныя, нездарма атрымаў ён прозвішча «рускага Сцыпіёна». І так былі незадаволеныя тым зайздроснікі — прыбліжаныя караля, што ў 1522 годзе выдаў Жыгімонт спецыяльны прывілей, абяцаў панам-радзе, што пасля смерці Астрожнага аддасць тое месца ваяводзе віленскаму... А тыя ж Радзівілы? Гетман польны літоўскі Юрый, пераможца ў трыццаці бітвах, празваны «Літоўскім Геркулесам»? А як не ўспомніць Грунвальд і як не расказаць пра дзівоснае перапляценне на гэтай зямлі старадаўняга рускага і новага, беларусінскага, а таксама таго, што прынесла Крэўская вунія з Польшчай? Ягелоны — ад Ягайлы, ад яго і Соф'і Гальшанскай — род гэты, слаўны і магутны, даў многіх вялікіх людзей. І хіба можна не напісаць пра рэфармацыю,

якая так патрэбна, каб скінуць прыгнёт царквы, каб зрабіць людзей роўнымі?»[1]

Гэтыя асветніцкія, рэлігійныя, філасофскія пошукі тагачаснай творчай беларускай інтэлігенцыі, паводле сённяшніх вызначэнняў, паказаны пісьменніцай у розных мастацкіх ракурсах, найбольш праз апісанні лёсаў, дзейнасці, і апісанні гэтыя падсвечваюцца і пацвярджаюцца іх светапогляднымі арыентацыямі. І многія праблемы, якія хвалявалі нашых далёкіх, славутых асветнікаў, на жаль, не страцілі сваёй актуальнасці і ў наш час:

« — Калі ў чалавека няма поўнай, можна сказаць, боскай свабоды, калі ён вечна ў ярме, як вол, — хіба можа ён называцца сапраўдным чалавекам? — гаварыў Сымон Будны. — Праца павінна стаць для яго патрэбнай, так, патрэбнай. Дзеля таго, каб стварыць такога чалавека, які б любіў працу — вольную працу, — мы і стараемся сёння!

Марцін слухаў з заміраннем сэрца. Так, чалавек адрозніваецца ад быдла тым, што мае бессмяротную душу. А яго запрагаюць у цяжкі воз і б'юць пугай ці бізуном і прымушаюць везці той воз. І так цягне ён той воз да самай смерці, так і не зразумеўшы, для чаго прыйшоў на зямлю...

Яму хацелася гаварыць і гаварыць з Будным... Марцін чамусьці лічыў Буднага намнога старэйшым, і тое, што яны аднаго ўзросту, адразу неяк заспакоіла. Не настаўнік сядзеў перад ім, а такі ж малады і дзёрзкі хлопец. І праўда, толькі маладыя здолеюць намацаць сапраўдную дарогу і вывесці на яе свой народ. І ён горача загаварыў з Сымонам аб рэформах школы, аб тым, што пачынаць трэба з навукі...»[2]

І далей, праз іх дыялогі, унутраныя маналогі, мы даведваемся, якi гуманістычны змест укладвалі асветнікі ў такія паняцці, як свабода чалавека, разняволеная праца і ўлада — рэлігійная і свецкая, бескарыслівае, самаахвярнае служэнне народу, каб ён не знік, не растварыўся сярод іншых, захаванне мовы, веданне сваёй гісторыі, выданне кніг у розных галінах ведаў на роднай мове... Гэтыя і многія іншыя праблемы вызначалі дзейнасць выдатных беларусаў XVI стагоддзя, эпохі генія — скарынаўскай эпохі. А паказана гэтая эпоха ўжо на схіле сваёй славы, калі Францішак Скарына дажываў свае дні ў Празе, калі малады Сымон Будны і ягоныя паплечнікі выступалі супраць занядбання магнатамі і шляхтай дзяржаўнай беларускай

[1] Іпатава В. Прадыслава: Аповесці. С. 156.
[2] Іпатава В. Брачыслава: Аповесці. С. 159.

мовы, шукалі абароны ад «псоў господніх», як называлі тады езуітаў, якія, на чале з Пятром Скаргам, шырока разгарнулі сваю дзейнасць у Княстве. Час быў складаны і смутны, вымагаў дзеяння, як вымагае і сёння, заклікаючы да актыўных спраў у імя беларушчыны самаадданых асветнікаў і змагароў кшталту Скарыны, Гусоўскага, Буднага. І бласлаўленне героі аповесцяў Вольгі Іпатавай як бы атрымліваюць ад святой асветніцы Еўфрасінні Полацкай, залаты абраз якой перадае Еве Касцевіч старая Баркулабіха, як наказ наступным пакаленням ісці дарогай вялікіх беларусаў. І яшчэ адна адметнасць: гэтыя творы Вольгі Іпатавай усім зместам сцвярджаюць, што нельга нам адмаўляцца ад сваіх каранёў. Нам трэба ўсведамляць, што наша гісторыя была цесна звязаная не толькі з Расіяй, Польшчай, Літвой, але была яна самастойнай у самастойнай, незалежнай краіне. Розныя чалавечыя лёсы былі так або іначай зламаныя або ўзнесеныя палітычнымі інтрыгамі, частым несупадзеннем інтарэсаў суседніх дзяржаў і Вялікага Княства Літоўскага.

Пра многія такія лёсы праўдзіва расказваецца ў гістарычных творах пісьменніцы. Аднак лёс «Чорнай княгіні» — унучкі Канстанціна Астрожскага — адной з самых багатых нявест абедзвюх дзяржаў, уражвае сваім трагізмам і безвыходнасцю. Як вядома, у мэтах захавання самастойнасці Вялікага Княства Літоўскага землі, якія ішлі ў пасаг за нявестамі, калі тыя выходзілі за палякаў, нельга было аддаваць. Яны выкупляліся, але пакідаліся ва ўласнасці Княства.

Ваюючы за нявесту, абедзве партыі — партыя шляхты Вялікага Княства Літоўскага і польскай шляхты — давялі гэтую дзяўчыну да таго, што пасля яе няўдалых уцёкаў у Чэхію з першым мужам Змітраком Сангушкам (а гэта вядомы дакументальны факт, выкарыстаны ў мастацкім творы), яна страціла розум. Норавы былі такія, што дзеля багацця ніхто не лічыўся з асобным чалавекам, яго жаданнямі, пачуццямі, памкненнямі. Нават маці Гальшкі — Беата, няшлюбная дачка Жыгімонта Старога, таго самага, чые ўказы пра Скарыну сёння мы можам прачытаць у любой Скарыніяне, не адчувала ніякіх дакораў сумлення за пакутлівы лёс дачкі.

Калі казаць пра XVI стагоддзе, то пачатак яго — скарынаўская эпоха — своеасаблівы залаты век нашай гісторыі. А ўжо ў канцы — часе дзеяння аповесцяў Вольгі Іпатавай — становішча змяняецца. Беларуская культура здае свае пазіцыі, самастойнасць Княства пад пагрозай. Аднак і ў гэты перыяд жылі і дзейнічалі вядомыя беларусы — маладыя асветнікі, што ішлі на змену Скарыне, а таксама магнаты Княства: Леў Сапега, адзін з самых адукаваных і дзейсных дзяржаўных мужоў, які да канца адстойваў незалежнасць Княства

перад Каронай, аўтар Статута ВКЛ, напісанага на беларускай мове, Васіль Астрожскі — сын Канстанціна Астрожскага, дзядзька Гальша. Яго імя звязана са з'яўленнем Астрожскай Бібліі, выдадзенай у радавым маёнтку Астрожскіх, каралева Бона, якой Мікола Гусоўскі прысвяціў сваю выдатную паэму «Песня пра зубра». У аповесці яна паказана ўжо старой жанчынай, якую многія не любілі і пры двары, і ў аддаленых землях за сквапнасць і неразборлівасць у сродках. А між тым гэтая італьянка была адной з аўтарак зямельнай рэформы, якая прывяла ў парадак і наладзіла ўлік земляў, якімі валодала шляхта і якія належалі да каралеўскіх уладанняў. «Устава на валокі», як называлі гэтую зямельную рэформу, мела вялікае значэнне для краю. І яшчэ: каралева Бона шырока адчыніла дзверы для моладзі, што імкнулася атрымаць адукацыю ў Еўропе. Тады пайсці вучыцца ў які-небудзь Кракаўскі, Гейдэльбергскі універсітэты было куды прасцей, чым сёння. Пры ўсіх буйных еўрапейскіх універсітэтах былі арганізаваны гэтак званыя «алюмнаты» — інтэрнаты для выхадцаў з Вялікага Княства Літоўскага. І, як мы бачым на прыкладзе (Акарыны, туды трапіць вучыцца маглі не толькі дзеці магнатаў, а практычна ўсе, хто меў ахвоту да навукі. Дарэчы, калі гаварыць пра зямельную рэформу Боны, то якраз тады шляхце і давялося даказваць сваю радавітасць, свае права на гэтую зямлю. Калі ж такіх дакументаў не было, то зямля ішла ва ўласнасць караля. Захавалася шмат скаргаў тагачаснай шляхты. А шляхта беларуская — асобная з'ява. Яна ніколі не была падобная да маскоўскай, прывучанай да сляпой паслухмянасці, што называла сябе «халопамі гасударавымі». На беларускіх землях шляхціч ніякім чынам не мог бы ганарыцца тым, што ён — халоп, хоць і «гасударавы». Нездарма ж сюды ў гэты час уцякалі з Масквы ад гневу Івана Жахлівага Андрэй Курбскі і Феадосій Касой. Якраз у XVI стагоддзі шляхта атрымлівала большасць сваіх прывілеяў і адсюль ідзе яе вальналюбства. Менавіта такой і паказана шляхта ў «Чорнай княгіні», хоць і збяднелай, але ганарлівай і незалежнай. Аднак і яна ўжо пачынала страчваць сваю самастойнасць і ўсё больш залежаць ад міласці магнатаў, хоць і мела дваранскія радаводы. І не толькі такія знакамітыя, як Радзівілы, Алелькавічы, Сапегі, Пацы, Кішкі, Сангушкі, імёны якіх згадваюцца ў аповесцях Вольгі Іпатавай. Пісьменніца адзначае таксама, што на крутым гістарычным пераломе многія магнаты і прадстаўнікі шляхты здраджвалі народу, апалячваліся альбо пазней абрусели, кінулі народ на волю лёсу, не думаючы пра яго будучыню.

Усе гэтыя складаныя праблемы таго часу атрымалі ў аповесцях «Агонь у жылах крэменю» і «Чорная княгіня» аб'ектыўную інтэрпрэта-

цыю, знайшлі сваё мастацкае ўвасабленне ў яркіх, жывых вобразах і сцэнах, далі чытачу спажыву для роздуму. І ўжо сам гэты гістарычны матэрыял, дасканала вывучаны і глыбока асэнсаваны пісьменніцай, спачатку «прапушчаны» праз яе тэлевізійныя перадачы, прымусіў паглядзець далей, у гістарычную перспектыву часу, аднавіць іншыя пласты далёкага мінулага ў новых аповесцях і раманах.

## РАМАН «ЗА МОРАМ ХВАЛЫНСКІМ»

Калі папярэднія аповесці ўяўляюць сабой панараму XVI стагоддзя, то ў рамане «За морам Хвалынскім» пісьменніца ідзе ў яшчэ больш аддаленую эпоху. Дзеянне рамана адбываецца ў XI стагоддзі, у часы полацкага князя Брачыслава, калі яго сын Усяслаў, якога народ празаве Чарадзеем, быў маладым княжычам. Але галоўны герой тут не ён, а сын каваля Алекса, аднагодак Усяслава, які ні ў чым не саступаў маладому княжычу — ні ў сіле, ні ў розуме. Ясным, добрым святлом вее ад першых старонак твора, аўтар адразу ўводзіць нас у кола клопатаў простых людзей і княжацкага двара, дынамічна разгортвае змест рамана, які захапляе ад першай да апошняй старонкі. І гэта вельмі важная ўласцівасць творчай манеры Іпатавай-празаіка, уменне будаваць напружаны сюжэт, захапіць чытача вострымі калізіямі, лёсам сваіх герояў. Нездарма на сённяшні дзень раман «За морам Хвалынскім» вытрымаў шэсць выданняў.

Няпроста, а пад канец і трагічна склаўся лёс Алексы. Прадаў яго каханую дзяўчыну Бярозу бухарскаму купцу Абдурахману князь Брачыслаў, і ніякімі намаганнямі не змог вызваліць яе Алекса, нават з дапамогай княжыча Усяслава. І пайшоў ён у пошуках каханай па яе слядах у далёкія невядомыя краіны, за мора Хвалынскае (так называлася тады Каспійскае мора). Пакінуў ён Полацак, асцерагаючыся за сваё жыццё, бо выказаў непаслушэнства князю, нязгоду з яго бесчалавечным учынкам, а значыць і з вышэйшай уладай. Так завязваецца тугі вузел канфлікт, праз які пісьменніца дае зразумець, наколькі бяспраўным быў просты чалавек, якія ён цярпеў ганенні за вальнадумства і самастойнасць. Зведае Алекса неймаверныя пакуты ў чужых краях, канчаткова страціць каханую, якая адмовіцца вяртацца з ім на радзіму з далёкай Бухары, бо займела сына ад Абдурахмана, звыклася са сваім становішчам. Будзе Алекса рабом на галерах, не раз будзе паміраць ад цяжкіх ран. З цягам часу прыйдзе і да яго другое каханне, але цяжарную жонку і любага настаўніка, які вучыў яго медыцыне, пасякуць шаблямі фанатыкі-мусульмане, і зноў застанецца ён адзін. І цяпер ужо ўсе свае сілы, здольнасці і час Алекса

патраціць на вывучэнне ўсходняй медыцыны, адолее «Канон» Ібн-Сіны (Авіцэны), стане вучоным-медыкам, мудрым чалавекам, будзе пісаць кнігу, каб не згаслі ў памяці веды, якія ён панясе праз столькі гадоў на Бацькаўшчыну. Але па дарозе ў Полацак перастрэнуць ладдзю ліхія разбойнікі, і загіне Алекса пакутніцкай смерцю, ратуючы адзіны свой скарб — рукапіс. «А гэта была ягоная Кніга — пра іспыты, якія праходзіць на зямлі кожны чалавек, толькі не кожны ведае пра гэта і жыве бяздумна, як набяжыць... Пра чалавечую еднасць і сяброўства, без якіх жыць няможна, ды і не трэба... Пра тое, што ніколі, відаць, ён не адчуў бы, што такое Бацькаўшчына, роднае, калі б не закінуў яго лёс за мора Хвалынскае...»

За гэтай вонкавай канвой твора паўстаюць цікавыя падзеі, многія чалавечыя лёсы. Разам з аўтарам і яе героем мы, адпраўляючыся ў Сярэднюю Азію, пачынаем знаёміцца з усходняй культурай, жыццём і побытам народаў, што далі свету такія выдатныя таленты, як Ібн-Сіна і Амар Хайям, узбагаціўшыя чалавецтва вялікімі навуковымі і мастацкімі адкрыццямі. Сувязі паміж старажытным Полацкам і гарадамі Сярэдняй Азіі існавалі не толькі на гэтым духоўным узроўні, але і на гандлёвым. Нямала арабскіх скарбаў, манет-дырхемаў было знойдзена на шляху «з варагаў у грэкі», па берагах беларускіх рэк. Але гістарычнай падставай для напісання такога, першага ў беларускай літаратуры, твора на падобную тэму паслужылі не толькі рэчавыя знаходкі, але і вывучэнне пісьменніцай розных архіваў, дакументаў, летапісаў, звязаных з Усходам. І немалаважную ролю мелі яе асабістыя дачыненні, добрае веданне літаратуры Усходу, пераклады твораў вядомых узбекскіх пісьменнікаў на беларускую мову, уласныя вандроўкі ў Бухару і Самарканд, што дапамагала спазнаць багатую культуру Сярэдняй Азіі. Плён усёй гэтай падрыхтоўчай працы, аўтарская дасведчанасць і фантазія, удалыя мастакоўскія знаходкі ў рамане «За морам Хвалынскім» відавочныя. Безумоўна, найбольш цікавым і змястоўным, псіхалагічна заглыбленым атрымаўся вобраз Алексы. Жыццё галоўнага героя раскрываецца ў храналагічным плане — ад дзіцячых, юнацкіх гадоў у родным Полацку, у час небяспечнага, багатага рознымі прыгодамі падарожжа ўслед за Бярозай і найбольш захапляльным яно паўстае ў перыяд яго працяглага знаходжання ў Сярэдняй Азіі, якую ўпершыню бачыць, асвойвае Алекса, адольвае цяжкі шлях праз пустыню, «ашаломлены яе агромністымі прасторамі, барханамі, шэрай, расколатай трэшчынамі бялёсай зямлёй». Ва ўсёй прыгажосці і веліччы, яркіх фарбах паўстае перад ім Бухара, яе блакітныя мячэці, «высокія, як трубы ў час Страшнага Суда, мінарэты, ханакі-дамы для падарожнікаў, базары з грудамі пахкіх дыняў, гарбузоў, цыбулі —

усяго, што толькі расце на свеце... Прама перад ім стаяў славуты маўзалей — высокі купал, вакол — чатыры меншых, сцены нават цяпер, пры месячным святле, блішчаць нечым блакітным і лёгкім, як ззянне месяца. Лёгкім здаецца і сам маўзалей, дзе пахаваны вялікі чалавек. Можа, і пасля смерці той дух, што паднімаў гэтага чалавека над паўсядзённасцю, захоўваецца вакол? Заўтра, ледзь развіднее, жыхароў горада пабудзіць высокі і тонкі голас муэдзіна, які пакліча на малітву... Цікава, тыя, хто дзень за днём гібеў над гэтымі сотнямі тысяч узораў, што аплялі маўзалей, таксама адчувалі ўзлёт ці, падпарадкоўваючыся сіле, карпелі над камнем толькі дзеля кавалка хлеба...?

Спала свяшчэнная Бухара. Спалі рамеснікі і ваданосы, купцы і мянялы, вартаўнікі і прыдворныя... І тут недзе жыве — ці жыве яшчэ? — палачанка, сілай прывезеная і дзецьмі прывязаная да чужой зямлі. Гадуе дзяцей Усходу — а колькі іх тут, славянскіх дзяўчат, хлопцаў — палонных, хто замясіў сваёй крывёю тутэйшую глебу, на якой так шчодра буяе кожнае семя?! Чакаў раніцы, гледзячы на празрыста-тонкія абрысы высакароднага маўзалея і ўглядаючыся ў абрысы горада, што ляжаў перад ім...»[1]

Раскрываючы думкі, перажыванні свайго героя, пісьменніца адначасова паказвае яго здольнасць усмоктваць, браць лепшае ад чужой культуры. А праз гэтыя яго здольнасці, судакрананне з жыццём нязнанай краіны мы пазнаём сутнасць жыццёвай філасофіі народа, экзотыку ўсходніх звычаяў, уяўленні пра свет і чалавека ў ім, наогул каштоўнасць чалавечага жыцця, рэлігію і стаўленне мусульман да іншаверцаў.

Як мастак слова Вольга Іпатава не магла не перадаць асаблівасці мовы жыхароў Усходу, іх манеру выказвацца: «Хустка сумлення ахінула яго галаву... Туман непаслухмянства зацьміў твае вочы. ...Хутка і табе зварочваць абрус жыцця... Развязаць вузел няшчасцяў... Зямное жыццё — гэта пакута і страх... Калі ў тваім сэрцы варухнецца нешта светлае, ты гадуй гэтае пачуццё, як кволы парастак, і яно вырасце пасля агромністым дрэвам, пад якім ты заўсёды можаш схаваць сваю душу ад занадта пякучага сонца звычайнасці ці ад смяротнага холаду няўдач... Сонца юнацтва згасае, і цені ўсё даўжэйшыя... Так заўсёды, калі бліжэй да вечара... Аблокі не плачуць і ружы не цвітуць без кахання. Усё жывое пакідае пасля сябе след... Я не накрыю цябе покрывам сваёй шчодрасці... Няхай вароты тваёй мудрасці будуць заўсёды адчыненыя...» Такія і многія іншыя шматзначна-метафарычныя выслоўі характэрныя не толькі для мудрага

---

[1] Іпатава В. За морам Хвалынскім. Мн., 1996. С. 207.

Нармурада, які выратаваў Алексу ад смерці, назваў сваім сынам, але і для тых, каго Алекса сустракаў на сваім шляху ў гэтай экзатычнай краіне. Ды і сам Алекса пачынае пераймаць лад іх гаворкі, адпаведны традыцыям усходняга красамоўства, асабліва пасля таго, як ён, павандраваўшы па краіне, сутыкнуўшыся з самымі рознымі людзьмі, дайшоў да Бухары і дабіўся магчымасці папрацаваць у бібліятэцы эміра, прачытаць славутыя філасофскія трактаты Ібн-Сіны «Хайі Ібн Якзан» — «Запрашэнні да падарожжа», «Птушкі», «Аб лёсе і прадвызначэнні», імкнучыся дайсці да іх глыбіннага сэнсу: «Ці знаходзішся сярод братоў маіх ты, які хоча зараз звязацца са мною, каб даведацца пра мае патаемныя думкі? А можа, ты здольны зрабіць мне палёгку, узяўшы на сябе нейкую яе частку?... Адданая душа не здольная выцягнуць свайго сябра, калі не ўтрымлівае ў сабе нейкі высакародны пласт альбо сяброўства, абсалютна не шкоднае для яго сябра. Як табе памагчы мець адданага сябра, калі ты разглядаеш яго як нейкі прытулак, куды можна прыбегчы пры няшчасці, і адмаўляешся выконваць свой уласны абавязак у адносінах да яго, калі ён табе не патрэбны?»

Ён сеў, скрыжаваўшы ногі, проста ля паліцы, нібы баяўся страціць час, і чытаў далей:

«Самы багаты чалавек той, хто асмельваецца ўбачыць заўтра, і самы нізкі той, хто будзе ашуканы сёння сваім часам».

А пасля ён чытаў трактат аб птушках. «Ляцяць свабодныя птушкі, і адна з палонных птушак, што сядзіць у клетцы, заклінае ўсім, што ёсць святога, зжаліцца над ёю, вызваліць яе з путаў... Птушкі вызвалілі яе шыю і крылы. Але ногі засталіся звязанымі, таму што і ў свабодных птушак на нагах — путы, і яны шукаюць таго, хто б вызваліў іх канчаткова.

І ляцяць, ляцяць птушкі — праз сем далін, сем вяршыняў. Стамляюцца іх крылы ўсё болей і болей, і хочацца адпачыць, застацца ў адной з райскіх далін... Але не, не там ісціна, яна — у Вялікага Цара, што жыве на восьмай вяршыні.

Нявыказаная прыгажосць і спакой на той вяршыні, але і сам Вялікі Цар не дае вызвалення.

— Толькі той, хто надзеў кайданы, вызваліць.

— Хто?

— Здагадайцеся.

— Анёл смерці, так?

Маўчыць Цар...»

Пра што гэта? Пра якое падарожжа, пра якія сем вяршыняў? А путы — што гэта?

А ноччу прыйшла здагадка — мусіць, гэта пра цела гаварыў Ібн-Сіна. Душа спасцігае ісціну — але вечна звязаная яна з целам, са слабасцю, са спакусамі...»[1]

Вялікае значэнне для разумення ідэйнай задумы твора, яго мастацкай канцэпцыі — раскрыць духоўнае ў чалавеку праз пазнанне жыцця — маюць філасофскія размовы Алексы і прыдворнага блазна Саміні, разумнага чалавека і паэта, які жыў пры двары эміра, «сярод сытых і цёмных душою» людзей дзеля таго, каб «хаця трохі змякчаць сэрца правіцеля, а праз яго — лёс беднага люду...» Ён тлумачыў Аль-Ісе (так называў Алексу) не толькі ўсходнія вершы-іншасказанні, але і філасофію Ібн-Сіны. Сем далін — гэта шлях да ісціны, праз пошукі, любоў, самазнішчэнне, каб зліцца з Вечным. А Вечнае — гэта Ісціна.

«Помніш, у трактаце «Хайя Ібн Якзан» ёсць месца, дзе гаворыцца, што на шляху да Ісціны дапамагаюць духоўныя людзі — як бы зямныя анёлы. Гэта — паэты, філосафы, высакародныя пісьменнікі. Ёсць і іншыя — тыя, хто могуць распрацоўваць тэорыі грамадства ці проста ўдзельнічаць у практыцы Справядлівасці. Слабы бок паэтаў і філосафаў — што яны стаяць убаку ад практыкі Справядлівасці. Затое другія толькі ў практыцы і могуць разгарнуць свае здольнасці. Як жа важна, каб рабілі жыццё на зямлі чыстыя рукі! Калі можаш, ты павінен несці Словам у свет чысціню і сумленне...»[2]

Гэтыя пошукі Ісціны, Вечнага, якія захаплялі філосафаў, паэтаў усіх часоў, як захапляюць іх і сёння, сцвярджэнне значнасці агульначалавечых каштоўнасцяў — галоўнае ў рамане «За морам Хвалынскім», дзе падкрэсліваецца таксама глыбінная блізкасць розных культур, што грунтуюцца на высокай духоўнасці і чалавечнасці стваральнікаў. «...Людзі заўсёды дзеляцца на добрых і злых, якая б ні была ў іх скура і ў якім бы кутку зямлі ні жылі яны... У свеце — адна душа, а мы ўсе, усе тыя, хто жыве на зямлі, — толькі часткі гэтай душы. Вось чаму людзі павінны быць добрымі адзін да аднаго. Вось чаму павінны слухаць кожны сваю душу — у ёй водгалас адной музыкі... Розныя на зямлі людзі, але ўсе яны родныя, блізкія ў самым галоўным — жыцці і смерці...» — да такіх высноў прыходзіць Алекса, павандраваўшы па свеце, шмат пабачыўшы і перажыўшы. Ён навучыўся арабскай грамаце, спасціг філасофію «Канона» Ібн-Сіны, рабіў выпіскі з Карана, вывучаў усходнюю медыцыну, чытаў зборнік мудрасці «Каліла і Дзімна», запамінаў вершы ўсходніх паэтаў, за квяцістай маляўнічасцю якіх быў схаваны глыбокі жыццёвы сэнс:

---

[1] Іпатава В. За морам Хвалынскім. С. 221.
[2] Тамсама. С. 226.

З-за сыноў смуткуе той, хто мае сыноў.
Той, хто мае кароў, плача з-за кароў.
Прыхільнасці прыносяць людзям адно гора.
Толькі той не смуткуе, хто ні да чаго не прывязаны...
Для гора не шукай сабе прычыны.
Цябе чакаюць горшыя мучэнні.
Усе, каго палюбіць твае сэрца, —
Памруць, павер, усе без выключэння...
У свеце гэтым зменлівым квяты ўсё роўна звянуць.
І смерць стаўчэ ўсіх — такі адвечны звычай...

Многія старонкі рамана нясуць гэтую мудрасць Усходу, насычаныя не толькі такімі паэтычнымі радкамі, але і легендамі, вытрымкамі з Карану, з твораў Ібн-Сіны, якімі захапляўся Алекса. Да месца невялікія ўстаўныя навелы-прыпавесці, эпізоды міфалагічнага, фальклорна-казачнага зместу: чаму людзі не павінны ведаць, калі настане іх смяротны час, павучальная гісторыя пра зарок суфійскага паэта ніколі не есці мяса слана, міфалагічнае паданне пра незвычайную прыгажуню Зухру-Венеру,ператвораную ў зорку і ўзятую на неба ахоўваць прыгажосць і музычныя таленты. З бедуінскага фальклору даведаўся Алекса, што амаль мёртвага чалавека можна ажывіць дзесяццю ўдарамі бізуна. У рамане і расказваецца драматычная гісторыя пра такую медыцынскую практыку Алексы, якому ажыўлены ім чалавек адплаціў чорнай няўдзячнасцю.

Эмацыйна-рамантызаваная плынь рамана падмацаваная таксама апісаннямі вясельнага абраду, каларытнымі сцэнамі з жыцця розных станаў, трапнымі моўнымі выразамі і выслоўямі з глыбокім падтэкстам, нават назвы месяцаў даюцца паводле іранскага сонечнага календара. Запамінальныя пейзажы ў рамане, і малююцца яны не дзеля ўпрыгожвання тэксту, а нясуць пэўную мастацкую звышзадачу — даць чытачу ўяўленне пра асаблівасці сярэднеазіяцкай прыроды, паказаць, як захапляецца палачанін Алекса яе нябачанай прыгажосцю і экзотыкай, непараўнальнай з прыродай радзімы. Перамяжоўваючы раздзелы рамана, пісьменніца паралельна вядзе падзеі, якія адбываюцца ў жыцці старажытнага Полацка і ў рэальным жыцці свайго героя-вандроўніка, які ніколі не забываў свой родны край. Мы бачым вачыма Алексы спякотную пустыню, разам з ім любуемся Бухарой, адчуваем гаючае паветра гор: «Яны сядзелі на схіле гары, адкуль адкрывалася відовішча, якое і сапраўды нешта варухнула ў скамянелым сэрцы Алексы: блакітныя горы наводдаль нібы плылі ў крышталька-чыстым паветры, таксама блакітным, але з ружовым водбліскам будучай раніцы. Бялелі спакойныя, недасяжныя вяршыні,

нібыта цягнучыся ўвысь, і было відно, што на бліжэйшай гары тоненькімі, як на руцэ чалавека, жылкамі збягалі ўніз бурапенныя ручайкі, і ясна, як павялічаная, была відна зеляніна лесу, што суровай зубчатай сцяною нібы апаясвала гару. Алекса зірнуў вакол — відаць, на той гары раслі такія ж каржакаватыя, падобныя да полацкіх соснаў магутныя дрэвы з пушыстымі мяцёлкамі светла-зялёных іголак і шэра-мядзяных ствалоў...»[1]

А вось як апісваецца месяц абан (кастрычнік), адначасова даецца яго карціна тут і ў Полацку: «Тут, у гарах, ён быў то ясна-сонечным, калі празрыстым рабілася неба і лёгкія перыстыя аблокі толькі зрэдку праплывалі ў недасяжнай вышыні, то хмурным, як бы зласлівым... Гэты месяц Алекса запомніў назаўсёды... Нязвыклае пачуццё сваёй мізэрнасці перад велічнымі гарамі і адначасна радасці ад таго, што ён жыве і бачыць такое хараство, ізноў ахапіла яго. Ліловыя цені ў цяснінах, фіялетавыя і зялёныя плямы расліннасці і траў, вяршаліны магутных платанаў былі афарбаваны ружова-залацістым святлом, яно імкліва прыбывала, як прыбывала вада ў паводку, — і раптам сонца ўстала з-за белых шапак гор, заліло гліняны ўтаптаны дворык, сточаныя часам калоны дома, цьмяна-жоўты дувал... Алексу захацелася ўстаць на калені, каб маліцца сонцу і ўсяму наўкол, і нешта падступіла да яго вачэй шчымлівае, пякучае... А ў гэты час у далёкім Полацку, хутаючыся ў старую адзежыну, пазіраючы на халодны дождж, што, не перастаючы, уперамешку са снегам сыпаўся і шаргацеў па сценах келлі, выводзіў начыста летапісец, чарнарызец Нікан, слова за словам, перапісваючы яшчэ з лета напісанае з бяросты на пергамент, што захаваецца навечна: «У се жа лета памрэ Брачыслаў, сын Ізяслаў, унук Валадзімер, і Усяслаў, сын яго сядзе на стале яго. Яго ж нарадзі маці ад валхавання: мацеры бо нарадзіцца яго, бысць яму язва на галаве яго. І сказалі валхвы маці яго: «се язвено навяжы на яго, насіць е да жывата свайго». І носіць яго Усяслаў да сённяшняга дня...» Тое ж пісаў кіеўскі летапісец Нестар, толькі дадаў у канцы: «Таму нелітасцівы ёсць на кровапраліцце...»[2]

Не мог ведаць Алекса, любуючыся на ўсход сонца ў гарах, што адбывалася на радзіме, але памяць пра яе жыла ў сэрцы пастаянна. Мастацкае пераасэнсаванне характару героя, яго жыцця, паводзін выліваецца ў паэтызацыю ўзвышанага пачуцця любові да роднай зямлі, якое заўсёды падтрымлівала яго, дапамагала выстаяць у цяжкіх выпрабаваннях. Высокае, вольнае неба юнацтва, з якім ён вымушаны

[1] Іпатава В. За морам Хвалынскім. С. 124.
[2] Іпатава В. За морам Хвалынскім. С. 133.

быў расстацца сілай абставін, сімвалічна разгортвалася над ім на ўсім яго пакутніцкім шляху выгнання. Створаны сілай мастакоўскай фантазіі вобраз Алексы ўносіць у маральна-патрыятычны поліфанізм рамана матыў невынішчальнасці народных талентаў, іх бязмежных магчымасцяў, паказвае здольнасць беларусаў выжываць у любых умовах, вучыцца, браць усё лепшае, што ёсць у другіх, праяўляць цярплівасць, цікаўнасць, майстэрства. Суперажываючы лёсу Алексы, міжволі згадваеш лёсы многіх таленавітых выгнанцаў, якіх ці мала было ў нас на працягу стагоддзяў. Раман «За морам Хвалынскім» — першая ў беларускай літаратуры спроба асэнсаваць духоўны вопыт тых, хто не па сваёй волі вымушаны быў пакідаць Бацькаўшчыну ў самыя розныя часы і сцвярджацца ў чужым свеце, засвойваць непадобныя культуры, традыцыі, мову, навуку. Гэты твор цікавы і тым, што аўтар, разгортваючы малюнкі жыцця тагачаснай Сярэдняй Азіі, гаворачы пра высокую духоўнасць, мудрасць і вучонасць лепшых прадстаўнікоў краю, не замоўчвае і змрочных, адмоўных праяў, выказвае сваё непрыняцце жорсткасці і гвалту над простым чалавекам. Суразмерна спалучаючы ўласнае веданне гісторыі Усходу, цяперашнія асабістыя назіранні (успомнім, як любуецца гераіня яе ранняга апавядання «Дваццаць хвілін з Немезідай» цудоўнымі старажытнымі помнікамі Бухары, Самарканда) і мастакоўскі вымысел, пісьменніца, як і ў папярэдніх аповесцях, праз сістэму мастацкіх вобразаў і рэальна жыўшых асобаў, змагла напісаць твор пра далёкае мінулае, але не пра гераічныя падзеі, бітвы, перамогі, а пра глыбінныя плыні жыцця народа і яго таленавітых прадстаўнікоў, што стваралі духоўную гісторыю нацыі. Раман насычаны драматычнымі момантамі, трагедыйнымі сітуацыямі, дынамічнай падзейнасцю, нечаканымі паваротамі сюжэта і заканчваецца нешчасліва — гвалтоўнай смерцю галоўнага героя літаральна на парозе роднага краю, куды ён нёс свае веды. Аднак усё гэта ўспрымаецца хоць і з болем у сэрцы, але як сведчанне трагічнасці самой беларускай гісторыі, якая на працягу многіх стагоддзяў сцвярджалася крывёю і жыццямі лепшых сыноў Бацькаўшчыны.

Такой інтэрпрэтацыяй, глыбокай зацікаўленасцю мінуўшчынай і асобай чалавека ў ёй тлумачыцца своеасаблівасць творчай манеры Вольгі Іпатавай як гістарычнага апавядальніка. У яе няма прыхільнасці да вялікіх эпапей або імкнення будаваць сюжэт храналагічна-паслядоўна, ва ўсіх падрабязнасцях эпохі. Для аўтара важна даследаваць духоўны свет, маральны вопыт чалавека, праз чый драматычны лёс можна прасачыць і аднавіць урокі гісторыі народа, сугучныя нашаму часу. Сцвярджаючы непарыўную сувязь пакаленняў як

гістарычную пераемнасць гуманістычных і грамадзянскіх здзяйсненняў асобы, Вольга Іпатава ўключае ў апошнія старонкі рамана адкрыта публіцыстычнае выказванне, прасякнутае болем за страчаныя таленты: «Гляджу на сярэбраны дырхем з адкапанага скарбу, думаю пра тое, колькі сыноў і дачок маёй зямлі не вярнуліся з далёкіх дарог, загінулі, не данеслі, не сказалі пра тое, што маглі б... А хто і застаўся чужынцам, адрокшыся ад яе, спакусіўшыся чужымі дабротамі і чужым небам.

Нічога не засталося ад палачаніна Алексы, у глеістых нізінах Друцi расплыліся літары, што дзень за днём, тыдзень за тыднем выводзіў ён, пішучы сваю кнігу. Але не засталося і полацкага летапісу, што пісаў у манастыры чарнарызец Нікан, не засталося і ікон, якія малявала жанчына па імені Нялюба — зніклі яны ў агні вялікага пажарышча, калі браў Полацак цар Іван IV, а што не дагарэла — пазней, калі брала горад войска Стэфана Баторыя.

А можа, засталіся — але вывезеныя ў чужыя землі, і чужыя раўнадушныя рукі кранаюць іх, гартаюць старадаўнія запісы?

Ці адкажа нам калі-небудзь на гэта Час? Ці раскрые свае таямніцы, што там і сям зеўраюць у абрабаваным, акрываўленым палатне беларускай гісторыі...?![1]

Час раскрывае свае таямніцы дзякуючы гістарычным творам Вольгі Іпатавай, іншым аўтарам, якія ўзнаўляюць далёкія падзеі нашай гісторыі. Раман «За морам Хвалынскім», як і аповесці «Агонь у жылах крэменю», «Чорная княгіня», публікаваўся ў 1989 годзе, а ў 1991 годзе быў выдадзены на рускай мове (пераклад Г. Нужковай) у Маскве. Гэтыя гістарычныя рэчы, напісаныя амаль адначасова, склалі пэўны этап у творчасці пісьменніцы і канчаткова замацавалі яе ў намеры вяртаць сучаснікам гістарычную памяць, пісаць творы пра мінулае, якія скіраваныя, як раман «За морам Хвалынскім», сваім пафасам у сучаснасць, а ўрэшце і ў будучыню краіны, якая даўно сцвердзіла і даказала сваю незалежнасць.

## ТРЫЛОГІЯ
## «ЗАЛАТАЯ ЖРЫЦА АШВІНАЎ»
## «ВЯШЧУН ГЕДЗІМІНА»
## «АЛЬГЕРДАВА ДЗІДА»

Гэтыя творы былі напісаны Вольгай Іпатавай на працягу пяці гадоў (1997-2001). Раман «Залатая жрыца Ашвінаў» друкаваўся спа-

[1] Іпатава В. За морам Хвалынскім. С. 242.

чатку ў «Полымі» (1997, № 10-11; 1998, № 6-7), асобным выданнем выйшаў у 2000 годзе (на рускай мове, пераклад Ірыны Качатковай). У новым рамане пісьменніца звяртаецца да падзей XIII стагоддзя, перыяду стварэння беларуска-літоўскай дзяржавы, пачаткаў старажытнага Наваградка, калі там княжыў Міндоўг, закладваліся муры Наваградскага замка і побач з хрысціянствам існавалі паганскія вераванні нашых далёкіх продкаў. Гэты перыяд, слаба асветлены ў навуковых даследаваннях і гістарычных хроніках (згадваюцца хіба навуковыя працы Язэпа Дылы «Месца беларусаў сярод тубыльцаў Усходняй Еўропы», «Прааайчына Славянаў і іх рассяленне», «Мінулае Беларусі», ягоны раман «На шляху з варагаў у грэкі», дзе апісваюцца падзеі дахрысціянскіх часоў і пачатак пранікнення на старажытныя славянскія землі хрысціянства, а таксама падарожжы ў чужыя далёкія краіны), замежных і айчынных, апошнім часам знайшоў сваё адлюстраванне ў такіх мастацкіх творах, як «Жалезныя жалуды» Леаніда Дайнекі, «Кліч роднага звона» Генрыха Далідовіча, «Паходжанне і радавод вялікіх князёў літоўскіх» Вітаўта Чаропкі. У рамане «Залатая жрыца Ашвінаў» Вольгі Іпатавай упершыню ў беларускай літаратуры даследуюцца індаеўрапейскія, арыйскія карані нашай культуры, раскрываюцца тыя моманты, калі наваградская зямля станавілася цэнтрам Вялікага Княства Літоўскага, і канкрэтна, якія адбываліся пры гэтым падзеі ў часы Міндоўга і Войшалка, што сабой уяўляў Наваградак і яго навaколле, якая барацьба вялася паміж суседнімі княствамі. Дзеянне рамана разгортваецца якраз на мяжы ўмацавання хрысціянства і глыбіннага бытавання паганства. Агульнавядома, што хрысціянства прыйшло на ўсходнія землі ў X, а на беларускіх землях яшчэ ў XIII стагоддзі жыло двухвер'е, адчуваўся моцны ўплыў язычніцтва, што ішло ад старажытнаіндыйскай рэлігіі, ад вераванняў індаеўрапейцаў, якія прыйшлі ў Еўропу з Азіі. Браты-блізняты Ашвіны, што згадваюцца ў «Рагнедзе», культ блізнят — вызначальная рыса старажытнаіндыйскай арыйскай цывілізацыі, і гэты культ спавядаўся ў славян, балтаў, германцаў, іншых народаў. Язычніцкія багі Ашвіны, якім пакланяліся нашы далёкія продкі, абрады, малітвы перайшлі да іх ад арыйцаў. Пакланенне гэтым добрым, спрыяльным чалавеку багамблізнятам на беларускіх землях было вельмі моцным якраз у той перыяд, які апісваецца ў рамане.

Другая сюжэтная лінія твора звязана з вядомымі гістарычнымі асобамі, найперш князем Міндоўгам, умацаваннем яго свецкай улады. Гэты гістарычны пласт рамана, насычаны змястоўнай інфармацыяй, не быў бы такім цікавым, калі б пад пяром пісьменніцы не ажыла эпоха ва ўсёй шматграннасці тагачасных рэалій. Шырока

выкарыстоўваюцца ў рамане дакументальныя матэрыялы, кніжныя помнікі, паданні наваградскага краю. Усё гэта, сцэментаванае творчымі ўяўленнямі аўтара, дае магчымасць убачыць той складаны, супярэчлівы перыяд, калі язычніцкі культ здаваў свае пазіцыі, перарастаючы ў хрысціянства, зразумець і ўспрыняць ідэю духоўнай лучнасці людзей у непарыўным адзінстве з прыродай, вечнасцю, пошукамі ісціны ў бясконцасці часу і космасу. Падобныя матывы выразна гучалі і ў рамане «За морам Хвалынскім». Гэта адзначае ў сваім водгуку на раман і таленавітая паэтэса Ніна Мацяш: «Залатая жрыца Ашвінаў» ватавай папраўдзе «мора Хвалынскае» і роздуму над жыццём, і аўтарскай абазнанасці ў старажытнай гісторыі і культуры, як нацыянальнай, так і заходняй ды ўсходняй. А мне яшчэ думаецца: гэта ж да якой процьмы крыніцаў спярша трэба было прыпасці Олі, колькі старонак летапісаў, гістарычнай, міфалагічнай, мастацтвазнаўчай, філасофскай, медыцынскай, урэшце рэшт! — літаратуры свету давялося ёй перагартаць, засвоіць, асэнсаваць, каб затым гэтак вабна і праўдзіва, узрушліва сказаць, нагадаць сучаснікам старыя ісціны: пра роднасць, блізкасць самых розных на зямлі людзей, пра адзінства відомага і невідомага светаў, пра невымерную сілу Слова і псіхічных энергіяў, светлых і цёмных, пра магчымасць чалавечай улады над уласнай прышласцю — пры ўмове настройвання душы «ў лад са светлымі струнамі быцця, а ўсё астатняе ад цябе не залежыць...»[1]

І сапраўды, Вольга Іпатава разглядае чалавека і ягоны лёс як звыш наканаваны ў сусвеце, дзе ўсё прадвызначана і гарманічна-суразмерна: і прырода, і жыццё людзей у непарыўным адзінстве і невыпадковасці. Галоўная гераіня рамана Жывёла — жрыца язычніцкага храма Ашвінаў, што дзейнічаў непадалёку ад Наваградка каля возера Менцязь, перакананая ў існаванні вышэйшай нябеснай сілы, якая ўплывае на лёс кожнай жывой істоты і таму імкнецца дзейнічаць у адпаведнасці з гэтай жыццёвай наканаванасцю: «Я люблю ўсіх, бо мы ўсе — душы, што прыляцелі сюды, каб зрабіць наканаванае», — гаворыць яна князю Міндоўгу, не пагаджаючыся з яго прагай бязмежнай улады, якой ён дабіваецца любымі сродкамі, коштам чалавечых ахвяр і вераадступніцтвам. «Душа яе плакала, ніяк не могучы змірыцца з тым, што на зямлі, дзе ёсць усё, каб быць шчаслівымі, людзі ненавідзяць, зайздросцяць і забіваюць адзін аднаго. Бясконцай спіраллю цягнецца Зло, і дзе тое месца, якое можна было б выпаліць святлом і любоўю, як выпальваюць у храме праз крышталёвы шар-пацік страшны гнілец на целе хворага... Думкі яе зноў перайшлі да бацькі,

---

[1] Мацяш Ніна. Прачытаеш — сам пераканаешся: Ліст да сябра // Культура. 2000. 8-14 красавіка.

да Міндоўга. Колькі крыві праліў ён па дарозе да Наваградскага трона! І хоць нашмат меншае ягонае княства, а непакорныя князі самі ўздымалі смуту, ці апраўдаецца ён перад багамі за тыя смерці? Ці ўладару, які збірае пад адну руку землі, каб стварыць магутную дзяржаву, даруецца тое, што не даравальна для простых смяротных? Бо сабраныя ў адно людзі збіраюць у адно і слабыя парывы свайго духу, і ствараецца над той ці іншай краінай ахоўнае покрыва. Над магутнай краінай яно таксама магутнае, вось толькі трэба, каб не азмрочваўся той покрыў злом і няпраўдаю. Можа, і даруюць багі Міндоўгу, а значыць і ягоным дзецям, бо хто ж, як не дзеці, нясуць на сабе і ў сабе, у сваёй крыві бацькаву віну ці бляск подзвігаў...»[1] Амаль тыя ж думкі выказвае Жывена і свайму брату Войшалку, упэўненая, «што ўсё наканаванае ўжо існуе ў будучым, жыве яно і ў мінулым пасля таго, як адбылося, бо Час не рухаецца. І мы, толькі мы, праходзячы скрозь ягоную вось, сутыкаемся з падзеямі, а яны сцерагуць нас, выпрабоўваюць на нешта, што вядомае толькі багам ці вагам, на якіх узважваюцца пасля смерці ўсе нашы грахі». З гэтых яе перакананняў вынікае, што мала толькі скарыцца з пасланым табе лёсам. Трэба з годнасцю сустрэць і перанесці ўсе жыццёвыя выпрабаванні, здзейсніць сваё прадвызначэнне. А яно ў служэнні людзям, высокай духоўнасці, любові і вернасці роднай зямлі. Вобраз Жывены — адзін з самых глыбокіх у рамане, і глыбіня яго абумоўлена многімі выдатнымі рысамі характару беларускай жанчыны наогул — і ў першую чаргу вонкавым і ўнутраным хараством, талентамі, розумам, дадзенымі ад прыроды. І пісьменніца не дэкларуе гэтыя якасці сваёй гераіні, а раскрывае іх праз дзеянні і ўчынкі, узаемадачыненні з рознымі людзьмі, хаджэнні па еўрапейскіх, візантыйскіх дарогах, на якіх давялося зведаць фізічныя пакуты і ўзлёты духу, радасць сустрэч з новым светам і цяжкія выпрабаванні, пераканацца ў нязбытнай сіле любові да радзімы, нягледзячы ні на якія спакусы. Наогул уся мастацкая сістэма рамана, яе вобразны лад ад раскрыцця язычніцкіх вытокаў нацыянальнага светапогляду, выхавання Жывены ў храме пад апекай мудрага жраца Светазара да прыгодніцка-займальных падзей, звязаных з яе прымусовым вандроўніцтвам, падпарадкавана адной звышзадачы — паказаць непарыўную духоўную сувязь чалавека з роднай зямлёй, выключнае значэнне свайго, асабістага як перадумову ўспрымання і засваення чужога, агульначалавечага. А такая задача актуальная для мастацтва ва ўсе часы. І Вольга Іпатава, не асучасніваючы вобраз Жывены, аднак сцвярджаючы традыцыйна-лепшае,

---

[1] Іпатава В. Залатая жрыца Ашвінаў. Мн., 2000. С. 147.

што назапашвалася і складала сутнасць беларускі, робіць сваю гераіню нашай сучасніцай па духу. Знаёмства з маладой жрыцай храма Ашвінаў адбываецца з першых старонак рамана. Шырока разгортваецца апісанне храма Ашвінаў, сцэна набажэнства, дзе Жывена ўпершыню спрабуе свае лекарскія веды, вылечвае цяжкахворых, за што народ ганаруе яе імем Залатой жрыцы. «...А тым часам Ашвіны выконвалі сваю звычайную працу — перапраўлялі людзей праз Ноч да раніцы. Так прасілі іх кожны вечар жрацы храма. І багі, упрыгожаныя зорнымі бранзалетамі, добразычліва прынялі сённяшнія ахвяры: багіня ранішняй зары Аўшра імкліва ўспарола сваім мячом пярыну аблокаў, і пры першым яе ружовым слядку пацягнуліся на каменную вежу жрацы. Старажытны гімн выконваўся, як і многія стагоддзі, на санскрыце...

У храме, пакуль яшчэ закрытым, свірэль пяшчотна пачала весці сваю прыхаматлівую мелодыю, яна пацякла, нібы струмень крыніцы, што прабіўся на паверхню, і жрыца, якая стаяла наверсе, пачала спускацца ўніз, у храм...

Залатая парчовая сукня яе і доўгія валасы — усё нібыта ўспыхнула разам з медальёнам, адкінуўшы ў глыбіню дрэваў яшчэ схаваную там цемру, і прысутныя закрычалі вітанні так голасна і ўзнёсла, нібыта і сапраўды сама багіня ранішняй зары з'явілася перад імі ўвачавідкі.

Калісьці, як запісана ў храмавым летапісе, яе клікалі Сур'ёй — дачкой бога Сонца. Але паступова імя перамянілася на Аўшру, пра якую ўсе тут складалі казкі — і пра тое, як закахаўся ў ранішнюю зорку-зараніцу ясны месяц, і пра тое, як, раззлаваўшыся на здраду, рассекла сонца ягоныя грудзі надвое. Але апошнія стагоддзі ўсё часцей мясцовыя славяне клікалі багіню Ляляй і дзяўчаты прасілі ў яе прыгажосці і вабнасці. Вось і зараз сярод вітальных клічаў гучалі розныя імёны багіні, але ўсе, хто тут сабраўся, праглі, каб багіня дапамагла, упрасіла прыляцець Ашвінаў, бо толькі адна яна жыве паміж імі — сынам ночы і сынам світання.

— Я малюся за ўсіх вас, — сказала яна, — за ўсіх я прашу цудадзейных Ашвінаў, якія вяртаюць жыццё памерлым, вылечваюць сляпых і кульгавых, дастаюць з бездані тых, хто згубіў надзею. Але цуд знаходзіць толькі таго, хто адкінуў прэч свае правіны і гатоў душою ачысціцца...»[1]

І гэта ачышчэнне душы, вяртанне да вытокаў як да генетычнай памяці сапраўды адбываецца, калі чытаеш старонкі рамана, асабліва

[1] Іпатава В. Залатая жрыца Ашвінаў. С. 22.

паданні пра язычніцкія абрады, старажытных багоў: багіню прыгажосці Лялю, бога маразоў Зюзю, Перуна, Вялеса, Вадзяніка, Лядашчыка, Паўночніка, багіню смерці Мару, Дзядоў, Мокаша, Спарышоў. Легенда пра багоў-блізнят, якая існуе ў многіх народаў, творча перапрацаваная пісьменніцай, раскрываецца ў двух аспектах: як рэлігійная аснова веры нашых продкаў у багоў Ашвінаў і як рэальнае жыццё братоў-блізнятаў Відэвута і Брутэна, што мелі своеасаблівы ўплыў на лёс Жывены. Багі-блізняты як бы суправаджаюць Жывену на ўсім яе жыццёвым шляху: у Наваградчыне гэта Ашвіны, святыя Казьма і Даміян у Візантыі, блізняты Ромул і Рэм у Рыме. Стоячы перад іконай Казьмы і Даміяна ў Канстанцінопалі, Жывена бачыць у абліччы гэтых святых сваіх багоў Ашвінаў, якім пакланялася дома: «Залатавалосыя светлыя юнакі былі менавіта такімі, якімі не раз уяўляліся ёй у час летуценняў ў далёкім наваградскім храме Ашвіны...» Такімі параўнаннямі аўтар рамана сцвярджае ідэю роднасці і падобнасці сусветных культур. Але галоўнае для пісьменніцы — паказаць значнасць старабеларускай культуры. Мудрасць арыяў, іх набажэнствы, абраднасць, вераванні, што захаваліся ў язычніцкіх храмах, пергаментныя кнігі, вузялковае пісьмо, якімі ўмела карыстацца Жывена, — усе гэтыя сведчанні старажытнасці ажываюць у новым рамане Вольгі Іпатавай: «Зналі нашы продкі і мудрасць Заратустры, і звычаі арыяў, калі не было яшчэ праслаўленай Троі...» Але з горыччу канстатуе яна далей, што «страцілі яны ўсё гэта за час сваіх блуканняў..., на сённяшнюю сваю зямлю прыйшлі пазней, чым рамеі...»

У рамане побач з тэмай узнаўлення старабеларускай культуры як бы другім планам праходзіць і тэма яе знікнення ў сувязі з прыходам хрысціянства. А яно, пранікаючы ва ўсе сферы жыцця, знішчала язычніцкія храмы, як гэта здарылася з храмам на Менцязі, дзе служыла Жывена. Наступаў новы час, новая вера. У разуменні ўсіх гэтых праблем выразна акрэсліваецца аўтарская пазіцыя, выказаная праз думкі, развагі Жывены, якая, не адпрэчваючы безагаворачна надыход новага, у нечым пагаджаючыся з Войшалкам, які ў спрэчцы з ёй даводзіў, што яднанне людзей павінна адбывацца на грунце адзінай рэлігіі, усё ж імкнецца даказаць неабходнасць захавання лепшых традыцый старых вераванняў і абрадаў.

Такія праблемы пастаўлены ў раманё з улікам становішча чалавека ў сённяшнім свеце. І тут нельга не пагадзіцца зноў жа з меркаваннямі Ніны Мацяш, якая, з прычыны салідарнасці з аўтарскай пазіцыяй, адзначала: «Іншы час, іншая вера. Мноствасць дахрысціянскіх багоў саступіла месца Аднаму. Можа, грэшная мая думка, але — ці не збяднеўся ад таго свет наш духоўны? Верым Хрысту як Збаўцу

людства ад улады смерці, просім Яго аб літасці і дараванні грахоў нашых. Маем дзесяць Божых запаветаў — як маральны кодэкс, рэгламентацыю паводзінаў у соцыуме. А дзе ж «зорнае неба над намі», дзе багомлівая повязь з травой, дрэвам, вадой, птушкай, зоркай, а праз тое — разуменне адзінства Сусвету, асэнсаванне і адчуванне сябе як панітаванай з усім наваколлем часцінкі, падлеглай адным і тым жа прыродным законам? Прызнаюся, мне папраўдзе шкада, што людзі страцілі гэтае разуменне. «Цьмянее чалавечы дух ад стагоддзя да стагоддзя, гнецца ніжэй зямлі, а раўнавага толькі пасярэдзіне... А гэтак проста — пачынаючы жаць, папрасіць прабачэння ў той, што расціла каласы, прасіла хмары напаіць іх, а сонца — прывеціць. У кожнай сцяжыны, кожнай даліны ёсць свой ахоўца, вось чаму лягчэй жывецца на роднай зямлі, дзе яшчэ твае дзяды і прадзеды ўмелі гаварыць з ляснымі і палявымі гаспадарамі і слухацца іх...»

Гэта ж я цытую табе разважанні Жывены, «Залатой Жрыцы Ашвінаў». Не драўляных ідалаў шкада: сумна і прыкра, што ўсе мы спакваляператвараемся ў духоўных бамжоў, звыкаем жыць на сметніку ў прамым і пераносным сэнсе...»[1]

І сапраўды, ва ўсе часы душа мае патрэбу ў чысціні, дасканаласці, любові і веры. І быццам да нас звернуты поўныя глыбіннага сэнсу словы: «Мы страцілі жывую радасць да жыцця — проста жыцця, здрабнелі ў жаданнях і забыліся, што мы лісты аднаго дрэва... Свет раскрываўся ў незлічоных сваіх загадках — чаму пахнуць кветкі, што кіруе дрэвам ці раслінаю, калі яны з пупышак расхінаюцца ў раз і назаўсёды вызначаных формах, што рухае сок у зёлках — надае ім жыццядайную сілу... Яны лечаць хваробы, а жрацы звяртаюцца да душаў, таму што любая хвароба — гэта расплата за парушаныя законы, па якіх трэба жыць чалавеку...»[2]

Гарманічным паўстае духоўны свет Жывены таму, што яна, мацуючыся спакоем і хараством навакольнага свету, разумеючы і абапіраючыся на законы прыроды, змагла авалодаць лекарскімі ведамі і лячыць людзей фізічна і духоўна. Праз яе малітвы-звароты да Ашвінаў, багоў зямлі і вады, агню і паветра, лесу і поля, неба і зорак паўстае таямнічы пантэон старажытных беларускіх багоў, раскрываецца іх уплыў на лёсы людзей.

А лёс самой жрыцы храма Ашвінаў быў незвычайным ад яе нараджэння. Таямніца паходжання Жывены раскрываецца падчас яе паўналецця. Якраз тады адбывалася хрышчэнне навааградцаў і

---

[1] Мацяш Ніна. Прачытаеш — сам пераканаешся: Ліст да сябра // Культура. 2000. 8-14 красавіка.
[2] Іпатава Вольга. Залатая жрыца Ашвінаў. С. 63.

княжацкай сям'і, а каб захаваць язычніцкае капішча на Менцязі, мудраму Святазару — галоўнаму жрацу храма Ашвінаў давялося сказаць, што Жывена, унучка багатага навааградскага купца Агапія, з'яўляецца дачкой князя М надоўга. Але гэтае высокае становішча не выратоўвае Жывену ад цяжкіх выпрабаванняў, а язычніцкі храм — ад знішчэння.

Выкарыстоўваючы амаль дэтэктыўныя прыёмы прыгодніцкага жанру, нечаканыя сітуацыі, якія захапляюць чытача дынамічнасцю падзей і вобразаў, пісьменніца цэласнымі блокамі разгортвае праз лёс Жывены тагачасную эпоху: блок паганскі, двор князя Міндоўга, сцэны жыцця навааградцаў і княжацкай сям'і, купецкае саслоўе, умовы яго побыту, пачатак узвядзення навааградскага замка, паказвае злавесную ролю крыжакоў — вечных заваёўнікаў, еўрапейскія і візантыйскія дарогі галоўнай гераіні. Кожны з гэтых сюжэтаў нясе пэўную раманную задачу, з'яўляецца той неабходнай цаглінкай, без якой нельга выбудаваць цэласны мастацкі твор. І праз вобраз галоўнай гераіні, які звязвае ўсе гэтыя сюжэтныя лініі, раскрываюцца асноўныя падзеі рамана. І хаця напачатку Жывена паўстае ў вобліку амаль багіні, залатой жрыцы язычніцкага храма, аднак гэта не іканапісная асоба. І нездарма аўтар дае ёй імя «Жывёла» — ад слова «жыццё», бо жанчына — крыніца і сімвал узнаўлення чалавечага роду. Гэтая неабвержная ісціна сцвярджаецца своеасаблівым «фемінацэнтрызмам» (тэрмін У. Конана) Вольгі Іпатавай. Ёй наогул найбольш удаюцца жаночыя вобразы, і не толькі нашых сучасніц. Ва ўсіх яе творах гістарычнай тэматыкі няўхільна прысутнічаюць жанчыны і нам заўсёды цікава даведацца, якімі яны былі ў тыя далёкія часы. ГІрадслава-Еўфрасіння — сёння для нас сімвал і апякунка нацыі, якая адкрывае род беларускіх святых, паказана ў «Прадыславе» не толькі ў велічы і святасці яе самаахвярнага служэння Богу і людзям, але і як звычайная жанчына, адухоўленая моцным пачуццём зямнога кахання. У супрацьлегласць ёй бязвольнай ахвярай дынастычных шлюбаў паўстае ў «Чорнай княгіні» Галынка Астрожская, як і бяспраўная палачанка Бяроза, прададзеная князем Брачыславам бухарскаму купцу Абдурахману, а шляхцянка Ева Касцевіч, хоць і змагалася за сваё каханне і чалавечую годнасць, але не дадзена было ёй пераадолець тагачасныя станавыя перашкоды і абставіны. Гэтыя жаночыя вобразы раскрываюцца адны з пачуццём замілаванасці, павагі і захаплення іх лёсамі, другія са шчырым спачуваннем і нязменнай сімпатыяй. Праз іх чалавечыя лёсы раскрываліся характэрныя адзнакі эпохі, уклад жыцця розных сацыяльных станаў. І калі Жывена нечым падобная да маладой Прадславы, то ёй зусім не ўласцівыя рысы

Гальшкі ці Бярозы з іх бязмежнай пакорлівасцю, «непраціўленнем злу». І нездарма гераіня рамана носіць імя Жывены, а пазней у Візантыі ёй далі імя Еўфрасінні, бо тыя рысы характару, якім яна валодала, не могуць не служыць вечна жывым прыкладам для нашчадкаў. У лёсе Жывены ў нейкай ступені ўвасоблена тагачасная маладая Беларусь, яе жыццё і гісторыя. Жывена — дзіця сваёй зямлі, а зямля гэтая не раз дратавалася нямірнымі суседзямі, была паланянкай, знаходзілася ў межах уплыву Заходняй Еўропы і Візантыі, уздзеянне якіх з вонкавага боку фармавала культурную існасць Беларусі, вызначала яе эканамічныя кантакты ад пачатку XIII стагоддзя. Храналагічныя рамкі «Залатой жрыцы» — 1242-1263 — год нараджэння Жывёлы і год смерці Міндоўга — менавіта той час, калі Наваградскае княства наладжвала сувязі як самастойная дзяржава з Нямеччынай, Чэхіяй, Рымам, прыбалтамі, то варагавала, то мірылася з Галіцка-Валынскім княствам, адчувала набегі татара-мангольскіх ордаў. У рамане — гэта сюжэтныя лініі наваградскага купца Агапія, які вазіў тавары ў Візантыю і не раз расказваў сваёй унучцы пра гэты цудоўны горад, нямецкага рыцара Райнера, закаханага ў Жывену, які, не адчуваючы ўзаемнасці, падманам паланіў прыгажуню-беларуску, маладых чэхаў Душана і Гайны, што загінулі ад татарскіх шабляў на шляху да Берасця і дзіця якіх, выратаванае Жывенай, будзе прададзенае разам з ёй на рынку рабоў у Канстанцінопалі. Так, воляю лёсу і жорсткіх абставін Жывена разам з прыёмным сынам, якога яна назвала Святазарам, трапляе ў багаты дом высакароднага Нікіфара Скліра, займаўшага высокую пасаду пры двары імператара Візантыі.

Так завяршаецца першая частка «Залатой жрыцы Ашвінаў», якая прадвызначыла сюжэтны накірунак другой кнігі, звязанай у асноўным з гісторыяй Візантыі, а таксама са знаходжаннем Жывены ў Канстанцінопалі і яе хаджэннямі па еўрапейскіх дарогах. Мастацкім адкрыццём рамана можна назваць старонкі рамана, прысвечаныя старадаўняй Візантыі, якая даўно цікавіла Вольгу Іпатаву. Пра яе пісьменніца расказвала ў тэлеперадачах «Спадчыны» і цяпер шырока раскрывала ў новым творы. У прадмове да публікацыі яго раздзелаў у газеце «Чырвоная змена» Вольга Міхайлаўна пісала: «Візантыя — краіна, якой няма сёння ні на адной карце свету і якая, аднак, засталася ў гісторыі і сёння, няхай і незаўважна — увайшла ў маё жыццё даўно.

Яшчэ ў сямідзесятыя гады мне падарылі трохтомнік «Візантыя», і з таго часу я купляла ўсё, што можна было знайсці ў кнігарнях пра тысячагадовую імперыю рамеяў — рымлян, якія, аддзяліўшыся ад язычаскага Рыма, яшчэ ў IV стагоддзі заснавалі сваю новую сталіцу Рымскай імперыі. Яна праіснавала ад паловы IV да паловы XV ста-

годдзя, калі, урэшце рэшт, была захоплена туркамі і знішчана, а яе сталіца Канстанцінопаль, або, як называлі яго славяне, Царгорад, стала называцца Стамбулам. Вядома, што яшчэ ў X стагоддзі Царгорад плаціў даніну Кіеву і Полацку, а візантыйскія святыні доўгія стагоддзі былі дарагімі і для нашых продкаў, усходніх славян: менавіта адсюль пайшло на старажытную Русь і Полацкае княства хрысціянства ўсходняга абраду, сюды, на Афон і іншыя манастыры, падарожнічалі праваслаўныя паломнікі з Вялікага Княства Літоўскага. Па сутнасці, усе службы ў нашых цэрквах і дасюль праходзяць па тых узорах, што дала нам Візантыя, і дасюль суправаджаюцца творамі менавіта візантыйскіх аўтараў, напрыклад «Словы настаўніцкія» Ісаака Сірыяніна, «Вялікі акафіст Багародзіцы» патрыярха Сергія, славуты заўпакойны гімн Іаана Дамаскіна.

У Візантыю яшчэ ў XII стагоддзі, пасля ўпартай барацьбы з кіяўлянамі, былі сасланы полацкія князі, і наўгародзец Дабрыня Ядрэйкавіч у сваёй кнізе «Хаджэнне ў Царгорад» згадвае пра смерць князя Барыса Полацкага і жонкі Брачыслава Барысавіча Ксеніі. Дарэчы, гэты ж аўтар апавядае і пра мноства святыняў, якімі поўніліся шматлікія храмы і манастыры Візантыі, напрыклад мармуровы камень ад студні, ля якой Хрыстос размаўляў з самарыцянкай, цвікі, губка і баграніца, якія ўжываліся падчас яго ўкрыжавання, і многае іншае. Мы ведаем, што прывезеныя з Ерусаліма імператрыцай Аленай, маці імператара Канстанціна, святыні, асабліва жыватворны крыж, на якім быў распяты Хрыстос (адсюль і свята Узвіжанне), зрабілі Візантыю надзвычай прывабнай для праваслаўных паломнікаў усяго свету. У Царгорад прыязджала Еўфрасіння Полацкая, каб па дарозе да Ерусаліма пакланіцца гэтым святыням.

Пасля заваявання Царгорада крыжаносцамі ў 1204 годзе (што сталася ў выніку дынастыйных спрэчак у імператарскай сям'і) многія са святыняў былі вывезеныя на захад, як і выдатныя творы мастацтва, назапашаныя на працягу многіх стагоддзяў талентам і натхненнем лепшых творцаў свету, што прыязджалі ў Візантыю, прываблёныя яе бляскам. Вернутая ў 1261 годзе грэчаскімі патрыётамі краіна заставалася цвярдыняй праваслаўнага хрысціянства яшчэ два стагоддзі. Але ўдар быў ёй ужо нанесены. Ды, зрэшты, канчатковаму падзенню імперыі садзейнічалі многія іншыя фактары — знешнія і ўнутраныя. Нездарма адзін з візантыстаў Г. Літаўрын, характарызуючы дзяржаўную і прыватную ўласнасць у краіне, піша: «Візантыйская імперыя — адзіная краіна еўрапейскага Сярэднявечча, у манархічным ладзе якой захаваліся рысы старажытных азіяцкіх дэспатый».

Мне хацелася звярнуцца да Візантыі, якую ў сярэдзіне XIII стагоддзя вызваляў Міхаіл Палеолаг, ягоны герб з двухгаловым арлом, упершыню пранесены па вуліцах Царгорада падчас перамогі, перайшоў праз пляменніцу апошняга імператара рамеяў Соф'ю да маскоўскіх вялікіх князёў, а пасля і на землі былога Вялікага Княства Літоўскага, стаўшы для нашых продкаў сімвалам царскага самадзяржаўя.

Да Візантыі, якая па працягу стагоддзяў гандлявала з нашымі продкамі, пра памеры гэтых узаемадачыненняў сведчаць раскопкі ў Наваградку. Да той зямлі, куды адпраўляліся, каб памерці і быць пахаванымі ў краіне храмаў і святыняў, многія з праваслаўных беларусаў.

У многіх рускіх летапісах можна сустрэць запісы аб тым, як князі, пастрыгаючыся ў манахі, праглі прычасціцца перад смерцю святых дароў з Візантыі. Так, вялікі князь цвярскі Міхаіл Аляксандравіч за два гады да смерці «адправіў у Цар горад паслоў з міласцю да саборнай царквы святой Сафіі і да патрыярха, імператар і патрыярх адправілі да Міхаіла свайго пасла з абразом Страшнага Суда, з мошчамі святых, з чэсным мірам». Сустрэўшы паслоў, князь пастрыгся ў манахі пад імем Матфея і на восьмы дзень пасля гэтага памёр.

Беларускіх летапісаў таго часу засталося няшмат, але, мабыць, такі звычай быў і ў полацкіх, мінскіх, тураўскіх і іншых праваслаўных князёў.

Падзенне Візантыі, захоп яе турэцкім войскам на чале з султанам Мехмедам Фаціхам Другім стала страшным ударам для ўсяго праваслаўнага свету — загінулі помнікі мастацтва, кнігі, рукапісы, святыні і тыя храмы, куды ішлі паломнікі.

У сённяшнім Стамбуле (дзе перад напісаннем «Залатой жрыцы» пабывала Вольга Міхайлаўна — Л. С.) захавалася іх няшмат — Сафійскі сабор IV стагоддзя вядомы як мячэць Ай-Соф'я. Ён цяпер музей, як і царква святой Ірыны — Ай-Ірыні, і фрэсак там захавалася мала. Але яны ёсць і таму, калі каму пашчасціць пабываць у Стамбуле, няхай знойдзе час, каб зайсці ў гэтую святыню, куды стагоддзе за стагоддзем прыходзілі нашы продкі дакрануцца да тых мармуровых калон, ля якіх стаялі яшчэ паслы князя Уладзіміра, што стаў пасля вядомы як Хрысціцель Русі, і дзе ўкленчвала святая Еўфрасіння Полацкая.

Але і пасля падзення Візантыі плынь багамольцаў хаця і паменшылася, але канчаткова не перапынілася. Зрэшты, і ў гарэмы асманскага халіфата трапляла шмат славянак, самай славутай з якіх стала Настасся Гаўрылаўна Лісоўская, альбо Рамадана (серыял пра яе прайшоў нядаўна па першай расійскай праграме). Яе імя (мусульманскае

імя — Хасекі Хурэм Султан) увекавечана ў многіх пабудовах Стамбула: у прыватнасці, у лазні, што стаіць ля самай Ай-Соф'і... Дарэчы, лазня для Усходу заўсёды была не толькі сродкам гігіены, але і своеасаблівым «клубам», таму клопат Раксаланы быў высока ацэнены сучаснікамі, а сёння ў яе былых лазнях месціцца цудоўны музей турэцкага дывана...

У рамане «Залатая жрыца Ашвінаў» я расказваю пра маладую наваградчанку Жывену, якая воляю лёсу апынулася ў Візантыі XIII стагоддзя — пераломнага не толькі для імперыі рамеяў, але і для нас, беларусаў, — менавіта ў гэты час засноўваў князь Міндоўг у Наваградку першую сталіцу Вялікага Княства Літоўскага, менавіта тады ён рашаў, якога кшталту хрысціянства трэба прымаць: усходняе ці заходняе...»[1]

Гэтыя звесткі, скампанаваныя пісьменніцай у сціслы гістарычны нарыс, у спалучэнні з яе ўражаннямі ад убачанага ў сённяшнім Стамбуле і мастакоўскай фантазіяй пераўтварыліся ў мастацка-пазнавальныя старонкі новага твора. І такія старонкі не толькі пашырылі раманную прастору, але, глыбей і дакладней раскрываючы характар галоўнай гераіні, яе светаўспрыманне, паказваюць, з якой зацікаўленасцю яна ставілася да ўсяго, што ўпершыню бачыла ў экзатычна-прыгожым і багатым горадзе, адначасова даюць і чытачу магчымасць стаць непасрэдным спадарожнікам яе вандровак і захапленняў. Праз успрыманне Жывены аўтар знаёміць чытача з паўднёвым каларытам Канстанцінопаля, дзе «кожны дом павінен знаходзіцца адзін ад другога на адлегласці дванаццаці стоп, каб не замінаць другім бачыць прыроду і мора». Яна бачыла «вузкія вуліцы з шасціпавярховымі дамамі, дзе верхнія драўляныя каморкі займалі беднякі, дамы цярпімасці, якіх тут было на ўсе магчымыя густы і кошты для багатых і для маракоў, што з усяго свету прыбывалі сюды праз Басфор, Залаты Рог і Прапанціду, мармуровыя высачэзныя лазні са старажытнымі, яшчэ антычнымі багамі, што стаялі ля дзвярэй... І тут жа, амаль побач, стаялі магутныя, гарманічныя, узнёслыя храмы, сцены якіх былі ўпрыгожаныя дарагой кафляй альбо фрэскамі, а дзверы выразаныя з каштоўных парод дрэў, якія каштавалі шалёныя грошы: эбена, сандала, жалезнага кедра. Але найпрыгажэйшыя з усіх брамаў былі менавіта ў найславуцейшым саборы святой Сафіі, вядомым ва ўсім свеце, і Жывена ўспомніла, з якім пачуццём захаплення апавядаў пра яго ейны дзед Агапій, і зноў успамін аб радзіме вострым нажом паласнуў па душы...

---

[1] Іпатава В. Візантыя — далёкая і блізкая // Чырвоная змена. 1993. 10 лістапада.

Галоўныя царскія вароты былі адчыненыя, у храм сёння можна было трапіць кожнаму. Бачны здалёк, як велізарны карабель, што плыве ў аблоках, ён уражваў яшчэ болей зблізку.

Складзеная з тысячаў мазаічных кавалкаў, над уваходам ззяла выява Хрыста. Яна была зроблена не проста майстрамі. Жывое, трапяткое яе ўздзеянне — нібы ўсё яшчэ, праз сем стагоддзяў пасля стварэння, у ёй вібрыравала нешта загадкавае, таемнае — імгненна адгукнулася ў Жывене, і яна, услед за Нікіфарам, сама не ўсведамляючы таго, апусцілася на калені.

А пасля яна разам з іншымі зайшла ўсярэдзіну. І нешта ў ёй ціха вохнула.

Нібы само неба лягло на цёмна-зялёныя мармуровыя слупы і ўтварыла гэты вялізны купал. Нібы паветра згусцілася і, пранізанае незлічонай колькасцю залатых пылінак, стала сценамі.

Вышыня. Стоены гул, як на моры, якое ў самы ціхі дзень бесперастанку вібрыруе. Адусюль ідзе высокая, амаль адчувальная сіла.

Колькі загадак, чалавечых пачуццяў, колькі лёсаў уплялося ў выявы святых, фрэскі, узоры, якія сем стагоддзяў стваралі тут пакаленне за пакаленнем? І пакаленне за пакаленнем укленчвалі тут людзі, шукаючы разгадкі сваіх пачуццяў, але нямногім даваліся яны, большасць жа сыходзіла з гэтага свету, так і не зразумеўшы, дзеля чаго прыходзяць сюды, пакутуюць, радуюцца; і ўсе стогны іх, плач і надзеі наслойваліся па гэтых сценах. Можа ад таго жывымі здаюцца святыя, што глядзяць на людзей унізе?..

І ёй адкрывалася веліч краіны, куды нездарма як зашпурнула яе, маленькую трэсачку — можа, дзеля таго, каб лепей зразумела свой далёкі свет, узважыла страшную прыцягальнасць улады, велічы — і свабоды...»[1]

А свет далёкай радзімы заўсёды быў з ёю і сярод прыгажосці, багацця чужой краіны адчуваўся найбольш абвострана і балюча: «І зноў у Жывейшым сне варушыў незлічоным лісцем свяшчэнны дуб, з дупла выглядала празрыстая, светлая, у вяночку з белых рамонкаў Ляля, а за ёю тоўпіліся русалкі, і тонкія галасы напаўнялі прастору музыкай. Над пяшчотна-сінімі палосамі квітнеючага лёну трапяталі жаўрукі, а вышэй над імі — бяздонна-велічнае неба такой асляпляльнай васільковай гушчыні, якую яна бачыла толькі на радзіме. Душа дзяўчыны кружылася над узгоркамі і далінамі, над чырвонымі мурамі наваградскіх вежаў, і ў сне такое замілаванне ахоплівала яе, што слёзы мачылі жорсткую падушку, а вобраз радзімы і твары дарагіх яе

---

[1] Іпатава В. Залатая жрыца Ашвінаў. С. 161.

сэрцу людзей стаялі перад вачыма і ўдзень. Ніколі не думалася, што такой нястрымнай, такою горкаю, безнадзейнаю мукаю будзе поўніцца сэрца. І аднойчы ў сне загучалі словы дзеда аб Наваградку, якія прыходзілі раней паўз яе душу. І адкрылася ёй, што ёсць любоў да радзімы...»[1]

Такія святыя пачуцці да роднай зямлі, як і своеасаблівы пантэізм паганскай веры Жывены, пакланенне сілам прыроды, якія жывуць у кожным чалавеку, незалежна ад яго волі і памкненняў, тым не менш не перашкаджалі ёй захапляцца дасягненнямі візантыйскай цывілізацыі, але і бачыць яе адмоўныя бакі, адчуваць супярэчлівасць і вышыні чалавечага розуму і духу, увасобленых у храмах, палацах, наогул гісторыі гэтай старажытнай краіны. І самае галоўнае, аўтару ўдалося паказаць, як паступова Жывена засвойвае хрысціянскія каштоўнасці. Яна ўжо не толькі захапляецца велічнасцю і прыгажосцю візантыйскіх храмаў, а падоўгу стоячы перад іконай Божай Маці, успрымае як сваё, блізкае душы, яе цяперашняму стану тое, што зыходзіла ад іканапіснага ліку, што лілося з глыбокіх, «як само быццё вачэй гэтай Маці, якая прыцiскала да сябе дзіця» і быццам прамаўляла нешта да маладой жанчыны. Жывена апынулася на раздарожжы. Прайшоўшы цяжкі шлях выпрабаванняў, пажыўшы ў Візантыі як рабыня-паланянка, а потым воляю лёсу стаўшы прыёмнай дачкой хрысціяніна, яна адчувала, што не можа быць ранейшай жрыцай храма Ашвінаў. «Аднойчы здагадалася і сама пахаладзела ад той думкі — усё болей пераўвасабляліся для яе Ашвіны ў святых, якіх бачыла ў візантыйскім храме Казьмы і Даміяна». Нават імя ў Візантыі ёй далі хрысціянскае — Еўфрасіння. Першы раз яе, славянку, так назвала камітэса Еўдакія, жонка высакароднага Нікіфара, другі раз Еўфрасінняй Жывену ахрысцілі ў царкве, падчас абраду ўдачкавання. І гэта не выпадковае супадзенне — новае імя Жывены наўпрост звязваецца з Еўфрасінняй Полацкай, бо Жывена ішла шляхам вялікай асветніцы, несучы святло высокай духоўнасці, самаадданага служэння людзям і сваёй радзіме. Так на вобразе залатой жрыцы Ашвінаў пісьменніца паказвае, як пранікала і сцвярджалася ў свядомасці людзей хрысціянства.

Аднак былі і многія іншыя перадумовы для яго пераможнага шэсця. Найперш палітычныя матывы — стварэнне адзінай дзяржавы, імкненне Міндоўга зрабіць усё, каб яна была прызнана хрысціянскім светам. Язычніку Міндоўгу новы хрысціянскі бог быў не вельмі зразумелым, але ён ведаў, што паганства, з яго пантэонам шматлікіх

---

[1] Тамсама. С. 137.

багоў, ніяк не спрыяла ўмацаванню краіны. Мудры, абачлівы палітык, ён знешне мог прымаць хрысціянства, каталіцтва, але ў душы заставаўся язычнікам. Ён «ішоў па гэтым шляху, але і азіраўся назад, таму што любоў да спадчыны дзедаў не згасала ў ім...»

Яшчэ больш рашучым прыхільнікам хрысціянства быў яго старэйшы сын Войшалк. Аднак Жывену хвалявала, якой цаной давядзецца плаціць за гвалтоўны пераход ад звыклых вераванняў да новай рэлігіі. І тут заканамерна ў рамане на першы план выходзіць праблема ўлады, пра магутнасць і значнасць якой у людскіх лёсах гаворыцца не толькі ў сувязі з характарам князя Міндоўга. Уводзячы ўрыўкі з «Храналогіі» Міхаіла Псела, якую начамі чытала Жывена, седзячы каля хворай Еўдакіі, а таксама цікавыя, інтрыгуючыя аповеды пра візантыйскіх валадароў, чый шлях да трона быў заліты крывёю, і яны, «узнятыя на найвышэйшую прыступку жыцця, замест таго каб вучыць дабру і святлу, якраз і давалі прыклады самай вялікай пачварнасці», пісьменніца піша пра ўладу Балдуіна Другога, якога давялося пабачыць Жывене. Яна «глядзела на старога чалавека, які сядзеў на троне, і адчувала яго халоднасць і раўнадушша да ўсяго, што адбываецца. Ён нават трохі забаўляўся, як забаўляліся яго папярэднікі на іпадроме ці рымскія цэзары ў Калізеі, дзе звяры рвалі жывое чалавечае цела. Чужыя жыцці і смерці даўно страцілі для яго каштоўнасць, бо столькі пажадлівасці і хцівасці, жаданняў і нянавісці клубілася стагоддзі запар вакол гэтага трона, што чыстаму чалавеку можна было б задыхнуцца ў нябачных, але надта адчувальных для яго чорных злавесных хмарах... Агромністай, застыглай, як смальта на вядомых візантыйскіх мазаіках, была ўлада і севаста-імператара. Нават такога, якім быў Балдуін Другі, — пастаўлены на трон сваім цесцем, вядомым воінам дэ Брыенам, заходнім рыцарам, які прывык секчы баявым тапаром з усяго размаху. Аднак жа трыццаць тры гады, праведзеных на троне, — і на якім троне! — зрабілі з яго другога чалавека. Ды што там чалавека — паўбога, чые адлюстраванні на залатых манетах — намісмах — быццам памнажалі яго самога, прымушалі візантыйцаў, нават самых худародных, нават у тавернах ці публічных дамах, зніжаць голас, гаворачы пра імператара...»[1] А якой раскошай і рабскай пакорлівасцю быў абкружаны Балдуін Другі, мы бачым таксама праз успрыманне Жывены: ёй, разам з Нікіфарам, пашчасціла трапіць на прыём у палац. Маляўніча дакладна і падрабязна апісвае пісьменніца іх шлях у Трыконх — любімы, з мноства іншых, палац Балдуіна — праз раскошныя незлічоныя залы і галерэі:

[1] Іпатава В. Залатая жрыца Ашвінаў. С. 179.

«Трыконх нават у гэты непрыветны лістападаўскі дзень быў асляпляльна-прыгожым. Пазалочаны дах рэзка кантраставаў з цёмна-зялёным шэрагам міртавых кустоў, што ўздымаліся амаль да другога паверха. Адкрытая галерэя з калонамі была зроблена з ружовага мармуру, а трыбуны для маленькага іпадрома і басейн — з белага. Ля басейна сядзелі мармуровыя львы, з пашчаў іх, нягледзячы на халодны дзень, струменілася вада. Познія, ужо прывялыя ружы ўсё яшчэ не былі зрэзаныя, яны ажыўлялі дарожкі, па якіх, сышоўшы з насілак, крочылі Нікіфар і Жывена — ніхто не мог, апроч імператарскіх родзічаў, пад'язджаць на конях альбо ехаць у насілках да самага ўвахода ў любы з імператарскіх палацаў.

Адчыніліся шырокія палісандравыя дзверы, іх абдаў пах ружавай вады і духмяных алеяў. Па белай мармуровай падлозе, дзе некалькімі пакаленнямі майстроў выкладзеныя былі мазаічныя пано з паўлінаў, ільвоў і грыфонаў, ступаць было цяжка: слізгацелі ногі ад нейкай спецыяльнай мастакі, якою націралі падлогу, каб не падрапалі яе наведвальнікі. Шырокая белая лесвіца вяла наверх. Там на сцяне была выкладзена каляроваю смальтай галава анёла ў карычневых, жоўтых і чырвоных колерах... Яны ішлі і ішлі — праз галерэі, дзе стаялі мармуровыя статуі язычніцкіх багоў, антычныя амфары — залатыя, сярэбраныя, з дзівоснымі распіснымі ўзорамі. На сценах вісела дарагая зброя — кальчугі, мячы, дзіды, нават славянскія шаломы, і ўсюды — у шкляных альбо каменных куфрах з адкрытымі вечкамі — ганарліва ззялі крыжы, кароны, абручы з каштоўнымі камянямі, а ў палацы Дафна, у палаце, праз якую яны праходзілі, сцены аздабляла залататканае, пераліўна-шаўковае, парчовае, аксамітавае адзенне («былых імператараў і імператрыц»,— шапнуў Нікіфар).

— Я вяду вас доўгім шляхам, — азваўся на гэтыя словы еўнух, — каб вы паглядзелі хаця б тысячную частку багаццяў Вялікага Палаца. Не кожнаму шчасціць гэта бачыць, і табе, таўраскіфка, нечувана пашанцавала. За такое не шкада і заплаціць жыццём!..

Калі яны ступілі ў другую галерэю, раптам пырснулі ўверх блішчастыя струмені, і на залатых дрэвах заварушыліся, як жывыя, залатыя птушкі з сярэбранымі дзюбкамі. Пачулася музыка. І тут жа злева зарыкаў мармуровы леў, адкрываючы пашчу. Убачыўшы паракіманена, закаваныя ў жалеза вої расступіліся, адвёўшы дзіды, і коміт з дзяўчынай уступілі ў палату Юстыніяна. Сцены тут былі не абвешаныя каштоўнасцямі, у ёй было нават трохі пуста ў параўнанні з іншымі. Але высокая столь гэтай палаты была празрыстай, адтуль лілося святло, падаючы на падлогу, на калоны, якія былі зроблены з зялёнага мармуру, спрэс зрэзанага найтанчэйшымі ўзорамі. Над

калонамі свяціліся мазаікі — ранейшыя імператары, іх жонкі, дзеці ішлі, здавалася, бясконцым шэрагам, адрачоныя і адначасна ўрачыстыя. Дзесьці тут Канстанцін V, празваны Кабылятнікам за сваю любоў да коней, які расправіўся са славянамі Македоніі з нязвыклай нават для гэтай жорсткай краіны лютасцю, недзе горда глядзіць на прысутных севаста Ірына, ягоная ўдава, якая асляпіла свайго сына Канстанціна VI, каб самаўладца сядзець на троне і рабіць тое, што захоча. І іншыя, памяць пра якіх застанецца вечна, бо пісалі яны яе па ўсім свеце — крывёю і ашуканствам, інтрыгамі і заваблівасцю сваёй пышнай краіны...»[1]

Аўтар робіць Жывену таксама сведкай падзення, здавалася б, магутнай улады пастаўленага заходнімі рыцарамі імператара. Гістарычныя падзеі — асада Канстанцінопаля грэкамі, перамога Міхаіла Палеалога (на гербе якога красаваўся двухгаловы арол) над Балдуінам Другім, разбурэнне многіх помнікаў старажытнага дойлідства — усе гэтыя падзеі знайшлі сваё праўдзівае адлюстраванне на старонках рамана. Вачыма галоўнай гераіні мы назіраем за паводзінамі прыбліжаных чыноўнікаў розных рангаў нізрынутага Балдуіна — яны ўсе адвярнуліся ад яго і тут жа кінуліся выказваць сваю гатоўнасць служыць новаму імператару. Асуджаючы такія пераўтварэнні людзей, што рабскі служаць любой уладзе, іх здраду хрысціянскім запаведзям, Жывена лепей пачала разумець свой далёкі свет, узважваць страшную прыцягальнасць улады, усёдазволенасць валадароў, якім невядома за што пакланяецца бедны, забіты народ, славіць іх да самай смерці.

Кароль Міндоўг у параўнанні з візантыйскім імператарам, які ў рамане з'яўляецца эпізадычна, паказаны шматгранна і глыбока, з усімі яго адмоўнымі і станоўчымі якасцямі, аднак і ён падаецца найперш як уладар, што на шляху да трону праліў нямала крыві. Моцны духам і характарам, Міндоўг баяўся толькі багоў, але і адчуваў сябе іхным родзічам, дазваляў сабе ўсё, што яму жадалася, любіў жанчын і віно, і «асабліва раз'ятраны шал бітвы, новыя дарогі і барацьбу. Але больш за ўсё любіў уладу, калі нізка схіляліся перад ім сотні і тысячы людзей, і ў вачах іх ён бачыў рабскую пакору і захапленне кожным словам валадара...» Прыняўшы хрысціянства, Міндоўг здолеў сабраць пад сваю магутную руку многія землі, быў прызнаны ў Еўропе, але занадта гарачы, натурысты, распешчаны ўладай, «спрабаваў прайсці свой шлях, балансуючы на вяроўцы,

---

[1] Іпатава В. Залатая жрыца Ашвінаў. С. 174-175.

шырока напятай над галовамі...» Відаць, таму такім трагічным і заўчасным быў яго канец.

Апавядаючы пра падзеі мінулага, дэталёва малюючы карціны жыцця як старажытнага Навагрудка, так і Візантыі, пісьменніца раскрывае і глыбіні ўнутранага свету сваіх герояў. Адвечна-філасофскія тэмы — улады і свабоды асобы, любові і нянавісці, дабра і ліха, існавання і смерці — увасабляюцца ў рамане праз вобразы Міндоўга, Войшалка, імператара Балдуіна, коміта Нікіфара, рыцара Райнера, братоў-блізнятаў Відэвута і Брутэна. Уводзіцца пісьменніцай і новы, на фоне гэтых традыцыйных, вобраз тыбецкага лекара Галдана Цэрэнхана, блізкага па духу Жывене. У гэтага з выгляду жорсткага, аскетычнага, але надзвычай добрага, разумнага чалавека, які многія гады вывучаў медыцыну сярод тыбецкіх манахаў, Жывена пераймала лекарскае майстэрства, уменне разбірацца ў людзях, жыццёвую філасофію. Таленавіты ўрач і філосаф Галдан Цэрэнхан, які даваў урокі медыцыны Жывене каля ложка смяротна хворай Еўдакіі, дакладна вызначыў душэўны стан і накірунак далейшага шляху сваёй здольнай вучаніцы: «Твой лёс напоўнены звонам і страсцю, і ты, адламаная галінка Дрэва, павінна браць сілы ў яго. Будзе жыць Дрэва — будзеш жыць і ты...» І гэтыя прадказанні надалі моцы і рашучасці Жывене ў пераадоленні цяжкасцей на шляху да свайго Дрэва — Радзімы. Застаючыся ўнутрана свабодным чалавекам, што шмат перажыў і шмат чаму навучыўся ад разумных людзей і для якога самай вялікай ўладай была і засталася улада Духу — Жывена глыбей пачынае разумець і сутнасць свайго бацькі, караля Міндоўга, з якім сустрэлася пасля доўгага выгнання, у Рыме, вяртаючыся на радзіму. Гэтыя «рымскія» старонкі рамана таксама насычаны цікавымі звесткамі, апісаннямі вечнага горада, багаццяў Ватыкана, яго шматлікіх залаў, пакояў, якія здзіўлялі Жывену не столькі незлічонымі скарбамі, колькі чалавечымі талентамі і натхненнем, укладзеных у Ватыкан. Незвычайна ўразіла яе і скульптура Ваўчыцы з блізнятамі Ромулам і Рэмам... І тут зноў паўстаюць розныя спакусы, і адна з іх — угаворы Міндоўга застацца ў Рыме, выйсці замуж за багатага венецыянскага графа, каб мець яму, Міпдоўгу, у далейшым падтрымку як валадару Навагрудскай зямлі. «— А табе... табе не варта вяртацца ў Навагародак. Княгіня Марта як бы прагнала нешта, яна двойчы пыталася пра цябе, а гэта дрэнны знак. Убачыўшы цябе жывою, яна не супакоіцца. Яе... нашым дзецям патрэбнае ўсё княства. Усё! Нават Войшалк стаіць у яе... у нас на дарозе. Яму хочацца быць вялікім князем, які аб'яднае вакол Навагародка Літву, Жамойць,

Куронію, Налыпчаны, Дзяволтву — усіх, каго прыціснуў сваім мячом я, а не Войшалк!

Ён зноў глянуў на яе амаль умольна:

— А ты станеш венецыянскай графіняй. Ператворышся ў даямант, які быў простым алмазам. Я ж хачу дабра табе, бо не чужая ты мне, і лёс твой мяне хвалюе. Тут добра. Нам не'параўнацца пакуль з гэтымі землямі, дзе столькі стагоддзяў набіралася багацця з усяго свету. Ну, што ты маўчыш?

«Якія бедныя словы, — думала яна. — Як доўга і, відаць, беспаспяхова тлумачыць, чаму не хачу заставацца тут, у Рыме,' як не жадала застацца і ў Цар-горадзе».

— А ты, вялікі князь... ты застаўся б тут навечна?

Ён як спатыкнуўся.

— Я? Але мы гаворым пра цябе.

— А ты адкажы спачатку на маё пытанне. Далі б табе тут графства альбо вось я прапанавала б застацца тут, са мной, з маім магутным мужам. І табе па-ранейшаму кланялася б варта, перад табой схіляліся лісліўцы і спявалі песні гусляры...

— Я — воін! І прывык адчуваць свой меч у ножнах, слухаць, як ён спявае ў бітве! А пасля дзяліць палон і кідаць Агню ахвяры!

— А я, твая дачка, прывыкла ляцець на кані праз даліну і прашываць яе бегам, як іголка з рыбінай косткі прашывае палатно! І плыць уначы ў свяшчэнным возеры і размаўляць з русалкамі! Іх тут няма, бацька, тут чужыя багі, і я не разумею іхнюю мову!..»[1]

Але не засталося Жывейшых багоў і на радзіме, куды яна так імкнулася. Не ўдалося ёй аднавіць храм Ашвінаў, разбураны братам-хрысціянінам Войшалкам. Аднак засталася памяць пра багоў-блізнят, і часта Жывена, «гледзячы ў начное неба, адчувала, як душа яе адкрывалася насустрач сусвету і яго таямніцам. Там жылі багі і найбольш любымі былі яны, Ашвіны, альбо Спарышы — балты называлі іх Юмісамі, рымляне — Гeміні, славяне — Лелем і Палелем...» Так людзі, раздзеленыя вялізнымі адлегласцямі, чамусьці адчувалі зоркі амаль аднолькава, складалі і будуць складаць пра старажытных багоў паданні і казкі. Для Жывены яе любыя Ашвіны ўсё болей ператвараліся з язычніцкіх багоў у хрысціянскіх святых.

Раскрываючы духоўны свет сваёй галоўнай гераіні, яе супярэчлівыя думкі, пачуцці праз унутраныя маналогі, апісанні розных сустрэч, назіранняў, уражанняў, яе вандроўныя шляхі па чужых краінах і гаворачы пра нечаканасці, што сустрэлі Жывену на радзіме,

[1] Іпатава В. Залатая жрыца Ашвінаў. С. 208.

пісьменніца тым самым паказвае, як выспявала ў яе душы ўспрыняцце новых, незваротных перамен, што прыносіў час. І душой прымае, урэшце рэшт, Жывена мудрую раду старога Святазара прыслухацца да свайго сэрца. «У кожнага часу свой голас, умей жа выслухаць яго...» І згадала Жывена, думаючы пра становішча сваёй раз'яднанай радзімы, што Візантыя была сцэментавана на агульным духоўным грунце. Старыя багі, што засталіся ў звычках і памяці грэкаў, больш не ўплывалі на агульны ход рэчаў, але ў свой час, жорсткім, на крыві, быў той пераход з аднаго пласта пазнання на другі. Тое ж цяпер будзе праходзіць і Наваградак. Але на якім беразе застанецца яна сама?»

Так, нягледзячы на тое што новы раман Вольгі Іпатавай узнаўляе падзеі далёкай мінуўшчыны, сваім духам, ідэямі, праблемамі ён спраекцыяваны на сённяшні дзень Беларусі. Заўсёды нялёгкім быў лёс нашай Бацькаўшчыны, але цяпер, як і многія стагоддзі назад, на вялікі жаль, зноў паўстае пытанне — на якім грунце будзе з'яднаная наша краіна? Будзе кінута ў бездань небыцця амбіцыямі неразумных, выпадковых валадароў ці, захаваўшы свае лепшыя звычаі і традыцыі, нацыянальную гісторыю, родную мову, культуру, пойдзе за цывілізаваным светам? І яшчэ: усім зместам свайго твора, асабліва лёсам валадароў, аўтар сцвярджае агульную заканамернасць, што любая ўлада не вечная. Усёмагутны Канстанцінопаль вярнуў грэкам Міхаіл Палеалог, і Балдуін быў нізрынуты са свайго, здавалася, вечнага трона. Трагічна загінуў ад рук князёў Даўмонта і Траняты Міндоўг, неабмежаванай уладзе якога не існавала ні чалавечых, ні боскіх законаў. Разам з ім загінулі яго малодшыя сыны Рукля і Рэпен'я, маладая жонка Якса, якую Міндоўг сілай адабраў у Даўмонта, абразіўшы яго мужчынскую і чалавечую годнасць. «Вось ляжыць ён тут, блізка ля пабудаванага ім магутнага замка, побач з самым славутым капішчам Перуна — і дзе яго веліч, куды падзеліся сіла і страх, які адчувалі навакольныя? Прахам быў і ў зямлю ператворыцца, і курган, толькі што насыпаны над ім старannымі слугамі і воінамі, якіх вадзіў у баявыя паходы, хутка зарасце травой. А хто цяпер прыйдзе на навагародскі стол? І адразу ўспомніўся Войшалк...»[1]

А Войшалк, князь-манах, які часта «зыходзіўся з бацькам на паядынку дзеля валодання Навагародкам», пасля яго забойства пачаў збіраць войска, каб адпомсціць Даўмонту і Траняту. Змагаючыся за ўладу і хрысціянскую веру, Войшалк шукаў падтрымкі і разумення ў сястры, ведаючы яе мудрасць і разважлівасць. Паказальнымі ў гэтым

---

[1] Іпатава В. Залатая жрыца Ашвінаў. С. 241.

сэнсе былі іх размовы-спрэчкі наконт паганства і хрысціянства. І брат і сястра аднолькава любілі свой край і хацелі, каб ён быў не горшы за іншыя дзяржавы. Яны абодва — увасабленне пазітыўных пачаткаў гэтай любові: Жывена, прымаючы хрысціянства, змагалася, асабліва пасля сваіх хаджэнняў па еўрапейскіх дарогах, за безумоўнае захаванне нацыянальнай адметнасці роднай краіны, усяго лепшага з традыцый і вераванняў бацькоў і дзедаў, Войшалк, пераняўшы спадчыну бацькі, як сапраўдны дзяржаўны разумеў неабходнасць адзінай рэлігіі, як аб'яднальнай сілы. Ён, прыспешваючы прыход новай рэлігіі, бязлітасна паліў язычніцкія кнігі і капішчы, а манастырам і цэрквам Наваградка і Лаўрышава даў уласнаручна перапісанае Евангелле. І наваградчане зрабілі свой выбар — яны не прызналі сваімі валадарамі забойцаў Міндоўга, «насустрач Войшалку ўздымалі свае белыя з шырокай чырвонай паласой пасярэдзіне, харугвы, вывешвалі Міндоўгавы выявы — коннік з узнятым мячом і палотны з лікамі Спаса і Багамаці...»

Завершанымі сталі амаль усе сюжэтныя лініі і чалавечыя лёсы ў рамане. У небыццё адыходзіла паганства, паміраў стары Светазар, вярхоўны жрэц храма Ашвінаў. У маладым веку загінулі браты-блізняты Брутэн і Відэвут. Новы час ад кожнага патрабаваў самавызначэння. І лагічна завершанай з'яўляецца на дадзеным адрэзку часу дзейнасць Жывены. Некалі звяздар Вакула прадказаў ёй доўгае жыццё, а нашчадкам шмат добрага зрабіць для роднай зямлі. І беларуская жанчына, язычніцкія вераванні якой існавалі ў згодзе з хрысціянскімі запаведзямі і ўласным сумленнем, пайшла насустрач свайму чалавечаму, прыродна-жаночаму прызначэнню — яе напаткала вялікае каханне да наваградскага хлопца, палясоўшчыка Жадана, які выратаваў яе жыццё, літаральна выхапіўшы залатую жрыцу з паганскага ахвярнага вогнішча.

І ўсё ж, нягледзячы на сюжэтную завершанасць, фінал рамана застаецца адкрытым, што дае чытачу шырокую прастору для роздуму. І гэта самы плённы вынік мастацкага твора. «Залатая жрыца Ашвінаў» — важкае слова ў беларускай гістарычнай літаратуры. Абуджаючы нашу памяць, пісьменніца не толькі разгортвае поле змагання розных кірункаў у фармаванні асноўных рысаў беларускага народа, які жыў з ідэаламі і перакананнямі паганскай веры, гаспадарыў з адвечнымі прыладамі земляробства, гандляваў і меў культурныя сувязі з еўрапейскімі краінамі, няпроста ўспрымаў хрысціянства, захоўваючы пры гэтым незалежнасць свайго духу, але і па-мастацку раскрывае, як усё гэта адбівалася на чалавечых лёсах. Аўтар уздымае новыя часавыя і прасторавыя пласты, пашырае тэматычна-праб-

лемныя рамкі, ствараючы цэласны вобраз эпохі, паказваючы, што адначасова адбывалася ў розных краінах. Новым для беларускай празаічнай традыцыі з'яўляецца зварот да прагісторыі, арыйскіх каранёў беларусаў. І яшчэ неабходна адзначыць, што ўсім зместам свайго твора Вольга Іпатава сцвярджае нацыянальную ідэю, праменьчыкі якой запальваліся, жылі і сёння свецяць нам з далёкіх стагоддзяў беларускай гісторыі. «Залатая жрыца Ашвінаў» знайшла свайго зацікаўленага чытача. Выступаючы на адной з чытацкіх канферэнцый, вядомы беларускі філосаф Уладзімір Конан даў высокую ацэнку новаму твору Вольгі Іпатавай: «Я, як даследчык мастацкай культуры, вельмі ўдзячны Вользе Іпатавай, маёй зямлячцы з Наваградчыны, якую яна праславіла. Яна напісала выдатны твор пра нашу сярэдневяковую дзяржаву, якая стала цэнтрам Вялікага Княства Літоўскага, пра тую Наваградчыну, адкуль пачыналася і беларуская літаратура, і беларуская філасофія, адкуль Адам Міцкевіч, таксама выдатны беларус, які стаў класікам польскай літаратуры... Новы раман Вольгі Іпатавай я прачытаў з вялікім захапленнем. Трэба мець на ўвазе, што наша выдатная паэтка, а Вольга Іпатава перш за ўсё паэтка, пачынала з паэзіі, пазней звярнулася да прозы. І вось гэтая паэтычнасць, лірычнасць праяўляецца ва ўсіх яе празаічных творах. Мастацкім адкрыццём рамана з'яўляецца вялікая цывілізацыя Візантыі, ад якой пайшла ўся еўразіяцкая праваслаўная цывілізацыя. У рамане ярка, вобразна, пластычна раскрыты і лад жыцця гэтай краіны, і высокі ўзлёт культуры, культуры вытанчанай. З Візантыі пайшлі сярэдневяковы славянскі іканапіс, праваслаўная архітэктура. Жывапіс Андрэя Рублёва — таксама адтуль. І ўрэшце нават расійская імперыя таксама адтуль. Культуру і лад жыцця Візантыі лепш вывучаць па гэтым рамане Вольгі Іпатавай, чым па гістарычных нарысах і некаторых даследаваннях, дзякуючы жыццёвасці, выпукласці, вобразнасці твора. Можна сказаць, што я ўпершыню адчуў жывую пульсацыю вось гэтага жыцця, хаця я шмат чытаў даследчыкаў культуры па гісторыі Візантыі.

І яшчэ адзін момант: гэта асваенне ў мастацтве дахрысціянскай язычніцкай міфалогіі ў літаратуры. Я сказаў бы, што гэты раман для мяне ў нейкім сэнсе скарб, паколькі я рыхтую невялікі энцыклапедычны даведнік беларускіх міфаў і міфалагемаў... Вольга Іпатава памайстэрску выкарыстала міфалагічную вобразнасць язычніцкай культуры беларусаў і міфалогіі агульнаславянскай.

Такім чынам, мы маем справу з новым этапам у гістарычнай раманістыцы, бо ідзе асэнсаванне далёкіх кантынентаў — ад Наваградчыны, адкуль пайшло Вялікае Княства Літоўскае, адрадзілася наша беларуская дзяржава і дзе, пасля Полаччыны, пачалося мастацкае

асваенне Візантыі. А з Візантыі пайшло хрысціянства і такая вельмі характэрная рыса беларускай гісторыі, як спалучэнне язычніцкай культуры, фальклору і хрысціянства. І гэты сінтэз ярка выявіўся ў беларускай культуры. На мой погляд, вось якраз Вольга Іпатава і змагла гэтае багацце раскрыць. Успомнім традыцыі Уладзіміра Караткевіча, які пачынаў гістарычна-лірычную і драматычную прозу. Успомнім і Янку Купалу, які пісаў выдатныя драматычныя паэмы і пачаў пісаць «Рагнеду». Наша сучасніца Вольга Іпатава працягвае традыцыі Янкі Купалы і Уладзіміра Караткевіча. Я буду вельмі рады, калі ў яе з'явіцца яшчэ цэлы цыкл гістарычных раманаў і будуць у Вольгі Іпатавай паслядоўнікі з асяроддзя новага пакалення літаратараў...»

Новыя раманы пісьменніцы «Вяшчун Гедзіміна» (Маладосць. 2000. №10-11), «Альгердава дзіда» (Полымя. 2001. № 9-10) з'яўляюцца своеасаблівым храналагічным працягам рамана «Залатая жрыца Ашвінаў»[1]. І не толькі таму, што падзеі беларускай гісторыі ў іх асэнсоўваюцца з пункту гледжання сённяшняга разумення нацыянальнай ідэі, прыхільнасць да якой Вольга Іпатава выказала даўно і незваротна, і яе аўтарскую інтэпрэтацыю мы цалкам падзяляем. Галоўнае, у раманах чытач не толькі адчувае вальналюбны дух Жывены-Еўфрасінні, але і сустракаецца праз многія гады з ёй самой — мудрай, пастарэлай захавальніцай беларускага роду. Паўстаюць, як і ў рамане, многія рэальна існаваўшыя гістарычныя асобы, старажытныя беларускія гарады, ажываюць паганскія багі, розныя міфічныя постаці, якія доўгія стагоддзі суіснавалі побач з нашымі продкамі: Пярун, Ярыла, Вялес, Дажджбог, Дзявоя, Стрыбог, Судзеніца, Жыжаль, Зюзя, Мара, Лада, Трасца, Лядашчым.. Пісьменніца працягвае далей, на новым вітку гісторыі даследаваць канфлікт паміж паганствам і хрысціянствам, раскрываць іх ідэйныя, культавыя, міжканфесійныя разыходжанні, схіляючыся да сцверджання неабходнасці мірнага суіснавання ў нашай краіне розных культур і рэлігій — у чым зноў жа адчувальная паралель з днём сённяшнім.

Сама Вольга Іпатава ва ўступным слове так піша пра асноўную задуму свайго твора: «У беларускай літаратуры імя вялікага Гедзіміна (Мікола Ермаловіч настойваў, што яго трэба называць акурат гэтак, і я ўзяла для друку ягоны варыянт) амаль не ўзгадваеце. І нядзіўна — нават самыя сучасныя падручнікі па гісторыі Беларусі пра перыяд Гедзіміна пішуць надта ж асцярожна, не адмаўляючы тэорыю таго ж Ермаловіча аб славянскім паходжанні князя, але і не падтрымлі-

---

[1] Пакуль кніга «Адна між замкаў» рыхтавалася да друку, паспела выйсці трылогія В. Іпатавай «Альгердава дзіда» (2002, серыя «Беларускі гістарычны раман»)

ваючы яе. І сама дзяржава Гедзіміна атрымліваецца нейкаю няпэўнай — ці то яна літоўска-беларуская, ці беларуска-літоўская, ці ўсё яшчэ толькі літоўская...

Мне ж здаецца — важнае для нас тое, што мы, урэшце, ужо хоць бы не адмаўляем сваю прыналежнасць да дзяржавы, якая прасціралася ад Чорнага да Балтыйскага мораў і мела вялікі ўплыў на Еўропу. І тады, калі мы гэта ўсвядомілі, заўважылі і магутнейшы славянскі пласт гэтай краіны. Тут усіх нас яшчэ чакаюць вялікія адкрыцці. Што да мяне, то найбольш прывабнай у гэтым перыядзе нашай гісторыі мне ўявілася постаць Ляздзейкі — і не таго сівога валхва-звездара, астранома, якім паўстае ён на карцінах пазнейшых мастакоў. У часы Гедзіміна ён не можа быць такім, бо, як нам вядома па летапісах, князь знайшоў яго, яшчэ малога, у арліным гняздзе. Таму я бачу вешчуна яшчэ досыць маладым, і мне цікава ўяўляць, якімі ж былі тады дачыненні ўлады і таленту, як стасавалася пушкінскае «валхвы не баяцца магутных уладык» і рэальнае жыццё мноства паганскіх свяцілішчаў, якім патрэбная была падтрымка ўлады, якая разам з тым была пагібельнай для свабоды духу.

Можна запытацца: ізноў ейны галоўны герой — вяшчун, жрэц? Але ў тыя часы мастацтва было нераздзельнае, сінкрэтычнае, і слова таксама, як і музыка, як і варажба, успрымалася як свяшчэннадзейства. Бо яно давалася нябёсамі. Развітваючыся ў рамане з Ляздзейкам, я развітвалася з тым агромністым, незвычайным, дзівосным пластом нашай культуры, які быў звязаны з язычніцтвам. Будуць іншыя творы — з'явяцца і новыя постаці...»[1]

Вобраз Ляздзейкі, як і вобраз Жывены, — вялікая ўдача аўтара. Яны, хоць і блізкія па духу і няскоранасці гэтага духу перад жыццёвымі цяжкасцямі і ўладай, тым не менш абсалютна розныя па мастакоўскім увасабленні вобразы. Выкарыстоўваючы легенду пра паходжанне Ляздзейкі, пісьменніца стварыла свой, непаўторны сюжэт, у цэнтры якога сапраўдны талент чалавека, вешчуна і прарока, праз які сцвярджаецца адна з асноўных ідэй твора — неабходнасць жыць па праўдзе і сумленні, адпаведна з гармоніяй прыроднага свету. Такая ідэя найбольш яскрава выяўляецца ў дачыненнях Ляздзейкі з Гедзімінам — другім цэнтральным вобразам аповесці, які для нас цікавы тым, што гэтая рэальная гістарычная асоба — сімвал вышэйшай улады. Раскрываецца ён, як і іншыя героі аповесці, праз успрыманне Ляздзейкі, ад імя якога вядзецца апавяданне.

[1] Іпатава В. Вяшчун Гедзіміна. Маладосць. 2000. № 10. С. 63.

Нягледзячы на такі суб'ектыўны пачатак, калі ўсе падзеі паказваюцца ад «я» галоўнага героя, аповесць вылучаецца дакладнасцю і аб'ектыўнасцю, выверанасцю фактаў, падзей, дат гісторыі. Калі Міндоўг пачынаў засноўваць Вялікае Княства Літоўскае, то Гедзімін (1275-1341) працягваў умацоўваць нашу старажытную дзяржаву. Менавіта гэты перыяд княжання Гедзіміна (1316-1341) і адлюстраваны ў творы. Вольга Іпатава, раскрываючы шляхі аб'яднання беларускіх земляў, паказала, як адбывалася цэнтралізацыя ўлады, свецкай і духоўнай, вакол вялікага князя і выбіралася сталіца Вялікага Княства, якая спачатку была ў Наваградку (закладзена Міндоўгам, пра што больш падрабязна расказваецца ў рамане «Залатая жрыца Ашвінаў»), а потым у Вільні. Аўтару ўдалося праўдзіва раскрыць таксама суіснаванне і глыбінныя рэлігійныя супярэчнасці, паказаць, як пашыралася тэрыторыя дзяржавы, якія былі ваенныя паходы і ўзаеміны Вялікага Княства з усходнімі і заходнімі краінамі, якія паўставалі абарончыя замкі ў Крэве, Троках, Кернаве, Вільні, Медніках. І пісьменніцы трэба было знайсці такі ракурс, так пабудаваць сюжэт, каб гэтыя сухія гістарычныя факты, звесткі ажылі і замацаваліся ў памяці чытача, набылі сапраўднае мастацка-эстэтычнае гучанне, захапілі незвычайнасцю лёсаў, падзей, іх увасабленнем. Раман складаецца з дзесяці невялікіх раздзелаў і кожны з іх сваёй назвай («Заручыны», «Назад у Трокі», «Вярхоўны жрэц», «Пагоня», «Суд на гары», «Закладка Горняга замка», «Паслы», «Смерць Біруты», «Развітанне», «Апошні паход Давыда») адразу вызначае кола падзей, якія маюць тут адбыцца. Канцэнтрацыя ўвагі чытача не рассейваецца, бо знаёміцца ён з героямі твора праз Ляздзейку, які ў вялікай ступені з'яўляецца выразнікам аўтарскай пазіцыі. І вось гэты мастацкі прыём — паставіць у цэнтры чалавека, героя многіх паданняў і легенд, першага, вядомага нам з тых далёкіх часоў, астранома, лекара, язычніка, адоранага многімі талентамі і найперш талентам разумець людзей, чытаць у іхніх душах, паказаць у сувязях з уладай, вялікім князем, княжацкай сям'ёй, іншымі людзьмі, раскрыць лёс дзейных асобаў, падзеі, што адбываліся ў княстве, праз яго ўспрыманне — цалкам апраўдаў сябе. Таму што пра ўсё Ляздзейка, а разам з ім і аўтар, мяркуюць з пазіцый няпісаных высокамаральных правіл суіснавання людзей і свету прыроды. Яго думкі, разважанні, унутраныя маналогі — гэта сапраўдныя афарызмы, якія кладуцца на душу сваёй адвечнай неабвержанасцю і надзённасцю глыбіннага сэнсу: «Радасць і любоў — вось чым адорвае чалавек усё навакольнае, вось чаго хочуць ад яго багі і што недаступнае чорнай сіле... Чалавек прыйшоў у гэты свет менавіта для таго, каб каханнем і гарачай верай мяняць свет. Ніхто, ніхто на зямлі не

здольны таго рабіць, бо не дадзена веры, любові і надзеі ні расліне, ні жывёле. Толькі чалавеку...», «...І ўсё, чым адарыла цябе жыццё, трэба скіраваць на тое, каб паменшыць у гэтым свеце чарнату...», «Дзве рэчы робяць чалавека мудрым — веды, памножаныя на духоўную дысцыпліну, і каханне. І калі першага трэба дабівацца, можа, усё жыццё, то другое прыходзіць само, нечакана, неспадзявана, як маланка...», «...Я люблю, калі, углядаючыся ў далёкія планеты, раптам адчуваю іх рытм — той самы, у якім жыве ўсё на зямлі і на небе. Гэты рытм і ёсць здароўе — неба, зямлі, чалавека. Калі чалавек збіваецца з гэтага ўсясветнага рытму — ён хварэе... Чалавек толькі пясчынка ў агромністай гайданцы Сусвету...», «Людзі ўсё болей жывуць не ў лад з велізарнымі рытмамі Сусвету і ад таго хварэюць і знемагаюць, здавалася б, без дай прычыны...», «З кожным стагоддзем чалавек апускаецца ўсё ніжэй у матэрыю, у зямны бруд, і многія дасягненні Духу робяцца для яго недасягальнымі...», «Чалавек страціў сваю сувязь з існым, толькі ён можа адчуваць сябе няшчасным, бо варагуе адзін з адным, бо незадаволены тым велізарным багаццем, якое яму дадзена... Трэба проста жыць, проста захапляцца вечнай, неўміручай Прыгажосцю, якою перапоўнены свет...», «Як апрыкралі мне людзі! Асабліва іхняя зайздрасць і злосць — чорная, няўтольная. Багі даюць чалавеку ўсё: зямлю і зоры, святло і радасць, але ім мала таго — штурхаюць адзін аднаго, каб выхапіць лішні кавалак, які, урэшце рэшт, тырчком стане ў горле», «Той, хто бяжыць забіваць, і той, хто бяжыць, каб ратаваць, маюць розную сілу. Сілу зла і дабра, хоць трацяць яны, здаецца, тую ж колькасць жыццёвай энергіі...», «Ёсць глыбіні якія, калі да іх дакранешся, б'юць альбо і забіваюць. Ніколі не павінен жрэц гаварыць чалавеку аб блізкай смерці, нават калі той моліць-просіць сказаць, колькі яму застаецца. Няможна дапамагаць пры злых памкненнях, няможна помсціць, нават калі зямлянін мысліць супраць цябе нядобрае...», «Чорнымі немачамі адорвае нас будзёншчына, а служэнне высокаму — ачышчае...»

І служыў гэтаму высокаму Ляздзейка, кіруючыся зямнымі язычніцкімі запаветамі, якія сталі грунтам хрысціянскіх агульначалавечых правіл маралі. Ён выступаў своеасаблівым арбітрам у маральных ацэнках таго або іншага героя. На аб'ектыўных сімпатыях ці антыпатыях Ляздзейкі грунтуецца і чытацкае стаўленне да дзейных асобаў. Яму безаглядна верыш, таму што ён нідзе і ні перад кім, ні ў якіх сітуацыях не адступае ад сваіх правіл. І найперш у дачыненні да самога сябе, у гранічна-праўдзівым, нават іранічна-крытычным стаўленні да свайго таямнічага паходжання: «Служка таямнічага, я змушаны чуйна слухаць навакольнае і лавіць знакі бостваў паўсюдна і заўсёды

Хоць чаму змушаны? Мяне змусілі — яны, неўміручыя багі, што жывуць у кожным камені, у кожнай расліне і тым болей чалавеку. Гэта яны кінулі мяне, немаўля, у лесе, і я, плачучы, ішоў без дарогі, пакуль не натрапіў на мяккі мох і не заснуў там. Яны ж прывялі князя Гедзіміна ў той лес і ў той час, і ўзляцеў арол над дрэвам, дзе я спаў, і страла князя дастала яго ў небе. Арол упаў на мяне, але я не прачнуўся нават тады, калі слугі, уражаныя дзіўным відовішчам — мёртвы арол на грудзях трохгадовага хлопчыка, — паклікалі князя, і той загадаў узяць мяне ў палац і сам выхаваў найдыша.

Думаю, што мяне проста выкралі недзе бадзягі альбо бацькі мае памерлі ад воспы, а я забрыў ў той лес. Але слугі разнеслі паусюль, што я жыў у арліным гняздзе, што я — вяшчун. Можа, якраз іхняя апантаная вера і сталася прычынай таго, што я рана стаў разумець уладу Таямнічага?.. Трэба сказаць, што я супраціўляўся званню княжацкага вешчуна. Зацугляны неабходнасцю, я пераставаў быць свабодным, любіць багоў, якія спрыялі мне адкрываць калі-нікалі таямніцы жыцця...»[1]

Але ж свабоду сваю Ляздзейка, як і праўду, сумленне, цэніць і ахоўвае больш за ўсё. Тое, што ён рос і выхоўваўся ў княжацкай сям'і і Гедзімін ставіўся да яго па-бацькоўску, давала яму вялікія перавагі і свабоду паводзін і меркаванняў адпаведна званню вешчуна, тым больш, што князь лічыў Ляздзейку пасланнікам багоў. Аднак да пэўных межаў. Да межаў узаемадачыненняў улады і таленту. Да асвятлення гэтай, актуальнай ва ўсе часы, праблемы пісьменніца ідзе праз раскрыццё іншых праблем, уласцівасцяў характару і дзеянняў Гедзіміна, вобраз якога падаецца з несумнеўнай аўтарскай прыхільнасцю і сімпатыяй. Найперш ён паказаны ў творы як чалавек, бацька і сем'янін, разумны гаспадарнік, прадбачлівы і прагматычны палітык, мужны воін. І ўсе такія іпастасі вялікага князя раскрываюцца ў творы дастаткова поўна і з адпаведнай мастацкай глыбінёй.

Ва ўсёй дзейнасці Гедзіміна Ляздзейка сталы яго дарадца і памочнік, надзелены прыродным талентам і ўласнымі ведамі, дарам прадбачання і прадказання падзей, што дапамагала князю ўнікаць памылковых крокаў і ўчынкаў. Гэты дар Ляздзейкі высока цаніў Гедзімін, улічваў яго меркаванні, прымаючы рашэнні, што ішлі на карысць дзяржаве, і на такой аснове існавала паміж імі лучнасць і духоўная блізкасць. Ляздзейку імпанавала, што Гедзімін «нястомна, як сагнуты над кроснамі ткаль, снаваў чаўнаком па тых дзяржаўных кроснах, выштукоўваючы ўзоры», і ўзоры гэтыя — гарады і землі

[1] Іпатава В. Вяшчун Гедзіміна. Маладосць. 2000. № 10. С. 77.

Вялікага Княства. Менавіта ў час княжання Гедзіміна завяршыўся працэс аб'яднання беларускіх земляў ад Заходняга Буга да Дняпра. На мапе, што вісела ў пакоі Гедзіміна на ўсю сцяну і абрысамі нагадвала кляновы ліст, былі ўжо пазначаны «Вільня, Наваградак, Трокі і Ліда, Ваўкавыск, Крэва, Услонім, а насупраць іх, на ўсходзе — Смаленск, Дзебранск, а на поўдзень — Кіеў. Усё было там, і нават тоненькія шнурочкі-межы ранейшых княстваў, дзе і цяпер яшчэ захаваліся — ужо не валадары, а толькі даннікі — Дзяволтва і Нальшчаны, Полацкае княства і Віцебскае, Тураў і Аўкштота з Жамойцю»[1].

Асаблівай заслугай Гедзіміна, як паказвае пісьменніца, было тое, што працэс аб'яднання беларускіх земляў адбываўся мірным шляхам, хаця на іх пражывала шмат людзей розных нацыянальнасцяў і веравызнанняў. Не мадэрнізуючы тагачасную рэчаіснасць, аднак абапіраючыся на сучасныя археаграфічныя і гістарычныя даследаванні, Вольга Іпатава сцвярджае першасную ролю беларусаў у стварэнні і ўмацаванні Вялікага Княства. І Вільня — сталіца княства — разбудоўвалася на месцы ўжо існаваўшага Крыў-горада, дзе жылі крывічы, хаця было там нямала і яцвягаў, прусаў, балтаў. Праўдзіва і доказна, праз кампазіцыйна зладжаную сістэму мастацкіх вобразаў, інтэлектуальную насычанасць і асабліва праз раскрыццё шматграннай дзейнасці Гедзіміна, філасофіі Ляздзейкі, пісьменніца шырока адлюстроўвае атмасферу эпохі, якая ўскладнялася не толькі небяспекай звонку, але і рэлігійнымі праблемамі. Пераход ад паганства да хрысціянства, пачаты яшчэ пры Міндоўгу, абцяжарваўся праблемай выбару — трымацца праваслаўнага ці каталіцкага абраду? З кожным годам падала значэнне язычніцтва, хаця моцным яно было яшчэ сярод жыхароў Аўкштоты, Жамойці, Дзяволтвы, Літвы і Нальшчанаў. Складанасць усіх гэтых праблем найбольш высвечваецца праз роздум Ляздзейкі, вярхоўнага жраца язычніцкага храма, які, міжвольна прымiраючыся з новай рэлігіяй, шчыра служыў старым багам і абрадам: «Ці сапраўды збіраецца хрысціць свой народ Гедзімін? І ці сапраўды ў веру каталіцкую? Гэта для яго гэтак жа небяспечна, як і заставацца язычнікам. Вялікая полацкая зямля, якая зусім нядаўна ўвайшла ў склад княства, уся пахрышчаная. І калі просты люд на ёй застаўся ў сэрцы язычніцкім, то баярства ўсё ж спавядала хрысціянскую веру грэчаскага абраду, ездзіла ў Візантыю і мела Святы Афон за духоўны ўзор… З заходняга хрысціянства ў княстве меліся толькі прыезджыя майстры, гандляры і іншы люд, якога багата панаехала сюды ў апошнія гады, спадзеючыся на добрую працу і нядрэнныя заробкі.

---

[1] Іпатава В. Вяшчун Гедзіміна. Маладосць. 2000. № 10. С. 179.

Кляўся ж у сваіх пасланнях да гараджан Любека, Брэмена, Магдэбурга, Штральзунда і іншых гарадоў наш князь так урачыста, як мог: «Клятваю абяцаем вам усім, што ўстановім такі мір, якога хрысціяне ніколі не ведалі». Для іх будавалі касцёлы і манастыры, але тутэйшы люд не асабліва спакушаўся на тое, ён пакуль што ішоў да нас...»[1]

Як падкрэслівае пісьменніца, Гедзімін, запрашаючы адукаваных людзей, гандляроў, рамеснікаў, будаўнікоў, абяцаючы ім дапамогу і абарону, пашыраў тым самым культурную прастору сваёй дзяржавы, набліжаў яе да Еўропы. Ды і сам Гедзімін — «хрысціянін, як таго патрабаваў трон, ён усё ж не забываўся на Перуна і Пераплута, на Мокаш і Вялеса, ды і балцкія багі былі яму не чужыя. Але ў мэтах дзяржаўнай палітыкі і абароны княства ад знешніх ворагаў, ён слаў пасланні папе рымскаму з гатоўнасцю прыняць каталіцкую веру, «толькі б нас ні ў чым не прыцяснялі нагаданыя каты, а менавіта магістры і браты...» Разумны палітык і гнуткі дыпламат, вялікі князь імкнуўся прадбачыць магчымыя хады праціўнікаў, спрабуючы перайграць іх. «Ягоная гульня ўключала ў сябе велізарныя прасторы і агромністыя войскі некалькіх дзяржаў, а сягала яна і далёка на поўдзень, да папскага двара, і на ўсход, да ханаў Залатой Арды, і на захад, да Рыгі і далей, дзе крыжакі таксама спрабавалі перахітрыць княства зброяй і павуціннем інтрыг, і ў далёкую Масковію, якая пачынала ўсё болей паднімаць галаву...» І вялікаму князю трэба было думаць і шукаць, як абыходзіцца з кожным, чаго чакаць і як адказваць, як абараняць свае землі. Паказваючы шырыню дзяржаўнага мыслення Гедзіміна, пісьменніца тым самым, выяўляючы ўласнае стаўленне, раскрывае працэсы, якія працякалі не толькі ва ўнутранай і міжнароднай палітыцы Вялікага Княства, але і наогул ва многіх еўразійскіх краінах, вядомых буйных цэнтрах — Рыме, Кракаве, Рызе, Вільні, Маскве, Вялікім Ноўгарадзе, Пскове, нямецкіх гарадах. Згадваюцца і палітычныя дамовы Вялікага Княства з Польшчай і Мазовіяй дзеля супрацьстаяння Тэўтонскаму ордэну, падмацаваныя шлюбамі Гедзімінавых дачок Ганны (Альдоны) і Марыі з польскім і мазавецкім княжычамі, апавядаецца пра наладжванне стасункаў з Масквой, перамовы з легатам папы рымскага, малююцца сцэны прыёму Гедзімінам, які ўмеў узважваць рэаліі, паслоў многіх краін, прыводзяцца тэксты з пасланняў і дакументальныя гістарычныя звесткі пра тую або іншую краіну і яе валадароў, што мелі дачыненне да Вялікага Княства, асвятляюцца прычыны пашырэння каталіцтва як саступкі папе рымскаму, які мог спыніць бесперапынныя напады крыжакоў на княства,

[1] Іпатава В. Вяшчун Гедзіміна. Маладосць. 2000. № 10. С. 162.

якія ў сваю чаргу апраўдвалі сваю агрэсію справай пашырэння каталіцтва сярод паганцаў. Даюцца таксама апісанні пасяджэнняў Гедзіміна са старшымі сынамі і панамі-радай, дзе разглядаліся розныя гаспадарчыя, гандлёвыя, ваенныя пытанні: колькі трэба сродкаў на будаўніцтва новых абарончых замкаў, храмаў-бажніц, на новую сталіцу, якую пры Гедзіміне з Крыў-горада перайменавалі ў Вільню, ці даваць дазвол мясцовым купцам гандляваць з Полацкам, Наваградкам, Крэвам і Трокамі, ці весці войска на абарону Рыгі ад крыжакоў, «колькі сена з'ядуць за паход коні і колькі ручніц трэба заказваць ружэйнікам, якія дзіды колюць лепей і што новага прыдумалі ва ўзбраенні рыцары Ордэна. Лічылі і маршалак, і гіаны-рада, і ваявода — ды бывала, што і пралічваліся, і памылкі тыя дорага абыходзіліся ліцвінам. Я ведаў тое — аднак не маё яно было — бойкі і перамогі, сеча і кроў...»[1]

І ўсе гэтыя звесткі так уплецены ў мастацкую тканіну твора, у роздум Ляздзейкі, што ўспрымаюцца з прагавітай цікавасцю, незаўважна пашыраючы і ўзбагачаючы нашы гістарычныя веды, а многае адкрываюць упершыню. Безумоўна, апісваюцца і ваенныя паходы супраць крыжакоў, якія ўзначальвалі Гедзімін і Давыд Гарадзенскі. Вось якім пабачыў Гедзіміна ў бітве Ляздзейка: «Так, гэта быў ягоны рык — я чуў яго аднойчы, калі сядзеў пад ялінай недалёка ад поля, на якім ішла бітва. Тады шляхта стала адступаць, пахіснулася бел-чырвона-белая харугва, з трэскам зламалася дзіда ў ахоўніка, і паменела тых, хто абкружаў харугву, зберагаючы яе. Тады Гедзімін, што сядзеў на лаве перад шатром і якому перавязвалі плячо, гэтак жа раз'ятрана зароўшы, ускочыў на любімага жарабка Сокала і паляцеў наперад, пакідаючы ў руках лекараў мох і белыя палатняныя стужкі. Як сам Пярун з ягонымі вогненнымі маланкамі, так секануў ён бліскучым мячом крыжакоў, якія падабраліся пад харугву. Мне тады здалося, што ў яго адразу некалькі рук — меч так і мільгаў пад сонцам. Нават шляхта не адразу зразумела, хто там ля сцяга, але калі Гедзімін, палажыўшы пад ім некалькіх крыжакоў, падняў трапяткое палотнішча высока, ліцвіны, як атрымаўшы хмельнага пітва, раз'ятрана кінуліся наперад...»[2]

Але ва ўсіх ваенных паходах, абароне Вялікага Княства ад крыжакоў галоўнай дзейнай асобай выступаў Давыд Гарадзенскі (1283-1326). Ён жа — адзін з галоўных герояў рамана «Вяшчун Гедзіміна» і больш ранняга твора Вольгі Іпатавай — гістарычнага апавядання

[1] Іпатава В. Вяшчун Гедзіміна. Маладосць. 2000. № 10. С. 113.
[2] Іпатава В. Вяшчун Гедзіміна. Маладосць. 2000. № 10. С. 176.

«Давыд Гарадзенскі». І тое, з якой прыхільнасцю і сімпатыяй піша аўтарка пра гэтую вядомую гістарычную асобу, сведчыць, што Давыд Гарадзенскі — яе ўлюбёны герой. Вось як намаляваны партрэт Давыда ў апавяданні: «...Статны, высачэзны воін у тонкай сталёвай кальчузе, з адкрытай галавой, і конь пад ім быў такі ж магутны, нетаропкі. І падалося падлеткам, што быў гэты воін якраз падобны да харугвы, якую везлі наперадзе яго, — там такі ж коннік, толькі з паднятым мячом, і ахутаны конь ззаду белым ядвабам...»[1]

У рамане пададзеныя больш падрабязныя звесткі пра жыццё і дзейнасць гэтага таленавітага военачальніка, вобраз якога адухоўлены, як гэта і было на самой справе, усенароднай любоўю і павагай. Давыд Гарадзенскі быў сынам нальпчанскага князя Даўмонт (якога зняважыў Міндоўг, адабраўшы ў яго першую жонку-прыгажуню) і князёўны Марыі Дзмітраўцы — унучкі Аляксандра Неўскага. З 1299 года на службе ў князя Гедзіміна, стаў ягоным зяцем, мужам любай дачкі Гедзіміна — Біруты (яна пазней разам з дзецьмі загіне пакутніцкай смерцю — будзе спаленая крыжакамі ва ўласным доме пад Горадняй, падчас адсутнасці Давыда), быў каштэлянам гарадзенскім, вадзіў войска Вялікага Княства ў бітвы, бо войны абрыньваліся на краіну адна за другой. У 1305 годзе разам з Гедзімінам разбіў каля Горадні войскі каменданта Брандэнбурга комтура Конрада Ліхтэнхагена. У 1306 годзе паспяхова абараняў Гарадзенскі замак ад шасцітысячнага войска комтура Каралеўна (Кёнігсберга) Эрхарда Вірненбурга. У 1314 годзе разбіў крыжакоў, якія аблажылі Наваградак: «У тым верасні 1314 года, калі Давыд адправіўся з Горадні дапамагаць Наваградку... было вядома, што вялікі маршал Генрых фон Процкі пайшоў на сталіцу двума шляхамі — на конях і караблях. Былы ордэнскі магістр быў ўвенчаны вялікай перамогай над войскам Віценя. Яму ўдалося разбіць у Прусіі лепшыя сілы княства, і ён тупаў, поўны веры ў канчатковую перамогу крыжакоў над вялікім князем. І хоць той ужо не жыў у Наваградку, аднак маршал хацеў спаліць гэты замак, які сімвалізаваў княжую ўладу, і тым замацаваць сваю перамогу.

Кожны дзень прыязджалі тады ў Трокі ганцы ад Давыда. І невясёлыя былі тыя звесткі, хоць пісаў зяць Гедзіміна з упэўненасцю, што не ўдасца немцам узяць верх над Наваградкам... А пасля сталі прыходзіць і іншыя весткі. Давыд напаў на абоз, забраў усе доспехі і коней. Паўтары тысячы коней! Сто вазоў зброі і правіянту! А пасля — пажар на караблях, а далей напад на крыжакоў пад Наваградкам, і іхняе адступленне, і жах перад тым, што караблі спаленыя, а коней

[1] Іпатава В. Давыд Гарадзенскі // За морам Хвалынскім. Мн., 1996. С. 258.

няма. І яны, баючыся застацца ў гэтай варожай краіне, страціўшы свой славуты ваяўнічы шал, раптам у паніцы кінуліся ўцякаць хто куды — і гінулі ў балотах, у сутычках з войскамі княства, на дарогах і ў вёсках, што ашчаціліліся стрэламі і віламі.

А пасля прыехаў сам Давыд, з перамогай, з крыкамі рояў і галёканнем коннікаў, і расказваў, як караскаліся па наваградскіх схілах і пасля кумільгам каціліся з іх неварушлівыя рыцары ў цяжкім узбраенні і па жалезных іх латах грымела каменне, што сыпалася зверху.

Бірута не адыходзіла ад яго, і я бачыў, як, седзячы за сталом, пяшчотна дакранаецца яна да яго параненай рукі, калі князь, забыўшыся, узмахне ёю, каб паказаць, як абкружалі яны пасад і падбіраліся да замка.

Тады ён не выглядаў на свае трыццаць. Гладкі твар з празрыстымі шэрымі вачамі, прамы нос і разложыстыя бровы рабілі яго падобным да сокала, які горда азірае наваколле, сцярожка косячы вокам на далёкі небакрай...»[1]

Праз чатыры гады пасля гэтай перамогі Давыд Гарадзенскі ўзначаліў паход на Прусію, а ў 1322 і 1323 гадах тройчы дапамог Пскову адбіць напады нямецкіх і дацкіх рыцараў. 1324 год азнаменаваўся пераможным паходам войскаў Вялікага Княства на Мазовію. Апошні паход Давыда апісваецца і ў апавяданні «Давыд Гарадзенскі» і на старонках рамана. У 1326 годзе на чале атрада з 1200 коннікаў ён зрабіў паспяховы рэйд на Брандэнбург і на Франкфурт-на-Одэры, адной з прычын якога была святая помста за трагічную смерць Біруты і дзяцей. Падчас вяртання на радзіму з багатай ваеннай здабычай Давыд быў уначы, сонны, па-здрадніцку забіты мазавецкім рыцарам Андрэем Гостам, якога падкупілі немцы.

У апавяданні, дзеянне якога адбываецца ў нямецкім гарадку Фрайбургу, аб гэтай пагрозе Давыда папярэдзіла вешчая Гудруна, старасць якой ён уважыў, спыніўшы атрад, калі яна пераходзіла вуліцу. У рамане гэтая трагічная падзея апісваецца праз вешчы сон Ляздзейкі і жалобу Гедзіміна, усяго княжага двара, блізкіх родзічаў, простых людзей, якія страцілі свайго абаронцу. Пахаваны быў Давыд каля сцен Барыса-Глебскага манастыра ў Горадні і сатворана было над яго магілай язычніцкае маленне. «...На свежы курган Давыда вясновая завея паклала белы каптур, і не было ва ўсёй пустэльнай даліне нават следу таго, што колькі тыдняў таму стаяла тут вялікае войска і хавала свайго найвялікшага воя...» А было Давыду Гарадзенскаму ўсяго 43 гады...

[1] Іпатава В. Вяшчун Гедзіміна. Маладосць. 2000. № 10. С. 80.

Разгортваючы такія батальныя сцэны, эмацыйныя апісанні трагічных падзей з жыцця герояў, пісьменніца паказвае, якімі мужнымі і адданымі патрыётамі роднай зямлі былі нашы продкі, што бараніліся ад вераломных нападаў крыжакоў пад харугвамі Давыда і Гедзіміна. Не адступаючы ад сапраўдных гістарычных рэалій, Вольга Іпатава ў іх мастацкім асвятленні, як і наогул у асэнсаванні той эпохі, найбольш апіраецца на аналітычна-філасофскі, інтэлектуальны пошук, чым на прыгодніцка-захапляльнае аздабленне сюжэта. Такое творчае вырашэнне не змяншае цікавасці да твора, а наадварот, несучы багатую, разнастайную інфармацыю, дае шырокую прастору для глыбокага, сур'ёзнага роздуму чытача над мінулым нашай Бацькаўшчыны.

Як паказвае пісьменніца, у атачэнні Гедзіміна былі не толькі таленавітыя военачальнікі. Ён умеў далучыць да дзяржаўных патрэб, прымусіць служыць агульным справам не толькі многіх удзельных князёў, прадстаўнікоў славутых старажытных родаў, але і пастунова, па меры сталення, уводзіў у кола дзяржаўнай палітыкі сваіх шматлікіх дзяцей. У сям'і вялікага князя было сямёра сыноў (Монтвід, Нарымонт, Альгерд, Карыят, Яўнут, Кейстут, Любарт) і шэсць дачок (Біруга, Данміла-Лізавета, Марыя, Альдона-Ганна, Анастасія-Аўгуста, Офка). Амаль усім княжычам і князёўнам дае характарыстыку Ляздзейка, які добра ведаў іх з дзяцінства. У аповесці ёсць два групавыя партрэты княжацкай сям'і, напісаныя быццам пэндзалем мастака-жывапісца, яркімі фарбамі, адпаведна часовым і падзейным сітуацыям: партрэтная сцэна ўрачыстай цырымоніі заручын князёўны Марыі з мазавецкім княжычам у Наваградскім замку, якая ад першых старонак уводзіць нас у кола дзейных асобаў, і другая, калі мы бачым іх, усіх разам, ужо ў новым Віленскім палацы, падчас трагічнай весткі пра смерць Біруты. На першым плане ў сцэне заручын постаць Гедзіміна, у вонкавым партрэтным апісанні якога падкрэсліваюцца характэрныя дэталі (скалечанае ў бітвах плячо, чырвона-сіні абрубак мезенца на правай руцэ, адсечаны крыжацкім мячом), княгіня Еўна, «сухенькая, маленькая, яна не выдавала на маці чатырох дзяцей», браты: полацкі і менскі князі Воін і Хведар, сядзяць ніжэй за вялікага князя, справа ад Гедзіміна сядзяць «ягоныя сыны, блішчаць паясы, фібулы, мігцяць таямніча і зазыўна яханты і перлы на шыйках дачок. Адзінаццацігадовая Альдона, якая стане польскай каралевай іператворыцца у Ганну, сядзіць на вялікай падушцы, аблямаванай залатымі кантамі — каб выглядаць дарослай... Анастасія, якая праз адзінаццаць гадоў выйдзе за маскоўскага князя Сімяона, празванага Гордым, яшчэ меншая. Вочы ў Аўгусты вялікія, зялёныя, а валасы светлыя, як попел на пажарышчы. Яна надта падобная да сваёй звод-

най сястры Біруты, якую выглядае, выцягваючы вусны, нібыта для пацалунка. Біруга нарадзілася ад першай жонкі Гедзіміна, язычніцы Віды, дачкі Відзімунта. Кажуць, што яе найболей любіў малады княжыч Гедзімін, хрышчаны ў праваслаўе яшчэ з маленства, і менавіта таму ён стаў асабліва клапаціцца пра язычнікаў, амаль забыўшы на свой хрост...» Далей, прасачыўшы за позіркам Ляздзейкі, які на карціне выглядае з-за трона вялікага князя, мы бачым Альгерда, сярэдняга, аднаго з самых разумных, гаспадарлівых і прадбачлівых сыноў Гедзіміна, ужо жанатага на віцебскай князёўне Марыі. «Светларусы, высокі, з яснымі шэра-зялёнымі вачыма, гэты сын нябожчыцы Вольгі і ўнук Усяслава Смаленскага, найболей падабаўся мне з Гедзімінавых сыноў — ён, як і я, не піў ні мёду, ні піва, ні тым болей гарэліцы. Ведае, што і як сказаць. Але, вядома, найбольш падабаецца тое, што ён, гэтак жа, як і я, ведае пяць моў, і часам, злуючы іншых прыдворных, мы размаўляем з ім на грэцкай альбо на лаціне. На нямецкай гаварыць нецікава: яе тут ведаюць амаль усе...» Вачыма Ляздзейкі мы глядзім і на князёўну Марыю і на яе жаніха, «высокага, танклявага, з доўгім носам і доўгім тварам», які вельмі любіў кабет. Жаніцьбу на лачцы Гедзіміна ён успрымае як сродак для палітычных мэтаў (мазавецкі князь шукаў саюзніка ў барацьбе супраць крыжакоў). А Марыі хацелася шчасця і сапраўднага кахання. «Гэтая дачка Гедзіміна падобная да свежай, крэпенькай рэпкі, яна ўся свеціцца яснасцю, блакітныя яе вочы ў доўгіх пушыстых вейках здаюцца вялікімі, а вусны — пульхнымі і вабнымі...»

Выдаючы сваіх дачок замуж за valадароў суседніх краін, Гедзімін выступаў найперш як палітык, а не як бацька, не задумваючыся пра іх далейшы лёс. А наколькі ён мог быць няшчасным, відаць на прыкладзе жыцця Альдоны-Ганны. На старонках свайго твора Вольга Іпатава разгортвае своеасаблівую аповесць пра гэту прыгожую, разумную, духоўна багатую дачку вялікага князя, якая ва ўсім нашмат пераўзыходзіла польскага каралевіча Казіміра, які стаў яе мужам, хаця ён таксама быў ахвярай дынастычнага шлюбу.

Перад самым замуствам, змірыўшыся з рашэннем бацькі, прыйшла Альдона да вешчуна Ляздзейкі даведацца, ці будзе шчаслівы яе шлюб з Казімірам, як сустрэнуць яе ў Кракаве, што прынясе яе прысутнасць там Вялікаму Княству, ці будуць у яе дзеці. І самае галоўнае, ці зможа яна ўзяць са світай у Кракаў аднаго рыцара, якога моцна кахала, як і ён яе?

«Я са шкадаваннем глядзеў на яе. З усіх дачок Гедзіміна яна была найбольш падобная да яго: тыя ж трохі глыбока пасаджаныя шэрыя вочы, той жа разлёт шырокіх броваў, толькі ягоная каржакава-

тасць ператварылася ў ёй у моцнасць гожага баравічка, які выцягнуўся сярод травы і прабіўся да сонца. Ды і сукня на ёй была такая ж залацiста-карычневая, з жоўтымі карункамі вялікага каўняра, з якога яна сапраўды як выглядала... Княжая дачка, няўжо табе з пялюшак не ўбілі ў галаву простую і страшную ісціну: трон не ведае спагады да такой дробязі, як чалавечае сэрца. Затое твае чорныя валасы ўпрыгожыць залатая карона, і ты будзеш сядзець высока над іншымі... Цяпер я нізка схіліўся перад ёю, маленькай прыгожай кветачкай, якую ператруць вялізныя жорны палітыкі... На імгненне са свайго кута я яскрава ўбачыў над ёю адну з Судзяніц — суровая жанчына ў намітцы, уся хісткая, як пара, праплыла над маладымі і паклала на белы вэлюм залатую нітку, і я ніяк не мог убачыць, ці доўгая тая нітка жыцця. Тады ж падумалася — няўжо Альдона неўзабаве памрэ?

Так яно і сталася. Нешчаслівы аказаўся лёс нашае каралеўны. Яна не дажыла і да трыццаці. Але за гэтыя гады не было ў яе шчасця... І ўсе тыя гады, што правяла Альдона ў Польшчы, яна амаль не пісала ў Вільню. Можа таму, калі прывезлі вестку аб яе смерці, так плакаў Гедзімін? Можа таму аддаў ён у касцёлы такія багатыя ахвяры, каб паміналі ягоную дачку — новаахрышчаную каталічку Ганну, вясёлую, жывую Альдону, якая адзінокім ценем прайшла ў гісторыі вялікакняжацкай сям'і?..[1]

Шчаслівай была хіба што Бірута са сваім Давыдам Гарадзенскім, удзячнай бацьку за мужа. Але і ёй не даў Бог доўгага жыцця. Вобраз Біруты раскрываецца ў розных пластах часу. Мы бачым яе «то сарамлівым падлеткам, то спакойнай, разважлівай дзяўчынай, якая нясе ў далонях глячык са свяшчэнным агнём і твар яе, асветлены знізу, здаецца ружова-малочным, то нявестай у рутавым вяночку і з зярняткамі, што зачапіліся за ейную касу, калі маладых абсыпалі хмелем і жытам». Яна была цудам жаночай прыгажосці, з каронай светлых валасоў і зялёнымі вачыма, да таго ж была добрай, разумнай гаспадыняй: выдатна ткала, плавала, страляла з лука. Паўстае Бірута перад намі і сталай жанчынай, вернай жонкай і маці, якая, нікому не паказваючы сваёй трывогі, цярпліва чакае мужа з далёкіх ваенных паходаў, бачым яе велічную постаць на ўрачыстых прыёмах і разам з усёй княжай сям'ёй перажываем заўчасную пакутніцкую смерць гэтай усімі каханай дачкі Гедзіміна, якую пахавалі ў Каложскай царкве Гродні.

Лёсы княжацкіх сыноў складваліся па-іншаму. Падрастаючы, яны атрымлівалі надзелы, станавіліся адносна самастойнымі ва-

---

[1] Іпатава В. Вяшчун Гедзіміна. Маладосць. 2000. № 10. С. 46.

ладарамі, залежнымі толькі ад волі вялікага князя. Так, у Наваградку «стаў княжыць Карыят, у Кернаве — Манівід, а Нарымонт-Глеб быў пасаджаны ў Пінску. Далей за ўсіх, на Валынь, у Луцк, быў адпраўлены Любарт. У Віцебску правіў Альгерд, адтуль лягчэй было гэтаму самаму хітраму і разумнаму сыну вялікага князя сачыць за палітыкай суседзяў і дапамагаць дзядзьку ў Полацку...» Згодна з палітыкай Гедзіміна, усе ўдзельныя князі павінны былі весці адзіную лінію, скіраваную на пашырэнне, умацаванне і абарону дзяржавы, падтрымліваць адзін аднаго. І пры Гедзіміне Вялікае Княства ператварылася ў магутную дзяржаву, гербам якой стала «Пагоня». У гісторыі вядомы род Гедзімінавічаў — дынастыя вялікіх князёў і дзеячаў ВКЛ, Венгрыі, Чэхіі, Расіі, Украіны (розныя адгалінаванні роду далі Хаванскіх, Галіцыных, Астрожскіх, Вішнявецкіх, Куранных, Бельскіх, Алелькавічаў, Пінскіх, Святаполк-Мірскіх, Чартарыйскіх, Трубяцкіх, Мсціслаўскіх, Сангушкаў ды інш.). Сярод іх вылучаліся Альгердавічы (унук Гедзіміна Ягайла стаў польскім каралём і заснавальнікам дынастыі Ягелонаў), а сын Кейстута, князь Вітаўт, вядомы як адзін з самых выдатных дзеячаў ВКЛ. Сёння выказваецца версія, што імператрыца Кацярына Другая праз род Трубяцкіх паходзіла з роду Альгерда (гл. артыкул Вольгі Іпатавай «Кацярына Другая з роду Альгерда» // Культура. 1997. 24-30 мая).

Але вядома таксама, якую барацьбу спадчыннікі Гедзіміна вялі паміж сабой за ўладу. Гэтая тэма закранаецца пісьменніцай у рамане «Залатая жрыца Ашвінаў», па-новаму асвятляецца яна ў раманах «Вяшчун Гедзіміна» і «Альгердава дзіда». Гедзімін, як і Міндоўг, імкнуўся сканцэнтраваць уладу ў сваіх руках дзеля інтарэсаў дзяржавы. Але пісьменніца, паказваючы, да якога трагічнага канца давяло Міндоўга жаданне бязмежнай улады, сцвярджае ідэю, што ўлада не павінна быць безадказнай і кіравацца бяздумнымі, уседазволенымі метадамі, якія зневажаюць гонар і годнасць чалавека. Гедзімін больш абачлівы палітык, ён добра ведае кошт уладзе, яе велізарны адказны цяжар, але і найвышэйшую асалоду. Сутнасць улады ў сваіх творах пісьменніца раскрывае праз яе розныя праяўленні, праз агромністае ўздзеянне на асобу, на лёсы людзей. У «Вешчуне Гедзіміна» гэтая тэма раскрываецца галоўным чынам праз стасункі ўлады і таленту, а гэта азначае — як філасофская катэгорыя — так, як яе разумее і ўспрымае Ляздзейка — філосаф, прарок і мастак: «Улада сапраўды нясе нейкі смяртэльны пачатак. Яна такая салодкая, невымерна прыцягальная, што дзеля таго, каб быць альбо пры ўладзе, альбо блізка ля яе, людзі, і нават жрацы, гатовы ісці на злачынства... Той, хто атрымлівае ўладу, ведае: разам з ёй, як якое пракляцце, валачэцца не толькі зайздрасць

і нянавісць, але і ліслівасць, і хітрасць, і шмат чаго іншага, што прыгінае да зямлі слабога...» Разважанні Ляздзейкі пра ўладу і народ падаюцца на ўзроўні язычніцкіх вераванняў: «Ляздзейка, — сказаў я сам сабе, — каму, як не табе, ведаць, што ўладара выбіраюць нябёсы і што народу, над якім ён пастаўлены, даецца таксама выбар — разам з уладаром ці насуперак яму развівацца і ісці ў Вечнасць? Народ — гэта нешта большае, чым сума адзінак. Народ — гэта як грыбніца, у якой схаванае мінулае і будучае, і нават калі сёлета гарачыня і бездажджоўе і няма нідзе ні каліва, то на наступны год усё роўна вытыркнецца там ці тут грыбок, варта толькі пырснуць дажджу, пасланцу Перуна, нябеснага Грамоўніка. На грыбніцы запісаныя нейкімі невядомымі нам літарамі маланкі — вогненныя і чорныя, асляпляльныя і зусім непрыкметныя, як зараніцы. Запісаныя і грымоты, і шалясценне травы, і драцінкі, што ўтыкае раніцай у зямлю Дажджбог. І страсць, з якою рвецца ў Існаванне ўсё жывое, аплодненае Вялесам.

А ўладар? Струмень вады, які выкідае ў свет жарало крыніцы. Дзе і як — мы таксама не ведаем. Чаму Гедзімін, а не Воін альбо Хведар? І хто, напрыклад, будзе наступным — той, хто нарадзіўся ў княжай сям'і, альбо нехта новы, іншы, каго мы не ведаем?

Галоўнае адно — каб кожны, каго выкідае ў свет уладаром, разумеў, што гэты дар яму даецца. І спытаецца з яго болей, чым з каго іншага. Чым, напрыклад, з тых бедных зямян, якія зарабляюць сваім гарбом зіхотку на пальчыку князёўны Ганны.

Але, разумеючы ўсё гэта, ты, Ляздзейка, усё роўна няшчасны. Душа твая плача ад таго, што зараз, у гэтую хвіліну, нехта не мае прытулку і цёплага кутка на зямлі, а нехта памірае ад голаду, а нехта захліпаецца ад слёз на гаротнай зямлі...

Я хацеў, каб валадарыла любоў, каб людзі самі выбіралі, чаго яны хочуць, да чаго цягнуцца іхнія душы. Каб прыходзілі яны да нас не ад страху, не ад таго, што мы — улада...»[1]

Ляздзейку пашанцавала быць побач з уладай, назіраць, аналізаваць розныя яе праяўленні. Яму самому не ўлада была патрэбна, а воля, любоў і душэўнае разуменне, ён не хацеў і не мог падпарадкаваць свой талент валадару, усім ягоным патрабаванням. «Лепш воля, чым няпраўдай служыць ва ўгоду ўладзе. Пранізлівы, страшны вецер улады а чым вышэй, тым болей ён пранікае ў тваю галаву і душу — быў не для мяне...» І Ляздзейка пакідае княжацкі палац, каб самнасам з небам і зорамі згубіцца ў бязмежжы вялікай краіны, дзе яго чакала воля, «неабдымная, вялізная, як неба, на якое можна цяпер

---

[1] Іпатава В. Вяшчун Гедзіміна. Маладосць. 2000. № 10. С. 42-43.

глядзець не тады калі стомішся ад чалавечых звалак і сварак, а тады, калі захочацца. І крыніцы, якія можна слухаць усю ноч. І вогнішча якое можа згаснуць, і за тое нікога не трэба караць...» Ляздзейка быццам растварaецца ў сусвеце, які для яго быў такім жа дзейсным, жывым і неўміручым, як народ, паганскія багі, прырода. У такіх момантах яскрава праяўляецца біясфернае мысленне аўтара-творцы, якая верыць у ідэю біялагічнай раўнавагі ў прыродзе і не прымае ўсталявана-традыцыйнага паняцця «чалавек — цар прыроды».

Праз гэтыя ўчынкі, роздум Ляздзейкі, праз вобраз Гедзіміна, раскрыццё ўнутранага свету герояў, інтэлектуальную насычанасць у рамане ўздымаецца і, як слушна адзначаў доктар філалагічных навук Іван Саверчанка, аналізуючы твор Вольгі Іпатавай,

«і на высокім мастацка-аналітычным узроўні вырашаюцца ключавыя праблемы, вечныя пытанні, да якіх на працягу стагоддзяў звяртаўся чалавечы розум. На першым месцы — праблема адказнасці духоўных лідэраў, прарокаў і вешчуноў перад народам. З'яўляючыся энергетычным ядром нацыі, найбольш трывалай яго складовай, «вешчуны», на думку пісьменніцы, мусяць стаяць на сваім, не зважаючы на пакручастыя павароты гісторыі, на ціск жорсткіх абставінаў. «Вешчуны» павінны кіравацца вечнымі ісцінамі і не ісці на згоду са свецкімі ўладамі, тым болей, калі тыя дыктуюць сваю волю, кіруючыся толькі палітычнымі мэтамі. Адказваючы на пытанне, якой мусіць быць справядлівая улада, пісьменніца прыходзіць да вельмі важных высноваў, сцвярджаючы, што галоўная задача валадароў — бараніць краіну, дамагацца справядлівасці, берагчы свой народ.

Важная праблема, якая вырашаецца ў творы — адказнасць за чалавечае жыццё. Пісьменніца шукае тую мяжу, перайшоўшы якую чалавек заслугоўвае на смяротнае пакаранне. У кожным радку аповесці як лейтматыў гучыць думка — нельга дараваць здрады свайму народу, сваёй Бацькаўшчыне, сваёй зямлі. Твор В. ватавай наагул мае вельмі моцны патрыятычны зарад. Вуснамі галоўнага героя выкладзена гранічна выверaная грамадзянская пазіцыя пісьменніцы: «Мне патрэбныя такія людзі, якія думаюць не пра сябе — пра родную зямлю, і гатовы за яе змагацца, і не хочуць прымаць чужаземнае, таму што лічаць — сваё не горшае за чужое, сваё — гэта тое цяпло, якое набралі продкі і якім, як коўдрай, ахутаны край. Усе звады і спрэчкі працінаюць тую коўдру і голымі перад светам застаёмся мы, як і кожны народ, калі растрацім сваё»[1].

[1] Саверчанка Іван. Стыхія беларускага духу. ЛІМ 2001. 25 мая.

Перачытваючы раман «Вяшчун Гедзіміна», сапраўды трапляеш у стыхію беларускага духу. Яго атмасферу ствараюць як глыбока раскрытыя вобразы, гістарычныя падзеі, так і маляўніча-сімвалічныя карціны прыроды, апісанні побыту, узаемін у княжацкай сям'і, асяроддзі прыдворных, гарадскога насельніцтва. Узнаўляюцца інтэр'еры пакояў княжацкіх палацаў у Навагрудку, Троках, Вільні, мы наяве бачым, як апраналіся, якія ўпрыгожанні насілі, чым займаліся, што чыталі, што пілі і елі, якія стравы найбольш любілі і як іх гатавалі, якія варылі лекавыя травяныя адвары, які хлеб пяклі каравайніцы, якія прыёмы і баляванні наладжваліся ў гонар заморскіх гасцей і паслоў. Наогул мастацкія апісанні ўражваюць нечаканымі параўнаннямі, метафарамі, эпітэтамі. («А дні ляцелі і ляцелі, як лісце са свяшчэннага дуба, у кожнага быў свой смак, сваё адценне...», «Зараніца рассекла сваім вострым мячом цемру...», «Пырснула вясёлымі кроплямі сонца, устаючы следам за Зараніцай, кінуліся некуды ў нетры аднавокія малюткі-гарцукі, палохаючыся святла...», «Вогненны меч світанку ляжаў на небе, пульсаваў, шырыўся. Шчабяталі птушкі, трава на схіле кручы пералівалася перламі, зіхацела кустоўе, што ўпівалася ў зямлю вакол сцен, вартавыя сонна стаялі ля брам, закамянеўшы ў пільнасці...»). Трапныя параўнанні знаходзіць аўтар для апісання паноў-рады, сярод якіх найбольш прыкметная постаць «мажнага і агромністага, як мядзведзь» ваяводы Гаштольда. «І тут усе зноў загудзелі шэршнямі — у бліскучых корзнах з залатымі фібуламі на плячах, з ланцугамі на шыях і высокімі пушыстымі капелюшамі на галовах яны і сапраўды былі падобныя на залаціста-чорных шэршняў...» У рамане дакладна і шырока паказаны народныя абрады, звычаі, традыцыйны лад жыцця беларусаў. Асабліва цікава чытаць пра паганскія капішчы, рытуалы, гімны-маленні да цара вятроў Стрыбога, да уладара грому Перуна і ўладара падземнага царства Жыжаля, пра пахавальныя абрады, асвячэнні месцаў закладкі новых замкаў (Крэва, Горняга замку ў Крыў-горадзе). Лічылася, што «месца пад замак павінна быць чыстае. Каб ні забойства, ні злачынства там не адбылося калісьці, каб не плакала над тым месцам чыясьці няшчасная душа, якую не адправілі ў Ірый жрацы і не пралілі над ёю мядовае вады родзічы. Каб гарцую не закапалі там скарб з пракляццем і каб не смактала недзе блізка кроў падарожніка Стрыга альбо рагатаў над тапельцам Балацянік...»[1]

Яркімі, маляўнічымі атрымаліся сцэны купальскай ночы, напружана-хвалюючымі, упершыню, бадай, апісанымі ў беларускай

[1] Іпатава В. Вяшчун Гедзіміна. Маладосць. 2000. № 10. С. 186.

літаратуры, паўстаюць таінствы пасвячэння ў вярхоўныя жрацы, выпрабавання вогненным судом, кармлення свяшчэнных змей у паганскім капішчы, апісанні самога капішча з драўлянай постаццю Перуна і незгасальнага агню, алтарніка са Знічам, які «не згасаў з часоў, калі, здаецца, не было і самога часу. Зніч! Бясконца прымаючы новыя і новыя формы, ён нязменна заставаўся тым жа, ачышчаючы ўсё навокал сябе. Ад яго беглі цёмныя духі, хаваючы свае мярзотныя аблічча ад усёпранікальнага святла, ён саграваў цела ў сцюдзёную ноч. Калісьці кожны, самы цёмны чалавек, ведаў — да Агню нельга паварочвацца спіной, пляваць у яго ці класці ў вогнішча вострае і нават заліваць вадой. Але паступова гэта забывалася...»[1]

Шмат такіх вось апісанняў паганскіх прыкмет-вераванняў рассыпана па старонках аповесці, з якіх, па сутнасці, і складаецца гісторыя жрэчаства, раскрытае пісьменніцай у раманах праз вобразы Жывены і Ляздзейкі. З народных павер'яў, апісаных у творы, мы даведваемся пра Сіні Камень, месца, куды прыходзяць людзі з усяго княства пакланіцца дзіву — «цвікам, убітым у аграмадны валун. Казалі, што гэта вялеты-асілкі Дубыня, Барыня і Вярнідуб спрачаліся, хто з іх зробіць нешта самае незвычайнае. І Гарыня пяткай укалаціў у валун тыя жалезныя цвікі і стаў пераможцам...» Волат Гарыня, які мужна змагаўся супраць крыжакоў, пахаваны каля Лаўрышава, і памяць пра такіх волатаў і па сённяшні дзень жыве ў народных казках і паданнях.

Гэты раман наогул вельмі моцны сваёй цеснай знітаванасцю з мастацкімі народнымі традыцыямі. Фальклорныя матывы арганічна ўпісваюцца ў агульную тканіну твора: і паданні пра магутных волатаў-асілкаў і абаронцаў роднай зямлі, і па-майстэрску апрацаваныя сцэны святкавання Стрэчання, Юр'я, дзе натуральна гучаць грамнічныя, юраўскія, жніўныя песні, апісваюцца абрады, звязаныя з гэтымі святамі, калі на досвітку абмываліся юраўскай расой, дзяўчаты хадзілі па хатах, спявалі песні, прымушалі спяваць і гаспадароў, а на веснавое поле, на самы яго краёчак, клалі ўначы выпечаны хлеб, соль і напоі, кланяліся святой ніўцы ад імя гаспадара, прасілі добрага ўраджаю. Да месца таксама прыводзяцца выпісы з летапісаў, звесткі пра старадаўнія, праарыйскія ўяўленні нашых продкаў, апісанне свята Перуна — Грамніц, «свята грому і ачышчэння, вясны і бурлівых сіл матухны-Зямлі, якая яшчэ не абудзілася, але ўжо адплюшчыла вочы пасля доўгага зімовага сну і пацягваецца пад бялюткай зімовай коўдрай...» З тых паганскіх часоў жыве ў народзе вера ў магутную

[1] Тамсама. С. 157.

сілу абпаленых Знічам грамнічных свечак, якімі трэба пасля зімы абвесці сцены хат, камораў, сенцаў, каб ачысціцца ад цемрадзі і ліхіх духаў, а рэшткі свечак пакласці да бажніц, каб прыберагчы да зажынак, да Юр'я, да памінак — увогуле да любое цяжкае пары. Грамнічнае святло дапамагае пры хваробе і родах, мае прадказальную сілу. Справы багоў і людзей цесна перапляталіся, а якія багі найбольш спрыяльныя добрым людзям, мы даведваемся з роздуму Ляздзейкі. Ва ўсіх гэтых звестках-апісаннях адчувальная глыбіня этналагічных і этнаграфічна-фальклорных ведаў пісьменніцы і яе ўменне так скарыстаць іх у творы, што перад чытачом шырока і праўдзіва раскрываецца тагачасная эпоха, светаадчуванне і светаразуменне чалавека, яго ўнутранае жыццё, памкненні, перажыванні, роздум, узаемадачыненні, вечнае і зямное, дабро і ліха. Мы быццам наяве бачым, як суіснавалі з чалавекам яго богі і міфічныя істоты, якой дапамогі людзі ад іх чакалі, што лічылі грахоўным, чаго баяліся, чаму верылі і маліліся». Дзеля шматграннага асвятлення гэтых няпростых праблем аўтар выкарыстоўвае многія мастацкія прыёмы — дынамічныя дыялогі, унутраныя маналогі як паток свядомасці таго або іншага героя, вешчыя сны-прадказанні, а мова Ляздзейкі, ад імя якога вядзецца апавяданне, насычана афарызмамі, прымаўкамі, своеасаблівымі язычніцкімі прафесіяналізмамі, пададзенымі з пачуццём меры і мастацкай мэтазгоднасці.

Раман не быў бы такім паэтычным, калі б пісьменніца не закранула адвечную тэму прыгажосці і кахання. І раскрываецца яна не як філасофска-эстэтычная катэгорыя, а як цнатліва-жыц- цядайная сіла, якая нясе святло і натхненне, дабро, вернасць і памяць. Часткова гэтая тэма звязана з вобразам Біруты, але найбольш поўна і шматгранна раскрываецца праз вобраз Гайны, праўнучкі Жывены. Залатая жрыца Ашвінаў быццам увасобілася ў яе знешнім вобліку. Пісьменніца знаёміць нас з Гайнай з першых старонак аповесці, калі яе бацька, наваградскі баярын Рацібор (ён выратаваў Давыда Гарадзенскага ад крыжацкай стралы пры абароне Наваградка), запрошаны на заручыны князёўны Марыі, прадстаўляў сваіх сына і дачку вялікаму князю. Далей воблік Тайны і ўсе падзеі яе жыцця даюцца праз успрыманне платанічна закаханага ў маладую прыгажуню Ляздзейкі. Яго ўразіла нават не яе прыгажосць — залацістыя валасы, зграбная постаць, незвычайнага фіялкавага колеру вочы, а «штосьці невымоўнае, мудрае, нібыта ёй тысяча гадоў, і яна толькі гуляе ў нявіннасць, а сама ведае тое, да чаго просты смяротны не зможа даўмецца за ўсё жыццё... Яна як багіня вясны і кахання Ляля, або, як называюць яе на ўсходніх межах княства, Лада. Яна і без навукі ведае ўсё і кожнага

адчувае беспамылкова, хоць і не хоча нічога ведаць пра с вет, у якім жыве...»

Паэтычныя эпітэты, параўнанні знаходзіць аўтар для апісання прыгажосці Тайны: «Стан тонкі і далікатны, як у маладой бярозкі», «тварык свежы, як... як глыток майскага паветра, калі салоўка вядзе свае трэлі ў алешніку ля ручая...», «безабаронны перад Зюзя» кляновы лісточак...», «у кажушку, у рыжай лісінай шапачцы, яна здавалася адуванчыкам, што першым вылез на свет каля прыгрэтай сонейкам прызбы і светла глядзеў навокал...», «вочы нагадваюць колерам браткі, рассыпаныя па вясновым схіле, а выразам — аляіп тка, якое яшчэ туліцца да ўсіх, як да абаронцаў, і верыць у дабрыню свету...»

Уяўленні аўтара аб прыгожым нездарма звязаныя з вобразам жанчыны, бо менавіта ёй, жанчыне, прыгожай высокай духоўнасцю і вонкавай красой, дадзена тая ўнутраная сіла, якая рабіла жанчыну відушчай не горш за самага вялікага мудраца, асабліва калі яна сустракала сапраўднае, вялікае каханне. Такім каханнем для Тайны стаў Давыд Гарадзенскі. Аднак у бязлітасна-жорсткім свеце за прыгажосцю палююць гэтак жа, як за грашыма, за ўладай і задавальненнямі. І Гайне была дадзена прыгажосць, якую «многія хацелі б захапіць гэтак жа, як хочацца ім захапіць паболей палёў, лясоў, бабровых гоняў ці сенажацяў...» Прыгажосць ператваралася ў звычайны тавар. Недастаткова і Гайне было ахоўнай абалонкі лёсу, каб унікнуць розных выпрабаванняў, стаць незалежнай, свабоднай, як вецер, святло і сонца. І усё ж несла яе прыгажосць цяпло і радасць іншым, бо «нашто быў бы свет, дзе знікла б прыгажосць і каханне, без якога прыпыніцца жыццё...?» А наколькі жаночае хараство вечнае і звязанае з усім жывым, жыццядайным, пісьменніца сцвярджае праз светаадчуванне свайго галоўнага героя, вешчуна і філосафа, які глыбока пазнаў боскі і чалавечы свет: «Ночы былі зорныя, і, выходзячы са свае келлі апоўначы, я глядзеў на зорку Мілавіцу, што ў гэты час рабілася найярчэйшай ва ўсім небе. Яна трапятала, мігцела ў чорным бяздонні — светлая, поўная жыцця і сілы, і мне, калі я заплюшчваў вочы, мроіўся чамусьці твар Гайны. У душы не было хвалявання, толькі сум — такі ж светлы, як гэтая зорка кахання. І я дзякаваў багам за тое, што прыйшоў сюды, на зямлю, дзе кожная зёлка, кожная казюрка радуецца сонцу і валодае часцінкай вечнай прыгажосці...»

Па сваім глыбінным змесце, шматграннасці праблем і іх мастацка-эстэтычным раскрыцці раман «Вяшчун Гедзіміна» набліжаецца да твора «Залатая жрыца Ашвінаў». А завяршаецца гістарычная трылогія Вольгі Іпатавай пра Вялікае Княства Літоўскае і яго валадароў раманам «Альгердава дзіда». У гэтым творы-працягу «Залатой жрыцы

Ашвінаў» і «Вешчуна Гедзіміна» (хаця кожны з іх цалкам самастойны і можа існаваць аўтаномна) дзейнічаюць ці згадваюцца тыя сама героі ў той жа гістарычнай і часавай прасторы. Аднак у цэнтры — галоўны герой Альгерд, адзін з самых улюбёных і разумных сыноў Гедзіміна, які шмат пераняў ад бацькі гаспадарчых, воінскіх, дыпламатычных талентаў. У беларускай літаратуры гэта адзін з першых твораў пра выдатнага гістарычнага дзеяча (яму некалі яшчэ Ян Чачот прысвячаў свае вершы), імя якога амаль незнаёмае звычайнаму чытачу. А менавіта Альгерд, народжаны на злёце трынаццатага стагоддзя, у 1296 годзе, за сваё доўгае жыццё (а пражыў ён 81 год і памёр у 1377) шмат ваяваў з тэўтонамі, памнажаў багацце і землі Вялікага Княства, дзе асноўным ядром былі беларусы з іх самастойнай культурай, будаваў замкі і праваслаўныя храмы. Гэта пры ім Княства стала вялікай дзяржавай ад Балтыйскага да Чорнага мораў. У Кіеве княжыў ягоны сын Уладзімір, у Пскове — сын Андрэй, а Ягайла стаў польскім каралём. Гэта Альгерд са сваім войскам у цяжкай бітве перамог татараў на рацэ Сінія Воды (прыток паўднёвага Буга). Гэта быў складаны пераходны час суіснавання старога паганскага светаўспрымання з новым, хрысціянскім, час змагання за пашырэнне і захаванне вялікай дзяржавы.

Па смерці Гедзіміна Вялікае Княства было падзеленае паміж ягонымі сынамі. Насуперак звычаю Гедзімін пакінуў вялікі пасад малодшаму — Яўнуту (сын ад трэцяй, апошняй жонкі — полацкай князёўны Еўны). Старшыя браты праз чатыры гады аб'ядналіся і скінулі яго з віленскага трона, выслалі ў Заслаўе. А Кейстут і Альгерд сталі галоўнымі валадарамі ВКЛ. Кейстуту дасталася Трокская палова, Альгерду — Віленская, ад якой ён і стаў называцца вялікім князем літоўскім і княжыў 32 гады. Адразу ж ён пачаў весці справу на аб'яднанне. Менавіта Альгерд утварыў амаль у канчатковых межах Вялікае Княства Літоўскае, Рускае, Жамойцкае, завяршыў складаны працэс фармавання гэтай дзяржавы ў той час, як Масква толькі пачынала ўмацоўвацца. Перамогшы войска трох князёў Залатой Арды на Сініх Водах, Альгерд тым самым вызваліў землі Палольшчыны і Кіеўшчыны ад татарскага іга. Войска Вялікага Княства на чале з Альгердам адбівала напады крыжакоў у 1345, 1347, 1348, 1352, 1365, 1370 гадах. Для многіх з нашых продкаў гэтыя даты былі як пахавальны звон. Але яны ўздымаліся, зноў адраджалі сваю зямлю, каб завяшчаць нам, сваім нашчадкам, мову, культуру, рэлігію і памяць пра вялікія здзяйсненні ў тыя далёкія стагоддзі.

Валадары ў гісторыі застаюцца па-рознаму. Альгерд увайшоў у нашу гісторыю і як праваслаўны дзеяч і як чалавек, які пакінуў пасля

сябе многіх вядомых спадкаемцаў, вызваліў ад татарскага прыгнёту і падпарадкаваў сабе землі ажно да Чорнага мора. Акунаючы кап'ё ў Чорнае мора, ён паўтарыў гэты жэст у Маскве, куды, паводле летапісаў, прыйшоў з вялікім войскам пасля пагрозы маскоўскага князя Дзмітрыя Данскога захапіць і спаліць Вільню на Вялікдзень. Альгерд сам прыйшоў да маскоўскага князя і згадзіўся не чапаць Крамля толькі пры ўмове багатага выкупу і пры тым, што разам з 300 коннікамі ўедзе ў Крэмль і паточыць дзідай «браму крамлёўскую» (З кнігі В. Іпатавай «Паміж Масквой і Варшавай»).

Вольга Іпатава, як і папярэднімі творамі, так і раманам «Альгердава дзіда», вяртае нам, сённяшнім, гістарычную памяць, імёны і справы людзей, якія стварылі вялікую дзяржаву ў цэнтры Еўропы. З працяглага жыцця Альгерда, якое ў аповесці пазначана пункцірна, найбольш глыбока і рознабакова асвятляюцца тры найважнейшыя моманты яго дзейнасці: пераемнасць бацькавай спадчыннасці ў маладыя гады па майстэрстве кіраўніка і абаронцы дзяржавы, падзеі, звязаныя з авалоданнем трона Вялікага Княства, і бітва з татарамі на Сініх Водах. Адпаведна гэтым падзеям пісьменніца храналагічна падзяляе твор на асобныя раздзелы па гадах, якія сталі вызначальнымі ў жыцці і дзейнасці Альгерда: Год 1313. Лозка; Год 1341. Як тать у начы; Год 1345. Вільня. Выгнанне Яўнута; Год 1352. Клятва на дзідзе; Год 1363. Паход у «Палі дзікія»; Год 1370. «Да Масквы прысланю сваю дзіду...»

Год 1313 быў сімвалічным у жыцці семнаццацігадовага Альгерда. Яго напаткала першае юнацкае каханне да Лозкі, праўнучкі Жывены, з якой невыпадкова зводзіць яго лёс. Лозка, дачка каваля Вольжыча, названага так у гонар Альгердавай маці, княгіні Вольгі, выкоўвае маладому княжычу дзіду, якую асвячае ў сваім паганскім капішчы Жывена, бласлаўляючы Альгерда на доўгае жыццё. І дзіда, у якую паганскія багі ўдыхнулі магічны зарад, як бы пераўтвараецца ў жывую істоту — абаронцу князя ад розных ворагаў. Менавіта гэтаму сыну Гедзіміна перадаецца мудрая сіла продкаў і ён ідзе ў небяспечны і складаны свет, атулены іх любоўю, несучы ў душы цяпло і натхненне цнатлівага кахання да прыгажуні-дзяўчыны, «з разумным тварам, на якім дапытліва свяціліся рэдкай акрасы фіялкавыя вочы, з затоенай хітрынкай і цвёрдасцю ў глыбіні бліскучых зрэнкаў...» Гэтая пастаянная, характэрная дэталь, якая заўсёды паўтараецца ў вонкавым вобліку Жывены, Гайны і Лозкі, адзнака не толькі жаночай прыгажосці, але і сведчанне красы радзімы-Беларусі, якая ў творах пісьменніцы атаясамліваецца з жанчынай, што мае жыццядайную сілу. І нездарма Альгерду ўсё жыццё спадарожнічала памяць пра Лозку,

якая надзяліла яго не толькі незгасальнай любоўю-памяццю і абярогам-талісманам — дзідай, але і аддала на службу князю і яго дзяржаўным справам самае дарагое, што засталося ў яе жыцці, — унука Кужаля, калі лёс развёў маладых закаханых па розных жыццёвых дарогах і Лозка праз многія гады і праз Кужаля нагадала Альгерду пра сваё існаванне. «Міндоўгавага кораню была дзяўчына Лозка. Сямейная тая таямніца пераходзіла ў іх родзе ад аднаго да другога, стаўшы паданнем. Але ён, Альгерд, не можа забыцца на сілу, якая ішла ад старой жрыцы, і адчуванне, што яна не простага роду, што на ёй пячатка багоў, добра помніцца. І гэта яны, багі, падалі яму знак каб ён помніў іх, каб не забываўся, што ўсё на свеце дзеецца па іхняй волі — прыслалі з Нямеччыны, якая была паглынула Лозку, гэтае дзіця. І яна, Лозка, азвалася ім, гэтым хлопчыкам — што любіць сваю зямлю і помніць аб ёй. Што ж здарылася з ёю? Якім быў той, хто стаў — па ейнай волі ці не — абраннікам, ад каго нарадзіла яна сына і дачакалася там, на чужыне, унука? І ён гэты ўнук, што забраў ад яе не толькі гэтыя, незвычайнага колеру, вочы, а ва ўсім астатнім не падобны на яе ніколькі, вось зараз прыйшоў да яго, каб служыць яму, Альгерду…

…Калі б тут з'явіўся вяшчун Гедзіміна, звяздар Ляздзейка єн імгненна пазнаў бы, чый нос, лоб, у асаблівасці ж белазубую упартую ўсмешку амаль да драбочка падабраў хлопчык, і падзівіўся б, як можа праз стагоддзі перадавацца аблічча, якое ён не аднойчы бачыў у сваіх вешчых снах. «Выліты князь Міндоўг», — сказаў бы ён. Але не было тут звяздара Ляздзейкі, і не захавалася партрэтаў вялікага князя, таму і пастараўся згасіць у сабе няяснае пачуццё трывогі і яшчэ нечага, чаму і сам не даў бы тлумачэння, князь Альгерд…»[1]

Такі своеасабліва-рамантызаваны пачатак, надаючы аповесці дынамічны імпульс, ад якога разгортваецца падзейна-апавядальная плынь, выкананы ў лепшых традыцыях гістарычнага жанру пачатых у беларускай літаратуры Уладзімірам Караткевічам, які дбаў пра глыбінную займальнасць твора, яго чытэльнасць. Вольга Іпатава, засяроджваючы ўвагу чытача на лёсавызначальных момантах дзейнасці Альгерда, падсвечвае, «ацяпляе» яго воблік дзяржаўнага дзеяча і воіна такімі рысамі і ўласцівасцямі характару, з якіх відаць, што нішто чалавечае не было яму чужое І дасягаецца гэтая набліжанасць героя да чытача не падрабязнай аўтарскай апісальнасцю, а праз унутраныя маналогі, раскрыццё думак, разважанняў Альгерда, яго багатага ўнутранага свету, што найбольш праўдзіва паказвае ісцінную сутнасць

[1] Іпатава В. Альгердава дзіда. Мн., 2002. С. 576.

любога чалавека. Даўняе пісьменніцкае крэда Вольгі Іпатавай — паказаць у герою найперш тое золата, што ў душы — раскрываецца ў яе гістарычнай прозе глыбіннымі праяўленнямі. І тут пісьменніца апіраецца на даўнія празаічныя традыцыі беларускай літаратуры. Менавіта свет эпохі раскрываецца праз вобразы гістарычных герояў Вольгі Іпатавай, актыўных і ў дзеяннях і ў роздуме Такім паўстае перад намі і Альгерд. Мы бачым яго і ў кузні каваля Вольжыча, калі ён вучыцца кавальскаму рамяству, і ў старажытным паганскім капішчы, і на ваенных нарадах Гедзіміна, і падчас паездкі ў Крэва, і ў яго першым баі з крыжакамі, дзе ён сваёй дзідай выратаваў жыццё бацьку. Жывым і прывабным намаляваны яго вобраз у гэтай батальнай сцэне (трэба сказаць, што батальныя сцэны наогул удаюцца пісьменніцы ва ўсіх праявах антычалавечнай сутнасці вайны): «Танклявы, высокі юнак, увесь абліты чырвона-жоўтым ззяннем, з дзідай у руцэ, з тварам, высока ўзнятым да ўзлобка, дзе стаяў вялікакняскі будан, нібы сышоў са старажытных абразоў, што віселі ў хрысціянскіх храмах...» Далей, у наступных раздзелах твора, мы сустракаемся ўжо са сталым, узмужнелым Альгердам — князем віцебскім, жанатым на віцебскай князёўне Марыі. Усе падзеі, характарыстыкі іншым героям даюцца тут часцей за ўсё праз унутраныя маналогі, плынь свядомасці галоўнага героя і толькі падсвечваюцца, дапаўняюцца аўтарскім тэкстам. Як наплывы памяці Альгерда ўзнікаюць карціны яго хрышчэння ў Наваградку, потым бачыцца яму ўрачыстасць вянчання з Марыяй, якая прынесла Альгерду не толькі Віцебскае княства, але і сямейнае шчасце, вучыла сваіх дзяцей, што «для народа жывуць князі, дзеля таго, каб даць хлеб і да хлеба». Нястомна, як сапраўдная хрысціянка, закладвала яна праваслаўныя храмы ў Вільні, прыносіла ім багатыя ахвяраванні. Гэтыя думкі галоўнага героя перамяжоўваюцца аўтарскімі апісаннямі такіх момантаў, як замах на жыццё Альгерда, ад вернай смерці якога выратавала чароўная Лозкіна дзіда, набажэнства ў царкве, падчас якога Альгерд просіць Бога, каб дапамог здзейсніць задуманае. А задумвалася цяжкая, рызыкоўная справа — пазбавіць Яўнута вялікакняскага трона, які па праву належаў яму, старшаму з сыноў Гедзіміна, які заслужыў гэты пасад сваім удзелам у дзяржаўных справах і баявых паходах супраць крыжакоў. Раздзел пра выгнанне Яўнута з'яўляецца кульмінацыйным момантам аповесці. Гэтая падзея трактуецца пісьменніцай не як звычайны палацавы пераварот, якія часта адбываліся ў еўрапейскіх каралеўскіх дварах, дзе спадчыннікі трона ваявалі за ўладу. Ёй важна паказаць, што інтарэсы дзяржавы патрабавалі мець на стальцы не бездапаможнага маладзёна, а вопытнага воя і валадара, і што пазбаўленне слабога,

труслівага, спешчанага князіняй Еўнай Яўнута вярхоўнай улады ў вялікай краіне было заканамерным і справядлівым актам. І яго бліскуча ажыццявіў у хаўрусе з іншымі братамі, найбольш з Кейстутам, разумны, абачлівы Альгерд, уткнуўшы крыві, забойства і смуты ў народзе. Ён знайшоў выйсце, якое задаволіла ўсіх — прапанаваў рыцарскі паядынак з Яўнутам. Апісанне яго — адна з найцікавейшых і напружаных сцэн рамана — даецца і праз роздум Яўнута, які ліхаманкава ўзважваў свае шанцы, і праз рэакцыю многіх прысутных, і праз вонкава спакойныя, разважлівыя дзеянні Альгерда. І тое, што гістарычная праўда была на баку Альгерда, даказала яго шматгадовае, удалае кіраванне дзяржавай, якую паважалі, з якой лічыліся суседнія краіны. Апавядаючы пра далейшы лёс сваіх герояў, аўтар робіць акцэнты і на такіх важных падзеях у жыцці Альгерда і ягонай сям'і, як шлюб, па смерці княгіні Марыі, з цвярской князёўнай Ульянай, заключаны дзеля дзяржаўных інтарэсаў, нараджэнне малодшых сыноў, сярод якіх самым любым становіцца Ягайла і якому ў дзядзькі воляй Альгерда быў прызначаны Кужаль. Апісваючы сімвалічны абрад перадачы дзіды як ахоўніцы князя і дзяржавы ў рукі малалетняга Ягайлы, пісьменніца з дыстанцыі часу і сваіх гістарычных ведаў асвятляе гэтыя падзеі: «Яшчэ з часоў Міндоўга малых княжат са зброяй, пасаджаных на каня, абводзілі вакол свяшчэннага дуба ля капішча Перуна. Аднак цяпер, праз два стагоддзі, гэты абрад праводзілі іначай, у прысутнасці не толькі жрацоў, але і святароў, і везлі дзіця вакол княжай харугвы, якую трымалі, стоячы пасярэдзіне двара, некалькі саноўных баяр. Вецер варушыў бел-чырвона-белае палотнішча, на якім, нібы княжая карона, тапырыўся вострымі канцамі знак Гедзіміна, славутыя Слупы. Ад імені княжыча клятву служыць Княству даваў яго дзядзька, яе ж прымалі баяры і зацныя — славутыя мужы віленскай зямлі.

Вось і цяпер двухгадовага Ягайлу пасадзілі на белага каня і ціха павялі таго паўз сцены замка, а вялікі князь, прыняўшы з рук прыслужніка дзіду, паклаў руку свайго сына на чырванаватае дрэўца дзіды. Кужалю ж давялося трымаць грозную зброю ззаду, і ён асцярожна ішоў за канём, стараючыся, каб дзіда не хісталася. Так ішлі яны разам з вялікім князем, трымаючы дзіця і дзіду, а ўсе вакол напружана сачылі за кожным іхным крокам. Каня вёў за сярэбраную вуздзечку мечнік Свідрыгайла, ён таксама ступаў асцярожна. Спатыкнешся — нядобры знак, а нікому не хацелася азмрочваць вялікі абрад. Ніхто не ведае, які сынкняжыч стане валадарыць на вялікакняскім стальцы, а дзеці растуць хутка. Лёс кожнага з прысутных быў цесна звязаны з Альгердам, які, нягледзячы на хворую нагу, усё ж

наважыўся, хаця і накульгваючы, ісці разам з канём, трымаць сваё дзіця. І гэта трывожыла ўсіх, хаця ніхто не паказваў таго перад іншымі. Занадта вялікая розніца паміж сынамі! Занадта відавочна, што цяпер Альгерд аддае перавагу малодшаму, а што ж будзе далей? Усе памяталі — толькі дзевяць гадоў таму сам Альгерд мячом зацвердзіў сваё права на сталей, калі ягоны бацька Гедзімін аддаў трон малодшаму, любаму, а не таму, хто таго сапраўды заслужваў, камусьці са старэйшых сыноў. Няўжо гісторыя нічому не вучыць?...» Гэтае трывожнае пытанне адрасавана і дню сённяшняму, асабліва да тых момантаў, калі перад беларусамі паўстае праблема выбару ўлады.

Завяршаючы раман перамогай Альгерда над татарамі, апавядаючы пра стасункі ВКЛ з Масквой, аўтар гэтым сцвярджае не столькі правамернасць абранасці Альгерда, колькі думку, што кіраваць дзяржавай павінны чалавек, надзелены высокім інтэлектам, разумны, прадбачлівы палітык і гаспадар, абаронца свайго народа, волі і незалежнасці краіны. Але і народ і валадары павінны таксама не толькі памятаць сваю гісторыю, кіравацца яе ўрокамі, але і захоўваць свае адметнасць у свеце, мову, культуру, нацыянальныя сімвалы, лепшыя традыцыі і вераванні продкаў.

Гістарычная трылогія Вольгі Іпатавай, прасякнутая гэтай вялікай ідэяй, вылучаецца сваёй эпічнасцю, яскравай філасафічнасцю, разгорнутым інтэлектуальным і аналітычным пошукам, удалым спалучэннем сённяшніх светапоглядных арыентацый аўтара на падзеі далёкай мінуўшчыны. І важна, што паказаныя ў адпаведнасці з тагачаснымі рэаліямі гэтыя падзеі, абуджаючы нашу гістарычную памяць, нацыянальную свядомасць, працуюць на будучыню, на беларускую справу, выклікаюць нязменную цікавасць чытачоў (пра што сведчаць сустрэчы В. Іпатавай з самымі рознымі аўдыторыямі, шматлікія пытанні, запіскі, лісты да пісьменніцы).

Шырокаму чытачу прысвечана і яшчэ адна яе кніга — «Паміж Масквой і Варшавай» (некалькі гістарычных маршрутаў Беларусі), якую таксама можна далучыць да гістарычных твораў. Кніга выдадзена ў 1996 годзе на беларускай і нямецкай мовах. Шмат бываючы за межамі радзімы, сустракаючыся з многімі людзьмі, Вольга Міхайлаўна ўпэўнівалася, што «Беларусь у свеце калі і ведалі, то ў асноўным як партызанскую рэспубліку, але тысячагадовай яе гісторыі нібыта і не існавала. Вось чаму, адклаўшы ўсе справы, аўтар узялася хаця б вельмі сцісла расказаць пра некаторыя нашы гарады з іх даўняй і цікавай гісторыяй, аднавіць вобразы славутых людзей нашай зямлі, звязаныя з тымі ці іншымі мясцінамі, апісаць найбольш

самабытныя этнаграфічныя абрады — словам, зрабіць партрэт той Беларусі, якою можна ганарыцца кожнаму народу...

«Зямля між Масквой і Варшавай, таямнічая Беларусь, пра якую так мала яшчэ ведаюць на Захадзе... Краіна гэтая насіла розныя імёны — то Крывія, то Полацкая зямля, то Вялікае Княства Літоўскае, Рускае і Жамойцкае (ці Літва), то, нарэшце, Беларусь. Дзве вялікія дзяржавы заўсёды ўцягвалі яе ў сферу свайго ўплыву, вялі за яе войны. За стагоддзі яна страціла свае культурныя цэнтры — Смаленск і Вільню (сучасны Вільнюс)... У песнях яе называюць сінявокай з-за мноства сініх азёраў і рэчак, якія навекі адлюстраваліся ў вачах людзей, што жывуць тут. У легендах яе называюць Белай Руссю — з-за белай, з кужэльнага лёну старажытнай вопраткі жыхароў. А можа з-за белых буслоў, што так любяць сяліцца ў яе вёсках і мястэчках? Праўда, у народзе лічаць, што буслы прыносяць шчасце, а шчаслівага, спакойнага жыцця на гэтай зямлі было мала... Бо яна ўся — раздарожжа... Але нягледзячы на бясконцыя войны, якія ішлі скрозь нашу зямлю, знішчаючы на ёй усё, што паспявалі ствараць і будаваць, Беларусь дала свету шмат таленавітых людзей. Памяць народная захоўвае вобразы сваіх герояў, і калі нават яны перайшлі ў міфалогію, то храбрасць і паэтычнасць іх засталіся ў імені — Вярнідуб, Світальнік, Попельніц.. Апошняе — таму, што гэты народ пасля ўсіх войнаў адраджаўся літаральна, як Фенікс, з попелу. Беларус любіць зямлю, ён урос у яе каранямі, усёй сваёй істотай. І калі тое, што было на паверхні, — Жывое Дрэва Жыцця, якое ёсць у кожнага народа, было спалена, — то карэнні захаваліся, жывуць. Вось чаму, нягледзячы на тое што беларуская мова пры канцы XX стагоддзя засталася невялікімі астраўкамі пасярод суцэльнага мора русіфікацыі, — адраджэнне яе, уласнай культуры і гісторыі збіраецца сёння па драбочку...»[1]

За гэтай кароткай прамовай ідуць сціслыя, але змястоўныя, насычаныя цікавай інфармацыяй, гістарычныя нарысы пра Мінск, Полацк, Віцебск, Оршу, Нясвіж, Горадню, Слонім, Пінск, асобныя раздзелы прысвечаныя сапраўдным гняздоўям беларускага духу: «Мір — Карэлічы — Наваградак», «Ракаў — Іўе — Ліда», «Крэва — Баруны — Гальшаны», расказваецца пра старажытныя гербы ўсіх гэтых гарадоў. Згаданыя ў кнізе маршруты — толькі невялікая часцінка шляхоў, па якіх трэба праехаць, каб мець хаця б агульнае ўяўленне пра нашу Беларусь. Нягледзячы на тое што пісьменніца дае шмат гістарычных звестак, выпісак з летапісаў, паданняў і легенд, расказвае пра замкі,

---

[1] Іпатава В. Паміж Масквой і Варшавай. Мн., 1996. С. 7 — 8.

храмы, манастыры, славутых дзеячаў мінулага з вядомых магнацкіх родаў, многіх пісьменнікаў, мастакоў, музыкантаў, вучоных, якія паходзілі з гэтых мясцінаў, праславіліся потым у іншых краінах, але ўсё гэта пададзена лёгка, нязмушана, без тых шматслоўных падрабязнасцяў, якія абцяжарваюць чытацкае ўспрыманне. Матэрыял спарадкаваны ў кожным раздзеле-нарысе храналагічна-паслядоўна, з выкарыстаннем самага неабходнага, галоўнага, што патрэбна ведаць замежнаму або айчыннаму турысту, справоваму чалавеку, проста маладасведчаным у беларускай гісторыі людзям, ды і ўсім беларусам. І таму кніга ўспрымаецца як першаадкрыццё. І тут, як і ў гістарычнай прозе пісьменніцы, праяўляюцца глыбокія веды, эрудыцыя, любоў аўтара да роднай зямлі, яе сталае захапленне прыгажосцю Беларусі, мужнасцю і талентамі землякоў, што праслаўлялі і праслаўляюць радзіму ва ўсе часы і стагоддзі.

Гісторыю Беларусі Вольга Іпатава асвятляе не толькі ў раманах, аповесцях, апавяданнях, публіцыстычных нарысах, прысвечаных старажытным гарадам і мястэчкам, але выкарыстоўвае і такі жанр, як опернае лібрэта, сцэнарыі. Яшчэ ў 1988 годзе паводле сцэнарыя пісьменніцы быў пастаўлены на тэлебачанні мініспектакль «Давыд Гарадзенскі» (рэжысёр Надзея Гаркунова). Тады ўпершыню ў нашу літаратуру ўвайшлі вобразы Давыда Гарадзенскага і ягонай жонкі, прыгажуні Бiруты — дачкі Гедзіміна. Сцэнарый заканчваўся на аптымістычнай ноце — Давыд і Біруга гавораць пра каханне і адухоўленыя гэтым глыбокім пачуццём адыходзяць у вечнасць. (Дарэчы, вобраз Давыда Гарадзенскага першым адкрыў гісторык Міхась Ткачоў.)

Напачатку 90-х у Беларускім оперным тэатры з поспехам прайшла опера «Князь Наваградскі», лібрэта да якой напісала Вольга Іпатава паводле п'есы Л. Пракопчыка (кампазітар А. Бандарэнка). У гэтую літаратурную першааснову оперы пісьменніца ўклала ўсю душу, раскрываючы для тэатральнага гледача цікавую і ганаровую старонку нацыянальнай гісторыі. У цэнтры твора супярэчлівая, магутная постаць першага князя Вялікага Княства Літоўскага Міндоўга і яго сына Войшалка. Аднак галоўнай фігурай, вакол якой канцэнтруецца дзеянне — Войшалк, князь-воін, праваслаўны манах, які заснаваў славуты Лаўрышаўскі манастыр. Вобраз Войшалка неадназначны, глыбока філасофскі, паказаны ў лібрэта праз асабістую драму, раскрыццё духоўнага свету. Пазней да гэтага вобраза Вольга Іпатава звернецца ў рамане «Залатая жрыца Ашвінаў».

Пасля трагічнай смерці Міндоўга Войшалк, адгукаючыся на заклік землякоў, вяртаецца на княства, каб самаахвярна паслужыць Радзіме. У барацьбе за станаўленне дзяржавы, у жорсткай міжусобіцы з

суседнім Галіцка-Валынскім княствам Войшалк загінуў, пакінуўшы пасля сябе моцнае княства, якому пад знакам «Пагоні» наканавана было расквітнець, застацца ў гісторыі еўрапейскіх народаў сваёй непаўторна-самабытнай нацыянальнай адметнасцю. «Князь Наваградскі» быў адной з першых ластавак нацыянальнага адраджэння канца 80-х — пачатку 90-х гадоў. У рацэнзіі на гэтую беларускую оперу адзначалася: «Першая спроба пяра Вольгі Іпатавай у жанры лібрэта, у якім не рызыкуе пісаць нават не кожны паэт, атрымалася даволі ўдалай і сведчыць аб вялікім творчым патэнцыяле таленавітай пісьменніцы» (Эльвіра Алейнікава. «Добры вечар, князь Наваградскі» // Добры вечар. 1993. 22 сакавіка).

Перад намі ў «Князю Наваградскім» разгортваецца гістарычная эпапея, якая замацоўвае ў нашай свядомасці думку пра тое, што беларуская зямля можа ганарыцца не толькі сціплымі, працавітымі сялянамі, але і высока адукаванай нацыянальнай інтэлігенцыяй, талентамі, героямі, палкаводцамі, лепшымі прадстаўнікамі шляхетных родаў, іх здзяйсненнямі, якіх належыць кожнаму цывілізаванаму народу ведаць і шанаваць. У аснове твора — складанае перакрыжаванне паганства, праваслаўнай і каталіцкай веры, тонкае перапляценне розных сюжэтных ліній і вобразаў. Тут элементы эпічнай трагедыі, чыстай лірыкі, філасофскага роздуму і драмы. І ўсё гэта садзейнічае дакладнай перадачы душэўнага настрою, псіхалагічнага стану герояў.

Некалі лібрэта гістарычных опер пісала таленавітая беларуская паэтэса Наталля Арсеннева, музыку да якіх ствараў кампазітар М. Куліковіч-Шчаглоў («Лясное возера», «Усяслаў Чарадзей»), У савецкія часы яны нідзе і ніколі не згадваліся і толькі ў рэцэнзіях на «Князя Наваградскага» ўспомнілі, што былі ў беларускім мастацтве такія творы. Такім чынам Вольга Іпатава як лібрэтыст працягвала плённыя традыцыі, пачатыя папярэднікамі ў гэтым жанры.

* * *

Калі з вышыні сённяшняга дня агледзець здзейсненае Вольгай Іпатавай, то выразна акрэсліваецца нацыянальна-патрыятычная праблематыка яе творчасці, дзе няма ніякай даніны ідэалагічным устаноўкам савецкага часу. Жыццё глыбіннай Беларусі, яе простых людзей, якія заўсёды жылі нялёгка, але кіраваліся агульначалавечымі, агульнахрысціянскімі законамі, не выракаліся сваіх адвечных традыцый, выпрацаваных бацькамі і дзядамі — менавіта з гэтых высокадухоўных пазіцый зыходзіць пісьменніца, раскрываючы ў сваіх аповесцях, апавяданнях, раманах сучаснае і далёкае мінулае Бацькаўшчыны. У адным з крытычных артыкулаў, прысвечаных Уладзі-

міру Караткевічу, Вольга Міхайлаўна, сталая паслядоўніца яго творчасці, пісала: «І якія толькі вобразы не ўсплываюць з глыбіняў часу, выкліканыя адтуль яркім і багатым талентам Уладзіміра Караткевіча! Пракорокі і мужыкі, інтэлігенты, якія шукаюць сябе і сваю гісторыю, чароўнай прыгажосці дзяўчаты і кардыналы, рыцары і прыгоннікі, паўстанцы і змагары. А за імі, праз іх — эпоха, Беларусь, складаны і часам трагічны яе лёс, народ, што прагне волі і долі, што не дае ўціску і галечы заваладаць сабой, загасіць у душах прыгажосць і сілу духу...»[1]

Сёння мы можам тое самае сказаць і пра яе творы, дзе ажываюць дзеячы слаўнага беларускага мінулага, што тварылі нацыянальную гісторыю, якой можа ганарыцца кожная еўрапейская краіна. Вядома, што нашым дзеячам заўсёды цяжка даводзілася змагацца за беларускія справы, і з гэтымі цяжкасцямі мы ўступілі і ў новае стагоддзе. Апошнім часам Вольга Іпатава шмат піша публіцыстычных артыкулаў, якія можна аб'яднаць агульнай назвай: «Трывога точыць сэрца». Так называўся цыкл яе публіцыстычных эсэ, апублікаваных у газеце «Звязда» (2000, 26 жніўня, 20 верасня), якія былі звернуты не толькі да чытачоў газеты, але і да ўсіх, хто заклапочаны лёсам беларушчыны, нацыянальнай гісторыі і культуры, роднай мовы.

На самым пачатку 90-х гадоў Вольгу Іпатаву поруч з многімі беларускімі творцамі назвалі прадвесніцай нацыянальнага Адраджэння. Рыгор Барадулін вельмі трапна вызначыў яе пазіцыю: «Княгіня Вольга ў княстве духу беларускага» (Добры вечар. 1995. 10 студзеня). Гэтая пазіцыя пісьменніцы — актыўнага нацыянальнага дзеяча — яскрава акрэсліваецца ва ўсёй яе творчасці і асабліва ў публіцыстыцы апошняга часу, што відаць з яе артыкулаў, вершаў нацыянальна-патрыятычнай, грамадзянскай накіраванасці. Каб пераканацца ў гэтым, варта прывесці толькі некаторыя аўтарскія выказванні, лірычныя радкі вершаў: «Сваю асабістую задачу як літаратара бачу ў тым, каб працаваць на адраджэнне беларускай культуры, якую я вельмі люблю. Я буду рабіць усё, каб пры жыцці майго пакалення беларуская мова не знікла, я хварэю ад нападу на яе... Але сапраўдны інтэлігентны чалавек не павінны адмаўляць сусветную культуру, мову іншых народаў. У гэтым, на мой погляд, і палягае палітыка літаратара і інтэлігента. Жаданне зрабіць усё, каб мова і народ жылі, каб захавалася культура — вось наша палітыка. З другога боку, якой бы прывабнай і цікавай ні была гісторыя і культура іншых народаў, без разумення ўласных шляхоў нельга будаваць шчаслівае будучае...» «...Без клопату аб мове, яе чысціні і ўвогуле яе выжыванні не можа абысціся

[1] Іпатава В. Дзівосны свет гісторыі // Чырвоная змена. 1982. 26 кастрычніка.

ніводная літаратура свету... Нездарма пісьменнікі крыкам крычаць сёння аб пагрозе знішчэння, знікнення беларускай мовы — адной з чысцейшых, прыгажэйшых славянскіх моваў, нагадваюць аб абавязку дзяржавы ўсяляк падтрымаць і ўзняць яе з прыніжанага становішча другаснай, непаўнавартаснай да сапраўды дзяржаўнай... Нам, беларускім пісьменнікам, не даў лёс такой радасці — тонкім пэндзлікам размалёўваць нейкую дэталь нашага нацыянальнага дома, займаючыся гуллівым штукарствам, прыдумкамі, гульнёй у слова. Не! Трэба самім выкопваць гліну, фармаваць цэглу і насіць яе то да сценаў, то ў падмурак, які з тытанічнымі намаганнямі закладалі папярэднікі і які не раз ірвалі дынамітам нянавісці праціўнікі нацыянальнай ідэі і незалежнасці Беларусі. Мы, пачынаючы дваццаць першае стагоддзе, усё яшчэ асветнікі, хаця асветніцтва даўно пройдзенае ўсімі народамі Еўропы. Сапраўды — хіба ў дваццатым стагоддзі трэба гаварыць аб тым, што мы — народ, і тлумачыць, які менавіта народ, з якой гісторыяй? Раней думалася — мы зможам пераскочыць праз асветніцтва — літаратура ж наша цалкам сучасная, у ёй ёсць усе адпаведныя часу плыні — і ісці далей. Але, як мне цяпер усё больш здаецца, этап рамантычнага гістарызму (альбо гістарычнага рамантызму?) — гэта як прышчэпка ад чумы беспамяцтва, і без яе нам ніяк не абысціся. Першым адчуў гэта незабыўны Уладзімір Караткевіч. Помніцца, ён не раз казаў, што трэба пісаць не проста гістарычныя творы, але творы прыгодніцкія, з захапляльным сюжэтам... Сур'ёзная літаратура — гэта сапраўды як хлеб з нівы, якую трэба засеяць, вырасціць на ёй зерне і, сабраўшы, змалаціць яго, а толькі пасля гэтага пячы каравай. У ёй важны не столькі сюжэт (іх, як сцвярджае літаратуразнаўства, у сусветнай літаратуры ўсяго трыццаць тры, астатняе ж — перапяванне і пераліцоўка асноўных), колькі менавіта роздум пісьменніка над тымі ці іншымі праявамі чалавечага жыцця, яго ўласная пазіцыя. А таму чытач — заўсёды як бы суразмоўца. І ад таго, наколькі будзе зразумелае тое, аб чым гаворка, залежыць узаемадзеянне пісьменніка і тых, хто дакранецца да яго свету і ягонай творчасці...

Зрэшты, айчынная гістарычная літаратура толькі ўваходзіць у смак адкрыцця бяздонных сховішчаў уласнай гісторыі... Ад нас залежыць наша будучыня, а зямля ў нас цудоўная, з багатымі і старажытнымі традыцыямі, і яна заслугоўвае таго, каб ёю ганарыцца...» (Звязда. 2000. 20 верасня).

«...Чалавеку сёння нялёгка, а то і немагчыма дабрацца да самога сябе, да першавытокаў свае душы, куды Творцам закладзеныя правілы, жывучы па якіх ён зможа існаваць у гармоніі з Сусветам, і ў гэтым яму можа дапамагчы, бадай, толькі літаратура... Маючы вялікі,

неацэнны боскі дар, менавіта пісьменнікі могуць актыўна накіроўваць грамадскую свядомасць у патрэбнае рэчышча ідэй, якія найлепей спрыяюць жыццю і захаванню ўласнай нацыі, а праз яе — і ўсяго чалавецтва... Наша зброя, калі так можна сказаць, — не гвалт, а самаахвярнасць, не агрэсія, а перавага духу, не злаславае нецярпенне да чужой думкі, а трапяткая, найтанчэйшая павага да сябе і, галоўнае, павага да іншага — вось простыя, даўно вядомыя, але сёння асабліва патрэбныя нашаму грамадству ісціны, без якіх мы згубімся на страшных віражах сучаснасці, сканаем на жахлівым наждаку глабальнай нівеліроўкі асобы. Працэс гэты прыходзіць у Беларусь — Беларусь, у імуннай сістэме якой няма — ці амаль няма — абароннае моцы супраць вірусу беспамяцтва і нацыянальнага нігілізму...» (В. Іпатава. Зберагчы духоўнасць і святло // ЛІМ. 2001. 1 чэрвеня). «...Мы жывём у грамадстве, дзе няўхільна ідзе дэвальвацыя, абясцэньванне культуры, дзе на ўзроўні, недастойным цывілізаваных людзей, ідзе цкаванне дзеячаў і пісьменнікаў, найчасцей самых знаных, самых актыўных, асабліва на радыё і тэлебачанні...

Мы жывём у час, калі пісьменніку прад'яўляецца рахунак за ўсё, што болем апякае душу кожнага сумленнага чалавека, заслону чаму павінна ставіць перш за ўсё дзяржава: здзічэнню грамадства, занядбанню роднай мовы, абыякавасці да нацыянальных святыняў... Мы жывём у час, калі ў нашай краіне ад тых 80 працэнтаў беларускіх школ, якія былі ў ёй у 1993 годзе, засталося меней 20 працэнтаў. А школа — гэта крыніца, без якой перасыхае жывая, магутная плынь нацыянальнай літаратуры... Яркія творы ёсць і цяпер, але іх праглынуў рынак. На жаль, час не працуе на сур'ёзную літаратуру. І ў гэтым няма віны пісьменнікаў. Творчая інтэлігенцыя вінавата ў іншым. Яна ў сваёй большасці засталася нейтральнай да нацыянальнай ідэі. Таталітарызм скампраметаваў ідэю служэння Бацькаўшчыне. Ужо няма былой сацыялістычнай дзяржавы, а Бацькаўшчына засталася. І трэба працаваць на яе, працаваць на ідэю беларускасці... Народ не ведае сваёй гісторыі, нам амаль нічога невядома пра беларускую шляхту, у нас няма традыцыі дзяржаўнасці, што ёсць, скажам, у рускай інтэлігенцыі (праваслаўная, манархічная, імперская). Традыцыю дзяржаўнасці трэба аднавіць, адным словам, усё пачаць ад пачатку... Эканамічныя цяжкасці нібыта паралізавалі, засланілі вялікую ідэю Адраджэння...» (В. Іпатава. Думкі ўсе аб Беларусі // Работніца і сялянка. 1993. № 1).

«...У жыцці кожнага народа бываюць часіны, калі ён на крутых віражах свайго існавання вызначаецца як жыццяздольная сістэма, якая праз актыўны і разумны пошук абірае для сябе найлепшы

накірунак. Бывае і наадварот — у стане агульнай разгубленасці, не слухаючы ні ўласных мудрацоў і прарокаў, ні свае ўласнае душы, ідзе народная грамада немаведама куды, бачачы толькі свае кароткачасовыя выгады і не зазіраючы не тое што праз стагоддзі, але і ў заўтрашні дзень.

Нам усім патрапіла бачыць гэтую агульную растрэсенае^ думак і ідэалаў, мы ўсе жывём у час, калі перад нашым народам паўстала пытанне — быць ці не быць яму як народу, мець сваю ўласную непаўторнасць ці нарэшце з уздыхам палёгкі, без жаднага шкадавання растварыцца паміж іншымі, больш моцнымі і самаарганізаванымі этнасамі і культурамі... Вось чаму гэтак важна не затоптваць парасткі нацыянальнай, народнай свядомасці, а песціць іх, як песцяць у вялікім садзе рэдкую, адзіную кветку. Сад гэты — наша цывілізацыя, а кветка — народ са сваёй непаўторнасцю, мовай і назапашаным скарбам духоўнасці...» (ЛІМ. 2001. 1 чэрвеня).

Аналізуючы стан сучаснага грамадства, пісьменніца з болем піша пра заняпад вёскі, якая была адвечнай захавальніцай беларускага народнага жыцця, пра цяжкае матэрыяльнае становішча настаўніцтва, наогул інтэлігенцыі, вясковай і гарадской, пра наплыў маскультуры, якая разбэшчвае моладзь, пазбаўляе яе духоўных арыенціраў, пра залежны стан дзяржаўных чыноўнікаў, якія не адчуваюць сябе тым, кім зрабіў іх лёс — менавіта людзьмі, што павінны клапаціцца пра дзяржаўныя справы нашай Беларусі і ў якіх адсутнічае ўсведамленне адказнасці за сваю краіну...

«Калі я слухаю прывітальныя прамовы нашых урадавых асобаў на дыпламатычных прыёмах, якія гавораць па-руску, то разумею, што ўлада нават не задумваецца над тым, каго ці што яна прадстаўляе: ці то незалежную Рэспубліку Беларусь, ці то нейкую расплывістую тэрытарыяльную прастору, дзе існуе агульная інтэрнацыянальная мова. Мне здаецца, прадстаўнікі ўлады сёння не ўяўляюць, што яны — дзяржаўныя дзеячы, што іх учынкі будуць ацэньваць нашчадкі... На пяску бяспамяцтва нельга будаваць дзяржаву. Патрэбен грунтоўны фундамент нацыянальнай самасвядомасці... Здрада і духоўная глухата выклікаюць у мяне пачуццё песімізму. Калі прыходзіцца разважаць пра лёс нацыі, ахоплівае адчуванне магчымай страты Беларусі для ўсяго чалавецтва. Іншы раз думаю: дзеля чаго маё жыццё і мая творчасць як спроба прабіцца скрозь замураваныя фізічныя абалонкі іншых людзей? Ці дзеля таго, каб душы і сэрцы запалалі адным усяленскім агнём? Але жыццё такое, што не ўсіх «прыбівае» да гэтага агню, які, па сутнасці, з'яўляецца знакам нашага

агульначалавечага і касмічнага яднання...» (В. Іпатава. Чалавецтва стане бядней //7 дней. 2001. 27 красавіка).

«Мне здаецца, што калі сёння гаварыць толькі пра «вельмі цяжкія часы (я выключаю радыё, пачуўшы такое), гэта няправільна. Я не хачу пра гэта слухаць. Я гэта ведаю. Пытанне такое: чым сёння трэба выжываць? Духам. Вядома, есці трэба, і хлеб патрэбен, і да яго, але калі сказаць сабе з раніцы, што цяжка, на наш кашалёк зноў замахі робяць, і з гэтым прыйсці і працаваць, то працаваць не захочацца, і жыць не захочацца...

Гак, жыць трэба і сённяшнім днём, і днём мінулым. Асабліва інтэлігенцыі. Будзем жа шанаваць нашу гісторыю, аднак не ствараючы новых міфаў. Хопіць ужо і таго, што мы семдзесят гадоў жылі імі...» (Чырвоная змена. 1993. 19 верасня).

«У мяне ёсць свая тэорыя, што беларусам вельмі цяжка жывецца таму, што мы страцілі і страчваем сувязь з продкамі, адракаючыся ад роднай мовы... Ёсць у нашых продках, у гэтых ліцвінах, нейкі незгасальны агонь, гэта людзі магутнай энергіі... Мы павінны звяртацца да іх, каб мець сілы на жыццё...» (В. Іпатава. Мая энергія — ад продкаў // Звязда. 2001. 7 ліпеня).

Пра гэтыя і многія іншыя вастранадзённыя праблемы нашага жыцця гаворыць пісьменніца і ў новых вершах («Вёска», «Навагрудак», «Дзяды», «Калодзеж», «Беларуская мова», «Тройца», «Вербніца», «Нямецкая мова» і інш.). Найбольш паказальным у гэтым сэнсе з'яўляецца яе выдатны «Верш на Свабоду»:

Я абрус памінальны паслала на светлым тым полі,
Дзе жаўнеры Касцюшкі палеглі на вечны спачын.
Шапатнула трава, і вятрыска пацвердзіў: «За Волю!»
І прарос скрозь тканіну спакойны і мудры палын.

Засцяліла я стольнікам слуцкую тую дарогу,
Дзе у сэрцаў пялёсткі ўгрызаліся кулі-чмялі.
«За свабоду!» — пранесліся словы паўстанцаў над логам,
І пакутніцкім цернем скрозь цяжкі абрус праараслі.

Я пайшла ў Курапаты,
дзе шэрымі клубамі болю
Вочы выеў туман у бярозы пахіла-крывой.
Там на крохкай бяросце нязгасныя словы «За Волю!»
Набрынялі гарачай —
Яшчэ ўсё гарачай — крывёй.

Я хацела ручнік завязаць на крыжы ацалелым,
Ды растральныя чэргі яго, як ланцуг, абвілі.
«За свабоду!» — і вырваўся голубам белым,
Каб не згніць за нішто у нялюбай зямлі.

Над дамамі, заціхлымі ў сонных турботах,
Над вірамі ў глыбокай таемнай вадзе,
Над палямі, салёным залітымі потам,
Кружыць вольная птушка — і крылаў яна не складзе...

Калі перагартаць старонкі запісных кніжак Вольгі Іпатавай ці перачытаць шматлікія запіскі ад чытачоў, то бачна, што яна вельмі часта, як і раней, выступае ў школах, бібліятэках Беларусі і з уласнымі творчымі праграмамі, і з сябрамі-пісьменнікамі. Едзе і ў маленькія сельскія школкі, і ў раённыя дамы культуры. Толькі ў 1996-1997 гадах было менш выступленняў у сувязі з працай над гістарычнай трылогіяй «Гаспадары Вялікага Княства». У іншыя гады такіх выступленняў звычайна бывае не меней за пяцьдзесят, а то і нашмат болей. На чытацкіх канферэнцыях і сустрэчах больш за ўсё задаюць пытанняў пра жыццё і творчасць самой пісьменніцы: дзе нарадзілася, хто бацькі, якое было першае каханне, якую школу канчала, дзе вучылася потым, які ўлюбёны горад, твор, пісьменнік, хто муж, колькі дзяцей, як завуць, словам, асабістае жыццё цікавіць не менш, чым творчасць. І, безумоўна, усім хочацца ведаць думкі вядомай пісьменніцы наконт тых ці іншых падзей, як, да прыкладу, стаўленне да сённяшняй улады, чарнобыльскіх праблем, да сучаснай моладзі, музычных гуртоў, наогул да сённяшняга жыцця Беларусі. І на ўсе шматлікія пытанні Вольга Іпатава адказвае адкрыта-праўдзіва і цікава, пра што сведчаць і яе інтэрв'ю, публіцыстычныя артыкулы. І ўдзячныя чытачы шлюць ёй свае прызнанні, бясхітрасныя вершы (О, как хочу задержать твою руку // Ветер ласкает нежные волосы // Слышу грустинку в чарующих звуках / / Твоего любимого голоса. — Ольге Михайловне — обладательнице редкого по притягательной силе и обаянию голоса. Послушав Вас, хочется кричать и плакать от радости за богатую талантами белорусскую землю! Анатолий Трушкевич. Д/о «Театральный», 22.06.01).

Сняжынкі кружаць на двары,
Бы матылькі крылатыя.
Я рады: лёс нам падарыў
Сустрэчу з Вольгаю Іпатавай.

Вядома, вабіць Вас куток,

Дарожкі-сцежкі дзе знаёмыя.
Абняцца з імі тчэ разок,
Напоўніцца прыемнай стомаю.

Спаткаць знаёмых чытачоў —
Аматараў жывога слова.
У гонар нам Вас бачыць зноў,
Адчуць прывабнасць роднай мовы.

Вы — наш празаік, наш паэт —
Дачка Мірскога краю.
Жыццём багаты, не сакрэт,
Якое Вас натхняе.

Нямала твораў сёння ў Вас
Для дзетвары, дарослых.
Яны хвалююць зместам нас,
Праўдзівасць дзе, узнёсласць...

Хай сонца свеціць Вам заўжды!
Хай веды, поспех саграваюць!
Хай праца добрыя сляды
Заўжды нашчадкам пакідае!

*З павагай, Іван Аляксандравіч Жук.*
*10 лютага 2000 года, г. п. Карэлічы.*

Шмат такіх аматарскіх вершаванняў, пажаданняў атрымлівае Вольга Міхайлаўна падчас сустрэч з чытачамі, можна іх бясконца цытаваць. У архіве пісьменніцы захоўваецца мноства чытацкіх лістоў, паштовак, запісак, якія сведчаць пра папулярнасць яе твораў сярод людзей самых розных узростаў і прафесій. Да іх далучаюцца вершы-прысвячэнні В. Іпатавай і такіх выдатных майстроў беларускага слова, як Рыгор Барадулін (верш «Тройца» — Вользе Іпатавай. 1 студзеня 1995 г.). Прысвячалі ёй вершы і сяброўкі па пяры Людміла Паўлікава («Дзе і якія Вас хаваюць далі...», 1985), Галіна Булыка («Валькірыя» — Вользе Іпатавай // ЛіМ. 1 лістапада 1999). Нельга не прывесці некаторыя выказванні вядомых беларускіх пісьменнікаў пра творчасць Вольгі Іпатавай: «Яна была, светлай з першых крокаў у паэзіі, з падсвечаным ценем болю, імкліва сталела. Вольгу трэба чытаць, перачытваць, бо ў яе паэзіі — шмат сонца, якое і саграе, і асляпляе...» (Рыгор Барадулін).

«Усё, што робіць Вольга Іпатава, яна робіць гэта шчыра і хораша. Яе паэзія — цудоўная, але пахвалы заслугоўвае і проза... Яна вельмі змястоўная. Аўтар выклікае павагу зваротам да такой складанай і рэдкай у нас тэмы — гістарычнай. Проза Вольгі Іпатавай выверaная, па-жаночы кволая, пяшчотная, і ад гэтага асабліва кранальная і прыцягальная. Хацелася б пажадаць Вользе, каб і надалей у ёй спалучаліся талент, розум, жаноцкасць» (Іван Чыгрынаў).

«Для творчасці Вольгі Іпатавай характэрныя пранікнёны лірызм, тонкі псіхалагізм, незвычайная чуйнасць да жыцця...» (Алег Лойка).

У 1995 годзе пісьменніца была абрана Ганаровым акадэмікам Міжнароднай акадэміі навук Еўразіі, якая аб'ядноўвае вучоных, грамадскіх дзеячаў больш за 30 краін свету. Вольга Іпатава ўзнагароджана мадалём Ф. Скарыны за працу ў газеце «Культура» і цыкл аўтарскіх тэлеперадач на беларускім тэлебачанні, а таксама ордэнам «Знак Пашаны». Ордэн яна атрымала ў 1986 годзе за пісьменніцкую творчасць і за ўдзел у першыя месяцы пасля Чарнобыльскай катастрофы ў параходнай паездцы па Дняпры. У заражанай радыенуклідамі зоне яна ў ліку пісьменнікаў Беларусі, Расіі, Украіны выступала на літаратурных сустрэчах для чарнобыльцаў, якія неслі там працоўную вахту. Гэтая паездка была справай гонару і мужнасці. Яна чытала там свае вершы з пачуццём і адчуваннем непадзельнага касмічнага адзінства ўсіх зямлян, бо ўсе мы былі заложнікамі жудаснай катастрофы і разам плылі на страціўшым курс зямным караблі. Пазней пісьменніца напісала эсэ пра Чарнобыль «Апакаліпсіс», чытала яго на нямецкай мове (якой добра валодае) у Германіі як удзельнік акцыі, арганізаванай нямецкай журналісткай Гізелай Шварц, якая збірала грошы ў дапамогу дзецям-чарнобыльцам: «Я была там, амаль ля самага рэактара, у жніўні 1986 года, калі мы прыехалі ў вахтавы пасёлак «Зялёны Лес» да людзей, што дзяжурылі на Чарнобыльскай атамнай станцыі, мяняючыся праз кожныя 6 гадзін. Туды, у самае пекла, некаторыя мае калегі пабаяліся ехаць — увесь свет гаварыў пра Чарнобыль, пра жахлівую радыяцыю на вялікіх тэрыторыях, пра немагчымасць не тое каб жыць, але нават кароткі час там знаходзіцца. Але мы вырашылі ехаць, каб на свае вочы пабачыць тых, хто быў на рэактары і працаваў на ім. Нам хацелася ведаць праўду...» Так пачынаецца «Апакаліпсіс», дзе Вольга Іпатава, адна з першых, не пабаялася сказаць бескампрамісную праўду пра Чарнобыльскую катастрофу, праўду, якую імкнуліся схаваць ад народа кіраўнікі БССР. Яна прыводзіла дакументальна пацверджаныя факты пра цяжкія наступствы Чарнобыля і ў стрыманых немцаў, якія слухалі пісьменніцу, на вачах былі слёзы і ахвяраванні іх былі больш шчодрымі. Такім чынам, Вольга

Іпатава і яе сын Руслан — урач-онкагематолаг, як маглі, далучаліся да развязання чарнобыльскіх праблем. На сабраныя сродкі немцы забяспечвалі неабходным медыцынскім абсталяваннем і лекамі клініку радыяцыйнай медыцыны, а ў Германіі і ў Мінску (бібліятэка імя Пушкіна) намаганнямі Вольгі Іпатавай і Гізелы Шварц была праведзена фотавыстава хворых чарнобыльскіх дзяцей, якія лячыліся ў Мінску і клініках Германіі — дзеля таго, каб прыкаваць увагу грамадскасці да чарнобыльскіх праблем у Беларусі.

Акрамя гэтага, пісьменніца падрыхтавала да выдання кнігу апавяданняў, навел пра грамадзян Германіі і Аўстрыі, якія дапамагалі Беларусі пасля Чарнобыльскай катастрофы (пра гэта і яе вершы: «Нямецкая мова», «Чарнобыль»).

Надзённыя праблемы жыцця Беларусі і яе гісторыя, пісьменніцкая творчасць і асабістыя клопаты, найскладанейшыя абавязкі старшыні Саюза пісьменнікаў у час непрыймання ўладамі беларускіх літаратараў і абранне адразу п.асля XIV з'езда Саюза пісьменнікаў віцэ-прэзідэнтам аб'яднання «Еўрапейскі рух», грамадская праца ў Таварыстве беларускай мовы, рэдкалегіях газеты «Культура» і часопіса «Алеся» — усё гэта складае сэнс і змест жыцця і дзейнасці Вольгі Іпатавай. Заўсёдны неспакой, роздум, пошук, боль, святло, сумненні, захопленасць, мужнасць, пяшчота і выключная сумленнасць — вось тое нямногае, з чаго вылеплена душа паэтэсы, празаіка, грамадскага дзеяча Вольгі Іпатавай. За гэтыя гады, да таго ж, яна стварыла цыкл лекцый па беларускай міфалогіі, з якімі выступала ў Гродзенскім педагагічным унівесітэце і Беларускім універсітэце культуры, удзельнічала апошнім часам у дзесяці Міжнародных канферэнцыях — у Беластоку, Празе, Маскве і Мінску. Брала актыўны ўдзел у Днях беларускай культуры ў Маскве і Карэліі. У чатыры дні навукова-творчай экспедыцыі « Шлях да святыняў 2001», да прыкладу, увайшло дзесяць яе выступленняў. Гэта былі цэрквы ў Бабруйску, Рагачове, бібліятэкі ў Слуцку і Мсціславе, раённыя дамы культуры ў Старых Дарогах і Чэрыкаве. У тым жа 2001 годзе яна ездзіла ў Ліду, Гродна, Навагрудак, Слонім, Баранавічы, Маладзечна, Пінск, Глыбокае, Гомель... Творчасць Вольгі ватавай папулярная не толькі на радзіме. Яе кнігі, паасобныя апавяданні, аповесці, вершы перакладалі на рускую, украінскую, польскую, балгарскую, румынскую, літоўскую, узбекскую, хіндзі, славацкую, чэшскую, англійскую, нямецкую мовы. Яна і сама займаецца перакладчыцкай дзейнасцю. Некаторыя яе вершы («Сыну», «Аэліта», «Двое», «Нёманская сінь») сталі песнямі.

І ўсё гэта — час. Той залаты час, якога не стае для напісання новых кніг.

Але яны ствараюцца. На рабочым стале пісьменніцы амаль напісаная п'еса «Каралі і птушкі» — пра апошняга караля Рэчы Паспалітай, нараджэнца Беларусі Станіслава Аўгуста Панятоўскага, два пачатыя раманы — пра Віленскіх пакутнікаў і гістарычны дэтэктыў з часоў Ягайлы, вершы і накіды новых артыкулаў.

Пра напружанае сваё жыццё і пра тое, што дае ёй сілы, яна напісала ў адным з вершаў:

Сакавіцкія рэзкія цені.
Пад нагамі хрумсцяць ледзяшы.
Усё болей жывеш, як на сцэне.
Застаецца ўсё менш для душы.

Хоць якую даніну аддам ёй:
Ціха бабчыну песню спяю,
З'езджу ў горад, любімы і даўні,
І між замкаў адна пастаю...

Пастаяўшы ў сваім улюбёным Гродне паміж замкамі — старым, пабудаваным яшчэ пры Стэфане Баторыі, і новым, у якім жыў пасля «маўклівага сейма» апошні кароль Рэчы Паспалітай (і ў якім, між іншым, некалькі гадоў працавала і сама пісьменніца ў свае маладыя гады), яна вяртаецца да работы. Да той напружанай, гарачай працы, без якой не ўяўляе свайго жыцця.

## ЗМЕСТ



Літаратурна-мастацкае выданне
Савік Лідзія Сымонаўна
Адна між замкаў
Літаратурны партрэт Вольгі Іпатавай
У аўтарскай рэдакцыі
Карэктар А. Трусава
Мастак А. Хількевіч
Набор і вёрстка Л. Ваўчок
Адказны за выпуск Я. Фядзюшын
Падпісана да друку 04.01.2003. Фармат 84х108 $^{1}/_{32}$ Папера афсетная. Гарнітура Kudriashov. Ум. друк. арк. 8,82 + 0,41 укл. Ул.-выд. арк. 9,58. Наклад 1000 асобнікаў. Замова. 11.
БелСаЭС «Чарнобыль» 220034, Мінск, вул. Крапоткіна, 44. Ліцэнзія ЛВ № 217 ад 17.02.1998.
Надрукавана з дыяпазітываў замоўцы ў друкарні УП «Ходр» БелТІЗ. 220004, г. Мінск, вул. Вызвалення, 9. ЛП № 91 ад 12.12.2002.